1-2



# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ





МЕНСК

1930

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!



# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПАЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б



№ 1—2
СТУДЗЕНЬ — ЛЮТЫ

МЕНСК — 1930



# У паход за масавую калектывізацыю

Калгаснае будаўніцтва разгортваецца ў БССР бурнымі тэмпамі, перавышаючы самыя сьмелыя нашы разьлікі. Студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б, рашыўшы дамагчыся суцэльнай калектывізацыі БССР у канцы 1931 году, устанавіў, што ўвесну гэтага году ў калгасы павінна быць уцягнута 35 проц. сялянства, 35 проц. яравога кліну павінна быць засеяна калгасамі.

Але ўжо і 20 студзеня г. г. 35,1 проц. пасеўнае плошчы было абагулена ў калгасах.

Шпаркасьць, з якою разьвіваецца ў БССР калгасны рух, дае магчымасьць сказаць з поўнай упэўненасьцю, што суцэльная калектывізацыя будзе ажыцьцёўлена на Беларусі не ў канцы 1931 г., а значна раней.

Масавы рух да калектывізацыі найшчыльнейшым чынам зьвязаны з задачаю ліквідацыі кулацтва, як клясы, бо гэтую задачу мы маглі паставіць перад сабой толькі ў зьвязку з масавым пераходам да буйное абагуленае гаспадаркі ня толькі беднаты, але і асноўных мас серадняцкага сялянства.

Паставіць пытаньне аб раскулачваньні раней—у леташнім і залеташнім годзе мы не маглі таму, што ня было адпаведных умоў, ня было масавае калектывізацыі, на аснове якое толькі і можна ліквідаваць кулака як клясу, замяніўшы вытворчасьць кулака вытворчасьцю калгасаў і саўгасаў.

Таму задача раскулачваньня зьяўляецца непарыўна складанаю часткаю, адным з зьвеньняў нашае работы па калектывізацыі.

У цэнтры ўвагі работы партыі ў горадзе і вёсцы, у цэнтры ўвагі ад'яжджаючых у вёску рабочых зьяўляецца калектывізацыя—утварэньне новых калгасаў не праз адміністраваньне, а праз растлумачэньне бедняку і серадняку перавагаў і выгод калектыўных гаспадарак.

Раскулачваньне, ліквідацыя кулака зьяўляецца няўхільным вывадам усяго працэсу калектывізацыі.

Што мы разумеем пад ліквідацыяй кулацтва, як клясы? Як пойдзе самы працэс раскулачваньня?

Раскулачваньне зьяўляецца сапраўднай рэволюцыяй у вёсцы і бяз самых вострых форм клясавае барацьбы гэту задачу вырашыць ня ўдасца. Кулак шалёна супраціўляецца, узмацняе тэрор супроць вясковых актывістаў, супроць беднаты і серадьякоў, уступіўшых, ці ўступаючых ужо ў калгас. Кулак змагаецца самымі рознастайнымі мэтодамі—стрэламі, панажоўшчынай, падпаламі, распаўсюджваньнем бязглуздых чутак, уплывае на жанчын, як на больш адсталую частку вёскі.

Зразумела, задачу ліквідацыі кулацтва мы ажыцьцёвім, выканаем. Нас не запалохаюць ніякія вострыя формы клясавае барацьбы, бо рабочая кляса досыць выпрабавана і загартавана ў барацьбе супроць буржуазіі.

Кулацкае супраціўленьне трэба зламаць. Трэба даць рашучы адпор кулаку, спрабуючаму пашырыць свае тэрорыстычныя выступленьні.
Рабочыя, што едуць у вёску, павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на недагібы і перагібы ў пытаньнях калектывізацыі і раскулачваньня з боку савецкіх, партыйных і іншых органаў у вёсцы.
Больш за ўсё і небясьпечней за ўсё ў сучасны момант вяласьць, нерашучасьць і некаторае тармажэньне правядзеньня задач раскулачваньня ў раёнах суцэльнае калектывізацыі. У цэлым шэрагу сельсаветаў маюцца пралезшыя туды падгалоскі кулака, часамі самі кулакі. У цэлым шэрагу нашых савецкіх і іншых організацый знойдуцца людзі, якія будуць здраджваць, ня будуць праводзіць нашую політыку, будуць скажаць нашу лінію. Мы маем выпадак, калі члены сельсаветаў перад тым, як праводзіць вучот маемасьці кулакоў, бегаюць да кулакоў і папераджаюць іх аб тым, што маемасьць у іх будзе бра́цца на вучот.
Кулак ідзе на тое, каб закапаць у зямлю нават складаныя сельскагаспадарчыя машыны, спрабуючы захаваць іх ад вучоту. Кулак прадае коні і жывёлу. З усёю сілаю пролетарскай дыктатуры трэба змагацца і супроцьстаяць цьвёрда і рашуча супроць усіх гэтых перашкод.
Калі некаторыя савецкія, партыйныя і іншыя організацыі і паасобныя таварышы астаюцца ад руху, дык некаторыя забягаюць наперад. Скажаючы лінію партыі, яны ўдар, накіраваны на кулака, пераносяць на серадняка. Ёсьць выпадкі, калі серадняка лічаць за кулака і забіраюць у яго апошні самавар.
Ёсьць выпадкі, калі арыштоўвалі серадьнякоў і нават беднякоў за выступленьні. Гэта грубое скажэньне лініі партыі, нашае тактыкі і політыкі.
Трэба сачыць за тым, каб удар, накіраваны на галаву кулацтва, трапіў-бы на галаву гэтага кулацтва, не закранаючы ні серадняка, ні тым больш бедняка, каб той удар, які накіроўваецца на галаву кулака, быў-бы ўдарам моцным, каб ён, так сказаць, біў-бы напэўна. Тут ніякага хістаньня, ніякага адступленьня, ніякага ваганьня ня можа і не павінна быць.

У раёнах суцэльнае калектывізацыі ў кулака забіраюцца ў першую чаргу сродкі вытворчасьці—жывёла, коні, машыны, зямля і перадаюцца ў калектывы як узнос за батракоў і беднату, што ўступаюць у калгас. Батракі і частка вясковае беднаты, уступаючы ў калгас, ня маюць сродкаў для ўступных узносаў. Нельга дапушчаць, каб утварыліся калгасы, што аб'ядноўваюць усю вёску, выключаючы батрацтва і бяднейшыя пласты вёскі. Такія калгасы ня будуць калгасамі социялістычнага тыпу. Правільна організаванымі калгасамі будуць такія, у якіх аб'ядноўваюцца і батрацтва, і бедната, і серадьнякі.
Пры ажыцьцяўленьні раскулачваньня на мясцох будзе шмат цяжкіх пытаньняў, але асноўныя, якія трэба добра запамятаць, гэта тыя, каб раскулачваньне было накіравана на галаву кулака, каб яно не закранала ні бедняка, ні серадняка. Выняцьце сродкаў вытворчасьці ў кулака трэба праводзіць організавана, праводзіць дакладны вучот забранай маемасьці, сачыць за тым, каб не раскрадалася кулацкая маемасьць, якая перадаецца калгасам.
Розьніца паміж раскулачваньнем 1917-18 году і сучасным у тым, што зараз мы абапіраемся на значна больш моцны дзяржаўны апарат, мы маем 12-гадовы вопыт барацьбы і будаўніцтва. Таму мы можам эксплёатаваць кулака організавана, з поўным вучотам усяго таго, што мы ў яго бярэм. У тых раёнах, дзе вёска яшчэ не распачынае будаўніцтва калгасаў і ў раёнах бяз суцэльнае калектывізацыі першачарговаю задачаю зьяўляецца правядзеньне самага суровага і дакладнага вучоту ў

кулака сродкаў вытворчасьці, будынкаў і г. д. У гэтых раёнах мы ня будзем асабліва сьпяшацца з забіраньнем у кулака сродкаў вытворчасьці. Там у нас яшчэ ёсьць час. Але мы павінны правесьці самы суровы і дакладны вучот сродкаў вытворчасьці ў кулака таму, як мы ведаем, што кулак разбазарвае сваю маемасьць—рэжа жывёлу, закопвае ў зямлю машыны і г. д.

Рабочыя, якія едуць у вёску, павінны зьявіцца кіраўнікамі і організатарамі калгаснага руху, ліквідацыі кулацтва як клясы, вясеньняга севу. Яны павінны дапамагчы выканаць гэтыя задачы батрацка-бядняцкім і серадняцкім масам вёскі.

Але выкананьне гэтых важнейшых задач трэба праводзіць не адміністрацыйнымі мерамі, не загадамі зьверху, а абапіраючыся на самастойную організацыю батрацтва і беднаты і іх актыўнасьць, іх уздым. Кожнае мерапрыемства павінна абгаварвацца з батрацка-бядняцкімі і серадняцкімі масамі для таго, каб яны поўнасьцю ўяўлялі сабе, што гэтыя мерапрыемствы партыі і савецкай улады абдуманы, што яны правільныя і своечасовыя.

Асноўнаю політычнаю задачай сучаснага моманту зьяўляецца ўзмацненьне організацыі батрацтва і беднаты для таго, каб стварыць з батракоў ды беднаты моцную апору для правядзеньня ў вёсцы політыкі партыі.

Без узмацненьня работы з батрацтвам і беднатою, без узмацненьня самастойнай організацыі батрацтва і беднаты—нічога ня будзе. Аднымі сіламі нават лепшых пролетарыяў, накіраваных у вёску, мы нічога ня зробім. Гэтыя лепшыя пролетарыі павінны організаваць батрацтва і беднату вакол сябе для таго, каб ажыцьцёвіць усе мерапрыемствы, накіраваныя на пашырэньне калектывізацыі, на ліквідацыю кулацтва як клясы.

Наступнай буйнай задачай работнікаў, што ад'яжджаюць у вёску, зьяўляецца кіраўніцтва організацыйным будаўніцтвам калгасаў. Амаль трэцяя частка пасеўнае плошчы БССР занята калгасамі (у сучасны момант пад калгасамі занята каля 65 проц. пасеўнай плошчы БССР), але існуе, проста сказаць, на паперы ў рэзолюцыях, пастановах, статутах. На справе мы ня можам сказаць, што створаны гэткія калгасы, якія абагулілі насеньне, жывёлу, прылады. Мала таго, што селянін падпіша статут, трэба, каб бядняцка-серадняцкае сялянства распачало захады рэорганізацыі свае гаспадаркі з абагуленьнем насеньня, жывёлы, кармоў. У гэтых адносінах у Беларусі ня ўсё зроблена. На 1 сакавіка абагульненьне насенных фондаў праведзена толькі на 85 проц., абагульненьне коняй і таварна-продукцыйнае жывёлы на 20 проц. Значыць падрыхтоўку калгасаў да веснавое пасеўнае кампаніі нельга лічыць здавальняючай.

Трэба скласьці зараз-жа пляны правядзеньня пасеўнае кампаніі ў калгасах, правесьці разьметку таго, якія вучасткі пойдуць пад якія пасевы і г. д.

Перад ад'яжджаючымі ў вёску таварышамі адкрываецца вялізарнейшая работа па ператварэньню калгасаў з папяровых у сапраўдныя, па аграмаджаньню насеньня, рабочай і таварна-продукцыйнай жывёлы, па падрыхтоўцы да севу, складаньню прасьцейшых вытворчых плянаў калгасаў, па ўстанаўленьні вучоту і г. д.

Гэтая работа яшчэ больш ускладняецца ў калгасах-волатах, якія маюць ад 5 да 30 тысяч *га* зямлі.

Мы ня зможам даць калгасам патрэбнай ім колькасьці сельска-гаспадарчых машын, бо патрэба ў гэтых машынах значна большая, чымся магчымасьць яе задаваленьня, асабліва ў адносінах да тракта-

17

роў, патрэба ў якіх можа быць задаволена, прыкладна, на $^1/_{10}$ частку таго, што неабходна.

І таму, асноўны ўпор пры правядзеньні вясеньняга севу гэтага году, трэба накіраваць на тое, каб поўнасьцю скарыстаць якія ёсьць цяпер у вёсцы сродкі вытворчасьці: коні, сельска-гаспадарчыя прылады, машыны і г. д.

У гэтым заключаецца вялікая задача. Організацыя буйных калгасаў дае магчымасьць з тэй колькасьцю коняй, якія ёсьць, заараць і засеяць больш, чымся мы гэта робім. Але для таго, каб гэтага дамагчыся, трэба правільна організаваць працу ў калгасах, трэба дамагчыся такога парадку ў рабоце, каб кожны селянін, уступіўшы ў калгас, ведаў сваю справу, свой абавязак, ведаў, што яму рабіць сёньня, заўтра, калі надыйдзе вясна і г. д.

Правільна організаваць працу, скарыстаць кожнага работніка ў калгасах так, як гэта робіцца на фабрыцы—гэта—вялізарная задача для організатараў, шчыльна зьвязаная з падрыхтоўкай да веснавое пасеўнае кампаніі наогул.

Да падрыхтоўкі і правядзеньня веснавога севу трэба падыходзіць па дзелавому, так, каб у нас былі падрыхтаваны ўсе асноўныя мерапрыемствы да севу. Пра абагульненьне насеньня ў калгасах мы ўжо гаварылі. Што датычыцца правядзеньня іншых мерапрыемстваў для калгасьнікаў, а таксама для беднякоў і серадьнякоў, якія яшчэ ня ўступілі ў калгасы, дык тут мы маем цэлы шэраг буйных недахопаў—пасеўны плян толькі яшчэ пачынае даводзіцца да сяла, ачыстка насеньня праводзіцца з халадком, шэраг іншых мерапрыемстваў праводзіцца са спазьненьнем. Гэткага становішча далей цярпець нельга. Вясна гэтага году рашае вельмі шмат. Ад таго, як мы справімся з ворывам і абсяваньнем калгасаў, наколькі мы пашырым пасеўную плошчу—ад гэтага залежаць тэмпы нашага разьвіцьця наогул і адносіны бядняцка-серадняцкага сялянства да мерапрыемстваў партыі і савецкай улады ў вёсцы асабліва да калектывізацыі.

Мы маем шмат добрых рэзолюцый і мала справы вакол гэтае работы, і таму прынялі пастанову—праверыць ход падгатоўкі да веснавое пасеўнае кампаніі і прыцягнуць да адказнасьці тых, хто ня выконвае гэтых мерапрыемстваў.

Мы павінны з бальшавіцкай цьвёрдасьцю правесьці гэтую работу, накіроўваючы асаблівую ўвагу на правядзеньне організацыйна-практычных мерапрыемстваў у калгасах.

Апроч гэтае работы, рабочыя, што едуць у вёску, павінны прыняць самы актыўны ўдзел і ў перавыбарах саветаў. Перавыбары саветаў будуць праводзіцца ў раёнах суцэльнае калектывізацыі і ў тых мясцох, дзе сельсаветы аказаліся няздольнымі правесьці політыку ліквідацыі кулацтва як клясы, дзе яны ня ішлі на чале калгаснага руху, а цягнуліся пазадзе, а таксама тых сельсаветаў, якія аказаліся нядольнымі працаваць у якасьці органаў дыктатуры пролетарыяту. У тых сельсаветах, дзе перавыбары ня будуць праводзіцца поўнасьцю, там праводзяцца толькі справаздачныя кампаніі—даклады сельсаветаў з тым, каб шырака пракрытыкаваць іх работу, каб бядняцка-серадняцкія масы замянілі членаў саветаў, якія зрываюць політыку партыі, сумленна працуючымі кандыдатамі з батрацтва, беднаты і серадьнякоў.

Стан работы сельсаветаў характарызуецца тым, што ў вельмі вялікай колькасьці выпадкаў сельсаветы аказаліся нездольнымі справіцца з задачамі, якія стаяць перад імі.

Сельсаветы абіраліся ў мінулым годзе, калі калектывізацыя толькі пачыналася. Калі-ж гэты рух набыў масавы характар, сельсаветы ака-

заліся непадрыхтаванымі, няздольнымі весьці, кіраваць гэтым рухам. Вышла так, што органы савецкай улады аказаліся ў баку ад калгаснага руху. Пачалі чуцца галасы аб тым, што сельсаветы трэба ліквідаваць, а ўсе іх функцыі перадаць у калгасы, і праўленьні калгасаў павінны выконваць задачы савецкай улады. Гэткая пастаноўка пытаньня ў корані няправільная. Сельсаветы—органы дыктатуры пролетарыяту. Ва ўмовах абвостранае клясавае барацьбы ў вёсцы, мы ня можам ліквідаваць саветы, ня можам і не павінны зьменшыць іх значэньня. Мы будзем вясьці рашучую барацьбу з ліквідатарскімі настроямі ў адносінах да сельскіх саветаў, з недааацэнкай узмацненьня ў іх батрацка-бядняцкага ўплыву.

Мы павінны праводзіць перавыбарчую кампанію і сваячасова ўмацаваць органы савецкай улады ў вёсцы.

Якія-ж новыя задачы стаяць перад саветамі? Яны заключаюцца ў тым, каб стварыць саветы сельскія, раённыя, якія могуць кіраваць калгасным рухам. Не калгасы стаяць над саветамі, а наадварот, саветы стаяць над калгасамі і саветы маюць права патрабаваць ад яго дакладаў, справаздач, маюць права ўмешвацца ў работу калгасаў, даваць дырэктывы, накіроўваць яго работу. Зразумела, саветы ня могуць умешвацца ў штодзенную работу калгасаў, яны павінны абмяжоўвацца агульнымі дырэктывамі і дапамогаю.

Асноўным політычным зьместам работы саветаў зьяўляецца пытаньне аб ліквідацыі кулацтва як клясы. Тыя саветы, якія правільна падышлі да задач ліквідацыі кулацтва як клясы, якія бяз хістаньня праводзяць у раёнах суцэльнай калектывізацыі выняцьце маемасьці ў кулакоў, якія не папераджаюць кулакоў аб мерапрыемствах савецкай улады, ня маюць з імі нічога супольнага, тыя саветы стаяць на правільнай цьвёрдай плятформе ажыцьцяўленьня нашых задач. Саветы, якія няздольны змагацца супроць кулака, якія ня выказваюць цьвёрдасьці і рашучасьці ў гэтай справе—такія саветы нічога ня варты, яны павінны быць пераабраны і заменены новымі.

У мінулым годзе на перавыбарчую кампанію саветаў у Беларусі былі накіраваны ў вёску сотні таварышоў, якія і працавалі ў вёсцы 2—3 месяцы. У гэтым годзе работа ідзе больш шпаркім тэмпам. Мы пасылаем многа людзей для работы ў калгасы і спэцыяльна для перавыбарчае кампаніі мы можам вылучыць вельмі мала народу. Таму, тыя таварышы, якія вылучаны для правядзеньня веснавога севу, а таксама перададзены для работы ў калгасы, павінны зьяўляцца праваднікамі лініі партыі і ў пытаньні правядзеньня справаздачнай і перавыбарчай кампаніі саветаў. Гэтая задача зьяўляецца аднэй з асноўных задач нашага часу.

Мы адзначаем толькі самыя асноўныя моманты, з якімі сустракаемся ў вёсцы. Мы ў вёсцы перажываем сапраўдную рэволюцыю, поўны пераварот матар'яльных і грамадзкіх адносін, пераход да зусім новых, невядомых для сялян соцыялістычных форм сельскае гаспадаркі. Тое, што адбываецца цяпер пры будаўніцтве калектыўных гаспадарак, ліквідацыі кулацтва як клясы,—зьяўляецца самымі сапраўднымі, самымі практычнымі крокамі па будаўніцтву соцыялізму ў вёсцы. Таму будзе шмат спробаў пры шпаркіх тэмпах разьвіцьця выратаваць таго ці іншага кулака ад раскулачваньня, перашкодзіць пад тым ці іншым повадам перарабіць капіталістычныя формы сельскае гаспадаркі—соцыялістычныя—гэтыя спробы невыпадковыя. На гэта трэба зьвярнуць увагу.

Тое зьявішча, што ствараемыя новыя калгасы часта на практыцы не зьяўляюцца сапраўдным соцыялістычным утварэньнем, вельмі

ненормальна. Унутры калгасаў ёсьць клясавая барацьба, часамі непаладны, разгалосьсі паміж серадиякамі і беднякамі. Вельмі часта бывае, што калгасы супраціўляюцца выкананьню агульных дзяржаўных задач— ня хочуць браць на сябе заданьня па вывазцы лесу, па дастаўцы хлеба, мяса для гарадоў, для рабочых, для арміі. Гэта гаворыць аб тым, што калгас утвораны, форма прынята соцыялістычная, а зьмест застаўся ранейшым, дробна-таварным, дробна-буржуазным.

З гэтым зьявішчам неабходна рашуча змагацца, укараняючы ў калгасах элемэнты пролетарскай арганізаванасьці, дысцыпліны, выкідаючы з калгасаў кулакоў, розныя капіталістычныя элемэнты, што папралазілі туды, прывучаючы калгасы да выкананьня пэўных абавязацельстваў перад рабочаю клясаю, перад дзяржаваю. Рабочая кляса дапамагае вёсцы і людзямі, і машынамі, і іншымі таварамі, і сродкамі вытворчасьці, трэба, каб і калгасы ўзялі на сябе пэўныя абавязацельствы перад горадам, перад рабочаю клясаю, перад вёскаю.

Пры ўсёй складанасьці, пры ўсёй цяжкасьці задач, якія прыдзецца перамагаць рабочым, што накіроўваюцца ў вёску, у нас існуе поўная і непарушная ўпэўненасьць у тым, што гэтыя задачы будуць пасьпяхова выкананы.

Мы наглядаем цяпер нячуваны ўздым і сярод гарадзкіх рабочых, і сярод батрацтва, і беднаты. Мы маем выпадкі, калі рабочыя цэлымі цэхамі заяўляюць аб жаданьні ўступіць у камуністычную партыю, калі цэлыя цэхі і прадпрыемствы абвяшчаюць сябе ўдарнымі і працуюць з нячуваным напружаньнем, перавыконваюць програмы, вызначаныя нашымі органамі прамысловасьці.

Мы наглядаем, як у вёсцы ўскалыхнулася батрацтва і бедната і актыўна падтрымліваюць усе мерапрыемствы партыі і савецкай улады па ліквідацыі кулацтва і па будаўніцтву калгасаў. І ў гэтым уздыме, у гэтым падтрыманьні, якое мы знаходзім у горадзе і вёсцы—парука таго, што наша палітыка будзе праведзена поўнасьцю і пасьпяхова.

Па ўсяму Савецкаму Саюзу цяпер адбываецца вылучэньне рабочых для работы ў вёску. Едуць у большасьці рабочыя з больш ці менш вялікім вытворчым стажам, якія ў свой час біліся ў радох Чырвонай арміі, абаранялі існаваньне Савецкае Рэспублікі. Рабочыя пасылаюць у вёску свае лепшыя атрады для таго, каб дапамагчы ёй правесьці вялізарны гістарычны паварот, сьведкамі і ўдзельнікамі якога мы цяпер зьяўляемся. І таму, ня можа быць ніякае няўпэўненасьці ў тым, што пастаўленыя перад намі задачы пры актыўным падтрыманьні гарадзкіх рабочых мы ажыцьцёвым поўнасьцю.

---

Віт. Сэрбэнта

# Сталін, як тэорэтык нацыянальнага пытаньня

Нацыянальнае пытаньне, як і сама нацыя, зьяўляецца катэгорыяй гістарычнай. У эпоху фэодалізму грамадзтва яшчэ ня склалася ў нацыі, ня было тады і нацыянальнага пытаньня. Нацыянальнае пытаньне ўзьнікла ў эпоху капіталізму. Чым далей разьвіваўся капіталізм, тым больш выразна выплывала нацыянальная проблема, тым яна станавілася больш актуальнай і жыцьцёвай. Асаблівы размах і шырыню нацыянальнае пытаньне набывае ў эпоху імпэрыялізму, у пасьляваенны пэрыод.

Два тыпы дзяржаў існавалі да вайны ў адносінах да актуальнасьці нацыянальнага пытаньня. Адзін тып—гэта дзяржавы, у якіх раней за ўсё разьвіўся капіталізм, якія складаліся ў той час, калі капіталізм у значнай ступені зрабіў сваю справу разбурэньня фэодальных адносін і рашуча адваёўваў позыцыю за позыцыяй. Такімі краямі зьяўляюцца: Ангельшчына, Францыя, і далей Гэрманія і Італія Перад вайной у гэтых дзяржавах нацыянальны рух быў разьвіты слабей. Другі тып дзяржаў—гэта Расія і Аўстра-Вэнгрыя. Гэта шматнацыянальныя дзяржавы. Справу ўтварэньня дзяржавы тут брала на сябе якая-небудзь адна з нацыянальнасьцяй, меўшая больш згуртаванае ядро. „У Расіі ролю аб'яднальніка нацыянальнасьцяй узялі на сябе вялікаросы, якія мелі на чале склаўшуюся моцную і організаваную дваранскую ваенную бюрократыю“ (Сталін: „Марксызм і нацыянальнае пытаньне“, ст. 273 [1]). У гэтых шматнацыянальных дзяржавах, пакуль капіталізм не пранікае ў адсталыя куткі іх, больш-менш заметлівага нацыянальнага руху няма.

Адціснутыя народы толькі паступова ўцягваюцца ў агульную сфэру таварнага абароту, становяцца на шлях разьвіцьця капіталізму ў сябе. Вырастае мясцовая нацыянальная буржуазія. Паяўляецца пролетарыят. Ідзе расслаеньне ў сялянстве. Паяўляецца нацыянальная інтэлігенцыя. Для нацыянальнай буржуазіі ў першую чаргу ўзьнікае пытаньне рынку. Тэрыторыі, насялёныя пазьней вышаўшымі на арэну капіталістычнага разьвіцьця народамі, зьяўляюцца арэнай эксплёатацыі для буржуазіі пануючай нацыянальнасьці. Для перамогі над маладым конкурэнтам апошняя прыводзіць у дзейства ўсе падважнікі організаванай у дзяржаву сілы конкурэнта. Экономічныя абмежаваньні ідуць побач з політычнымі, культурна-асьветніцкімі, рэлігійнымі ды іншымі.

Соцыяльна-эканамічны сэнс гэтых абмежаваньняў заключаецца ў тым, каб захаваць права на эксплёатацыю працоўных мас за буржуазіяй пануючай у дзяржаве нацыі і адціснуць нацыянальную буржуазію. Нацыянальная буржуазія тады кідае лёзунг аб вызваленьні з-пад уціску пануючай у дзяржаве нацыі. Факт узмоцненай эксплёатацыі шырокіх

[1]) Тут і далей цытуецца па кнізе „Марксизм и национальный вопрос“. Сборник статей. Изд. 1923 г.

мас працоўных, асабліва сялянства, на якіх падае ўвесь цяжар эксплёатацыі, разам з палітычным і культурным нераўнапраўем дае магчымасьць для буржуазіі знайсьці падтрыманьне сваіх нацыянальна-вызваленчых лёзунгаў сярод самых шырокіх працоўных мас. Такім парадкам нацыянальная буржуазія ў змаганьні за нацыянальнае вызваленьне атрымлівае апору ў шырокіх пластох працоўнага насяленьня.

Нацыянальнае пытаньне, у якім зацікаўлена ў першую чаргу нацыянальная буржуазія, становіцца пытаньнем шырокіх пластоў сялянства і пролетарыяту.

У той меры, у якой партыя пролетарыяту вядзе пролетарыят і шырокія масы працоўных да вызваленьня ад усякага ўціску, у тым ліку і ад уціску нацыянальнага, яна ня можа стаяць у баку ад гэтага руху.

Нацыянальная проблема становіцца проблемай, без развязаньня якой ня можа быць правільна пастаўлена пытаньне захвату ўлады пролетарыятам і ўтрыманьне гэтай улады. Нацыянальным пытаньнем, якое становіцца адным з важных пытаньняў з пункту гледжаньня ўстанаўленьня дыктатуры пролетарыяту, вельмі многа займаўся т. Ленін. Самым лепшым вучням і супрацоўнікам Леніна ў гэтым пытаньні яшчэ перад вайной становіцца т. Сталін.

У выніку рэволюцыі 1905 г. нацыянальны рух у старой Расіі вырастаў з асаблівай сілай і станавіўся ўсё больш і больш моцным. Эпоха рэакцыі, якая прынясла з сабой цэлы рад фактаў узмацненьня нацыянальнага ўціску, якая пранеслася цэлай хваляй яўрэйскіх пагромаў і іншых форм нацыянальнага ўціску ў Польшчы, Прыбалтыцкіх краёх, Беларусі, Украіне, Каўказе і інш., толькі абвострыла нацыянальныя супярэчнасьці і больш згуртавала прыгнечаныя народы ў змаганьні супроць царызму за нацыянальнае вызваленьне. Сярод соцыял-дэмократыі гэта не магло ня мець свайго адбітку. У апошнія годы перад вайной, у сувязі з пад'ёмам масавага рэволюцыйнага руху, а разам з тым і руху нацыянальнага, прайшла вялікая дыскусія па нацыянальнаму пытаньню. Цэлы рад нацыянальных соцыялістычных партый, меншавікі і Бунд станавіліся на пункт гледжаньня, выпрацаванай у Аўстрыі Баўэрам, Шпрынгерам і іншымі тэорэтыкамі рэвізыёнізма, імкнучыся выратаваць „лоскутную імпэрыю“, тэорыі нацыянальна-культурнай аўтаноміі. Злажыліся дзьве тэорыі вырашэньня нацыянальнага пытаньня: аўстрыяцкая і РСДРП (бальшавікоў). Паміж імі вялося змаганьне. Гісторыя ў поўнай меры пацьвердзіла правільнасьць тэорыі бальшавікоў, тэорыі Леніна і Сталіна. Але тады ў шалёным змаганьні трэба было адстойваць яе, разам з доказам памылковасьці першай.

У 1913 годзе т. Сталін, лепш за ўсіх уразумеўшы ленінскую пастаноўку нацыянальнага пытаньня для таго, каб разьдзелацца з опортуністычнай тэорыяй нацыянальна-культурнай аўтаноміі, піша работу „Марксызм і нацыянальнае пытаньне“. У гэтай рабоце, вельмі сьціслай і багатай мысьлямі, даецца марксыцкая пастаноўка нацыянальнага пытаньня разам з зьнішчальнай крытыкай аўстра-марксызму ў нацыянальным пытаньні і намячэньнем практычных шляхоў правільнага вырашэньня нацыянальнага пытаньня ў нас. Работа Сталіна прадугледзіла ў асноўным усе формы вырашэньня нацыянальнага пытаньня ў час Кастрычніцкай, пролетарскай рэволюцыі.

Для таго, каб правільна даць адказ на пытаньне, як вырашыць нацыянальную проблему, тав. Сталін у сваёй рабоце пачынае з гістарычнага аналізу аб'екту досьледу. На падставе разбору і аналізу ўсебаковых конкрэтных умоў паяўленьня нацый і нацыянальнага руху, на аснове гістарычных прыкладаў утварэньня нацыі ў Эўропе і Амэрыцы, на Захадзе і Ўсходзе, тав. Сталін падыходзіць да правільнага акрэсь-

леньня самаго аб'екту—нацыі, каб затым зрабіць правільныя вывады для вырашэньня нацыянальнага пытаньня, для вызначэньня паводзін партыі ў гэтым пытаньні.

„Што такое нацыя"?—пытаецца тав. Сталін. І на аснове аналізу дае адказ: „Нацыя—гэта перш за ўсё супольнасьць, пэўная супольнасьць людзей", але гэта супольнасьць „не расавая і не пляменная, а гістарычна складаўшаяся супольнасьць людзей". На падставе аналізу раду эўропэйскіх народаў, на падставе ўтварэньня і аналізу гэтага ўтварэньня нацыі ў Эўропе, Амэрыцы і інш. краёх тав. Сталін разгортвае гэтае сьціслае акрэсьленьне нацыі і дае больш поўнае ўсебаковае акрэсьленьне паняцьця нацыі: „Нацыя—гэта *гістарычна* злажыўшаяся ўстойлівая супольнасьць мовы, тэрыторыі, экономічнага жыцьця, псыхічнага складу, які праяўляецца ў супольнасьці культуры"... „Нацыя, як і ўсякая гістарычная зьява, падпадае пад закон зьмены, мае сваю гісторыю, пачатак і канец". (Сталин. „Марксизм и национальный вопрос", стр. 269). Такім парадкам тав. Сталін дае адно сьціслае акрэсьленае паняцьце нацыі, другое—больш разгорнутае, у якое ўваходзіць цэлы рад адзнак характарызуючых нацыю: і мова, і экономіка, і тэрыторыя, і „нацыянальны характар", і асаблівасьці культурнага быцьця нацыі.

Для таго, каб адказаць на пытаньне, ці зьяўляецца даная супольнасьць людзей нацыяй, трэба прааналізаваць, ці мае яна ўсе гэтыя пералічаныя адзнакі. Адсутнасьць якой-бы то ні было адной з гэтых адзнак не дае магчымасьці лічыць даную супольнасьць нацыяй.

Зноў такі на падставе аналізу разьвіцьця конкрэтных народаў, тав. Сталін прыходзіць да вываду, што *ні адну* з гэтых адзнак *выкінуць* з акрэсьленьня нацыі нельга. І, наадварот, ні адна ўзятая сама па сабе адзнака не характарызуе сабою нацыі. Кожны, які зробіць спробу даць акрэсьленьне нацыі толькі выходзячы з адной якой-небудзь рысы (мовы, тэрыторыі, „нацыянальнага характару", ды інш.), нямінуча ўпадзе ў памылку. „Неабходна падкрэсьліць—піша Сталін,—што ні адна з указаных адзнак, узятая ў паасобнасьці, не выстарчальна для акрэсьленьня нацыі. Больш гэтага,—даволі, каб адсутнічала хоць-бы адна з гэтых адзнак, каб нацыя перастала быць нацыяй" (стар. 269).

Для прыкладу тав. Сталін прыводзіць датчан і норвэржцаў, якія гавораць на аднэй мове, але не складаюць аднэй нацыі па тэй простай прычыне, што няма іншых адзнак. Ангельцы і амэрыканцы гавораць на аднэй мове, але таксама не прадстаўляюць сабой аднаго народу.

Шпрынгер і Отто Баўэр, вядомыя тэорэтыкі нацыянальнага пытаньня ў Аўстрыі, якія для свайго акрэсьленьня нацыі здавальняюцца толькі аднэй адзнакай, г. ё. *нацыянальным характарам*, няўнікнёна трапляюць у памылку. Баўэр адрывае характарызуючую рысу нацыі—„нацыянальны характар" ад умоў жыцьця і разьвіцьця. „Што такое „нацыянальны характар"—пытаецца тав. Сталін,—як не адлюстраваньне ўмоў жыцьця, як ня згустак уражаньняў, атрыманых ад акаляючага асяродзьдзя? Як можна абмежавацца толькі „нацыянальным характарам", абасабляючы і адрываючы яго ад парадзіўшай яго глебы". З прыкладу паўночнай Амэрыкі і Англіі, з якой вышлі амэрыканцы і вынесьлі з сабой таксама „нацыянальны характар", аднак злажыліся ў зусім іншую нацыю, зусім ясна, што тэорыя Баўэра не вытрымлівае крытыкі.

На справе, значыцца, няма аніякай адзінай адрозьніваючай адзнакі нацыі. Існуе толькі сума адзнак, з якіх пры супастаўленьні нацый выдзяляюцца больш рэльефна то адна з аднак („нацыянальны характар"), то другая (мова), то трэцяя (тэрыторыя, экономічныя ўмовы). Нацыя прадстаўляе злучнасьць усіх адзнак, узятых разам.

Баўэр, які атаесьняе нацыю з „нацыянальным характарам“, па доказу тав. Сталіна „зьмешвае нацыю, якая зьяўляецца гістарычнай катэгорыяй з племянем, якое зьяўляецца катэгорыяй этнографічнай“ (Сталин. „Марксизм и нац. воп.“, стар. 271).

Якая социяльная існасьць гэтай тэорыі, угрунтованай Шпрынгерам і Отто Баўэрам? На падставе аналізу нацыянальнага руху і практыкі змаганьня за нацыянальнае вызваленьне тав. Сталін робіць вывад, што такое акрэсьляньне, якое дае Баўэр і Шпрынгер і якое запазычае ў іх Бунд, меньшавікі і некаторыя іншыя соцыялістычныя партыі, прадстаўляе сабой прыклад уплыву буржуазнай ідэолёгіі на рабочую клясу. Партыя пролетарыяту павінна такую тэорыю адкінуць.

Як тав. Сталін ставіць пытаньне аб соцыяльна-клясавай аснове нацыянальнага руху? Якія клясы зьяўляюцца галоўнымі рухавікамі нацыянальнага руху, якія высоўваюць яго і становяцца на чале? Каб адказаць на гэтае пытаньне, трэба выходзіць з уясьненьня, продуктам якой соцыяльна-экономічнай структуры зьяўляюцца нацыі: „нацыя зьяўляецца ня проста гістарычнай катэгорыяй,—піша тав. Сталін,—а гістарычнай катэгорыяй пэўнай эпохі, падымаючагася капіталізму“ („Марксызм і нацыянальнае пытаньне“, стр. 272). Такім парадкам, нацыі ўтвараюцца толькі тады, калі капіталізм апаноўвае соцыяльна-экономічныя адносіны. Тыя народы, якія капіталістычнае разьвіцьцё пачынаюць раней за другіх (Англія, Францыя, Германія, ды інш.), утвараюць адначасова праз эпоху нацыянальных войн дзяржаву данай нацыі. Іначай стаіць справа там, дзе дзяржава ўтваралася адным з народаў, пры наяўнасьці слаба разьвітых капіталістычных адносін, там, дзе знаходзяцца плямёны і народы, да якіх капіталізм яшчэ не дашоў, якія жывуць яшчэ да-капіталістычным жыцьцём. Напрыклад, на ўсходзе. У Расіі дзяржава ўтварылася пад кіраўніцтвам вялікаросаў. меўшых на чале моцна зорганізаваную дваранскую ваенную бюрократыю. Калі складывалася Расія, як дзяржава, нацыянальнага пытаньня і руху ня было. Але капіталізм пачынае пранікаць усё глыбей і глыбей у розныя куткі гэтай рознаплямённай дзяржавы. „Капіталізм, які ўварваўся ў спакойнае жыцьцё адціснутых нацыянальнасьцяй, узбуджае апошнія і прыводзіць іх у рух. Разьвіцьцё друку і тэатру, дзейнасьць Рэйхстату (у Аўстрыі), і Думы (у Расіі) дапамагаюць узмацненьню „нацыянальных пачуцьцяў“. Нарадзіўшаяся нацыянальная інтэлігенцыя пранікаецца „нацыянальнай ідэяй“ і дзее ў гэтым-жа кірунку“... (Сталін. „Марксизм и нац. вопрос“, стар. 273).

„Але праснуўшыяся да самастойнага жыцьця адціснутыя нацыі ўжо не складаюцца ў незалежныя нацыянальныя дзяржавы: яны сустракаюць на сваім шляху самае моцнае супраціўленьне з боку кіруючых пластоў камандуючых нацый, даўно ўжо стаўшых на чале дзяржавы. Спазьніліся...“ (Сталін. „Марксызм і нац. пытаньне“. Стар. 273).

Пачынаецца змаганьне. Хто зьяўляецца пачынальнікам гэтага змаганьня? Якая кляса становіцца на чале гэтага змаганьня? „Змаганьне вядуць звычайна, ці гарадзкая дробная буржуазія прыгнечанай нацыі супроць буйнай (чэхі і немцы), або сельская буржуазія прыгнечанай нацыі супроць памешчыкаў (русіны і палякі), ці ўся „нацыянальная“ буржуазія супроць кіруючага дваранства камандуючай нацыі (Польшча, Літва, Украіна ў Расіі)“. (Сталін. „Марксизм и нац. вопрос“, стар. 273). Такім парадкам *буржуазія* зьяўляецца галоўнай дзейнай асобай.

Якая прычына таўхае да гэтага змаганьня? „Асноўнае пытаньне для маладой буржуазіі—рынак... Рынак першая школа, дзе буржуазія вучыцца нацыяналізму“,—піша т. Сталін.

Конкурэнтнае змаганьне выклікае адпор з боку маючай уладу вялікадзяржаўнай буржуазіі. Дзяржаўны апарат служыць сродкам для таго, каб расправіцца з вырастаючым конкурэнтам. І тады нацыянальная буржуазія „апэлюе да „радных нізоў“ і пачынае крычаць аб „бацькаўшчыне“, выдаючы сваю ўласную справу за справу агульна-народную. Яна вярбуе сабе армію з „суайчыньнікаў“ у інтарэсах... „бацькаўшчыны“. І „нізы“ не заўсёды застаюцца бязудзельнымі да заклікаў,—рэпрэсіі зьверху закранаюць і іх, выклікаючы ў іх нездавальненьне. Так пачынаецца нацыянальны рух“ (Сталін, Марксызм и нац. пытаньне“, стар. 274).

Нацыянальны ўціск ня ўсюды аднолькавы. У адных мясцох ён набывае характар, галоўным чынам, прасьледваньня мовы, у другіх ён зьвязваецца з аграрным рухам, у трэціх з цэлым радам перашкод для разьвіцьця культурных устаноў прыгнечанай нацыі, у чацьвертых—усе гэтыя фактары пераплятаюцца ў адно цэлае. Аднак, асноўны клясавы характар нацыянальнага руху зьяўляецца пераважна змаганьнем „буржуазных клясаў паміж сабою“, у якое вельмі часта ўдаецца ўцягнуць пролетарыят (таму што і пролетарыят церпіць ад нацыянальнага прыгнечаньня) і тады нацыянальнае змаганьне, нацыянальны рух набывае характар агульна-народнага. Але „гэта толькі *па зьнешнасьці. У істоце сваёй* яно застаецца буржуазным, выгодным і жаданым, галоўным чынам, буржуазіі“ (Сталін, там-жа, ст. 275).

Як павінен у такім выпадку дзеяць пролетарыят? Якава павінна быць політыка пролетарскай партыі?

Утварэньне адзінага фронту паміж нацыянальнай буржуазіяй і пролетарыятам супроць прыгнятаючай буржуазіі для пролетарскага руху прадстаўляе вельмі вялікую небясьпеку і прыносіць шкоду: затушоўваюцца клясавыя супярэчнасьці паміж нацыянальнай буржуазіяй і пролетарыятам. Клясавае змаганьне падмяняецца „супольнасьцю“ інтарэсаў пролетарыяту і буржуазіі, „а гэта ўтварае ўдзячную глебу для ілжывай пропаведзі аб „гармоніі інтарэсаў“, для затушоўваньня клясавых інтарэсаў пролетарыяту, для духоўнага закабаленьня рабочых. Тым самым ставіцца сур'ёзная перашкода справе аб'яднаньня рабочых усіх нацыянальнасьцяй“. (Сталін, „Марксызм і нац. пытаньне“ ст. 275).

Партыя пролетарыяту, выступаючы рашуча супроць прыгнечаньня аднэй нацыі другою, адначасова павінна разам з гэтым выступіць супроць такога затушоўваньня клясавых інтарэсаў. *Супольнасьць інтарэсаў пролетарыяту* ўсіх нацыянальнасьцяй павінна стаяць на першым месцы. Клясавае змаганьне пролетарыяту за зьвяржэньне буржуазіі, за сваю дыктатуру—такава павінна быць выходная ўстаноўка пры вырашэньні нацыянальнага пытаньня. Рабочыя толькі тады здолеюць перамагчы і абараніць свае інтарэсы, калі яны ўзмоцняць інтэрнацыянальныя сувязі і адзіным фронтам рабочых усіх нацыянальнасьцяй выступяць супроць організаванай у дзяржаве буржуазіі. Але, выходзячы з гэтага, проблема і практыка вырашэньня нацыянальнага пытаньня павінна быць так пастаўлена, каб 1) яна давала поўную свабоду для самавызначэньня прыгнечанай нацыі; 2) пролетарыят прыгнятаючай нацыі змагаўся і рашуча адстойваў права на такое самавызначэньне; 3) пролетарская партыя была пабудавана па прынцыпу аднэй організацыі для ўсіх нацыянальнасьцяй данай дзяржавы; 4) вялося змаганьне супроць шкодных для пролетарыяту, рэакцыйных устаноў і звычаяў прыгнечанай нацыі, супроць яе нацыяналізму.

Партыя пролетарыяту прызнае бязумоўнае права на самавызначэньне, але гэта яшчэ ня значыць, што яна павінна падтрымліваць усякія ўстановы і звычаі нацыі. Наадварот, партыя пролетарыяту

павінна рашуча змагацца са ўсякімі спробамі навязаць пролетарыяту шкодныя ўстановы і звычаі нацыі.

Партыя прызнае толькі права для кожнай нацыі ўстроіцца так, як будзе ёй выгадней, прызнае поўнае права самой нацыі вызначыць свой лёс па свайму жаданьню, прызнае сувэрэннасьць і раўнапраўнасьць. Кожная нацыя можа самавызначацца ў кожным выпадку па другому. „Нацыя мае права ўстроіцца аўтономна, яна мае права нават аддзяліцца. Але гэта ня значыць, што яна павінна рабіць гэта пры ўсякіх умовах, што аўтономія ці сэпарацыя ўсюды і заўсёды будзе выгаднай для нацыі, г. ё. для яе большасьці, г. ё. для працоўных слаёў". (Сталин, „Марксизм и нац. вопрос", стар. 277).

Якое-ж рашэньне нацыянальнага пытаньня ў сэнсе формы ўстройства палітычнага жыцьця самае правільнае, найбольш выгаднае для працоўных? На гэтае пытаньне трэба даць адказ у залежнасьці ад конкрэтных умоў, кожны раз іншых. У адным выпадку для працоўных будзе выгадна аўтономія, у другім выпадку—поўнае аддзяленьне і г. д. „Усё гэта—пытаньні, рашэньне якіх залежыць ад конкрэтных гістарычных умоў, акружаючых дануую нацыю. Больш гэтага. Умовы, як і ўсё, мяняюцца і рашэньне правільнае для данага моманту можа аказацца,—піша т. Сталін,—зусім ня прынятным для іншага моманту". І далей: „калі дзе і неабходна дыалектычная пастаноўка пытаньня, то іменна, тут, у нацыянальным пытаньні" (стар. 277).

Ва ўсякім разе пролетарыят павінен стаяць за такія формы вырашэньня нацыянальнага пытаньня, якія гарантуюць скасаваньне нацыянальнага прыгнечаньня і падымаюць працоўныя масы на вышэйшую ступень іх клясавага разьвіцьця.

Ці зьяўляюцца гэтымі формамі формы нацыянальна - культурнай аўтономіі? Ні ў якім разе не. Нацыянальна-культурная аўтономія, у лепшым выпадку, скасоўвае прыгнечаньне моўнае. Абмежавацъ-жа нацыянальнае пытаньне толькі мовай, культурнымі ўстановамі, ні ў якім разе нельга. Баўэр і Шпрынгер, а за імі бундаўцы і меншавікі, якія прапануюць нацыянальна-культурную аўтономію, не зразумелі ў першую чаргу той ісьціны, што нацыянальнае пытаньне ў першую чаргу зьяўляецца *пытаньнем улады*. Калі выходзіць з тэорыі культурна-пэрсональнай аўтономіі,—ні ў якім разе нельга забясьпечыць правядзеньня тых экономічных і палітычных мерапрыемстваў, якія ляжаць у аснове самога нацыянальнага руху.

Больш гэтага. Утварэньне разьмяжованых па нацыях організацый наносіць непасрэдную шкоду для разьвіцьця пролетарыяту. Дасьведчаньне Аўстрыі, у якой на Брунскім партэйтагу соцыял-дэмократыя была пераорганізавана на прынцыпу нацыянальных прыналежнасьцяй, прывяло да расколу рабочага руху па ўсім лініям: за партыяй разьмежаваліся па нацыям профэсіянальныя саюзы і нават—коопэратывы. Замест таго, каб згуртаваць сілы рабочых супроць буржуазіі, разьбітыя па нацыянальных клетках, рабочыя выступаюць не солідарна, разрозьнена, часамі нават адны супроць адных.

Бунд і меншавікі, прапануючы нацыянальна-культурную аўтономію, вядуць да сэпаратызму рабочага руху, да разлажэньня яго. Нацыянальна-культурная аўтономія, выходзячая толькі з моўна-культурных адзнак нацыі, прапануе ўтварыць агульна-нацыянальныя ўстановы з людзей, гаворачых адною моваю, хаця яны і раскіданы тэрыторыяльна, ня зьвязаны аднымі экономічнымі інтарэсамі. „Нацыянальная аўтономія супярэчыць усяму ходу разьвіцьця нацый,—гаворыць т. Сталін.—„Зьвязанасьць і адзінства нацый,—падае ня толькі дзякуючы расслаеньню. Яна падае яшчэ знутры, дзякуючы абвастрэньню класавага змаганьня. Што

гэта за с.-д.,—пытаецца т. Сталін,—якія ў эпоху наймацнейшага абвостраньня змаганьня клясаў арганізуюць паміжклясавыя саюзы!" (стар. 285).

На падставе аналізу нацыянальных суадносін на Каўказе, тав Сталін даказвае поўную няпрыгоднасьць культурна-нацыянальнай аўтономіі.

„Нацыянальнае пытаньне на Каўказе можа быць вырашана толькі *ў духу ўцягненьня спазьніўшыхся нацый і народнасьцяй у агульнае* рэчышча вышэйшай *культуры*. Толькі такое вырашэньне ня можа быць прогрэсыўным і прынятным для соцыял-дэмократыі. Краявая аўтономія Каўказу таму і прынятная, што яна ўцягвае спазьніўшыяся нацыі ў агульнае культурнае разьвіцьцё, яна дапамагае ім вылупіцца з скарлупы дробна-нацыянальнай замкнёнасьці, яна таўхае іх уперад і абля́гчае ім дайці да даброт вышэйшай культуры. Між тым, культурна-нацыянальная аўтономія дзее ў супроцьлежным кірунку, бо яна замыкае нацыі ў старыя скарлупы, замацоўвае іх на нізкіх ступенях культуры, перашкаджае ім падняцца на вышэйшую ступень культуры" (стар. 296).

Такім парадкам, няпрыгодная наогул, культурна-нацыянальная аўтономія абярнулася-бы на Каўказе ў бяссэнсную рэакцыйную зацею. Астаецца адно правільнае рашэньне нацыянальнага пытаньня „адзінавернае рашэньне—абласная аўтономія, аўтономія такіх вызначыўшыхся адзінак, як Польшча, Літва, Украіна, Каўказ і г. д. „Усякае іншае вырашэньне прыводзіць да нацыяналізму. Нацыянальная аўтономія „ў эпоху наймацнейшага абвостранага клясавага змаганьня арганізуе міжклясавыя саюзы" і гэтым дапамагае буржуазіі перамагаць рабочы рух, паслабляць яго, нацкоўваць адзін атрад рабочых на другі. „Нацыянальная аўтономія Шпрынгера і Бауэра ёсьць утончаны від нацыяналізму". (Сталін, „Марксизм и нац. вопрос", стар. 285).

Тав. Сталін у сваім творы ў 1913 годзе ў поўнай меры тэорэтычна разьдзелаўся з дробна-буржуазнаю пастаноўкаю нацыянальнага пытаньня і ўгрунтаваў тое правільнае яго вырашэньне, якое ажыцьцявіла Кастрычніцкая рэволюцыя.

Аднак, змаганьнем з дробна-буржуазнай нацыяналістычнай тэорыяй вырашэньня нацыянальнага пытаньня, з тэорыяй нацыянальна-культурнай аўтономіі справа не абмяжоўвалася. У радох партыі знаходзіліся таварышы (Бухарын, Бош, Пятаков, польскія с-д.), якія выступілі супроць палажэньня програмы: „права на нацыянальнае самавызначэньне", за прапаганду індыфэрэнтызму ў адносінах да нац. пытаньня. У змаганьні з гэтымі таварышамі побач з Леніным адстойваў бальшавіцкае вырашэньне пытаньня і тав. Сталін, які зьяўляўся асноўным дакладчыкам па нац. пытаньню на партыйных зьездах—у часе рэволюцыі і кіраўніком Нар. Кам. Нацыянальнасьцяй.

*(Працяг будзе)*

# Ленінізм перамагае

**(Да шостае гадавіны сьмерці Леніна)**

Шэсьць год прайшло з таго часу, як памёр найвялікшы—пасьля Маркса—правадыр міжнароднага рабочага руху. „Шэсьць год бяз Леніна“—шэсьць год рэвалюцыйнага змаганьня ўва ўсіх краінах сьвету, у ўмовах вялічэзна-хуткае зьмены форм і мэтодаў барацьбы, мобілізацыі і перагрупаваньня клясавых сіл, зьмен і разьвіцьця сусьветнае экономікі і сусьветнае політыкі.

Як-жа ідзе справа Леніна, якой было прысьвечана ўсё яго жыцьцё, як ідзе справа з дасягненьнямі соцыялізму ў першай пролетарскай дзяржаве і з разьвіцьцём Комуністычнага Інтэрнацыянал алу. Гэтае пытаньне аб лёсе пролетарскае рэволюцыі, самымі надзейнымі падставамі і вагарамі якое зьяўляюцца савецкая ўлада і Комінтэрн, у дзень шостае гадавіны сьмерці Леніна ставіць сабе ўсё прыгнечанае і эксплёатуемае чалавецтва.

Сьмерць Леніна супала з момантам спаду першае хвалі пролетарскае рэволюцыі, калі пачаўся пэрыод „адноснае стабілізацыі капіталізму“, зьвязанае з вялічэзным цяжарам і ахвярамі для пролетарыяту. І ў той меры, у якой усё болей пашырылася і паглыблялася экономічнае і політычнае наступленьне капітала супроць працоўных мас, соцыял-дэмократычныя каты і душыцелі пролетарскіх паўстаньняў стараліся агаласіць крушэньне справы Леніна, крушэньне пролетарскае сусьветнае рэволюцыі і прадракалі поўную пагібель пролетарскае дыктатуры ў СССР. „Банкруцтва комуністычнага экспэрымэнта ў Савецкай Расіі, ліквідацыя Комуністычнага Інтэрнацыяналу ўва ўсім сьвеце“—гэтак крычалі яны з ўсіх сіл, каб заставіць пролетарыят забыцьаб іх здрадніцтве і подласьцях, забыцьаб іх ролі ў крывавым прыдушэньні рэволюцыі і запрагчы пролетарскія масы ў ярмо капіталістычнае стабілізацыі. Неператвышаныя ў здольнасьці плётак і ашуканства тэорэтыкі і практыкі II Інтэрнацыяналу: Рэнэры, Блюмы і Гільфэрдынгі, прабавалі нагадаць усяму сьвету, што „расійскія мэтоды“, мэтоды „непасрэднае барацьбы за пролетарскую дыктатуру“, мэтоды ўзброенага паўстаньня, былі пабіты, калі сустрэліся з жыцьцядзейнасьцю і ўстойлівасьцю эўропэйскага капіталізму. А „левыя“ соцыял-дэмократы, гэтыя самыя злосныя і фальшывыя здраднікі і каты пролетарскае рэволюцыі, стварылі для адурваньня працоўных мас спэцыяльную тэорыю аб „немагчым сьці бальшавізма ў перадавых капіталістычных дзяржавах“. Яны шырока „даводзілі“, што „расійскія мэтоды паўстаньня“ мелі ў лепшым выпадку сваё „апраўданьне“ толькі непасрэдна па скончэньні сусьветнае вайны і ў пэрыод, калі капіталізм знаходзіўся ў стане развалу.

Але правадыры II Інтэрнацыяналу, пакрытыя крывёю лепшых перадавых байцоў пролетарыята, ня ў сілах былі навязаць масам сваю меншавіцкую легенду аб поўнай стабілізацыі капіталізма, ня ў змозе

былі перакалнаць масы ў „скончэньні пролетарскае сусьветнае рэволюцыі“, пакольні існуе Савецкі Саюз, цьвярдыня міжнароднага камунізму, а пролетарская дыктатура на абшарах аднае шостае часткі зямное кулі ўсё болей хуткім і ўпэўненым тэмпам ажыцьцяўляе будаўніцтва соцыялізму. Загэтым правадыры міжнароднага соцыял-фашызму паставілі сабе задачу ўнесьці ў шэрагі пролетарыята зводніцкую атруту аб „рэстаўрацыі капіталізму ў Савецкім Саюзе“, аб немагчымасьці перамогі соцыялізму ў адсталай аграрнай краіне, аб неперможнай эканомічнай і палітычнай сіле стабілізаванага сусьветнага капіталізму і аб „арганізатарскіх“ здольнасьцях монополістычнага капіталізму.

З факту часовага паражэньня кітайскае рэволюцыі, крушэньня ўсеагульнае стачкі і стачкі горнарабочых Ангельшчыны і „пасьпешнае капіталістычнае рацыяналізацыі“ па іх словах „вынікае, што сусьветны капіталізм канчаткова стабілізаваўся, што апошнія стаўкі бальшавізму, у асаблівасьці на Ўсходзе, пабіты, і што такім чынам урэшце нямінуча таксама крушэньне Савецкага Саюзу і соцыялістычнага экспэрымэнту“. Гэтак агалашалі аргумэнты міжнароднае соцыял-дэмократыі на працягу ўсяго часу, які ішоў за пэрыодам „буры і націску“ рэволюцыйнага ўздыму пасьля вайны, за пэрыодам на працягу так званага другога пэрыоду пасьляваеннага капіталізму.

Клясавы вораг прыкладаў у гэты пэрыод найвялікшыя натугі да таго, каб утварыць замяшаньне ў шэрагах пролетарыяту і яго комуністычнага авангарду. Нявераю ў пасьпяховае заканчэньне справы Леніна заразіліся хісткія, няўстойлівыя элемэнты Комуністычнага Інтэрнацыяналу; гэта знайшло свой выраз спачатку ў троцкісцкім, а потым у правым ухіле. На працягу ўсіх „шасьці год бяз Леніна“ пытаньне ішло ні аб чым іншым, як аб гістарычнай праверцы правільнасьці і пэўнасьці ленінізму. Самы гістарычны процэс павінен быў даць і даў крытэры для праверкі агульназначымасьці ленінізму ўва ўсіх галінах. Ён пацьвердзіў закон нераўнамернага разьвіцьця імпэрыялізму і самым цесным чынам, зьвязаную з гэтым магчымасьць пабудовы соцыялізму ў аднэй краіне, Савецкім Саюзе, і поруч з гэтым унівэрсальную праўдзівасьць і правільнасьць „расійскіх баявых мэтодаў“ ленінізму ва ўсім сьвеце, у найболей перадавых капіталістычных краінах ня менш, чым у адсталых колёніяльных краінах.

Об'ектыўны гістарычны процэс і суб'ектыўная арганізацыйная дзейнасьць Комуністычнага Інтэрнацыяналу павінны былі давесьці пераможнае ажыцьцяўленьне соцыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе, узмацненьне Комуністычнага Інтэрнацыяналу, самае цеснае ўвязваньне змаганьня пролетарыяту ў імпэрыялістычных краінах са змаганьнем прыгнечаных колёніяльных народаў. І гэты „довад“, гэты рашаючы „экспэрымэнт“ павінны былі быць дадзены ў барацьбе ленінізму ня толькі супроць уяўна здрадніцкае і адкрыта контр-рэволюцыйнае „міжнароднае“ соцыял-дэмакратыі, але і супроць ухілаў ад ленінізму ўнутры самага Комуністычнага Інтэрнацыяналу. Увесь гістарычны адрэзак часу пасьля сьмерці Леніна характарызуецца як барацьбою, якая ўсё болей завастраецца паміж дзьвюма сусьветнымі сыстэмамі, сыстэмаю соцыялізму ў Савецкім Саюзе і сыстэмаю сусьветнага капіталізму, так і барацьбою *сапраўднага* ленінізму супроць усіх скажэньняў ленінізму ўнутры Комуністычнага Інтэрнацыяналу.

Ужо цяпер можна сказаць з акрэсьленаю пэўнасьцю, што перамога ленінізму, якая заваёвана ў процэсе самае вострае барацьбы супроць троцкісцкіх і правых ухілаў, у той самы час зьяўляецца перамогаю *над соцыял-дэмократыяю,* перамогаю *над сусьветным капіталізмам.* Гэтая перамога ленінізму ёсьць прасоўваньне ўперад сусьветнае рэволюцыі.

Яна раўназначна перамозе справы соцыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе, прогрэсуючаму рэволюцыянізаваньню рабочых мас і працоўных колёніяльных краін, якія паўстаюць, бальшавізацыі Комуністычнага Інтэрнацыяналу.

Факты *пацьвердзілі* правільнасьць тэорыі ленінізму. Цяпер, пасьля таго, як „другі пэрыод“ застаўся пазадзе, пасьля таго, як трэці пэрыод усё хутчэй выяўляе характэрныя прыметы новага рэволюцыйнага ўздыму ва ўсім сьвеце, прыметы паступовага руху пролетарыяту ўнутры і па-за Савецкім Саюзам, фашысцкія і соцыял-фашысцкія зброяносцы сусьветнага капіталу зноў прымушаны пужаць прыметаю „путчызму“ Комуністычнага Інтэрнацыяналу. Гэтыя паны зноў вынайшлі глыбока імі-ж пахаваную сусьветную рэволюцыю. Мала гэтага, яны яе знаходзяць зноў ува ўсіх кутках і канцох зямное кулі, і ўсюды, па іх словах, дзейнічае „рука Масквы“. А болей празорлівыя буржуазныя політыкі і журналістыя, якія аддаюць брудную паклёпніцкую працу сваім соцыял-фашысцкім лёкаям, прымушаны з страхам канстатаваць, што найглыбейшая прычына новых экономічных і політычных труднасьцяй капіталізму заключаецца ў пераможным ажыцьцяўленьні ў Савецкім Саюзе пяцігадовага пляну, які мае гіпнотызуючы ўплыў на міжнародны пролетарыят і на ўсе прыгнечаныя народы. Яны прымушаны ў той самы час прызнаць, што гаспадарцы Савецкага Саюзу, якая бурна разьвіваецца, процістаіць далейшы *распад, крызіс* капіталістычнага сьвету. „Расія напальваецца, а Эўропа астывае“, піша вядомы буржуазны экономісты А. Фэйлер. Гэтым ён кажа, што сама буржуазія пачынае адчуваць набліжэньне прадсьмяротнае агоніі і магільнага холаду.

Падобна таму, як першая хваля рэволюцыйнага ўздыму ў Заходняй Эўропе пачалася пад азнакай барацьбы за пролетарскую дыктатуру, падобна таму, як у той час сусьветна-гістарычная клясавая барацьба магла быць зьведзена да прасьцейшае формулы, „тут буржуазная дэмократыя—там пролетарская дыктатура“, гэтак пачатак новага рэволюцыйнага ўздыму стаіць ня толькі пад азнакаю політычнае формулы: „тут фашысцкая дыктатура—там пролетарская дыктатура“, але і формулы „тут соцыялістычны пяцігадовы плян будаўнцтва—там капіталістычная бясплянавасьць і заняпад“. Гісторыя паўтараецца ў сваіх цыклях, але яна дае ім усё болей конкрэтны і багаты зьмест.

Не выпадковы той факт, што ў самы той час, як пяцігодка соцыялістычнага ўздыму Савецкага Саюзу робіцца такімсама популярным і міжнародным словам, такім сама лёзунгам пролетарскага руху ўсяго сьвету, як у свой час слова „савет“, сусьветны крызіс капіталізму набывае ўсё болей выразны абрыс і асабліва завастраецца і паглыбляецца раптоўным банкруцтвам амэрыканскага „благоденствия“. Перад нашымі вачыма расчыняецца, як ніколі яшчэ ў мінулым, уся глыбіня ленінскага тэзісу аб рэволюцыйных сілах, закладзеных у нераўнамернасьці капіталістычнага разьвіцьця ў эпоху імпэрыялізму. Як ніколі раней, цяпер робіцца выразным, што толькі ленінскае кіраўніцтва міжнароднаю барацьбою пролетарыяту і барацьбою прыгнечаных колёніяльных народаў знайшло сваё апраўданьне і сьцьверджаньне ў аб'ектыўных умовах барацьбы другога пэрыоду і пераходу ад яго да трэцяга пэрыоду, да пэрыоду новага рэволюцыйнага ўздыму. Самыя злосныя паклёпнікі і ворагі соцыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе ўжо ня могуць адмаўляць цяпер вялічэзных посьпехаў індустрыялізацыі і колектывізацыі. Разам з гэтым яны ня могуць не прызнаваць, што надзеі на бесьперабойнае, не праваджаемае ніякімі ўнутранымі ўзрушэньнямі „благоденствие“ амэрыканскага капіталізму пацярпелі крушэньне і што крызіс у Амэрыцы пачынае кідаць сваю страшэнную

цэнь на ўвесь сьвет і перш за ўсё на капіталістычную Эўропу. Калі ў час уздыму першае рэволюцыйнае хвалі страсёная ў сваіх асновах гаспадарка заходня-эўропэйскага капіталізму была падгрымана амэрыканскім далярам, калі ў 1923 годзе, кінутая ў прах капіталістычная Германія была гальванізавана да новага жыцьця пры дапамозе залатога дажджу экспартаваных са Злучаных Штатаў капіталаў, то што-ж будзе цяпер, калі да эўропэйскае дэпрэсіі і ўбоства прылучыцца амэрыканскае банкруцтва, форсіраваны да крайніх граніц таварны экспорт у Амэрыцы, узмоцненая конкурэнцыя аднаго з адным амэрыканскіх акул, калі іх ліхаманкавыя ўзбраеньні яшчэ болей завостраць сусьветны хаос.

У зьвязку з гэтым адпадае таксама адзін з найбольш важных „козыраў“ соцыял-дэмократыі супроць магчымасьці пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе і супроць разгортваньня сусьветнае пролетарскае рэволюцыі наогул. Гэты „артумэнт“ апіраўся на концэсію аб нязрушнай экономічнай і палітычнай перавазе Амэрыкі, здольнае, быццам, каб стабілізаваць увесь эўропэйскі капіталізм і болей гэтага, нават дапамагаць „плянавай організацыі сусьветнае капіталістычнае гаспадаркі цалкам“. Яшчэ ня досыць шырока вядома, што рэформісцкі тэзіс аб прогрэсуючай „організацыі сусьветнае капіталістычнае гаспадаркі абапіраецца ня толькі на рэклямаваную рэформістымі організуючую ролю экономічных конфэрэнцый Лігі Нацый, але і на „сусьветную гегемонію Амэрыкі“, і што ўся ўстаноўка адносна шляхоў стабілізацыі эўропэйскага капіталізму і сусьветнага капіталізму наогул чарпала з гэтага сьцьверджаньня свае мацнейшыя аргумэнты. Вельмі мала яшчэ вядома, што троцкісцкая ідэя аб „Злучаных Штатах Эўропы“, як неабходнай процівазе гегемоніі Злучаных Штатаў, сама па сабе зьяўляецца нічым іншым, як варыянтам соцыял-дэмократычнага пункту гледжаньня аб капіталістычнай „організацыі сьвету“ з боку пануючае рэспублікі даляру. „Амэрыканскі капітал,—казаў Троцкі,—цяпер камандуе, загадвае дыплёматамі. Ён рыхтуецца і зьбіраецца таксама загадваць эўропэйскім банкам і трэстам. Ён да гэтага ідзе. Ён будзе нарэзваць кавалкі рынку, ён будзе нормаваць дзейнасьць эўропэйскіх фінансістых і эўропейскіх прамыслоўцаў. Калі адказаць выразна на пытаньне, чаго хоча амэрыканскі капітал, то прыдзецца сказаць гэтак: *ён хоча капіталістычную Эўропу пасадзіць на паёк.* Гэта значыць паказаць ёй, колькі тон, літраў ці кілёграмаў і чаго ўласна яна мае права купляць і прадаваць“. (Л. Троцкі, „Эўропа і Амэрыка“). Таксама яшчэ ня зусім ясна ўявілі сабе, што пункт гледжаньня правых опортуністых і прымірэнцаў з школы Бухарына ўнутры і па-за Савецкім Саюзам выводзіў свае ідэолёгічныя карэньні з „выключнасьці“ Злучаных Штатаў і тлумачыў „організацыю нацыянальнае гаспадаркі“ асобных капіталістычных дзяржаў монополістычным панаваньнем Амэрыкі на сусьветным рынку. Поруч з гэтым ішла пераацэнка капіталістычнае стабілізацыі ўва ўсім сьвеце і недаацэнка магчымасьці рэволюцыйнага ўздыму пролетарыята імпэрыялістычных краін, магчымасьці раптоўных зноў і зноў узьнікаючых рэволюцыйных рухаў у колёніях і г. д.

Поруч з гэтым ішла недаацэнка магчымасьці соцыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе. Хіба гэта было выпадкова, што троцкістыя ў час другога пэрыоду пасьляваеннага капіталізму і бухарынскае накіраваньне на парозе трэцяга пэрыоду прадракалі блізкі канец, немінучае крушэньне соцыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе? Хіба выпадковым было тое, што адны раней, а другія пазьней прадракалі распад Комуністычнага Інтэрнацыяналу? Хіба маглі ультра-левыя і правыя—у сваіх спробах „паправіць“ ленінізм—ісьці па другому шляху, як

па шляху пераацэнкі здольнасьці сусьветнага капіталізму к стабілізацыі і арганізацыі і адначасова з гэтым недаацэнкі рэволюцыйных магчымасьцяй і пэрспэктыў і перамогі міжнароднага пролетарыяту, асабліва-ж, магчымасьці перамогі социялізму ў Савецкім Саюзе? Неабходна ў сучасны момант з усёю выразнасьцю ўразумець і констатаваць, што ультра-левыя,—таксама, як і правыя, у сваіх „орыгінальных“ тэорыях паўтараюць толькі соцыял-дэмократычныя погляды, якія стаяць у самай вострай супярэчнасьці з ленінскаю ацэнкаю асноўнага характару пролетарскае рэволюцыі і дынамікі яе пашырэньня на ўвесь сьвет. Па сутнасьці справы, як троцкістыя, гэтак і пасьлядоўцы Бухарына ніколі не разумелі асноўнага закону ленінізму аб пролетарскай сусьветнай рэволюцыі.

Як-жа гаворыць гэты асноўны закон, зьведзены да прасьцейшае формулы, г. зн. да формулы, якая аб‘ядпае ў адно непарыўна цэлае магчымасьць перамогі соцыялізму ў аднэй краіне і дынаміку пашырэньня пролетарскае рэволюцыі на ўвесь сьвет? Гэтая формула вось якая:

> „Нераўнамернасьць экономічнага і політычнага разьвіцьця ёсьць бязумоўны закон капіталізму. Адгэтуль вынікае, што перамога соцыялізму магчыма першапачаткова ў нямногіх ці нават у аднэй, асобна ўзятай, капіталістычнай краіне. Пераможны пролетарыят гэтае краіны, экспропрыяваўшы капіталістых і арганізаваўшы ў сябе соцыялістычную вытворчасьць, устаў-бы *супроць* рэшты капіталістычнага сьвету, прыцягваючы да сябе прыгнечаныя клясы другіх краін, падымаючы ў іх паўстаньне супроць капіталістых, выступаючы ў выпадку неабходнасьці нават з узброенаю сілаю супроць эксплёататарскіх кляс і іх дзяржаў“ (Ленін, т. XIII).

Заслуга тав. Сталіна заключаецца ў тым, што ён навучыў нас правільна разумець гэтую важнейшую формулёўку ленінскага погляду на Кастрычнікавую рэволюцыю. Яго вялічэзнаю гістарычнаю заслугаю зьяўляецца тое, што ён, выходзячы з формулёўкі Леніна, пасьля сьмерці апошняга, першы ў барацьбе супроць троцкісцкае „пэрманэнтнае рэволюцыі“ выпрацаваў сапраўдны сэнс ленінскае рэволюцыйнае стратэгіі—як у адносінах магчымасьці перамогі рэволюцыі ў аднэй краіне, так і ў адносінах „Кастрычнікавае Рэволюцыі як пачатку і прадпасылкі сусьветнае рэволюцыі“. (Глядзі И. Сталин, „Октябрьская Революция и тактика русских коммунистов“).

Ці-ж патрэбна цяпер яшчэ доўга затрымлівацца на тым, якое значэньне мела адзіна правільнае тлумачэньне ленінскага закону нераўнамернасьці імпэрыялістычнага разьвіцьця і магчымасьці перамогі соцыялізму ў аднэй краіне, насупраць паклёпніцкай кампаніі троцкістых па поваду „нацыянал-большавізма Сталіна“, для ўсяго Комуністычнага Інтэрнацыяналу і ўсяго рэволюцыйнага руху пролетарыята і прыгнечаных народаў у працягу „шасьці год бяз Леніна“? Ці-ж патрэбна яшчэ падкрэсьліваць, што паглыблена распрацаванае тав. Сталіным пытаньне аб падтрыманьні пролетарскае сусьветнае рэволюцыі з боку першае соцыялістычнае дзяржавы мела найвялікшае практычнае значэньне для рэволюцыянізаваньня рабочае клясы ўсіх краёў і колёніяльных народаў? Ці-ж ёсьць у гэтым патрэба—пры наяўнасьці „пяцігадовага пляну“ і перамогі соцыялістычнага плянавага прынцыпу за гэтакі кароткі час і ў такім выключным тэмпе і маштабе?

Што формуляваньне магчымасьці перамогі соцыялізму ў аднэй краіне само па сабе мела праўдзіва *міжнародны* характар, што ленінізм і ў гэтых адносінах узяў перамогу над троцкізмам і наогул над уся-

каю соцыял-дэмократычнаю тэорыяю,—гэтаму вучыць нас фактычны ход разьвіцьця, гэта нядвузначна паказвае практыка клясавае барацьбы. Але для пролетарыята і яго комуністычнага авангарду зьяўляецца асабліва важным уявіць сабе тое, што пытаньне аб тэмпе індустрыялізацыі, пытаньне аб соцыялістычным характары савецкае прамысловасьці, аб адносінах да серадняцкага сялянства на этапе барацьбы супроць троцкізму, пытаньне аб тэмпе індустрыялізацыі і адносінах да кулацтва і да колектывізацыі, на этапе барацьбы супроць прыхільнікаў Бухарына,—уяўляе розныя бакі *адзінага процэсу*, які адлюстроўвае клясавую барацьбу ў Савецкім Саюзе і ўва ўсім сьвеце, якая павінна давесьці правільнасьць і пэўнасьць ленінскае тэорыі рэволюцыі.

Што-ж іншае ўяўлялі собою спрэчкі навакол пытаньня аб „перамозе соцыялізму ў аднэй краіне“, аб соцыялістычным і дзяржаўна-капіталістычным характары нашае прамысловасьці, аб так званай органічнай працілегласьці і непрымірымасьці інтарэсаў пролетарскае дыктатуры і інтарэсаў працоўных сялянскіх мас, як гаварыла вэрсія троцкістых, што-ж іншае ўяўлялі сабою рознагалосьсі па пытаньню аб „затуханьні“ крывое тэмпу індустрыялізацыі, аб „урастаньні кулацтва ў соцыялізм“, аб „завяшчаньні Леніна“, аб правільным тлумачэньні ленінскага разуменьня нэпу і коопэрацыі, як не барацьбу ленінізму супроць „левых“ і правых, супроць соцыял-дэмократычных скажэньняў і за перамогу пролетарскае рэволюцыйнае лініі? І ці-ж можна ў сучасны момант яшчэ адмаўляць, што на аснове сапраўдна-ленінскае лініі савецкі пролетарыят пад правадырствам ВКП(б) і яе Цэнтральнага Камітэту, міжнародны пролетарыят і прыгнечаныя народы пад правадырствам Комінтэрна, ня толькі ўзмацнілі і ўсталілі свае позыцыі ў працягу „другога пэрыоду“, але і пераходзяць ва ўсім сьвеце да генэральнага наступу на клясавага ворага ў „трэцім пэрыодзе“? Ці-ж могуць цяпер яшчэ існаваць сумненьні адносна таго, што сусьветны рэволюцыйны рух пад кіраўніцтвам Комуністычнага Інтэрнацыяналу і „авангарда авангарду“, ВКП(б), высока трымаў сьцяг Леніна ўва ўсіх мінулых баёх і высока будзе трымаць яго ў будучых баёх?

Формула перамогі соцыялізму ў аднэй краіне і нераўнамернасьці імпэрыялістычнага разьвіцьця з асаблівай выразнасьцю была расшыфравана ў сучаснай фазе разьвіцьця сусьветнае рэволюцыі, у барацьбе супроць правае небясьпекі. Пераможная рэалізацыя пяцігадовага пляну, якая выпярэджвае ўсе разьлікі і надзеі разьвіцьця савгасаў і колгасаў, бурны процэс аграмаджэньня сялянскае гаспадаркі ўяўляе сабою непасрэдны ўступ у новую эпоху гісторыі чалавецтва. „Аграрны соцыялізм Сталіна—піша нават нямецкі буржуазны журналісты Грабоўскі—нечакана хуткім тэмпам увайшоў у жыцьцё. Ён азначае, што соцыялістычная плянавая мысьль, цяга да соцыялістычнае плянавае гаспадаркі ахапляе стомільённую сялянскую масу“. Буржуазны журналісты цешыць заходна-эўропэйскі капіталізм тым, што традыцыі расійскае „грамады“ робяць сялянскія масы Савецкага Саюзу ўспрыімлівымі да ідэі соцыялізму. Яму нядоўга прыдзецца цешыць сябе гэтаю думкаю. Сусьветны аграрны крызіс, у якім капіталізм ня ў змозе справіцца і рэволюцыянізаваньне сялянства ўва ўсіх краёх капіталізму, у колёніяльных краінах—перш за ўсё скора давядуць, што ленінізм у адносінах колектывізацыі сялянства не абмяжоўваецца граніцамі Савецкага Саюзу, і што па меры таго, як пролетарыят імпэрыялістычных краёў будзе пераможна ўстанаўляць сваю дыктатуру, „расійскія мэтоды“ давядуць сваю міжнародную значымасьць і ў справе заваёвы працоўнага селяніна высока-разьвітых капіталістычных краёў для колектывізму. І гэта зусім не далёкая музыка будучага. Як пераможная пролетарская дыкта-

тура ў Савецкім Саюзе, ажыцьцяўленьне пяцігадовага пляну ў прамысловасьці якраз цяпер у абставінах абвастрэньня ўва ўсім сьвеце клясавых супярэчнасьцяй, якія растуць, стымулююць пролетарскія масы да барацьбы за пролетарскую дыктатуру і ўласнае соцыялістычнае будаўніцтва, так і „сталінскі аграрны соцыялізм“ пэўна зробіць гіганцкі рэволюцыянізуючы ўплыў на сялянскія масы, якія ўсё болей і болей бяднеюць у ўмовах капіталізму і пад яго ўплывам, і пакажа ім шлях да свайго вызваленьня пад кіраўніцтвам пролетарыяту.

Прайшло шэсьць год ад сьмерці Леніна. У момант, калі этап „паміж дзьвюма хвалямі рэволюцыі“ зьмяняецца пэрыодам новага рэволюцыйнага ўздыму, пролетарыі і ўсе прыгнечаныя працоўныя масы ўсё выразьней пачынаюць разумець, што толькі ленінізм можа зьявіцца сьцяганосцам у барацьбе за вызваленьне чалавецтва ад праклянцьця імпэрыялізму і імпэрыялістычных войн. Разам з гэтым яны разумеюць, што справа і насьледзьдзе Леніна знаходзяцца ў верных руках, у руках Комуністычнага Інтэрнацыяналу і яго выпрабаванага ў баёх кіраўніцтва. Ленінізм перамагае ўва ўсім сьвеце. Ніякая сіла ў сьвеце ня можа перашкодзіць яму ў пэратварэньні ў жыцьцё яго вялікае справы—перамогі сусьветнае пролетарскае рэволюцыі.

(„К. И.“).

А. Лур'е

# Новы этап барацьбы на аграрным фронце

**(Да падсумаваньняў 1-е Ўсесаюзнае Конфэрэнцыі і 2-е нарады аграрнікаў-марксыстых БССР)**

Аграрны фронт зьяўляецца найбольш уражным, найбольш трывожным вучасткам фронту марксыцка-ленінскае тэорэтычнае мысьлі. Тут завязваюцца найбольш гарачыя бойкі. На гэты вучастак вядзецца пастаянны наступ з боку розных буржуазных і дробнабуржуазных тэорый, тут найчасьцей усяго сустракаемся з хістаньнямі ўнутры марксыцкага лягеру, з опортуністычнымі скажэньнямі, з рэвізіёнісцкімі патугамі і „дэзэртырствам“ з рэволюцыйных шэрагаў. Рэвізія марксызму ў аграрным пытаньні, якая пачата Бэрнштэйнам і Довідам, працягвалася і „паглыблялася“ сучаснымі тэорыямі Карла Каўцкага і Отто Баўэра і знайшла сваё канчатковае выяўленьне ў нядаўна прынятых аграрных програмах аўстрыйскае і нямецкае соцыял-дэмократыі—гэтых дакумантах, якія могуць служыць прыкладам рэнегацтва і адкрытае абароны асноў капіталізму як у горадзе, так і ў вёсцы. Марксыцкая тэорыя рэнты, асабліва тэорыя абсолютнае рэнты, заўсёды падлягала „папраўленьням“ і скажэньням з боку меншавіцкіх гора-марксыцкіх тэорэтыкаў. Мы памятаем мізэрныя спробы Маслава папраўляць чарнавыя накідкі трэцяга тома „Капітала“, знаходзіць у іх уяўныя супярэчнасьці і „паглыбіць“ Маркса, вытрапаючы ўвесь рэволюцыйны зьмест яго тэорыі. Ужо пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі мы мелі шэраг спроб рэвізіёнісцкага тлумачэньня марксыцкае тэорыі рэнты (Варга, Любімаў), і ў самыя апошнія часы мы маем навейшую, „самую навейшую“ спробу знайсьці супярэчнасьці ў выкладаньні тэорыі рэнты Марксам у 3-м томе „Капітала“ і ў „тэорыях дадатковае вартасьці“ і падправіць Маркса пад Рыкардо.

Марксыцкая тэорыя ня ёсьць догма, а кіраваньне для дзеяньня. Але-ж асабліва ўвязваецца тэорыя з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва на аграрным фронце ў нас, дзе пытаньні разьвіцьця сельскае гаспадаркі, пытаньні ўзаемаадносін пролетарыяту з асноўнымі масамі сялянства зьяўляюцца асноўнымі пытаньнямі нашае рэволюцыі. Тут недаацэнка значэньня марксыцкае тэорыі адплачвае за сябе; опортуністычная тэорыя праяўляецца ў права-опортуністычнай практыцы. Характэрным прыкладам гэтага скажэньня зьяўляецца ў нашых беларускіх умовах, так званая „прышчэпаўшчына“, політыка Наркамзему на працягу некалькіх год, дзе кулацкая політыка земляўпарадкаваньня грунтавалася на цалкам аформленай, закончанай „нэонародніцкай“ тэорыі ў аграрным пытаньні. Гэтая тэорыя была выяўлена на першай нарадзе аграрнікаў-марксыстых Беларусі ўлетку 1929 году.

Вось чаму працы Ўсебеларускае нарады і 1-е Ўсесаюзнае конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстых набываюць асаблівае значэньне для нашага соцыялістычнага будаўніцтва і павінны прыцягнуць да сябе ўвагу шырокіх партыйных мас.

Значэньне іх падвойваецца яшчэ і тым, што ўсесаюзная конфэрэнцыя і адбыўшаяся наперад за яе нарада аграрнікаў у нас зьбіраліся ў такі адказны палітычны момант, які „характарызуецца грунтоўным пераломам на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва... У галіне разьвіцьця сельскае гаспадаркі перелом заключаецца ў масавым пераходзе міліёнаў дробных вытворцаў ад адсталае індывідуальнае ўласьніцкае гаспадаркі да буйное, колектыўнае вытворчасьці і ў шырокім будаўніцтве саўгасаў гігантаў ува ўсіх важнейшых галінах сельскае гаспадаркі. Гэтае будаўніцтва азначае рашучае выкарчоўваньне карэньняў капіталізму“ (з рэзолюцыі конфэрэнцыі). Загэтым нарада і конфэрэнцыя ў дакладах т. т. Мілюціна, Вераменічава і Пінчука падвялі падсумаваньне барацьбе на аграрным ідэолёгічным фронце ў СССР і БССР, вызначылі асноўныя проблемы, якія стаяць перад марксыцкаю аграрнаю думкаю на новым этапе барацьбы за соцыялістычную рэконструкцыю сельскае гаспадаркі. На пленуме конфэрэнцыі быў заслуханы таксама і даклад тав. Гайстэра, на тэму „Соцыяльныя зрухі ў савецкай вёсцы“, дзе быў дадзены аналіз клясавага расслаеньня ў савецкай вёсцы на розных этапах нашае рэволюцыі і спосабаў навуковага, марксыцкага дасьледваньня соцыяльных зрухаў. Аналіз клясавых сіл у сучасны пераломны момант быў закончаны ў прамове т. Сталіна на заключным пасяджаньні аграрнае конфэрэнцыі і выражаны ім у формуле, якая застаецца асноўным лёзунгам нашае палітыкі на бліжэйшы пэрыод: *ліквідаваць кулака як клясу*. Апрача гэтых асноўных дакладаў, было прачытана на конфэрэнцыі каля 20 дакладаў у шасьці сэкцыях па пытаньнях аграрнае тэорыі, соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, аграрнае палітыкі, гісторыі аграрных адносін і аграрных проблем на ўсходзе. Такім чынам, па колькасьці дакладаў і глыбіні ахопу дадзенае спэцыяльнае галіны дасьледваньня—першая Ўсесаюзная конфэрэнцыя аграрнікаў зьяўляецца адным з вялічэзных навуковых дасягненьняў марксыцкае мысьлі ў Савецкім Саюзе.

## Барацьба на аграрным фронце СССР і БССР

У савецкай вёсцы існавалі і існуюць дзьве тэндэнцыі разьвіцьця—капіталістычная і соцыялістычная. Капіталістычная тэндэнцыя разьвіцьця грунтуецца на дробнай і драбнейшай вытворчасьці і на прыватнай уласнасьці сродкаў вытворчасьці. „Кожны, хто ўважліва наглядае за жыцьцём вёскі, ведае, што мы карэньняў капіталізму ня вырвалі і грунт, аснову ўнутранога ворага не падарвалі. Апошняя трымаецца на дробнай гаспадарцы і, каб падарваць яе, ёсьць адзін сродак—перавесьці гаспадарку, у тым ліку і зямлю, на новую тэхнічную базу, на базу сучаснае буйнае гаспадаркі“. (Ленін, прамова на VIII зьезьдзе Саветаў). Гэтая капіталістычная тэндэнцыя знаходзіць свой выраз у розных буржуазных і дробнабуржуазных тэорыях у аграрным пытаньні, з якімі прышлося весьці змаганьне марксыстым-аграрнікам у працягу дванаццаці год.

Некаторыя буржуазныя тэорэтыкі (Кандрацьцеў, Літашэнка, Вайнштэйн і інш.) выступалі з адкрыта кулацка-буржуазнаю пляцформаю, выходзілі з нямінучае перамогі капіталістычнага разьвіцьця ў сельскай гаспадарцы, адзначалі пераход сялянства ад „цягі да зямлі“ ў напрамак „цягі да рынку“, патрабавалі зьнішчэньня монополіі замежнага

гандлю і прапаведвалі змычку паміж сельскаю гаспадаркаю і замежным капіталам. „Трэба вітаць расейскі капіталізм, раз мы вітаем уваходжаньне замежнага капіталу“, радасна агаласіў Кандрацьеў 18 мая 1922 г., зусім не разумеючы сутнасьці і значэньня нашае канцэсійнае політыкі. Гэты былы нэонароднік, які перавярнуўся пасьля ўвядзеньня НЭП'у ў махровага контр-рэволюцыйнага буржуа, на працягу некалькіх гадоў крытыкаваў нашу лінію на індустрыялізацыю краіны, усю нашую экономічную політыку ў вёсцы і праракаў правал пяцігадовага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі. Марксыцкая крытыка раскрыла контр-рэволюцыйную сутнасьць гэтых тэорый і выявіла іх соцыяльны зьмест. Практыка нашага соцыялістычнага будаўніцтва, пасьпяховае правядзеньне генэральнае лініі нашае партыі, разьвіцьцё саюзу рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства, факт хуткага аднаўленьня сельскае гаспадаркі і яе соцыялістычная перабудова пад кіраўніцтвам дыктатуры пролетарыяту канчаткова разьбіла прараканьні Кандрацьцевых, Літашэнкавых і ім падобных, прывяла да банкруцтва іх тэорыі і да капітуляцыі нават формальнай у заяве Л. К. Літашэнкі, паданай у 1929 г. „Для тэорэтычнага аналіза дзейнасьці і для практычнай працы, пісаў ён, у ёй правільна выходзіць ужо з прадпасылак соцыялістычнае гаспадаркі, уносячы неабходныя папраўкі (як-жа можна без папраўкі? А. Л.) на выяўленьне астаткаў не аграмаджанага сэктару народнае гаспадаркі“, пакінуўшы для сябе скромны лаз на ўсякі выпадак. На Усебеларускай нарадзе былі выяўлены нашыя „дамарошчаныя“ Кандрацьцевы, вызначылася ў поўным уборы „беларуская кандрацьцеўшчына“, памножаная на нацыянал-дэмократычны коэфіцыэнт. Гэтыя нацыянал-Кандрацьцевы, орыентуючыся на капіталістычны захад, пішуць: „Калі сельская гаспадарка ў Польшчы і Усходняй Прусіі ў організацыйна-тэхнічных адносінах (чытай і ў соцыяльных, бо аўтар баязьліва хаваецца за тэхнікаю— А. Л.) можа быць прызнана ў вядомым (??) умоўным (??) сэнсе паказальнікам бліжэйшага разьвіцьця сельскае гаспадаркі ў Случчыне і падобных раёнах паўднёва-заходняй часткі Беларусі, то, з другога боку, організацыйна-вытворчая структура сельскае гаспадаркі ў Случчыне ў сваю чаргу можа быць прызнана да некаторай ступені паказальнікам бліжэйшага разьвіцьця некаторых другіх раёнаў Беларусі“ (Ждановіч. Характар с.-г. Белар., стар. 10). Калі адкінуць гэтыя розныя абмежаваньні і „абмоўкі“ („у вядомым умоўным сэнсе“, „можа быць“, „да некаторай ступені“) і своеасаблівую палахлівую „організацыйна-вытворчую“ заслону, то перад намі высоўваецца самы махрасты контр-рэволюцыйны буржуй. Падкрэсьліваючы прогрэсыўнасьць хутарскіх гаспадарак і гаспадарак бліжэйшых да рынку, аўтар лічыць, што гэтыя апошнія „паказваюць напрамак, па якому павінны ісьці і другія гаспадаркі“. Падобна ўсім сваім братом па ідэолёгіі, ён лічыць, што „ў умовах плянавае гаспадаркі пабудаваць прогноз яшчэ цяжэй і рызыкоўней (??), чым у ўмовах гаспадаркі, якая разьвіваецца стыхійна“. Наглядаючы праз свае буржуазныя акуляры разьвіцьцё рыначнае сьвінагадоўлі ў Беларусі, той самы Ждановіч знаходзіць, што ў Слуцкім раёне БССР сіла грошай і рынку ня меншая, чымся ў другіх сфэрах капіталістычнага сьвету.

Своеасабісты організацыйна-тэхнічны ці вытворчы пункт гледжаньня, з якога выходзяць буржуазныя тэорэтыкі, гэта ігнараваньне соцыяльнае формы, пытаньняў клясавага змаганьня, ёсьць толькі соцыяльная мімікрыя, замаскоўны колер, які служыць заслонаю для правядзеньня блізкае ім соцыяльна-экономічнае політыкі клясы капіталістых.

„Барацьба з адкрыта буржуазнымі тэорыямі на аграрным фронце не пагражае вялікімі цяжкасцямі, адкрыты вораг ня вельмі небясьпечны. Шмат складаней і цяжэй было весьці барацьбу з дробнабуржуазнымі тэорыямі сялянскае гаспадаркі—з нэонародніцтвам. Нэонародніцтва ёсьць дробнабуржуазная плынь, якая ўзьнікла ў нас у эпоху рэакцыі 1907—11 г. г. Калі старое нэонародніцтва было рэволюцыйна-буржуазнаю плыньню, якая змагалася супроць рэштак паншчыны ў вёсцы, за больш прогрэсыўны „амэрыканскі“ шлях разьвіцьця сельскае гаспадаркі і загэтым адыгрывала об'ектыўна-рэволюцыйную ролю, то нэонародніцтва, прыкрываючыся народніцкаю фразэолёгіяй, выступае як рэакцыйная плынь з падтрыманьнем сталыпінскае рэформы, у абарону капіталістычнага разьвіцьця вёскі. Сямейна-працоўнай ці спажывецка-працоўнай тэорыяй сялянскага двара, на словах падтрымліваючы дробнага вытворцу, нэонародніцтва на справе выступала ў абарону „прадпрыёмчай“ кулацкай часткі вёскі. Гэтыя тэорыі зьяўляліся апраўданьнем і прыкрыцьцём наступальнага капіталізму, высоўваючы быццам „асобыя“ законы разьвіцьця сельскае гаспадаркі, якія прынцыпова адрозьніваюцца ад законаў капіталістычнага разьвіцьця. Па істоце гэтыя тэорыі замазвалі рост капіталістычнае эксплёатацыі, затушоўвалі супярэчнасьці капіталізму ў земляробстве, клясавае расшпластаваньне ў вёсцы, узаконьвалі рэшткі прыгону, адначасова змагаючыся супроць рэволюцыйнага руху ў вёсцы, які адбываўся пад кіраўніцтвам пролетарыяту“ (рэзолюцыя 1-е конфэр. агр.-маркс.). У сучасны момант нялішне ўспамянуць, што нэонароднікі (Чаянаў Чалінцоў, Макараў) побач з тэорыяй індывідуальнае гаспадаркі. найбольш прогрэсыўнае з „організацыйна-вытворчага“ пункту гледжаньня, высоўвалі і коопэрацыю, як форму аб'яднаньня гэтых гаспадарак, але коопэрацыю забясьпечанска-збытавую (снабженческо-сбытовую), коопэрацыю звароту, аб'яднаньне асобных бакоў сельскае гаспадаркі па перапрацоўцы сельска-гаспадарчых продуктаў.

Усебеларуская нарада аграрнікаў-марксыстых выявіла цэлы шэраг беларускіх нэонароднікаў (Смоліч, Кісьлякоў, Лойкаў і інш.), групу інтэлігентаў, кулацкіх сынкоў, якія ў час грамадзянскае вайны вучыліся ў маскоўскіх с.-г. вузах і там пад кіраўніцтвам Чаянава, Кандрацьцева і інш. рэакцыйнае профэсуры ўспрынялі нэонародніцкае вучэньне. Гэтая моладзь пасьля скангчэньня грамадзянскае вайны рынулася на працу ў Беларусь, пранікла ў нашыя зямельныя органы, у навукова-дасьледчыя ўстановы і, самкнуўшыся з беларускім нацыянал-дэмократызмам, з права-опортуністычнымі элемэнтамі ў нашай партыі, утварыла законченую сыстэму поглядаў, нацыянал-народніцкую тэорыю, якая ў нас называецца „кісьлякоўшчынай“. Так, А. Смоліч піша, што „аднэю з важнейшых умоў, ад якіх залежыць організацыя сялянскае гаспадаркі ў Беларусі, ёсьць спажыўленьне сям'і... спажыўленьне сям'і ўплывае на організацыю вытворчых галін“ (А. Смоліч „Агран. Сялян. гасп. ураён. ц. Бел.“). Кісьлякоў у сваёй кніжцы „Пасёлкі“, якая напісана па заданьню НКЗ і якая павінна тэорэтычна ўгрунтаваць права-опортуністычную зямельную політыку Прышчэпава, піша, што *ўласна пасёлкі* невялікіх разьмераў у 15 двароў, ад 15—130 *га* (нічым не адрозьніваюцца ад хутароў), зьяўляюцца „столбовой дорогой“ да соцыялізму, адказваюць задачам соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. Беларускія Чаянавы і Чалінцавы марылі аб тым, каб *„мець добра апрацаваную тэорыю разьвіцьця нашае сельскае гаспадаркі“*, пабудаваць *„краявую беларускую сельска-гаспадарчую экономію“*, а гэтая „краявая сельска-гаспадарчая экономія“ ёсьць нішто іншае, як прыкрытая народніцкай фразэолёгіяй *кулацкая тэо-*

*рыя разьвіцьця сельскае гаспадаркі*, якая адмаўляе ролю і значэньне саўгасаў і калгасаў, лічыць нявыгодным па мясцовых умовах ужываньне складаных машын для сяўбы і прыбіраньня (Бонч-Асмалоўскі), імкнецца насаджваць „прогрэсыўныя з організацыйна-вытворчага пункту гледжаньня“ хутары і перавярнуць Беларусь у „савецкую чырвоную Данію“.

Марксыцкая крытыка нэонародніцтва ішла па наступных асноўных пытаньнях: аб перавазе буйнае вытворчасьці над дробнай у сельскай гаспадарцы і ролі ў гэтым нацыяналізацыі зямлі, аб расьпластаваньні вёскі, што адмаўлялі нэонароднікі, аб шляхох социялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі пад дзейнасьцю індустрыялізацыі і пад кіраўніцтвам пролетарыяту і аб клясавай барацьбе ў савецкай вёсцы. Рэконструкцыя сельскае гаспадаркі, пасьпяховае выцісканьне кулака, рост калгасаў і саўгасаў—паказалі на практыцы правільнасьць марксыцка-ленінскае тэорыі сельска-гаспадарчага разьвіцьця, выбілі глебу з-пад ног тэорэтыкаў нэонародніцтва, прывялі да распаду нэонародніцтва і да адмаўленьня шэрагу дробна-буржуазных тэорэтыкаў ад сваіх асноўных палажэньняў. „Вучэньне аб працоўнай спажывецкай тэорыі сялянскае гаспадаркі, піша Чалінцаў, павінна быць прызнана няправільным, хоць паўтараю гістарычна зразумелым (?) і натуральным... Неабходна прызнаць, што пры такой надворнай відочнасьці політычнае прогрэсыўнасьці гэтага вучэньня, яно мае рэакцыйную сутнасьць, як правільна адзначыла марксыцкая крытыка“. Такім чынам, асноўнае падсумаваньне, якое можа падвясьці марксыцка-ленінская тэорыя сваёй барацьбе з буржуазнымі тэорыямі і дробна-буржуазным нэонародніцтвам, ёсьць зацьвярджэньне факта банкруцтва буржуазных тэорый і аформленую заявамі віднейшых прадстаўнікоў нэонародніцтва (Чаянаў, Чалінцаў) капітуляцыю іх перад марксызмам. Вось які галоўнейшы вынік 12-ці гадовае барацьбы на аграрным фронце. Вывучаючы апошнія выступленьні нэонароднікаў, конфэрэнцыя адзначыла непаўнату адмаўленьня Чаянава і Чалінцава ад сваіх старых поглядаў, якія пакінулі сабе лаз у форме гістарычнага апраўданьня іх старых тэорый, якія засталіся на сваім організацыйна-тэхнічным пункце гледжаньня, працягваючы пераацэньваць ролю і значэньне тэхнікі ў калектыўным будаўніцтве і недаацэньваць з социялістычнага боку колектывізацыі, якія не разумеюць значэньня вытворчага ўзьдзейнічаньня дзяржаўнае прамысловасьці на сельскую гаспадарку. Таму „конфэрэнцыя лічыць неабходным і наперад *працягваць рашучую барацьбу за выкарчоўваньне ўсіх рэштак нэонародніцтва і наступ на ўсіх галінах аграрнае навукі, дзе дробна-буржуазныя погляды і забабоны (предрассудки) знаходзяць яшчэ сабе прытулак*“ (з рэзолюцыі конфэрэнцыі).

„Таварна-капіталістычная тэндэнцыя сялянства“ знайшла свой выраз таксама ў троцкісцкай і ў права-опортуністычнай ідэолёгіі, якія атакавалі партыйную лінію ў разьвязваньні аграрна-сялянскага пытаньня. У дакладах т. Мілюціна на Ўсесаюзнай конфэрэнцыі і т. Вераменічава на Ўсебеларускай нарадзе была дадзена разгорнутая марксыцкая крытыка няленінскіх „поглядаў“ левых і правых ухілістых на разьвіцьцё сельскае гаспадаркі ў нашай краіне. „Сутнасьць трацкізму ў сялянскім пытаньні зводзіцца да няверы ў магчымасьць для рабочае клясы павясьці за сабою асноўныя масы сялянства па шляху социялістычнага будаўніцтва“ (рэзолюцыя). Угрунтаваньне экономічнае і аграрнае пляцформы троцкісцкае опозыцыі было дано ў „Новай Экономіцы“ Прэображэнскага, дзе ён праводзіў тэорыю раўналеглага разьвіцьця прамысловасьці і сельскае гаспадаркі па асобных эконо-

мічна procівалеглых законах, з двума асобнымі рэгулятарамі, якія ўваходзяць паміж сабою ў мэханічную барацьбу. У сельскай гаспадарцы гэтая тэорыя ня бачыць ні абагуленага, ні дробна-таварнага сэктару. Тут пануе непадзельна закон вартасьці, капіталістычнае катэгорыі ў іх закончаным выглядзе. У прамысловасьці дзейнічае закон першапачатковага социялістычнага назапашваньня (накопления) на аснове „пажыраньня“ дасоцыялістычнага асяродзішча, на аснове перавярненьня сялянскае гаспадаркі ў калёнію па ўсіх правілах штукарства першапачатковага капіталістычнага назапашваньня. Адгэтуль неразуменьне ў троцкістых дыктатуры пролетарыяту як саюзу рабочае клясы з асноўнаю масаю сялянства пад кіраўніцтвам пролетарыяту. Адгэтуль тэорыя аб немагчымасьці пабудовы социялізму ў СССР без дзяржаўнае дапамогі атрымаўшых перамогу пролетарскіх рэволюцый на Захадзе. Адгэтуль неразуменьне ленінскага коопэрацыйнага пляну і задач социялістычнае перабудовы дробнага і драбнейшага сялянства.

Тэорыя правага ўхілу ў нашае партыі, будучы выражэньнем кулацка-капіталістычнага націску на сталыя пласты рабочае клясы, ёсьць дробна-буржуазная, няленінская концэпцыя, якая ўвабрала ў сябе эклектычныя элемэнты Кандрацьцеўшчыны, нэонародніцтва, прыкрываючыся марксыцкай фразэолёгіяй. Узяўшы за выхадны пункт буржуазную крытыку нашае політыкі на індустрыялізацыю краіны, паўтараючы палажэньні Кандрацьцевых, Вайнштэйнаў, накіраваных супроць пяцігадовага пляну, правыя опортуністыя прыпадносілі пад марксыцкаю падліваю (соусам) нэонародніцкія тэорыі „ўстойлівасьці“, дробна-сялянскія гаспадаркі, тэорыю „раўнавагі“ двух сэктароў нашае народнае гаспадаркі, канчаткова парваўшы з ленінізмам і марксыцкаю тэорыяй пашыранага аднаўленьня, што выразна вытлумачыў т. Сталін у сваёй прамове на аграрнай конфэрэнцыі. Усьлед за нэонароднікамі правыя ўхілістыя паўтаралі тэорыю „самацёка“ ў социялістычным будаўніцтве, тэорыю аўтоматычнага разьвіцьця вёскі да социялізму праз коопэрацыйны зварот, праз рынак. Скажаючы коопэрацыйны плян Леніна, правыя недаацэньвалі значэньня дзяржаўнага ўзьдзейнічаньня праз вытворчую змычку на сельскую гаспадарку. Ува ўсёй гэтай гаме антымарксыцкіх, антыленінскіх поглядаў мы наяўна чуем знаёмыя нам перапевы развальваючагася нэонародніцтва. „Прызнаньне лідэрамі правага ўхілу памылковасьці свае політычнае лініі не павінна весьці к паслабленьню змаганьня з іх ідэолёгіяй і выяўленьню тэорэтычных карэньняў правага ўхілу, які зьяўляецца на дадзеным этапе галоўнаю небясьпекаю. Конфэрэнцыя завострывае ўвагу аграрнікаў-марксыстых на неабходнасьці далейшага паглыбленага вызначэньня асноўных концэпцый правага ўхілу“ (рэзолюцыя). Вядучы сваю працу на грунце самакрытыкі, конфэрэнцыя ў асобнай рэзолюцыі адзначала наяўнасьць асобных „левых“ і права-опортуністычных памылак у дробнабуржуазных працах некаторых аграрнікаў-марксыстых, працаўнікоў Аграрнага Інстытуту Комакадэміі, падкрэсьліваючы з асаблівасью сілаю шкоднасьць некаторых эклектычных права-опортуністычных памылак у працах т. Дуброўскага (Міжнародны Аграрны Інстытут), у якіх гаворыцца, што „індустрыялізацыя краіны нямінуча абвастрае барацьбу паміж пролетарыятам у асобе дзяржавы і сялянствам у цэлым“, і што правы ўхіл адбівае ня націск кулака, а толькі хістаньні ў асноўнай сялянскай і, перш за ўсё, серадняцкай масе. Разам з гэтым конфэрэнцыя лічыла неабходным асабліва падкрэсьліць, што лінія, якую праводзілі Аграрны Інстытут Комакадэміі і часопісь „На аграрным фронце“, зьяўляецца політычна зусім правільнаю і адпавядае лініі партыі.

## Проблемы соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі

Аграрная конфэрэнцыя падрахавала перамогі марксыцка-ленінскае тэорыі над буржуазнымі, нэонароднiцкімі і права-опортуністычнымі плынямі ў аграрна-сялянскім пытаньні, якое зьяўляецца выразам „таварна-капіталістычнае тэндэнцыі сялянства". Але сабраўшыся на новым важнейшым пераломным этапе нашае рэволюцыі, калі падыйшлі да суцэльнае колектывізацыі цэлых раёнаў, акруг і абласьцей, калі мы шчыльна падыйшлі да будаўніцтва разгорнутага соцыялізму ў вёсцы, конфэрэнцыя прымушана была перанясьці асяродак цяжару свае працы на высоўваньне новых проблем, новых задач, вызначыць пераход да новага этапу барацьбы на аграрным фронце. Адзін за адным выступалі прамоўцы з усіх канцоў Саюзу, выкладаючы цяжкасьці, якія ўзьнікаюць на аснове суцэльнае колектывізацыі, высоўваючы новыя проблемы. Вуснамі т. Сталіна конфэрэнцыя констатавала некаторы разрыў паміж практычнымі посьпехамі і разьвіцьцём тэорэтычнае думкі, а тым часам „тэорыя дае практыкам сілу орыентыроўкі, выразнасьць пэрспэктывы, упэўненасьць у працы, веру ў перамогу нашае справы" (Сталін). Асноўныя тэорэтычныя проблемы, якія пастаўлены былі на пленуме і ў сэкцыях, былі наступныя: 1) аб экономічнай прыродзе калгасу і пэрспэктывах яго разьвіцьця; 2) аб клясавай барацьбе ўнутры калгасу аб унутрана-калгасных адносінах; 3) аб клясавых зрухах у вёсцы і проблема зьнішчэньня клясы і 4) аб ролі пролетарыяту, як організатара, у сувязі з колектывізацыяй.

Па пытаньню аб экономічнай прыродзе суцэльнае колектывізацыі на конфэрэнцыі выступаў тав. Ларын, які даў няправільную, нязленінскую ацэнку калгасаў. Да калгаснага руху, на думку Ларына, нельга дапасаваць тэрміны: соцыялістычны сэктар, сельская гаспадарка соцыялістычнага тыпу. Суцэльная колектывізацыя зьяўляецца *неабходным этапам на шляху да будаўніцтва соцыялізму ў вёсцы,* але не соцыялізм... Раёны суцэльнае колектывізацыі—гэта буйная кооперацыйная прыватна-гаспадарчая вытворчасьць. Яны належаць буйнай групе прыватных уласьнікаў, выгада якіх можа быць проціпастаўлена інтарэсам дзяржавы цалкам" (Эконом. Жизнь ад 22-XII—29 г.). Тую самую памылку робіць і Маркевіч, аўтар „Машына-трактарных станцый", калі ён кажа, што калгас гэта тая самая інтэгральная сядзіба, што і сялянская гаспадарка, але ў большым маштабе, і буржуазны профэсар Белар. с.-г. Акадэміі Хауке, які запэўняе, што „ў нас... кооперацыя тлумачыцца, як організацыя прыватна-прававая". Яно цалкам зразумела ў вуснах буржуазнага профэсара, які не разумее экономічнага значэньня нацыяналізацыі зямлі і з юрыдычным тупагалоўем заяўляе, што „праўда, што гэта зямля з прычыны абвешчанае нацыяналізацыі не складае ўласнасьці сялян, але гэта ўсё такі зямля „бацькоў і дзядоў"... „кроўю і потам палітая", зямля (!!—вось дзе тырчаць вушы ўсім вядомага буржуя, нацыянал-дэмократа, які прад'яўляе гістарычныя і моральныя правы на сьвяшчэнную прыватную ўласнасьць!!—А. Л.), за якую царскаму ўраду выплачаны квотніцкі выкуп (слухайце! слухайце!) і якая савецкаю ўладаю пакінута ў руках сялян на правох сталага дармовага працоўнага карыстаньня" (Запіскі БДА т. IX стар. 60). І гэты профэсар да гэтага часу выкладае ў Сельска-Гаспадарчай Акадэміі, навучаючы нашыя сельска-гаспадарчыя кадры да абароны сьвяшчэннае прыватнае ўласнасьці!! Пэўна, што і ў тав. Ларына і тав. Маркевіча тут маецца ня клясавы, не экономічны, а „організацыйна-тэхнічны", юрыдычны, мэханічны падыход да гэтае проблемы. З клясавага пункту гледжаньня процэс колектывізацыі ў нас ёсьць якасна-новая соцыяльная форма,

ёсьць пераход сялянства ад прыватнае ўласнасьці да абагуленае ўласнасьці на сродкі вытворчасьці, ад індывідуальнае працы да калектыўнае, ад рыначных адносін да плянава-organізацыйных форм сувязі паміж горадам і вёскаю. „Пры нашым існуючым ладзе прадпрыемствы коопэрацыйныя адрозьніваюцца ад прыватна-капіталістычных, як прадпрыемствы колектыўныя, але не адрозьніваюцца ад прадпрыемстваў соцыялістычных, калі яны заснаваны на зямлі пры сродках вытворчасьці, якія належаць дзяржаве, г. зн. рабочай клясе" (Ленін аб коопэрацыі). Такім чынам пры дасьледваньні экономічнае прыроды колгасаў у т. Ларына тут былі ня прыняты пад увагу конкрэтныя ўмовы дыктатуры пролетарыяту і факт нацыяналізацыі зямлі. А апошняй акалічнасьці т. Сталін надае якраз большае значэньне, як фактару, які прысьпяшае колектывізацыю, бо зьнішчэньне прыватнае ўласнасьці ў аднэй форме палягчае зьнішчэньне і другое формы прыватнае ўласнасьці, уласнасьці на сродкі вытворчасьці. Гэтым самым даецца ключ да разуменьня напрамку разьвіцьця калгаснага руху і магчымасьць перарастаньня прымітыўных відаў калгасаў у больш дасканалыя, у прадпрыемствы паступова-соцыялістычнага тыпу. У дакладзе т. Лазавога ў сэкцыі на тэму „Машынна-трактарныя станцыі і іх роля ў суцэльнай колектывізацыі і рэконструкцыі сельскае гаспадаркі" вызначаны пэрспэктыўныя формы разьвіцьця калгасаў да соцыялізму шляхам іх паступовага ўзбуйненьня і абагуленьня, шляхам падвядзеньня пад калгасы высокаіндустрыяльнае тэхнічнае базы пад кіраўніцтвам пролетарскае дзяржавы, утварэньня саўгасна-калгасных аб'яднаньняў, агра-індустрыяльных комбінатаў, зрошчваньня калгасаў з дзяржаўнай соцыялістычнаю прамысловасьцю, раёнаваньне і спэцыяльных паасобных раёнаў па агульна-дзяржаўнаму пляну, разьдзяленьне калектыўнае працы аж да зьнішчэньня працівалегласьці паміж горадам і вёскаю.

Наколькі могуць быць скажоны пэрспэктывы калгаснага руху і ў якім напрамку пойдзе буржуазная крытыка нашае політыкі ў вёсцы на новым этапе, паказвае прыклад таго самага профэсара Хауке, у якога юрыдычная концэпцыя калгасаў і ігнараваньне ролі пролетарскае дыктатуры і нацыяналізацыі зямлі даведзены, так сказаць, да свайго лёгічнага канца. Профэсар Хауке знаходзіць, што колектывізацыя ня ёсьць новая зьява ў нас. Частковыя колектывізацыі мы наглядаем у нас даўно, можна нават сказаць, што з часоў Батыя ў кожнай вёсцы існуе калгас, аб якім мы і ня ведалі. Гэтую калгасную Амэрыку буржуазны Колумбус знайшоў у нашым... летнім выганным харчаваньні жывёлы. „Жывёла аб'яднаецца ў адно агульнае стада, давяраецца асобнаму „спэцыялістаму" пастуху, выганная плошча абагульваецца (спэцыяльныя выганы, папары... лес). Мы маем тут сапраўдны калектыў і пэўную буйную гаспадарку ў адносінах паказанай часткі сельска-гаспадарчай вытворчасьці" (Запіскі БДА т. IX, стар. 2). Гэтак дробна-буржуазныя тэорэтыкі будуць разглядаць наш колектыўны рух, як разьвіваючуюся організацыйна і юрыдычна старынна-расійскую грамаду. Гэты-ж профэсар раіць нам ня зьмешваць коопэрацыі наогул з калгасамі, якія ў адзнаку ад падрыхтаванасьці коопэрацыі павінны ўключаць у сябе элемэнты прымушэньня, і тут профэсар з жвавасьцю годнаю лепшага прымяненьня даводзіць нам карыснасьць вывучэньня вопыту Захаду (знаёмая нам ужо буржуазная орыентацыя) у гэтых адносінах, бо „кіраўнікі савецкае сыстэмы ня раз паказвалі нам на неабходнасьць устрымлівацца ад усялякае самаўпэўненасьці і фанабэрыі". Ахоплены вялікімі клопатамі аб тым, каб усякі, хто ўваходзіць у калгас, юрыдычна меў права і фактычна меў магчымасьць выйсьці з калгасу, Хауке пераходзіць да жвавае крытыкі ўжываемага ў нас вылучэньня

калгасу з зямельнае грамады і надзяленьня яго лепшаю зямлёю. Гэты мэтод ён называе мэтадам „прымушанае згоды“, бо рэшта сялянства, пазнаўшы сілу і вайстрату гэтага сродка, сьпяшаюць заяўляць „аднагалоснае“ пажаданьне перайсьці ў калгас, як гэта было з арганізацыяй хутароў пры сталыпінскай рэформе. Такім чынам професар-буржуй хоча заранеў скомпрометаваць наш шырокі колектыўны рух, які ахапіў суцэльныя раёны, тлумачачы гэта „прымушанаю згодаю“, і абвяшчаючы гэта другім выданьнем сталыпінскае рэформы... і з вялічэзным професарскім задавальненьнем ён заяўляе: „Захад нават у радыкальных відах земляўпарадкаваньня гэтага сродку ня ўжывае“. Так буржуазныя аграрныя тэорэтыкі будуць падкопвацца пад нашу колектывізацыю і вясьці сваю цёмную контр-рэволюцыйную працу.

Разам з разьвіцьцём суцэльнае колектывізацыі зьмяняюцца і клясавыя ўзаемаадносіны ўнутры калгасаў. Тав. Сталін у сваёй прамове завострыў увагу конфэрэнцыі на няправільнасьці мэханічнага перанясеньня супярэчнасьці паміж соцыялістычным і прыватна-гаспадарчым сэктарам у сярэдзіну соцыялістычнага сэктару, сьціраючы розьніцу паміж клясавай барацьбой па-за калгасамі і элемэнтамі клясавае барацьбы ўнутры калгасаў. Гэткае ігнараваньне якаснага зьмяненьня форм клясавае барацьбы ў калгасах зьвязана з неразуменьнем вядучае ролі пролетарыяту і соцыялістычнае прамысловасьці ў справе „пераробу“ прыроды серадняка і соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. Пэўна, што на першым часе і ў прымітыўных калгасах, калі сябры калгасаў выступаюць з вялікімі радзімымі плямамі прыватнаўласьніцтва, супярэчнасьці ўнутры калгасаў могуць быць вялікія і адносіны вельмі завостраныя. У сэкцыйным дакладзе т. Анісімава на тэму „Соцыяльная прырода колектыўнага руху і ўласьцівыя яму супярэчнасьці“ паказваецца на асноўную супярэчнасьць унутры калгаснага руху: супярэчнасьць паміж соцыялістычнаю, грамаджанаю прыродаю калгаса і прыватнаўласьніцкімі дробна-буржуазнымі перажыткамі калгасьнікаў, якая можа прымаць розныя формы барацьбы за грамадзка-арганізацыйную структуру калгаса, за прыбыткі, за кіраўніцтва калектывам і т. п. Пад кіраўніцтвам пролетарыяту, які ўвасабляе паступова-соцыялістычную тэндэнцыю калгаса, адбываецца перавярненьне клясавых супярэчнасьцяй у групавыя, перараджэньне барацьбы ў соцыялістычнае спаборніцтва за ўздым продукцыйнасьці працы, ліквідацыя самае дробнае буржуазіі.

У сваім дакладзе аб клясавых зрухах у савецкай вёсцы т. Гайстэр паставіў проблему вывучэньня клясавага распластаваньня ў савецкай вёсцы з навукова-тэорэтычнага пункту гледжаньня, проблема суадносін кляс, па мэтоду, які ўжываў Ленін у працы „Разьвіцьцё капіталізму“. Ленін бязьлітасна крытыкаваў народніцкую і ліберальна-земскую пастаноўку статыстыкі, вывучэньне імі клясавых групаваньняў па разьмерах засяўных плошчаў, мэтод, які ігноруе соцыяльна-эканамічныя глыбокія процэсы, што адбываюцца ў вёсцы. Вядома, што па гэтым немарксыцкім, ненавуковым мэтодзе было пабудавана вывучэньне клясавага распластаваньня ў 1925 г. Цэнтральным Статыстычным Кіраўніцтвам, падпраўленае потым дадзенымі падатковага абкладаньня. Тав. Гайстэр азнаёміў конфэрэнцыю з цікаваю спробаю вывучэньня клясавае структуры савецкае вёскі, распачатае аграрным інстытутам Комакадэміі ў 1927 г., на аснове дынамічнага дасьледваньня 700 тысяч сялянскіх гаспадарак дзе вылучэньне груп было зроблена па комбінацыі разьмераў гаспадарак, выражанай у каштоўнасьці асноўных сродкаў вытворчасьці і соцыяльных паказальнікаў (наймы працоўнае сілы, наймы сродкаў вытворчасьці, вясковыя ці не вясковыя занятки і г. д.),

дзе разам з тым былі прыняты пад увагу асаблівасьці паасобных раёнаў і іх вытворчае характарыстыкі. Гэтае дынамічнае дасьледаваньне дало малюнак клясавага рассластаваньня ў вёсцы, які супадае з характарыстыкаю клясавых адносін, дадзенаю т. Молатавым на 15-м Зьезьдзе: „у працівалегласьць капіталістычнаму тыпу разьвіцьця, які выяуляецца ў паслабленьні, (у „вымываньні“) сярэдняга сялянства, у нас наадварот, у наяўнасьці маецца процэс узмацненьня групы серадняцтва, пры некаторым пакуль што росьце кулацкае групы за лік заможнае часткі сераднякоў і пры скарачэньні групы беднаты, з якое некаторая частка пролетарызуецца, а другая больш значная частка паступова перасоўваецца ў групу сераднякоў“ (Молатаў, даклад на 15 зьезьдзе). Аднак пэрыод пасьля 15 зьезду, які характарызуецца ўзмоцненым наступам на капіталістычныя элемэнты, політыкаю абмежаваньня і выціскаяньня кулака, бурным ростам саўгасаў і калгасаў, вялізарным уздымам прамысловасьці, прыводзіць да значнае зьмены нап амку эволюцыі клясы ў параўнаньні з папярэднімі гадамі НЭП'у: 1) замест росту кулацкае групы мы маем скарачэньне яго, пераход да больш скрытых форм эксплёатацыі, побач з шалёным узмацненьнем яго супраціўленьня; 2) бядняк пайшоў у калгасы, а сьледам за ім цяжкаю лавінаю пацягнуўся і серадняк, 3) колектыўны рух пайшоў прысьпешаным тэмпам, захапляючы ў сваім імпэтным безе суцэльныя раёны, акругі, краіны... Абапіраючыся на гэты аналіз социяльных зрухаў, т. Сталін на заключным паседжаньні конфэрэнцыі высунуў лёзунг ліквідацыі кулака як клясы, замяняючы буйную кулацкую гаспадарку буйною і буйнейшаю абагуленаю социялістычнаю вытворчасьцю.

* * *

Шырокі колектыўны рух высунуў на першы плян ролю пролетарыяту, як *організатара*. Побач з экономічнымі проблемамі выступае проблема організацыі абагуленае гаспадаркі. Калектыўная тэорэтычная думка экономістых і аграрнікаў марксыстых павінна тут ужо працягнуць вучэньне Маркса і Леніна, паставіць і разьвязаць новыя проблемы нябывалага размаху, орыгінальныя па сваёй натуры, карыстаючыся востра адточанаю зброяю матэрыялістычнае дыялектыкі. Тэорыя, правільная марксыцкая тэорыя, якая выражае „социялістычныя тэндэнцыі пролетарыяту“, павінна выпераджаць практыку, узбройваючы нашых практыкаў у іх змаганьні за перамогу социялізму. 1-я Ўсесаюзная конфэрэнцыя і 2-я Ўсебеларуская нарада аграрнікаў-марксыстых толькі начарна паставілі асноўныя організацыйныя проблемы социялістычнага будаўніцтва: проблемы організацыі тэрыторыі калгасаў, організацыі працы, сыстэмы аплаты; проблемы раёнаваньня і электрыфікацыі сельскае гаспадаркі і зьнішчэньня розьніцы паміж горадам і вёскаю. Гістарычнаю задачаю конфэрэнцыі і нарады было організаваць моцнае ядро, таварыства аграрнікаў-марксыстых, узброіць яго мэтодам марксызма-ленінізма і рушыць яго на перадавыя пасты социялістычнага будаўніцтва, адначасова вызначаючы групу работнікаў экономістых-марксыстых „для распрацоўкі проблем экономікі пераходнага пэрыоду ў новай іх пастаноўцы“. Вось чаму конфэрэнцыя ў сваёй рэзолюцыі па дакладу т. Мілюціна падкрэсьліла з усёю бальшавіцкаю рашучасьцю, што *„марксыстыя-аграрнікі павінны знаходзіцца на перадавых позыцыях практычнага социялістычнага будаўніцтва, уносячы ў практыку свае тэорэтычныя веды і атрымліваючы вопыт практычных прац для навуковых дасьледваньняў“*.

Так тэорыя, напладняючы практыку, утварае новую гіганцкую грамадзкую вытворчую сілу для социялістычнае рэволюцыі.

**Рачыцкі**

# Чарговыя задачы калгаснага будаўніцтва і веснавое сельска-гаспадарчае кампаніі ў БССР

Ажыцьцяўленьне генэральнае лініі партыі, якая накіравана на індустрыялізацыю краіны, разам з рашучым наступленьнем разгорнутым фронтам на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, знаходзіць сваё адбіцьцё ў бурным росьце калгаснага будаўніцтва. Па БССР плошча пад калгасамі з 94.000 *га* на 1/Х-28 г. павялічылася да 1.498.000 *га* на 15/XII-29 г.

Шпаркі тэмп калектывізацыі, які, перавысіўшы ўсе нашыя проэктаваньні, сьведчыць аб тым, што сьледам за батрацка-бядняцкімі коламі вёскі ў калгасы пайшлі шырокія масы серадняцкіх гаспадарак. Серадняк на практыцы пераканаўся ў перавазе калектыўных форм земляробства. Дасягнуты пералом у адносінах бядняцка-серадняцкіх мас да калгасаў зьявіўся непасрэдным вынікам правільнае палітыкі партыі ў вёсцы, вынікам узмацненьня кіруючае ролі рабочае клясы, вынікам магутнага росту соцыялістычнае індустрыі і ўзмацненьня вытворчых форм сувязі рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства.

Вынікі мінулага гаспадарчага году супроць жаданьняў і меркаваньняў правае опозыцыі цалкам падцьвердзілі правільнасьць усяе палітыкі партыі, чым канчаткова падцьвердзілася поўнае палітычнае банкроцтва правых ухілістых. Рашучае правядзеньне генэральнае лініі партыі дало нябывалы ўздым творчае энэргіі рабочае клясы (соцыялістычнае спаборніцтва, ударныя брыгады, пераход на бесьперапынны тыдзень), дзякуючы чаму мы маем падвышэньне вытворчасьці і працоўнае дысцыпліны, зьніжэньне сабекошту продукцыі, а гэтым самым дадатковыя сотні мільёнаў для далейшых укладаньняў у соцыялістычнае будаўніцтва. Мы маем таксама значнае ўзмацненьне наша ў міжнародных адносінах, напрыклад, конфлікт на Кітайска-Усходняй чыгунцы, дзе кітайскія белабандыты прымусілі нашу Чырвоную Армію паказаць яе моц. Усё гэта было магчымым толькі дзякуючы тэй рашучасьці, тэй бальшавіцкай цьвёрдасьці і непрымірымасьці, з якою ўся партыя пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэту УсеКП(б) праводзіла Ленінскую лінію, даючы самы рашучы адпор усім праявам клясавых ворагаў, а таксама правым ухілістым, якія жадалі сьцягнуць партыю з Ленінскага шляху, падсунуць сваю небальшавіцкую програму, програму „цішэй з цяжкаю індустрыяй, раўненьне на вузкія месцы“, програму „не сварыцца з кулаком, на мірнае яго ўрастаньне ў соцыялізм“, програму, ад якое яны цяпер адмовіліся. І цяпер вядома ўсяму сьвету, што яны з сваёю програмаю абанкроціліся.

Улічваючы ўсе нашыя дасягненьні, і той уздым, які мы маем з боку асноўнае масы бядняцка-серадняцкага сялянства, да калектыўных форм земляробства, мы ва ўмовах БССР маем магчымасьць конкрэтна ставіць пытаньне аб суцэльнай калектывізацыі ўсіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак на працягу 2-х год. Ці рэальна гэтая задача? Ці можа яна фантазія? Не, гэта не фантазія, як не фантазіі былі і нашы меркаваньні пры складаньні пяцігадовага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі. Выкананьне першага году пяцігодкі, практыка і тэмп калектывізацыі, асабліва апошняе паўгодзьдзе, гавораць аб тым, што гэта сапраўды рэальнасьць, на выкананьне якое трэба мобілізаваць усю партыю, усю рабочую клясу, усё бядняцка-серадняцкае сялянства. На гэты год Бюро Цэнтральнага Камітэту лічыць магчымым калектывізаваць 50 проц. усяе плошчы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і ў веснавую кампанію 35 проц. яравых пасеваў засеяць калектыўна. Наша асабістая думка, што мы зможам у час веснавое пасеўкампаніі калектывізаваць значна болей. Сучасныя тэмпы нас у гэтым упэўніваюць. Зусім зразумела, што тыя тэмпы калектывізацыі, якія мы вызначаем, патрабуюць іншых форм, мэтодаў і тэмпаў у працы ўсіх партыйных, савецкіх і грамадзкіх організацый і ўстаноў. Зразумела таксама і тое, што нашаю задачаю павінна быць яшчэ больш рашучае наступленьне на кулацтва з мэтаю зьнішчэньня яго як клясы, каб замяніць яго (кулака) вытворчасьць, вытворчасьцю калгасаў і саўгасаў. Гэта бясспрэчна будзе выклікаць з боку кулацтва яшчэ большае супраціўленьне тым мерапрыемствам, якія мы будзем праводзіць у галіне калектывізацыі, а таксама і да яго непасрэдна. Вядома, што ён будзе працягваць сваю працу, каб перашкаджаць калектывізацыі, дыскрэдытаваць яе, скарыстоўваючы для гэтага ўсё, што можна, пра гэта ні ў якім разе ня трэба забываць, а зараз-жа разгарнуць шырокую працу сярод бядняцка-серадняцкіх мас сялянства, організоўваючы групы батракоў і беднаты. Организаваць іх трэба так, каб усе мерапрыемствы, якія мы будзем праводзіць у адносіне кулака, знайшлі-б поўнае спачуваньне сярод асноўнае масы сялянства, мала гэтага,—трэба вымагчы нянавісьці да кулака з боку іх, каб усё тое, што мы будзем рабіць для зьнішчэньня кулацтва ня было толькі работаю асобных органаў і ўстаноў, а і грунтавалася-б на грамадзкасьці жаданьняў беднаты і батракоў. Вось чаму работа з батрацтвам, з беднатою набывае вельмі вялікае значэньне, нажаль, гэта праца ў нас не стаіць яшчэ на належнай вышыні. Гэта першая наша задача, якая павінна стаць ва ўвесь рост перад усёй партыяй. Другая задача, якая стаіць перад партыяй, у сувязі з суцэльнай калектывізацыяй, гэта забясьпечыць кіраўніцтва з боку партыі і рабочае клясы калгасным будаўніцтвам. Бюро Цэнтральнага Камітэту ўжо практычна прыступіла да ажыцьцяўленьня пастановы Лістападаўскага Пленуму ЦК УсеКП(б) аб пасылцы рабочых для працы ў вёсцы па рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. Ёсьць ужо пастанова і праводзіцца адбор для пасылкі 500 рабочых, таксама пасылаецца дадаткова яшчэ 500 рабочых і 200 членаў партыі адказных цэнтральных і акруговых працаўнікоў, з якіх 100 чалавек для правядзеньня веснавое пасеўнае кампаніі, плюс Чырвоныя Сормаўцы, што пасылаюць у БССР 100 лепшых рабочых добравольцаў. Усё гэта зьявіцца вялікім штуршком на фронце будаўніцтва соцыялізму ў вёсцы. Наша задача, па-першае, заключаецца ў тым, каб правесьці адбор найбольш перадавых, здольных для выкананьня гэтае працы таварышоў. Па-другое, каб іх падрыхтаваць яшчэ да пасылкі, узброіць іх клясавае чуцьцё яшчэ і практычнымі ведамі, карыстаючыся якімі ім лягчэй было-б разьбі-

рацца ў тэй складанай працы, якую ім прыдзецца праводзіць, трэба зараз-жа арганізаваць шэраг гурткоў на прадпрыемствах па падрыхтоўцы іх. Усе камітэты партыі і профэсыянальныя арганізацыі павінны гэтым заняцца, узяць гэтую працу пад свой непасрэдны нагляд, акрамя гэтага, становішча наогул з кадрамі такое, якое патрабуе рашучых мерапрыемстваў, каб зьнішчыць той разрыў, які мы маем, паміж патрэбай у іх соцыялістычнае гаспадаркі і тэмпам падрыхтоўкі кадраў.

Наступнае пытаньне, якое зьяўляецца вялікаю задачаю і якое яшчэ досыць навукова не апрацована, але падлягае хутчэйшаму вырашэньню, гэта арганізацыйныя пытаньні, зьвязаныя з калгасным будаўніцтвам і рэконструкцыяй сельскае гаспадаркі, як, напрыклад, разьмеры калгасных гаспадарак, напрамак і спэцыялізацыя іх па асноўных галінах, арганізацыя працы, поўнае скарыстаньне працоўнае сілы калгасаў з найбольшай эфэктыўнасьцю. Нажаль, гэтыя пытаньні не атрымалі свайго вырашэньня ў тэорыі, таксама яшчэ нязначная і практыка, якую-б можна было скарыстаць у нашых умовах. Навуковыя і дасьледчыя ўстановы, якія-б, здавалася, павінны прыйсьці на дапамогу практычным працаўнікам, гэтаю справаю дасюль яшчэ як сьлед не заняліся. Робяць усё, што хочаце ўключна да вывучэньня экономікі кулацкіх гаспадарак, толькі ня тое, што нам патрэбна сёньня. Я думаю, што гэта тлумачыцца тым, што яны адарваны ад вытворчасьці, да якой іх трэба прыцягнуць, і трэба прымусіць іх працаваць тое, што патрэбна сёньня пролетарыяту.

Проблема арганізацыі працы ў буйных соцыялістычных гаспадарках зьяўляецца вялікай проблемай, якую трэба вырашыць не зважаючы ні на што, і як мага хутчэй. Ня штука, калі мы маем у такіх гаспадарках тысячу, дзьве і больш рабочых адзінак; трэба іх арганізаваць, трэба даць ім усім работу, і каб гэтая работа была па сваёй продукцыйнасьці такою, якою яна павінна быць у соцыялістычнай гаспадарцы. На гэтае пытаньне трэба зьвярнуць усю ўвагу для хутчэйшага яго вырашэньня. Каб падняць вытворчасьць, павысіць у гэтых гаспадарках таварнасьць, павінна быць правільная арганізацыя працы. Гэта адно, і па-другое, рабочая сіла павінна атрымаць большую кваліфікацыю, чым яна мае цяпер. Для вырашэньня гэтае задачы трэба тэрмінова прыцягнуць навуковыя сілы, не пашкодзіла-б арганізаваць спэцыяльную ўстанову, якая павінна заняцца вывучэньнем арганізацыі працы ў калгасах.

Наступнае пытаньне, на якое асабліва трэба зьвярнуць увагу ўсяе партыі, усіх савецкіх і грамадзкіх арганізацый, гэта абагуленьне сродкаў вытворчасьці сялянства пры ўваходзе яго ў калгас. Калі мы маем значныя посьпехі ў справе абагуленьня зямельнае плошчы, дык з абагуленьнем сродкаў вытворчасьці і асабліва жывёлы ў нас да гэтае пары дрэнна стаіць справа. У гэтай галіне кулак яшчэ мае посьпехі, агітуе супроць абагуленьня сродкаў вытворчасьці, за распродаж жывёлы сялянствам перад уваходам у калгас, сам збывае, а то і рэжа жывёлу. Мы яшчэ ня сумелі зьнішчыць гэтага адмоўнага зьявішча, якое падрывае экономічную базу калгасаў, праўда, пачын у некаторых раёнах у гэтым напрамку ёсьць, але яшчэ недастатковы. Трэба рашуча павесьці супроць гэтага зьявішча барацьбу як шляхам растлумачэньня, гэтак і прыняцьцем адпаведных захадаў экономічнага парадку, а да кулака і адміністрацыйных, не застанаўліваючыся перад конфіскацыяй у кулакоў маёмасьці, калі яны злосна зьнішчаюць сваю жывёлу, ці падбухторваюць на гэта беднату і серадднякоў. Поўнае скарыстаньне іншых сродкаў вытворчасьці таксама зьяўляецца баявой задачаю.

Настроі, што ў калектыве дадуць трактар, складаныя машыны, а пагэтаму сваё можна продаць, не павінны мець месца. Вядома, што тэхніка зьяўляецца асноваю рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, вядома, што з адным плугам, жалезнаю бараною, канём мы соцыялізму не пабудуем, аднак сёньня задаволіць нашыя патрэбы складанымі машынамі наша соцыялістычная прамысловасьць ня зможа, а таму трэба цалкам скарыстаць тое, што ёсьць, асабліва палепшаны інвэнтар і складаныя машыны. Такое зьявішча, калі ў нас маецца ўсяго 198 трактароў і калі яны працуюць 60—80 дзён у год і ў адну зьмену, сьвяткуючы ўсіх Міколаў і Іванаў, гэта, мякка выказваючыся, пакасьць, а па сутнасьці шкодніцтва, і нішто іншае, гэтаму трэба зрабіць канцы. Мы маем таксама выпадкі, калі некаторыя працаўнікі адмаўляюцца ад тых машын і інвэнтару, якія вырабляе наша прамысловасьць, давай складаныя, у той час, як у гэтых-жа раёнах аруць часам сахою, барануюць драўлянаю бараною. Па-мойму, мы павінны вырашыць гэтае пытаньне так, што праца і здольнасьць організацыі і асобных працаўнікоў будзе расцэньвацца тым, наколькі яны змогуць больш поўна мобілізаваць і скарыстаць усё тое ў бліжэйшую пасеўную кампанію, што маюць зараз саўгасы, калгасы і індывідуальныя сялянскія гаспадаркі.

Цяпер нам мала толькі абагуліць плошчу, мала запісаць у справаздачы процант калектывізацыі, а трэба налегчы рашуча на мобілізацыю, на абагуленьне ўсіх сродкаў вытворчасьці, на іх найбольшае рацыянальнае скарыстаньне. Гэта ня выключае таго, што мы павінны рашуча прад'явіць патрабаваньні да нашае соцыялістычнай прамысловасьці, каб яна хутчэй перабудоўвалася да абслугоўваньня буйное соцыялістычнай гаспадаркі.

У сувязі з суцэльнай калектывізацыяй і тымі тэмпамі, якія мы ў гэтай галіне маем, неабходна перагледзець мэтоды і тэхніку зямляўпарадкаваньня. У нас да гэтага часу існаваў такі парадак: зямляўпарадкаваньне ў першую чаргу калгасаў. Пара паставіць і вырашыць пытаньне аб тым, каб перайсьці выключна на ўпарадканьне саўгасаў і калгасаў. Зусім спыніць зямляўпарадкаваньне індывідуальных форм зямлякарыстаньня, неабходна таксама спыніць расьсяленьне, акрамя высяленьня кулакоў, аб якіх мы будзем казаць ніжэй. Трэба зямляўпарадкаваць калгасы цэлымі вёскамі, хаця-б яны былі і вялікія на месцы. Няма чаго пакуль што траціць лес і грошы на пераноску будынкаў для жывёлы, трэба жыльлёвы фонд, які ёсьць, скарыстоўваць на месцы, у першую чаргу трэба будаваць тыя будынкі, скарыстоўваючы сялянскія гумны і хлявы і ўсе тыя будынкі, якія садзейнічаюць хутчэйшаму абагуленьню сялянскіх сродкаў вытворчасьці, асабліва жывёлы. Таксама зямляўпарадкаваньне трэба спрасьціць да такой ступені, якая-б дазволіла да вясны ўпарадкаваць усе організаваныя калгасы: адвесьці, паказаць іх землі, разьбіць на палеткі, ня вылічваючы тысячныя, як гэта рабілася да апошняга часу.

Наступнае пытаньне, на якім неабходна застанавіцца,—гэта організуючая роля саўгасаў. На мясцох часам ня зусім улічваецца гэтае пытаньне. Замест таго, каб падняць на належную вышыню саўгасы, падняць іх вытворчасьць, узмацніць працоўную дысцыпліну, узмацніць іх ролю па калектывізацыі сялянскіх гаспадарак, зрабіць з іх першае зьвяно буксіру прамысловасьці, мы маем выпадкі, калі ня толькі радавыя калгасьнікі і сяляне, а нават і комуністыя ставяць пытаньне аб перадачы саўгасаў і другіх прамысловых дзяржаўных прадпрыемстваў у склад калгасаў, абгрунтоўваючы гэта тым, што калгас 3.000—5.000 гэктараў, а саўгас 500—600 *га*. Такія настроі і тэндэнцыі шкодныя, і іх трэба вытравіць з тых галоў, дзе яны пануюць. Трэба зразумець, што

саўгас—вышэйшая форма, незалежна ад яго разьмеру. Трэба зразумець, што за саўгасам павінна захавацца кіруючая роля і ўплыў на вакольныя калгасы, паступова ператвараючы іх у энэргетычныя і тэхнічныя цэнтры сельскае гаспадаркі (машынна-трактарныя станцыі, рамонтныя майстэрні, прадпрыемствы па перапрацоўцы сыравіны і прадуктаў калгасаў і інш.). Там, дзе ёсьць магчымасьць, трэба прыступіць да складаньня агульнага ўзгодненага саўгасна-калгаснага організацыйна-вытворчага пляну. І каб яны сапраўды зьявіліся організуючымі цэнтрамі, трэба палепшыць іх працу, узмацніць партыйныя ячэйкі, лепш павесьці працу сярод рабочых, якая пакуль што таксама стаіць не на належнай вышыні. Адказным працаўнікам трэба быць там часьцей, цікавіцца іх працай, організоўваць гэтую працу, а ў нас ёсьць такія выпадкі, калі саўгасы цікавяцца тады, калі патрэбны коні для паездкі асобных працаўнікоў таго ці іншага раёну.

Што рабіць з кулаком пры суцэльнай калектывізацыі? З гэтым пытаньнем шмат якія таварышы зьвяртаюцца. Што рабіць, пытаньне яснае: зьліквідаваць, як клясу, у калгас ні ў якім разе не данушчаць, тых, якія сумелі пралезьці, выгнаць з тэрыторыі калгасу, выселіць за межы калгасу на горшую зямлю,—пясок, даць яму гэтае зямлі, калі яна не скарыстоўваецца калгасам, галодную спажывецкую норму. Як тыя кулакі, якія будуць выселены з іх зямель за межы калгасаў, павінны сяліцца на новых мясцох, ці пасёлкамі, ці хутарамі,—гэта наша асабістая думка, іх лепш будзе невялікімі пасёлкамі ўчытаваць, наглядаць за іх дзейнасьцю. Вядома, трэба на ўсё кулацтва націснуць больш, чым мы націскалі дасюль. Вынікі індывідуальнага абкладаньня паказалі, што ў гэтай часьці зроблена ня ўсё. У некаторых мясцох ня толькі не захапілі асноўных капіталаў кулацкіх гаспадарак, але і тыя прыбыткі, якія ён меў на працягу гаспадарчага году. Што кольвек з маемасьці трэба адабраць, разброіць яго, прычым да гэтае работы трэба прыцягнуць грамадзкасьць батракоў. Вось што мы павінны рабіць з кулацтвам.

Падрыхтоўка і правядзеньне веснавое сельскае-гаспадарчае кампаніі мае цяпер асабліва важнае значэньне, зноў-такі ў сувязі з правядзеньнем суцэльнае калектывізацыі, ад яе будзе залежыць ажыцьцяўленьне тых тэмпаў па калектывізацыі, аб якіх я казаў вышэй. Плян правядзеньня пасеўнае кампаніі як веснавое, так і асеньняй складзены адзін, які падзяляецца на часткі веснавое працы і асеньняе. Конкрэтныя ліміты, якія вызначаны, зводзяцца ў асноўным да наступных паказчыкаў: калектывізаваць ужо ў веснавую пасеўную кампанію ня менш, як 35 проц. усяе сельска-гаспадарчае плошчы. Пашырыць пасеўную плошчу на 200.000 *га*. Падвысіць ураджайнасьць супроць 1928-29 году на 25 проц., павялічыць лік буйное рагатае жывёлы на 10 проц. і сьвіней на 30 проц. Асноўнымі выканаўцамі гэтага заданьня павінны зьявіцца савецкія і калектыўныя гаспадаркі, а пагэтаму ад падрыхтаванасьці нашага соцыялістычнага сэктару будзе залежыць і выкананьне вызначаных лімітаў. Мы ставім у гэтым годзе практычную задачу—ачысьціць усё высяваемае ў вясну насеньне. Вызначана завапнаваць глебы 75.000 га, затарфаваць 40.550 *га*. Пашырыць засеў траў на 50 проц. супроць мінулага году. Правесьці шырокую лубінізацыю, масавы збор попелу. Усё гэта патрабуе шырокае організацыі грамадзкасьці, прыцягненьня да гэтае справы ўсіх рабочых, батракоў, беднякоў і сераднякоў. Трэба зараз-жа разгарнуць работу па рамонту інвэнтару, скарыстаўшы ўсе майстэрні ў акругах, а таксама і чыгуначныя. Зерняачышчальныя машыны павінны працаваць бесьперабойна ў дзьве-тры зьмены, ніякіх сьвятаў. Зараз-жа комсамольцы, вучні павінны высту-

піць па зьбіраньню попелу, ажывіць працу аграўпаўнаважаных, пераглядзець іхны склад, выгнаць кулакоў, дзе захаваліся. Шэфскія арганізацыі павінны мобілізавацца для працы па падрыхтоўцы да правядзеньня сельска-гаспадарчае веснавое кампаніі. Партыйным камітэтам і выканкомам трэба забясьпечыць шырокае абгаварэньне і давядзеньне плянаў пасеўкампаніі да саўгасу, калгасу і паселішча не пазьней сярэдзіны студзеня. Перад калгасамі ставіцца практычная задача, каб ужо ў веснавую пасеўную кампанію давесьці плошчу пад калектыўнымі засевамі, як мінімум, да 676.000 *га*, узьняць ураджайнасьць на 25 проц., усё высяванае насеньне абавязкова павінна быць ачышчана, пасеяць ня менш 73.000 *га* гатунковым насеньнем, ня менш, як на 55.000 *га* павінен быць зроблен радавы пасеў, пашырыць пасеў кармавых траў і караньплодаў да 10.000 га, завапнаваць глебы 60.000 *га* і правесьці торпаваньне на плошчы 17.000 *га*. Гэта задача выклікае зараз-жа неабходнасьць організаваць у калгасах працу так, каб цалкам забясьпечыць выкананьне вызначаных лімітаў. Трэба ўстанавіць адказнасьць за выкананьне вызначаных заданьняў ня толькі на саветы ці праўленьні калгасаў, а паставіць працу так, каб кожны калгасьнік адказваў за сваю працу. Трэба дамагчыся абавязкова ўзьняцьця працоўнае дысцыпліны. Таксама неабходна калгассаюзу шырока разгарнуць працу па пасылцы працаўнікоў на месцы па падрыхтоўцы ўсяе калгаснае сыстэмы да веснавога пасеву; усё тое, што патрабуецца да выезду на работу ў поле, павінна быць агледжана, адрамантавана і быць гатовым к рабоце. Сыстэму раўнаньня на індывідуальныя гаспадаркі трэба адкінуць.

Савецкія гаспадаркі павінны пашырыць у гэтым годзе пасеўную плошчу на 27,6 проц. супроць мінулага году, павысіць ураджайнасьць на 30 проц., узьняць таварнасьць і зьнізіць сабекошт продукцыі на 25 проц. Трэба сказаць адкрыта, што ў савецкіх гаспадарках па часьці іх гаспадараньня справа стаіць небясьпечна, працоўная дысцыпліна і вытворчасьць вельмі нізкія, кіруючы склад не на належнай вышыні, з слабою падрыхтоўкаю, добрая палова за гэты год аддадзена пад суд, вялікая цякучасьць. Усё гэта, бязумоўна, адбіваецца на якасных паказчыках работы ў саўгасах. Нам зараз-жа трэба ўзяцца за ўмацаваньне складу саўгасаў добрымі кіраўнікамі, не рабіць частых зьмен, пасылаць лепшых працаўнікоў, а не наогул беспрацоўных, як гэта часта робіцца. Тады толькі мы зможам дабіцца таго становішча, калі саўгасы будуць зьяўляцца сапраўды організуючымі цэнтрамі вакольнага насельніцтва і прыкладамі ва ўсёй працы. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на ўзмацненьне саўгаскіх ячэек.

Каб забясьпечыць выкананьне пастаўленых перад саўгасамі і калгасамі задач, нам неабходна разгарнуць у іх працу па організацыі соцыялістычнага спаборніцтва як паміж паасобнымі гаспадаркамі, так і ўнутры гаспадарак паміж асобнымі галінамі працы. Вынікі, якія мы маем у прамысловасьці, гавораць нам аб тым, што гэтыя мэтоды, як мага хутчэй у шырокім маштабе трэба пераносіць у вытворчасьць сельскае гаспадаркі. Калі нам удасца падняць усіх рабочых саўгасаў і калгасьнікаў на гэтую справу, выкананьне вызначаных заданьняў забясьпечана, а таму гэтую працу трэба лічыць за важнейшую працу, за якую павінны ўхапіцца ўсе савецкія, профэсыянальныя і коопэрацыйныя організацыі. Партыйныя камітэты павінны ўзяць непасрэдна пад сваё кіраўніцтва і кантроль выкананьне гэтае задачы. Для забясьпечаньня засеву вызначаных плошчаў нам неабходна стварыць насенны фонд лікам 27.041 тон зернавых культур, 1.370 тон насеньня канюшыны, 4.600 тон вікі, 530 тон сэрадэл. 4.585 тон лубіну,

4.089 тон ільна-насеньня і 86,3 тон караньплодаў. Гэтая вялізарная задача павінна быць выкананана абавязкова. Па зернавых культурах, якія ёсьць на месцы, трэба разгарнуць працу, асабліва ў калгасах, па збору гэтага фонду і забясьпечыць яго захаваньне да сяўбы, арганізаваўшы пры гэтым належную ахову, таму што кулак паспрабуе зьнішчаць гэтыя фонды. Горш абстаіць з загатоўкамі такога насеньня, як канюшына, віка, сэрадэля, лубін і караньплоды, значную частку якіх трэба прывозіць з-за межаў БССР. Напрыклад, па канюшыне, на якую мы зрабілі заяўку на 850 тон, нам абяцаюць 500—600 тон і то паўднёвых канюшын, якія ў паўночных нашых раёнах сеяць небясьпечна. Таму нашай задачай, не ўважаючы на некаторыя мясцовыя настроі, будзе зрабіць перасоўку з нашых паўднёвых раёнаў у паўночныя, а украінскую канюшыну завесьці ў паўднёвыя нашыя раёны. Гэта першае, і, па-другое, трэба разгарнуць загатоўку мясцовых запасаў усяго дэфіцытнага насеньня так, каб яны былі ўсе сабраны. Нажаль, тэмп работы нашых загатоўчых арганізацый, асабліва Паляводсаюзу, калі ня будзе зараз-жа зьменены ў лепшы бок, не забясьпечваюць выкананьня пастаўленае задачы. Нам здаецца, на гэтую працу трэба ўзяць большую ўвагу, чым да гэтага часу. Пабудаваць загатоўчы апарат па-баявому, ускласьці пэрсанальную адказнасьць на кіраўнікоў загатоўчых арганізацый, давесьці пляны загатоваак насеньня аж да кулацкага двара. Наркамгандлю гэтыя загатоўкі трэба правесьці так, як ён праводзіў загатоўку хлеба і бульбы. Пасляць людзей на месцы, устанавіць дэкадную справаздачу загатоўцам.

Становішча, якое мы маем у галіне жывёлагадоўлі, і неабходнасьць рашучага пераломy ў гэтай галіне, ставяць гэтую задачу ў цэнтр усяе работы сельска-гаспадарчае кампаніі гэтага году. І асабліва вялікую работу трэба правесьці ў абагуленым сэктары, які павінен стаць асноўнай базай жывёлагадоўлі. Такое становішча, калі буйная рагатая жывёла ў абагуленым сэктары ў гэтым годзе налічвала толькі 38.000, ці каля 2 проц., ад усяе колькасьці, далей нецярпіма і абавязвае нас ужыць рашучыя захады, ні лічачыся са значнымі затратамі, каб у гэтым ужо годзе давесьці стада абагуленага сэктару ня менш, як на 25 проц. ад усяго пагалоўя. Плянам прадугледжваецца стада буйнае рагатае жывёлы саўгасаў давесьці з 15.000 галоў да 28.000, ці на 86 проц. павялічыць супроць мінулага году, сьвіней з 3.300 галоў павялічыць да 7.500 ці на 123 проц., стада калгасаў буйное рагатае жывёлы з 23.000 галоў давесьці, як мінімум, да 596.000 галоў, сьвіное стада з 5.100 галоў, да 782.000 галоў. Гэтыя тэмпы патрабуюць арганізацыі навокал гэтае справы ўсіх рабочых, усіх саўгасьнікаў і калгасьнікаў. Без грамадзкасьці гэтую справу нам не падняць. Каб парушыць яе, трэба арганізаваць у бліжэйшы час месячнік жывёлагадоўлі. У правядзеньне якога павінны быць уцягнуты пагалоўна ўсе арганізацыі, комсамольцы, шэфскія таварыствы, дэлегацкія сходы, друк, усё паставіць на ногі, каб ажыцьцявіць намечаныя тэмпы, таму што, калі прыняць пад увагу яшчэ ня зьнішчаную тэндэнцыю распродажу насельніцтвам жывёлы, яны зьяўляюцца напружанымі. Трэба конкрэтна паставіць пытаньне аб арганізацыі цэлае сеткі буйных савецкіх і калектыўных гаспадарак з жывёлаводным ухілам. Дзеля таго, каб падняць жывёлагадоўлю на належную вышыню як колькасна, гэтак і якасна, трэба арганізаваць кармавую базу, чым да гэтага часу яшчэ як належыць не займаліся; трэба разгарнуць шырока работу па палепшаньні сенажацяй, закладцы штучных выпасаў, лугоў, дамагчыся абавязкова ў гэтым годзе пабудовы сіласных установак ва ўсіх саўгасах і калгасах.

Правядзеньне суцэльнае калектывізацыі і наша работа ў саўгасах і калгасах ня выключае таго, што мы ў будучую веснавую кампанію не павінны весьці працы сярод індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, якія яшчэ ў гэтым годзе ня змогуць увайсьці ў колгасы і ўдзельная вага якіх яшчэ застаецца вялікай. Пагэтаму ва ўсёй працы падрыхтоўкі правядзеньня пасеўнае кампаніі ні ў якім разе ня трэба забывацца, што гэты сэктар для дзяржавы ўжо ня мае значэньня, і таму задачай усіх організацый і асабліва вытворчае коопэрацыі павінна быць абслугоўваньне індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, іх організацыя для правядзеньня пасеўнае кампаніі. Камітэты сялянскае ўзаемадапамогі яшчэ больш павінны разгарнуць працу дапамогі бедняком, жанчынам-адзіночкам, сем'ям чырвонаармейцаў як насеньнем, так і інвэнтаром, каб ніводнага кавалку зямлі ў гэтых гаспадарках не засталося незасеяным.

Зусім пэўна, што правядзеньне гэтых вызначаных мерапрыемстваў у пасеўную кампанію будзе залежыць ад таго, як будзе пабудавана праца партыйных, савецкіх і грамадзкіх устаноў, наколькі будзе ўзьнята навокал кампаніі ўся савецкая грамадзкасьць, наколькі будзе праводзіцца генэральная лінія партыі па выкарчоўваньню карэньняў капіталізму, наколькі будуць забясьпечаны тэмпы ў працы па рэконструкцыі сельскае гаспадаркі і пераводу на вышэйшыя калектыўныя формы, наколькі будзе непрымірымасьці ўва ўсіх выканаўцаў яе—зьверху да нізу—да кулацтва. Бясспрэчна, што тыя задачы, якія стаяць перад намі па падрыхтоўцы і правядзеньні пасеўнае кампаніі і асабліва правядзеньні суцэльнае калектывізацыі, вызначанымі мерапрыемствамі ня вычэрпваюцца, імі прыдзецца займацца ў штодзеннай практычнай працы. Трэба будзе распрацаваць цэлы шэраг практычных мерапрыемстваў, якія забясьпечвалі-б поўнае выкананьне пастаўленых на бліжэйшы год задач у справе соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі.

---

А. Хацкевіч

# Саветы на чале соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі

На сучасным этапе соцыялістычнага будаўніцтва, ва ўмовах усё ўзрастаючага абвастрэньня клясавае барацьбы, у зьвязку з рашучымі бойкамі супроць рэштак капіталізму ў нашай краіне, што вызначае магутны буйны рух суцэльнай калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх сельскіх гаспадарак, ліквідацыі кулацтва як клясы, бурнага тэмпу соцыялістычнае рэконструкцыі, росту прамысловасьці, надзвычайнага ўздыму палітычнае актыўнасьці, будаўнічага энтузіязму і творчае ініцыятывы пролетарскіх мас, якія выстраіваюцца магутнымі калёнамі ўдарных брыгад цэхавых фабрык і заводаў, шырока ажыцьцяўляючы соцыялістычнае спаборніцтва,—у гэтых умовах соцыялістычнага будаўніцтва зьмест і формы працы, мэтады кіраўніцтва нізавых саветаў, асабліва сельскіх, а таксама асабовы склад апошніх у большасьці не адпавядае новым задачам соцыялістычнага будаўніцтва і яго тэмпам. Масавая суцэльная калектывізацыя сельскае гаспадаркі, якая павінна ахапляць і перабудаваць на соцыялістычны лад усе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі БССР, у зьвязку і на падставе гэтага правядзеньня рашучае політыкі ліквідацыі кулацтва як клясы, ставіць катэгорычна пытаньне аб перабудове па-новаму ўсяе працы саветаў.

Ва ўмовах рашучага наступу на капіталістычныя элементы гораду і вёскі і ліквідацыі кулацтва як клясы, клясавая барацьба набывае асаблівую жорткасьць, і гэта вымагае, каб органы пролетарскае дыктатуры—саветы былі асабліва ўмацованы і ўзмоцнены. Цяпер-жа сельсаветы ў значнай сваёй частцы не стаяць яшчэ сапраўды на чале соцыялістычнае рэконструкцыі ў барацьбе за ажыцьцяўленьне пяцігодкі, ня кіруюць калектывізацыяй і калектыўнымі аб'яднаньнямі, не праяўляюць ініцыятывы ў справе ліквідацыі кулацтва як клясы. У сельсаветах наглядаецца шэраг скрыўленьняў клясавай лініі, а ў некаторых мясцовасьцях сельсаветы знаходзяцца проста пад уплывам кулацкіх элемэнтаў і іх падпявалаў, якія вядуць зрыў нашае работы як па-за саветамі, гэтак часткаю і ў саміх саветах. Ёсьць шмат выпадкаў засьмечанасьці сельсаветаў; яшчэ не разгорнута масавая праца ўсіх саветаў, што асабліва вымагаецца сучасным момантам. Праца камісій сельсаветаў з большага стаіць на месцы і не пераведзена на масавы вытворчы прынцып. Саветы яшчэ ў сваёй значнай частцы не зрабіліся масавым рэзэрвам для вылучэньня ў дзяржаўны апарат рабочых, батракоў, беднякоў і серадпякоў-актывістых.

Такое становішча зьяўляецца зусім недапушчальным. Аднак, гэта ні ў якім разе не дае падстаў для абы-якіх разважаньнаў пра зьмяншэньне ролі саветаў ва ўмовах суцэльнае калектывізацыі ды перадачы

іх функцый праўленьням існуючых і організуючыхся калгасаў. Гэтыя контр-рэволюцыйныя па сутнасьці развaжаньні павінны быць адмецены і зьліквідаваны самым рашучым чынам, бо гэтыя размовы адбіваюць імкненьне клясавых ворагаў паслабіць органы пролетарскай дыктатуры ў самы востры і рашучы момант клясавае барацьбы за канчатковае зьнішчэньне карэньняў капіталізму ў краіне, калі саветы павінны быць моцнымі і баяздольнымі органамі ў самай максымальнай меры.

Суцэльная калектывізацыя, на падставе якой павінна адбыцца ліквідацыя кулацтва, як клясы, ня толькі не адмаўляе, а наадварот, самым настойлівым чынам вымагае максымальнага ўзмацненьня і ўмацоўваньня саветаў, патрабуе зрабіць іх дасканалай прыладай дыктатуры пролетарыяту, павярнуць саветы тварам да калгасаў, тварам да соцыялістычнае вытворчасьці. Саветы павінны быць ператвораны ў органы, якія сапраўды стаяць на чале рабочых і батрацка-бядняцкіх мас у саюзе з серадняком і якія ажыцьцяўляюць пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі канчатковае выкараненьне капіталізму ў краіне. Яны павінны быць ператвораны ў органы кіруючыя і адказныя за справу правядзеньня суцэльнае калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва.

Вось чаму, выходзячы з усяго адзначанага, трэба лічыць, што нам неабходна ўсю дзейнасьць саветаў безадкладна перабудаваць і паставіць на новыя рэйкі працы.

Што павінны сельсаветы рабіць зараз перш за ўсё ў галіне соцыялістычнае рэконструкцыі сельскай гаспадаркі? Сельсаветы павінны ўсямерна садзейнічаць разьвіцьцю саўгасаў, узбуйненьню іх, і павялічэньню іхнага ўплыву, як найбольш пасьлядоўнага соцыялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі, як найбольш узорных прыкладаў організацыі вытворчасьці і гаспадараньня для калгасаў, да паказальнікаў перавагі соцыялістычнае організацыі сельскае гаспадаркі для індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Яны павінны ажыцьцяўляць агульнае кіраўніцтва працаю саўгасаў, абсьледуючы іх, заслухоўваючы іх справаздачы і ўсямерна дапамагаючы іх разьвіцьцю.

У сучасны момант усе сельсаветы павінны павярнуцца тварам да калгасаў. Максымальна садзейнічаць у змаганьні з дробна-ўласьніцкімі настроямі за абагуленьне сродкаў вытворчасьці, павялічэньне непадзельных фондаў, організацыю і рацыяналізацыю працы ў калгасах, узьняцьце працоўнае дысцыпліны і пераводе калектыўных аб'яднаньняў у вышэйшыя формы іх організацыі. Сельсаветы павінны, як сьлед, прапрацоўваць пляны калектывізацыі сельскае гаспадаркі і вытворчыя пляны калгасаў, увязваючы гэтыя пляны з агульна-дзяржаўнымі плянамі і паказаньнямі, праводзіць іх у жыцьцё і мобілізаваць навокал іх ажыцьцяўленьня батрацкія і бядняцка-серадняцкія масы сялянства, дамагацца ўзмацненьня і ўзбуйненьня існуючых і створаных калгасаў. Усе сельсаветы, як адзін, павінны ажыцьцяўляць сапраўднае кіраўніцтва калгасамі, вядучы настойлівую барацьбу за выкананьне імі новых сваіх абавязкаў да пролетарскае дзяржавы (хлебазагатоўкі, контрактацыя, падаткі і г. д.), забясьпечыць максымальную мобілізацыю ўнутрыкалгасных сродкаў на калгаснае будаўніцтва, разглядаць хадайніцтва калгасаў аб водпуску крэдытаў, зацьвярджаць гэтыя хадайніцтвы, дамагацца іх задавальненьня і наглядаць за правільным скарыстаньнем сродкаў; дамагацца ажыцьцяўленьня калгасамі мерапрыемстваў па ўздыму ўраджайнасьці і агульнага павялічэньня таварнае продукцыі калгасаў. Неабходна, зразумела, узмацніць сувязь саветаў з калгасамі і іх абслугоўваньне з боку саветаў, робячы гэтым уплыў на некалектывізаваныя пакуль-што бядняцка-серадняцкія масы

сялянства; трэба завесьці, як сыстэму, справаздачнасьць калгасаў перад сваімі саветамі, не дапушчаючы, аднак, пры гэтым дробязнае апекі саветаў аж да адміністрацыйнага іх умешваньня ва ўнутранее жыцьцё калгасаў. Савет павінен ставіць даклады праўленьня калгасаў на агульных сходах, таксама праводзячы ў цэнтры калгасаў пасяджэньні пленумаў і прэзыдыумаў саветаў. Саветы павінны клапатліва прыстасаваць сетку навучальных культасьветных і соцыяльна-культурных устаноў (школ, клюбаў, народных дамоў, хат-чытальень, мэдычных, вэтэрынарных і агранамічных пунктаў) такім чынам, каб гэтым самым найбольш поўна, найлепш і ў першую чаргу абслугоўваліся калгасьнікі.

У бягучым годзе і ў сучасны момант важнейшаю задачаю сельсаветаў зьяўляецца пасьпяховае правядзеньне пасеўнае кампаніі, шляхам: засеву яравога кліна ва ўсіх утвораных калгасах абагуленым парадкам, агульнага павялічэньня пасеўнае плошчы, прыняцьця мер да палепшанае апрацоўцы глебы, стварэньня пасеўных фондаў, разьвіцьця травасеяньня, жывёлагадоўлі, ачысткі насеньня і г. д.

Рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты і ліквідацыя кулацтва, як клясы, зразумела, выклікае жорсткае з боку іх супраціўленьне. Таму сельсаветы павінны стаць ініцыятарамі правядзеньня ўсіх палітычных, арганізацыйных і адміністрацыйных мер да зьнішчэньня на карані ўселякіх праяў контррэволюцыйнае дзейнасьці кулацтва і іншых варожых нам элемэнтаў. Сельсаветы павінны стаць на чале практычнага ажыцьцяўленьня ліквідацыі кулацтва як клясы, на глебе праводзімай імі суцэльнай калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх сельскіх гаспадарак. У гэты час сельсаветы павінны пільна сачыць за тым, каб кулак і нэпман не пралезьлі ў калгасы, і ў той-жа час актыўна праводзіць ачышчэньне існуючых калгасаў ад пралезшых туды раней кулацка-нэпманскіх элемэнтаў. Трэба зараз-жа ўзяць на вучот усе кулацкія гаспадаркі і іх сродкі вытворчасьці, каб захаваць гэтыя сродкі ад злоўмыснага зьнішчэньня для перадачы іх існуючым і ўноў-ствараючым калгасам. Сельсаветы павінны ўзмацніць сваю адміністрацыйную і масавую дзейнасьць і весьці рашучую барацьбу супроць кулацкіх контррэволюцыйных выступленьняў і дзейнасьці іх, накіраванай на перашкоду правядзеньню суцэльнай калектывізацыі, і ліквідацыі кулацтва.

Ажыцьцяўленьне калектывізацыі ўсіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР і ліквідацыі кулацтва як клясы немагчыма, зразумела, бяз шырокае мобілізацыі батрацка-бядняцкіх мас на выкананьне гэтае задачы, без узмацненьня батрацка-серадняцкага блёку, без усямернага разгортваньня працы па арганізацыі беднаты і батрацтва, без узмацненьня палітычнае ролі батрацтва і беднаты, як адзінае асноўнае апоры партыі і савецкае ўлады на вёсцы. Вось чаму сельсаветы павінны дамагацца павялічэньня батрацка-бядняцкага ядра ў сваім складзе і ў складзе ўсіх выбраных органаў на вёсцы, наогул, узмацняючы ўсе нізавыя органы на вёсцы рабочымі, прысланымі з гораду для сталае працы ў калгасах.

Сельсаветы павінны дапамагаць паўсямеснай арганізацыі і ўзмацненьню груп беднаты і батрацтва ва ўсіх выбраных савецкіх, грамадзкіх арганізацыях і ў калгасах; трэба, каб саветы ў сваёй працы абапіраліся на гэтыя групы і на сходы батрацтва і беднаты, абавязкова прапрацоўваючы з батрацтвам і беднатою ўсе галоўнейшыя пытаньні жыцьця і працы вёскі перад тым, як выносіць іх на канчатковае вырашэньне агульных сходаў і адпаведных савецкіх і грамадзкіх арганізацый. Саветы павінны ўсямерна абараняць інтарэсы бат-

рацтва і беднаты, сочачы за тым, каб уступаючы ў калгас батрак аслабаняўся ад паявых ўзносаў, а бядняк атрымліваў устаноўленую для яго палёгку. Трэба дамагацца крэдытаваньня ў першую чаргу і ў шырачэйшых разьмерах для тых калгасаў, дзе маецца больш бедня-коў, забясьпечыць першачарговае прадастаўленьне працы з абавязко-вай аплатай батракоў, забясьпечыць іх хлебам да новага ўраджаю і дапа-магчы атрыманьнем крэдыту на іншыя рэчы іх спажываньня; у першую чаргу павінны быць прадастаўлены батраком тыя жыльлёвыя будынкі, якія павінны быць адабраны ў кулацтва пры ліквідацыі яго.

З боку сельсаветаў патрабуецца зараз рашучае і безадкладнае ўма-цаваньне працы па бытавому разьняволеньню, па павялічэньню куль-турнага ўзроўню і сьвядомасьці жанчын—батрачак, бядначак і серад-нячак, маючы на ўвазе, што бытавы консэрватызм і культурна-палі-тычная адсталасьць працоўнае жанчыны на вёсцы цяпер, ва ўмовах разгортваньня суцэльнае калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як кля-сы, робіцца асаблівым тормазам, што часта скарыстоўваецца варожы-мі элемэнтамі ў мэтах перашкоджваньня разгортваньню социялістыч-нае рэконструкцыі. Вось чаму гэтае вузкае месца энэргічнай працай сельсаветаў і нашымі культурнымі сіламі на вёсцы настаўніцтвам, кам-самолам, аграномамі і г. д., павінна быць у найхутчэйшы час зьліквідавана.

Вырашэньне гэтае задачы трэба пачаць перш за ўсё з арганізацыі бытавых камісій пры ўсіх саветах і выканаўчых камітэтах. Кіраўнікі выканаўчых камітэтаў павінны прасачыць па сваёй пэрыфэрыі, ці ўсюды арганізаваны камісіі па палепшаньні працы і быту жанчын і ці дастаткова разгорнута праца гэтых камісій. Трэба шырока папуля-рызаваць сярод насельніцтва задачы іх і ўжыць належныя арганіза-цыйныя меры, залучаць шырокі жаночы актыў у практычную працу гэтых камісій. Саветы павінны ажывіць інстытут прымацаваных дэле-гатак-практыкантак, уцягваючы іх усямерна ў працу саветаў, у іх сэкцыі і камісіі, забясьпечыўшы сыстэматычнае кіраўніцтва імі, дапа-магчы ім у штодзеннай практычнай працы. Неабходна даваць кон-крэтныя заданьні жанчынам-дэпутаткам і прымацаваным дэлегаткам, каб яны маглі выяўляць сябе і выхоўвацца на практычнай працы; заслухоўваць іх справаздачы, прыцягваючы іх да справаздач на агуль-ных сходах выбаршчыкаў і жаночых дэлегацкіх сходах. Неабходна рашуча пашырыць уцягненьне жанчын-работніц, батрачак і бядначак у склад саветаў і іх кіруючыя органы, а таксама вылучэньне актыві-стак работніц, батрачак і бядначак на адказную працу ў раённыя, акру-говыя і цэнтральныя савецкія ўстановы, павялічыць іх удзельную вагу на курсах па падрыхтоўцы вылучэнцаў.

Пастаўленыя задачы перад саветамі выклікаюць неабходнасьць пры-стасаваньня ўсяе адміністрацыйна-комунальнае, культурна-социяльна-і арганізацыйна-масавае працы саветаў да новых умоў суцэльнае ка-лектывізацыі з пункту гледжаньня больш поўнага і першачарговага абслугоўваньня насельніцтва калгасаў, з пункту гледжаньня ператва-рэньня калгасаў у базы пад'ёму да социялістычнае перабудовы сель-ска-гаспадарчае вытворчасьці ў цэнтры агры-культурных, социяльна-бытавых і культурных мерапрыемстваў саветаў. У якасьці аднэй з галоўных мер вырашэньня гэтых задач неабходна сканцэнтраваць усю працу па социяльна-культурнаму і бытавому абслугоўваньню калгас-нага насельніцтва пры сельсаветах (школы, больніцы, хаты-чытальні, дабрабыт). Для павялічэньня кіруючае ролі сельсаветаў ва усіх галі-нах социялістычнага будаўніцтва, усё шырэй разгортваць і сыстэма-тычна ўзмацняць працу камісій саветаў, рэарганізаваўшы іх па вы-

творчаму прынцыпу. Трэба рэалізаваць папярэднюю дырэктыву аб стварэньні ў паасобных вёсках і калгасах па меры патрэбы і наяўнасьці актыву паасобныя камісіі на чале з упаўнаважанымі членамі саветаў. У працы камісій трэба высунуць батракоў, беднякоў і актыўных калгасьнікаў з тым, каб яны склалі асноўнае ядро актыву сельсаветаў. Неабходна ўзмацніць кіраўніцтва камісіямі, сыстэматычна заслухоўваць іх справаздачы, і ўстанавіць, як правіла, што ўсе важнейшыя пытаньні працы саветаў прапрацоўваюцца папярэдня ў камісіях.

Адначасова з перабудоваю працы саветаў на новы шлях неабходна рашуча ажывіць і ўзмацніць працу *рэвізійных* камісій, якія павінны стаць сапраўднымі дасканалымі органамі шырокага грамадзкага контролю. Рэвізійныя камісіі павінны праверыць складаньне і выкананьне саветамі сваіх бюджэтаў, выкананьне імі наказаў выбаршчыкаў і дырэктыў вышэйшых органаў, сыстэматычна нараўне з саветамі рабіць справаздачу ў сваёй дзейнасьці перад выбаршчыкамі і адказваць ня толькі за сваю працу, але і за працу саветаў.

У зьвязку з перабудоваю працы сельскіх і местачковых саветаў, неабходна яшчэ больш ажывіць дзейнасьць і гарсаветаў. Гарсаветам, як пераважным пролетарскім організацыям, неабходна павялічыць свой кіруючы ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве наогул, усямерна дамагацца далейшага пашырэньня масавае працы, уцягненьня большых колаў рабочых, актыву служачых у працу сваіх сэкцый, шырока разгортваючы працу навокал мерапрыемстваў, што вынікаюць з задачы ажыцьцяўленьня плянавага разьвіцьця соцыялістычнае народнае гаспадаркі і культуры, будаўніцтва прамысловасьці, павялічэньня продукцыі працы, рацыяналізацыі вытворчасьці, выкананьня вытворчых програм, пераводу прадпрыемстваў на 7-гадзінны рабочы дзень і бесьперапынны тыдзень; навакол справы зьніжэньня сабекошту продукцыі, справы соцыялістычнай організацыі быту працоўных мас гораду. Прэзыдыумы гарсаветаў павінны ўнесьці большую практычнасьць у працу сэкцый, значна шырэй практыкуючы правядзеньне абсьледваньня прадпрыемстваў і ўстаноў перад пастаноўкаю дакладаў апошніх на сэкцыях альбо прэзыдыумах гарсаветаў. Неабходна павялічыць кіраўніцтва працай сэкцый, рэгулярна заслухоўваючы даклады апошніх, склікаць нарады старшынь сэкцый і бюро, папярэдне абгаварваючы і ўзгадняючы пытаньні гарадзкога будаўніцтва. Трэба організаваць на тых прадпрыемствах альбо ўстановах, дзе маецца ня менш 3-х дэпутатаў гарсавету, дэпутацкія групы, праз якія трымаць сувязь з прадпрыемствам або ўстановай і праводзіць абслугоўваньне мас выбаршчыкаў. Для лепшага кіраўніцтва працаю дэпутацкіх груп практыкаваць пэрыодычны агляд іх працы па прадпрыемствах, склікаць нарады гэтых груп, заслухоўваць даклады, наладзіць справаздачы іх перад выбаршчыкамі. Зараз-жа ў бліжэйшы час заняцца абагуленьнем прыгарадных зямель і ўнутрыгарадзкіх агародных фондаў, ствараючы з іх сыравінную базу для забясьпечаньня гарадоў продуктамі спажываньня.

Побач з узорнаю пастаноўкаю працы ў гарадох, гарсаветы павінны ўзмацніць сваю сувязь з сельсаветамі, дапамагаючы ім у організацыі працы, пераносячы свой вопыт: рашуча павялічыць удзел гарсаветаў у разгортваньні суцэльнае колектывізацыі на вёсцы, дапамагаючы шляхам рабочых шэфстваў над паасобнымі саветамі, калгасамі і цэлымі раёнамі, накіроўваючы на вёску сваіх дэпутатаў і рабочыя брыгады.

Для забясьпечаньня выкананьня ўсіх задач соцыялістычнага будаўніцтва, якія пастаўлены перад краінай Саветаў, неабходна організаваць

і шырока праводзіць паміж саветамі, як гарадзкімі так і сельскімі соцыялістычнае спаборніцтва, прадугледжваючы ў дагаварох моманты выпярэдніцтва ў галіне калектывізацыі сельскае гаспадаркі, організацыі масавае працы, палепшаньня справы забясьпечаньня рабочых мас жыльлём, продуктамі спажываньня, дабрабыту і соцыяльна-культурнага абслугоўваньня рабочых мас гораду і батрацка-бядняцкіх мас вёскі. Для нас павінна быць зусім зразумела, што ўсе тыя задачы і, што вынікаюць з іх, конкрэтныя мерапрыемствы, якія мы зараз вызначаем, патрабуюць узмацненьня матар'яльнае базы і гаспадарчае самастойнасьці гарадзкіх і сельскіх саветаў. Маючы на ўвазе, што бюджэты гарсаветаў за апошнія гады значна палепшыліся, у бліжэйшы час зьяўляецца неабходнасьць вырашаць пытаньне аб стварэньні поўнае сеткі сельскіх бюджэтаў. Трэба ва ўсіх сальсаветах раёнаў суцэльнае калектывізацыі абавязкова ў гэтым-жа годзе ўвесьці самастойныя бюджэты, прычым матар'яльная база гэтых бюджэтаў павінна быць узбуйнена і пашырана за кошт стварэньня фондаў з адлічэньняў у калгасы, што выдаткуюцца на будаўніцтва жыльлёвае, культасьветнае, больнічнае, дарожнае і г. д.

Зразумела, што з гэтымі складанымі задачамі, якія зараз пастаўлены перад сельсаветамі, яны могуць справіцца толькі пры згуртаваньні батрацка-бядняцкіх мас, толькі пры ўмове пагалоўнага ўцягненьня батракоў і беднякоў у штодзенную працу саветаў, а таксама пры ўмове значнага павялічэньня іх колькасьці ў складзе саветаў.

Работу па вылучэньню рабочых, батракоў і беднякоў трэба зрабіць сыстэматычнай і масавай. Для гэтага сельсаветы павінны больш шчыльна ўвязваць сваю працу з профсаюзамі і групамі беднаты, лепш вывучаць савецкі актыў і на вопыце практычнае працы, выхоўваць кадры для вылучэньня, узмацніўшы таксама кіраўніцтва і дапамагаючы вылучаным у апараты савецкіх і грамадзкіх організацый.

Для таго, каб дамагчыся рашучага і хуткага пералому ў працы саветаў і будзе праводзіцца зараз (з 15 лютага па 15 сакавіка) пазачарговая справаздачна-праверачная і перавыбарчая кампанія сельскіх і местачковых саветаў. У час справаздачна-праверачнае кампаніі будуць зроблены перавыбары ўсіх сельсаветаў у раёнах і сельсаветах суцэльнае калектывізацыі, каб новы склад сельсаветаў адпавядаў новым умовам працы пры суцэльнай калектывізацыі, дзе вызначаныя задачы павінны ажыцьцяўляцца і рэалізавацца найбольш поўна і ў першую чаргу. Ва ўсіх іншых раёнах тыя сельсаветы, якія не праявілі сябе ў справе рэорганізацыі беднаты, батрацтва і калектывізацыі, скажалі клясавую лінію, засьмечаны варожым і чужым элемэнтам, не забясьпечваюць актыўнага цьвёрдага кіраўніцтва ў справе калектывізацыі і ліквідацыі кулака як клясы,—таксама падлягаюць перавыбарам па пастанове акруговых і раённых выканаўчых камітэтаў.

Адначасова ў дачыненьні да рэшты саветаў, якія не падлягаюць перавыбарам, неабходна таксама ў процэсе справаздачна-праверачнае кампаніі дамагчыся рашучага ачышчэньня іх ад усіх клясава-чужых, што разлажыліся і прымазаліся, элемэнтаў, ад усіх тых, хто ня хоча і няздольны ажыцьцяўляць клясавую пролетарскую лінію да канца, хто ў правядзеньні гэтае лініі хістаецца і праяўляе прымірэнчыя адносіны да клясавага ворага або што яму патураюць.

Для гэтага ў надыходзячую справаздачна-праверачную кампанію і датэрміновыя перавыбары шырока павінна быць скарыстана выбарчае права саміх выбаршчыкаў па адкліканьні з саветаў неадпавядаючых дэпутатаў; на іх месца, як і наогул у саветы, павінны быць вылучаны т. т., клясава-вытрыманыя, аўтарытэтныя, з рабочых, батрацтва,

беднаты і серадняцкага актыву, асабліва калгасьнікаў. Праз перавыбары, праверку і чыстку саветаў трэба дамагчыся як рашучага павароту ўвагі сельсаветаў да новых задач, да калгаснага руху і ліквідацыі кулацтва як клясы, так і зьмены социяльнага складу іх у бок перавагі батрацка-бядняцкіх элемэнтаў і забясьпечаньня калгаснага руху пролетарскім уплывам і кіраўніцтвам.

Клясава-варожыя элемэнты—кулак, нэпман і духавенства, сэктанты і ім падобныя, у зьвязку з правядзеньнем рашучага наступленьня на капіталістычныя элемэнты, правядзеньня суцэльнае калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як клясы, яшчэ больш чым у мінулую справаздачна-перавыбарчую кампанію паспрабуюць арганізаваць супраціўленьне, дыскрэдытаваць генэральную лінію партыі і савецкае ўлады, перацягваць на свой бок хісткія элемэнты серадняцтва і адзінак з адсталых беднякоў з тым, каб калі не самім пралезьці, то прынамсі пасадзіць у саветах асоб спачуваючых або прымірэнчых да варожых нам элемэнтаў, людзей немагушчых праводзіць клясавую лінію.

Вось чаму нам трэба загадзя мобілізаваць свае сілы з тым, каб усе спробы кулака і нэпмана былі зьнішчаны на карані. Для гэтага трэба перш за ўсё шырока разгарнуць сыстэму мерапрыемстваў па арганізацыі згуртаваньня батракоў, бядняцка-серадняцкіх мас на плятформе генэральнае лініі партыі і сав. улады і гэтым самым даць арганізаваны палітычны адпор, прыбягаючы таксама і да мер узьдзейнічаньня ў адміністрацыйным і судовым парадку ў дачыненьні да паасобных выступленьняў клясавага ворага.

Гэтая справаздачна-праверачна-перавыбарчая кампанія павінна быць генэральным аглядам дзейнасьці саветаў і глыбокім узварушэньнем і ажыўленьнем усяе працы саветаў. Таму да актыўнага ўдзелу ў кампаніі павінны быць пагалоўна прыцягнуты ўсе рабочыя, батракі і бядняцка-серадняцкія масы выбаршчыкаў, для чаго ў мэтах іх актывізацыі загадзя прапрацаваць арганізацыйныя задачы кампаніі, а таксама своечасова вырашыць такія важнейшыя пытаньні як абгаварэньне працы саветаў і высьвятленьне іх новых задач, вызначэньне кандыдатур у склад новага савету, распрацоўка наказаў на нарадах, конфэрэнцыях і сходах профактыву, на рабочых сходах, на сходах і конфэрэнцыях батрацтва, груп беднаты і батрацка-бядняцкіх сходаў, якія павінны быць папярэдне праведзены ў зьвязку з кампаніяй на кожным выбарчым вучастку, прыцягнуўшы ў дапамогу да іх правядзеньня пад кіраўніцтвам партыі комсамол, батрацка-бядняцкі актыў і савецкі актыў вясковае інтэлігенцыі.

Неабходна разгарнуць шырокую падрыхтоўчую працу сярод жанчын работніц, батрачак, бяднячак і актывістак-серадначак, а таксама сярод жанок рабочых і жанчын служачых. Трэба правесьці сходы жанчын, нарады актывістак, папярэднія справаздачныя сходы на ўсіх выбарчых вучастках. Неабходна правесьці шэраг практычных мерапрыемстваў, якія-б забясьпечылі найбольш поўны ўдзел працоўных жанчын у справаздачна-перавыбарчых сходах, напрыклад, арганізацыя брыгад нянек, часовых ясьляў, прыцягненьня да хатняга абслугоўваньня і нагляду за дзяцьмі піонэр-арганізацый і г. д. У першую чаргу ў справе поўнае яўкі працоўнае жанчыны на справаздачна-перавыбарчыя сходы павінны дапамагчы рэальнымі мерамі камісіі саветаў па палепшаньню быту і працы працоўных жанчын.

Сярод працоўных нацменшасьцяй побач з агульнай працай, якая будзе праводзіцца ў зьвязку з падрыхтоўкаю справаздачна-перавыбарчае кампаніі, неабходна правесьці яшчэ шэраг асобных палітычна-агітацыйных мерапрыемстваў, маючы на ўвазе, што сярод нацмен-

шасьцяй клясава-варожыя элемэнты карыстаюцца аружжам барацьбы супроць калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы, пропагандаю адзінага нацыянальнага фонду, імкнуючыся замазаць клясавыя супярэчнасьці гэтае барацьбы.

Вось чаму ў час падрыхтоўкі да справаздачна-перавыбарчае кампаіі ўсякаму манэўру варожых нам сіл трэба супроцьпаставіць моцную організацыю адзінага фронту рабочых, батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас усіх нацыянальнасьцяй. У пунктах з компактнымі масамі нацменшасьцяй трэба абавязкова вылучаць нацвучасткі, якія таксама павінны абслугоўвацца дакладчыкамі, матар'ялам і літаратурай на роднай мове гэтых нацменшасьцяй.

Для таго, каб кампанія сапраўды мобілізавала ўсе працоўныя масы пад лёзунгам соцыялістычнае рэконструкцыі краіны, суцэльнае калектывізацыі сельскае гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва як клясы, неабходна правесьці самую шырокую і ўсебаковую агітацыйна-пропагандыцкую працу праз культасьветныя ўстановы, тэатры, кіно, нардамы, клюбы, хаты-чытальні, чырвоныя куткі, радыё, праз выпуск лёзунгаў, плякатаў і інш. Цэнтральны мясцовы друк павінен удзяліць правядзеньню, высьвятляючы яе задачы і вынікі, найбольшую ўвагу, як мага шырэй павінны быць уцягнуты ўсе грамадзкія організацыі і ведамствы: профсаюзы, комсамол, Чырвоная армія, коопэрацыя, КСУ, цэнтральныя савецкія і культасьветныя ўстановы, кіно, радыё, працоўная вясковая інтэлігэнцыя і дэмобілізаваныя чырвонаармейцы. Трэба, каб кожная організацыя і ўстанова выконвала пэўную конкрэтную частку працы, што тычыцца кампаніі, актывізуючы свае масы выбаршчыкаў, што ўваходзяць у склад данай організацыі альбо якія абслугоўваюцца пэўнай установай ці ведамствам. Чырвоная армія праз свае кадры павінна ў першую чаргу глыбока і ўсебакова прапрацаваць і растлумачыць масе чырвонаармейцаў, а таксама перамен
ьнікаў і дапрызыўнікаў значэньне і задачы кампаніі, у максымальнай меры дапамагаючы правядзенью кампаніі сярод насельніцтва наогул, скарыстоўваючы свае культурна-політычныя сілы. Чырвоная армія павінна ў час перавыбараў паставіць і высьветліць перад выбаршчыкамі ва ўсю шырыню задачы ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны, азнаёміць працоўных з жыцьцём, бытам і падрыхтоўкаю чырвонаармейцаў. Як і ў мінулую перавыбарчую кампанію трэба скарыстаць практыку Чырвонае арміі па правядзеньні мітынгаў-пераклічак, пасылкі чырвонаармейскіх брыгад для ўдзелу і дапамогі ў правядзеньні перавыбараў на вёсцы.

На складаньне справаздач саветаў і іх дэпутатаў трэба зьвярнуць выключную ўвагу. Справаздачнасьць саветаў павінна ахапляць пытаньні ўдзелу саветаў у ажыцьцяўленьні пяцігодкі, калектывізацыі, абслугоўваньня рабочых, батрацкіх і бядняцкіх мас, сувязі саветаў з выбаршчыкамі і выкананьня іх наказаў. У справаздачах конкрэтна павінны быць вызначаны далейшыя практычныя мерапрыемствы, якія неабходна ажыцьцявіць саветам з пункту погляду тых новых задач, што стаяць цяпер перад саветамі. Справаздачы павінны быць загадзя падрыхтаваны і як сьлед прапрацаваны калектыўна пленумамі саветаў. Да справаздачнасьці перад выбаршчыкамі павінны быць прыцягнуты акрамя прэзыдыумаў саветаў, іх рэвізыйныя камісіі, таксама і ўсе радавыя дэпутаты, сэкцыі і камісіі саветаў. Неабходна загадзя вызначыць рабочыя цэнтры і цэнтры буйных калгасных аб'яднаньняў, на якіх паставіць справаздачы раённых, акруговых выканаўчых камітэтаў, а таксама і ўраду.

Рэвізыйныя камісіі павінны дасканала прарэвізаваць усю працу саветаў і іх камісій, удзел іх і кіраўніцтва ў справе калектывізацыі, выкананьня наказаў выбаршчыкаў, скарыстаньня рэалізацыі сродкаў самаабкладаньня, выкананьня каштарысаў і бюджэтаў. Разам з адпаведным саветам рэвізыйная камісія павінна рабіць падрабязныя даклады на кожным вучастку, праводзячы вынікі працы савету праз рэвізыю і аб тым, які прымалі ўдзел у рабоце саветаў самі рэвізыйныя камісіі. Праверку працы саветаў і іх камісій у гэтую кампанію трэба правесьці шырокім масавым парадкам з дапамогаю рабочых брыгад, лёгкае кавалерыі і прадстаўнікоў савецкае грамадзкасьці на вёсцы. Побач з гэтым выканкомы павінны ў зьвязку з кампаніяй разгарнуць шырокую абсьледвацельскую працу па вывучэньню дзейнасьці саветаў наогул, на ходу правядзеньня справаздачна-перавыбарчае кампаніі.

Надзвычайна адказнай і важнай справай зьяўляецца распрацоўка новых наказаў саветам. Тут перш за ўсё неабходна дасканала распрацаваць агульную палітычную частку гэтых наказаў такім чынам, каб былі яскрава, сьцісла і разам з гэтым вычэрпальна поўна вызначаны тыя новыя задачы, што стаяць перад саветамі на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва, характэрнейшымі рысамі якога зьяўляюцца: бурныя тэмпы разьвіцьця соцыялістычнай індустрыі, шырокай суцэльнай калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і конкрэтнае ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў па ліквідацыі кулацтва. Адначасова кожная акруга і раён павінны адбіваць у наказах і падкрэсьліваць тыя пытаньні і задачы, якія маюць найбольшае значэньне ў даных мясцовых умовах. Конкрэтная частка наказаў саветам павінна складацца з поўным улікам запатрабаваньняў выбаршчыкаў і рэальнасьць іх выкананьня ў поўнай суадпаведнасьці з агульна-палітычнымі і гаспадарча-культурнымі задачамі, якія зараз стаяць перад намі. Наказы дэпутатам трэба прапрацаваць загадзя на сходах профактыву, батрацтва, беднаты, дэлегацкіх сходах жанчын. У конкрэтнай частцы наказаў павінны быць поўнасьцю вызначаны мерапрыемствы саветаў па калектывізацыі і раскулачваньню, выцясьненьню нэпманаў, рацыяналізацыі вытворчасьці, соцыялістычнай організацыі быту, абслугоўваньні рабочых і калгасьнікаў, палепшаньне масавае працы і сувязь саветаў з выбаршчыкамі, па конкрэтнаму гаспадарчаму, комунальнаму і культурнаму будаўніцтву.

Таксама надзвычайна важнай справай у надыходзячую справаздачна-перавыбарчую кампанію зьяўляецца падбор кандыдатур у пераабіраемыя саветы замест тых, якія будуць адклікаваны. Перш за ўсё падбор павінен быць строга клясавым,—з ліку рабочых, батракоў, беднаты і найбольш актыўных сераднякоў, удзельнікаў актывістых калгаснага будаўніцтва, шырока ўцягваючы ў саветы, і іх кіруючыя органы выехаўшых для сталае працы на вёску гарадзкіх рабочых. Самы процэс падрыхтоўкі кандыдатур павінен праводзіцца ў шырокім масавым парадку праз сходы батрацтва і беднаты, рабочыя брыгады і дэлегацкія сходы жанчын, сходы і нарады актывістаў, комсамолу, профэсыянальных і грамадзкіх організацый. Неабходна максымальна згуртаваць усе батрацка-бядняцкія масы выбаршчыкаў і выбаршчыц для рашучага адстойваньня высоўваемых імі ў організацыйным парадку кандыдатур у склад новых саветаў. Неабходна забясьпечыць значнае павялічэньне ў саветах колькасьці рабочых, батрачак, бяднячак і актывістак серадняччак у параўнаньні з мінулай перавыбарчай кампаніяй, а таксама рашуча павялічыць колькасьць высоўваемых у склад саветаў і іх кіруючых органаў рабочых і батракоў. Адначасова справаздачна-перавыбарчая кампанія павінна быць максымальна выкарыстана

для выяўленьня найлепшых кадраў рабочых і батрацка-бядняцкага нізавога актыву ўсіх нацыянальнасьцяй, вылучэньня іх у вышэйшыя органы ўлады замест вычышчаных бюрократычных, клясава-варожых і соцыяльна чужых элемэнтаў. Запрашаньне ўсіх выбаршчыкаў на справаздачна-праверачныя перавыбарчыя сходы, як правіла павінна рабіцца спэцыяльнымі позвамі, якія павінны быць сваячасова і ў дастатковай колькасьці падрыхтаваны і ўручаны выбаршчыкам не пазьней як за 2—3 дні да сходаў. У часе справаздачна-перавыбарчае кампаніі павінна быць шырока разгорнута соцыялістычнае спаборніцтва, у справе лепшага правядзеньня справаздачнасьці і перавыбараў у раёне, савеце, на вучастку паміж саветамі, раёнамі, акругамі, паміж паасобнымі організацыямі, прадпрыемствамі і ўстановамі.

Такім чынам пад лёзунгамі перабудовы працы саветаў у вызначаным вышэй напрамку, якія забясьпечваюць пасьпяховае выкананьне саветамі, пастаўленых партыяй новых задач соцыялістычнага будаўніцтва, неабходна правесьці надыходзячую справаздачна-праверачную і перавыбарчую кампанію саветаў—у асоба ўдарным парадку, прыцягваючы ўвагу і ўдзел, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, усіх пролетарскіх, батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас нашае краіны.

На даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва саветы павінны быць узмоцнены і падабраны ў сваім соцыяльным складзе так, каб усё гэта магло поўнасьцю забясьпечыць правядзеньне суцэльнае калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і ліквідацыю кулацтва як клясы.

---

Н. Канаплін

# Гісторыя і палітычны сэнс аднае провокацыі

## (Да пытаньня аб здарэньнях на К.-У. Ч.)

Конфлікт на КУЧ, разьвіцьцё падзей з часу захопу чыгункі, да вырашэньня конфлікту паказалі, які шырокі дыяпазон мела гэта буйнейшае міжнароднае здарэньне. З самага пачатку разьвіцьця конфлікту на Далёкім Усходзе стала ясна, што яго трэба разглядаць у агульнай сувязі з усімі міжнароднымі абставінамі, што гэтыя здарэньні ніякім чынам ня могуць быць разглядаемы, як зьявы, якія бяруць свой пачатак і ўпіраюцца вынікамі ў характар нашай далёка-ўсходняй палітыкі. Так хацеў прадставіць справу ўрад кітайскіх генэралаў і рэакцыянэраў, аб гэтым на ўвесь сьвет пракрычаў друк імпэрыялістых, якія нябачна стаялі за сьпінамі кітайскіх захопнікаў і кіравалі іх дзеяньнямі, да хору гэтых провокацыйных галасоў далучыла свой піскілівы дыскант і міжнародная соцыял-дэмократыя.

З першых-жа дзён узьнікненьня савецка-кітайскага конфлікту, апошні разглядаўся ўсімі рэволюцыйнымі рабочымі і працоўнымі ўсяго сьвету, як буйнейшае зьвяно ў адзіным ланцугу імпэрыялістычнае падрыхтоўкі да вайны за разгром і зьнішчажэньне СССР—гэтага буйнейшага фактара падрыву капіталістычнага сьвету.

Зусім зразумела таму, што здарэньні на КУЧ сталі выпробным каменем, на якім вызначалася лінія паводзін любое партыі, любое групы ў пытаньнях вайны капіталістычных дзяржаў, супроць краіны дыктатуры пролетарыяту.

Барацьба навокала пытаньня аб КУЧ зьявілася надзвычайна сур'ёзнай гістарычнай праверкай як для сусьветнага пролетарыяту, так і для сусьветнай імпэрыялістычнай буржуазіі з партыямі соцыял-імпэрыялізму, соцыял-фашызму, якія знаходзяцца на яе ўтрыманьні. Але здарэньні на КУЧ зьяўляюцца адначасна і выяўленьнем барацьбы ў сярэдзіне лягеру кітайскае контр-рэвалюцыі, сьведчаць аб нарастаньні рашаючых рэволюцыйных боек у Кітаі, а таксама ўскрываюць унутраны сэнс барацьбы імпэрыялістых за ўплыў у Кітаі, за прыгнечаньне шматмільённага народу.

Сапраўды мірная палітыка Савецкага ўраду, мірны характар уладжаньня конфлікту паказаў яшчэ раз усяму сьвету, што дзяржава дыктатуры пролетарыяту зьяўляецца адзінай дзяржавай, якая на справе паважае правы іншых народаў, якая сапраўды захоўвае сувэрэнітэт Кітаю. Вырашэньне гэтага конфлікту Савецкай дзяржавай і паводзіны кітайскае ваеншчыны ў гэтым пытаньні паказалі, што краіна саветаў, якая гатова рашуча і сур'ёзна абараняць свае правы і заваёвы, ні ў малым стопню не праводзіць захопніцкае палітыкі.

Працоўныя Кітаю і іншых краін на доўгім ланцугу здарэньняў маглі наяўна ўпэўніцца, што акт 10-га ліпеня 1929 г., які зроблены

рукамі катаў кітайскіх рабочых і сялян, служыць інтарэсам варожым Кітаю, інтарэсам тых, хто ўсяк імкнецца зьвярнуць гэту краіну ў сваю колёнію.

* * *

Для таго, каб конфлікт на Далёкім Усходзе паўстаў перад намі ў належным асьвятленьні, неабходна каротка застанавіцца на тым, што ўяўляла раней і ўяўляе сабой КУ чыгунка пасьля рэволюцыі. Гэтая чыгунка была пабудована царскім урадам на мяжы 19-20 стагодзьдзя. Гэта adносіцца да тае эпохі, калі ў выніку вайны Кітаю з Японіяй увесь імпэрыялістычны сьвет убачыў слабасьць адсталага і разьбітага Кітаю. Міжнародныя акулы пачалі дыплёматычную і экономічную барацьбу за сфэры ўплыву ў Кітаі, за атрыманьне прывілей, за магчымасьць эксплёатацыі багацьцяў краіны, за прыгнечаньне кітайскіх працоўных. Царская Расія ў гэтым прадпрыемстве грала не апошнюю ролю. Наадварот, царскі ўрад аж да паражэньня ў руска-японскай вайне досыць моцна ўмацаваўся ў Кітаі і фактычна пад рознымі прычынамі окупаваў амаль усю Манчжурыю, галоўным чынам—Паўночную. Пабудова чыгункі і цэлы шэраг іншых згоджаньняў царскага ўраду з Кітаем давалі магчымасьць зьвярнуць чыгунку ў зброю і апору імпэрыялістычнае экспансыі расійскага ўраду на Далёкім Усходзе. Зусім зразумела, што на такое выгоднае мерапрыемства царызм не шкадаваў грошай, здабытых на эксплёатацыі рабочых і сялян. Выдаткаваўшы на пабудову чыгункі каля паловы мільярду рублёў, царскі ўрад лічыў сваім законным правам накласьці лапу ня толькі на самую чыгунку, але і аўладаў вялізнай зонай каля яе, паслаў туды свае войскі.

У паласе адчужэньня, дзейнічалі *толькі расійскія законы*, судзілі *толькі царскія суды*, кіравалі ўсім жыцьцём чыгункі *толькі рускія чыноўнікі*, „парадак“ устанаўляла *толькі царская поліцыя*.

Апрача чыста вайсковых стратэгічных разьлікаў царызму на Далёкім Усходзе, КУЧ была, бязумоўна, сродкам значнага экономічнага ўплыву на Паўночную Манчжурыю. У гэтых адносінах становішча рэчаў падрыхтоўвала глебу для поўнае анэксіі гэтае часткі Манчжуры.

Але і пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі у пэрыод грамадзянскае вайны, КУЧ знаходзілася ў руках белагвардзейцаў, якім дапамагалі і ўсяк садзейнічалі імпэрыялістычныя інтэрвэнты. Аж да заключэньня савецка-кітайскае згоды, у 1924 г., фактычным гаспадаром зьяўлялася група дзялкоў з уцёкшых у свой час у Парыж удзельнікаў б. Руска-Азіяцкага Банку, цераз які некалі царскі ўрад прадстаўляў свае інтарэсы.

Француцкі ўрад адчуў ласы кавалак і актыўна заняўся, пры садзейнічаньні француцкіх акцыянэраў чыгункі, распрацоўкай пляну „рэорганізацыі“ спраў на КУЧ. Ня менш справаю захопу чыгункі былі заняты і П. А. З. Ш. [1]), якія гралі кіруючую ролю ў арганізаваным

---

[1]) Першая спроба выкарыстаць КУЧ, як зброю барацьбы супроць Савецкае дзяржавы і паказаць свой прыорытэт у пытаньнях эксплёатацыі чыгункі, была праяўлена П. А. З. Ш. у сакавіку 1918 г. У аднэй з апублікаваных інтэрвэнтамі дэкляраций гаворыцца: „Саюзныя дзяржавы, якія натхнены шчырым жаданьнем дапамагчы рускаму народу, і ў адпаведнасьці са згодай, дасягнутай між імі, прадстаўнікамі Расіі (і. к. белымі —*Н. К.*) рашылі адбудаваць дзейнасьць КУЧ... шляхам зьдзяйсьненьня... пляну нагляду за паказанымі чыгункамі ў раёнах, дзе саюзныя вайсковыя сілы цяпер дзейнічаюць“. Далей гаворыцца аб організацыі агульнага нагляду цераз асобны міжнародны камітэт, які складаецца з прадстаўнікоў кожнае саюзнае, у тым ліку і Расіі (чытай: Расіі белых—*Н. К.*), дзяржавы, якая мае вайсковыя сілы ў Сібіру“.

інтэрвэнтамі на Далёкім Усходзе „міжсаюзным камітэце па чыгунач-ных перавозках“.

Але і Японія не аставалася. Яна прымала ўсе меры да таго, каб падначаліць дарогу свайму ўплыву. У 1922 годзе ёй удаецца заклю-чыць згоду з Кітаем, які прадастаўляе Японіі вялізарныя экономічныя выгады. Так цягнулася да 1924 году.

На працягу ўсяго гэтага часу КУЧ была выкарыстана рознымі бела-гвардзейскімі групамі, якія ўтваралі на ёй сваю вайсковую базу, а з другога боку—сваімі рабаўнічымі мэтодамі гаспадараньня руйнуючы чыгунку, бралі сродкі на барацьбу з Савецкай дзяржавай.

Антысавецкая дзейнасьць белагвардзейскага праўленьня чыгункі выяўлялася, апрача таго, у падтрыманьні белага друку і ў сталым про-вакаваньні кітайскае ўлады супроць грамадзян і ўстаноў савецкае дзяржавы. Ня менш варожа гэтая дзейнасьць выяўлялася і ў адносі-нах інтарэсаў Кітаю. Здаючы японцам у арэнду зямельныя пляцы, праўленьне чыгункі гэтым самым дапамагала ўзмацненьню ўплыву японскага імпэрыялізму ў Кітаі. У свой час харбінскія газэты выкры-лі дзейнасьць белагвардзейца Міхайлава, які атрымаў ад японцаў за „паслугі“ хабар у некалькі сот тысяч рублёў.

Апрача таго, незадоўга да заключэньня савецка-кітайскае згоды аб КУЧ, праўленьне чыгункі рыхтавалася заключыць умову з Японіяй. Калі ўжо адбываліся перамовы Савецкага Саюзу з Кітайскім урадам аб заключэньні ўмовы, імпэрыялістыя яшчэ раз паспрабавалі ўплыць на Кітай. Зьявіліся розныя камісіі і дэлегацыі японцаў і амэрыканцаў, якія разьяжджалі па лініі КУЧ і рабілі ціск на кітайскую ўладу.

Інтэрвэнцыяналісцкія імкненьні імпэрыялістаў у Кітаі, якія, у асаблі-васьці, потым праявілі ўсю сваю зусім нядвухсэнсную існасьць, былі накіраваны да таго, каб не дапусьціць кітайскі ўрад да згоды з Са-вецкім Саюзам. Але інтрыгі, гэтак званых, вялікіх дзяржаў і іх заля-цаньні да Кітайскае буржуазіі не маглі супроцьстаяць адчыненай, су-мленнай, якая пазбаўлена ўсялякае захопніцкае тэндэнцыі, політыцы Савецкай дзяржавы.

Яна першая выступіла з адмаўленьнем ад няроўнапраўных умоў з адмаўленьнем ад экстэрытарыяльнасьці і іншых прывілей. Дзяржава дыктатуры пролетарыяту зьяўляецца першай дзяржавай у сьвеце, якая загаварыла з кітайскім народам моваю павагі другое нацыі, моваю роў-нага з роўным. Савецкі ўрад, які імкнуўся ўстанавіць прыязныя адно-сіны з прыгнечанымі народамі ўсяго сьвету, ужо ў сваіх дэкларацы-ях 1919 і 1920 г. г., будучы яшчэ адрэзаны ад Кітаю фронтам гра-мадзянскае вайны, зьвярнуўся з адозвай да кітайскага народу, дзе, ра-шуча адмяжоўваючыся ад старое політыкі рускага імпэрыялізму, скон-чыў з політыкай падману і гвалту мінулага.

Асноўныя прынцыпы нашае політыкі ў адносінах да Кітаю былі выяўлены ў спэцыяльнай дэклярацыі ад 25-га ліпеня 1919 году, скла-дзенай пры непасрэдным удзеле тав. Леніна.

У гэтай дэклярацыі гаворыцца аб тым, што наш урад „адмаўляецца ад атрыманьня з Кітая контрыбуцыі за боксерскае паўстаньне 1900 г..., зьніштажае ўсе асобныя прывілеі, усе факторыі рускіх гандляроў на кітайскай зямлі“. „Ніводзін рускі ўрадовец, поп і місыянэр,—гаво-рыцца далей у гэтай дэклярацыі,—ня сьмее мяшацца ў кітайскія спра-вы, а калі ён зрабіў злачынства, то павінен судзіцца па справядлі-васьці мясцовым судом. *У Кітаі не павінна быць іншай улады, інша-га суду, як улада і суд кітайскага народу*“... (курсыў наш—*Н. К.*).

„Савецкая Расія,—заяўляе дэклярацыя,—пасьля неймаверных вы-сілкаў ідзе на Ўсход цераз Урал не для гвалту, не для зьняволеньня,

не для заваёў. Мы нясем вызваленьне народу ад прыгнёту чужаземнага штыка, ад няволі чужаземнага золата, якім душаць прыгнечаныя народы Усходу і ў ліку іх у першую чаргу—кітайскі народ“.

Гэта дэклярацыя паказала кітайскаму народу, што „адзіным яго хаўрусьнікам і братам у барацьбе за свабоду зьяўляецца рускі рабочы і селянін і яго Чырвоная армія“.

Далейшыя ўзаемаадносіны і політыка савецкага ўраду паказалі, што ўрад саюзу *ніколі яшчэ не адступаў ад асноўных прынцыпаў паказанае дэкляарацыі* і, як аднатаваў тав. Рыкаў у сваёй прамове на 1-м Абласным зьезьдзе Саветаў 21-га верасьня 1929 г., *ніколі не адступіць.* (Курсыў наш—*Н. К.*). Апошняя акалічнасьць, як нельга лепш, была даведзена лініяй паводзін савецкага ўраду ў часе апошняе адчыненае провакацыі на Далёкім Усходзе. Ня гледзячы на ўсе стараньні ўцягнуць СССР у вайну, вывесьці яго з цярплівасьці, паставіць нашу краіну ў становішча нападаючага боку, рабоча-сялянскі ўрад і рабочая кляса Саюзу не далі сябе справакаваць, з гонарам вытрымалі выпыт, рашуча паставілі на месца зарваўшыхся белабандытаў і кітайскую ваеншчыну, якая нападала на нашу тэрыторыю і шкодзіла будаўніцтву соцыялізму, паказалі выключны прыклад магчымасьці мірнага вырашэньня зацягнуўшагася конфлікту.

* * *

Пераломным годам у адносінах між СССР і Кітаем зьяўляецца 1924 г., калі была падпісана савецка-кітайская ўмова, пасьля чаго аднавіліся нормальныя дыплёматычныя адносіны між названымі краінамі.

Умова 1924 году і далейшыя згоды ў яе разьвіцьці яшчэ раз падкрэсьлілі позыцыю савецкага ўраду, якая была выяўлена ў ранейшых дэклярацыях і нотах Н. К. Ч. С. Ад гэтага часу КУЧ прызнаецца прадпрыемствам *выключна комэрцыйнага характару*, усе пытаньні публічна-прававога характару аднесены да компэтэнцыі кітайскае ўлады, *у будучым лёс КУЧ вызначаецца толькі Кітаем і СССР* бяз допуску перашкоды з трэцяга боку; разам з тым ўрады абодвых краін пагаджаюцца ануляваць усе ўмовы аб конвэнцыі, якія былі заключаны між былым урадам Кітаю і царскім урадам і замяніць іх новымі ўмовамі на грунце роўнасьці, узаемнасьці і справядлівасьці. КУЧ, такім чынам, абярнулася з рускае концэсіі ў агульнае прадпрыемства СССР і Кітаю, якое знаходзіцца ў сумесным парытэтным савецка-кітайскім кіраўніцтве. Абодва бакі маюць аднолькавы лік прадстаўнікоў у праўленьні чыгункі, якая і вырашае ўсе пытаньні па згодзе савецкай і кітайскай частак. Усе пытаньні, якія выклікаюць разнагалосьсі, перадаюцца на вырашэньне ўраду. На чале праўленьня стаіць старшыня—кітаец, да яго даданы таварыш старшыні—савецкі грамадзянін; кіраўніком дарогі зьяўляецца савецкі грамадзянін, яго памочнік—кітаец.

Пункт 2-гі згоды скарачае прадугледжаны старым контрактам тэрмін з 80 да 60 год, па сканчэньні якіх урад Кітаю ўступае дармова валаданьне чыгункай і належачай ёй маемасьцю. Згода ідзе яшчэ далей: яна прадугледжвае, пры наяўнасьці згоды абодвых бакоў, абгаварэньне пытаньня аб далейшым скарачэньні 60-гадовага тэрміну.

І, нарэшце, згода прызнае, што, ня гледзячы на тое, што чыгунка будавалася выключна на расійскія скарбовыя сродкі, чысты прыбытак ад эксплёатацыі чыгункі разьмяркоўваецца, пачынаючы з 1927 году, паміж абодвымі бакамі пароўну.

Гэтак СССР зьвярнуў КУЧ з коленіяльнага прадпрыемства ў справу адчыненае згоды і супрацоўніцтва двух народаў, вылучыўшы з асадак гэтага супрацоўніцтва ўсё, што йшло ў разрэз з інтарэсамі Кітая і заставіла толькі тое, што было створана ў выніку жорсткае эксплёатацыі працоўных мас Старой Расіі.

Гэтая ўмова дала магчымасьць кітайцам упяршыню ўсьвядоміць сябе сапраўднымі гаспадарамі ў Харбіне. Весткі аб умове былі спатканы кітайскай грамадзкасьцю з вялікім захапленьнем.

Аднаўленьне правоў СССР на КУЧ адчыніла перад нашай краінай шырокія пэрспэктывы экономічнага і політычнага супрацоўніцтва з Кітаем. „З гэтага часу,—заявіў тав. Карахан, характарызуючы пераход чыгункі да сумеснага кіраўніцтва СССР і Кітая,—Савецкі Саюз становіцца цьвёрдай нагой на Далёкім Усходзе, займаючы адну з важнейшых позыцый, якую імпэрыялістычныя дзяржавы спрабавалі адабраць ад яго. Нам прадстаіць доўгая сумесная работа з кітайскім народам, каб з дапамогай узаемнага падтрыманьня разьвіць экономічныя, політычныя і культурныя зносіны...

За некалькі год сумеснага з кітайцамі кіраўніцтва чыгункай праведзены шэраг мерапрыемстваў, якія паказваюць, што ў асобе СССР кітайскі народ набыў сапраўднага прыяцеля, які гатовы кожную хвіліну дапамагчы яму ў барацьбе за нацыянальнае, экономічнае і політычнае вызваленьне. Гэтыя абставіны былі асабліва ўлічаны Сун-Ят Сэнам, які перад сваёй сьмерцю пакінуў нават політычны тэстамэнт у форме звароту да ЦВК СССР.

„Я адказаў,—гаворыцца ў гэтым дакумэнце,—Гоміндану (у той час яшчэ не контр-рэволюцыйны—*Н. К.*), працягваць справу нацыянальнага вызваленчага руху аж да поўнага вызваленьня Кітаю. З гэтай мэтай я даручыў партыі быць у сталым контакце з Вамі. Я цьвёрда веру ў нязьменнасьць падтрыманьня, якое Вы дагэтуль рабілі маёй краіне. Вітаючыся з вамі, дарагія таварышы, я хочу спадзявацца, што хутка надыйдзе дзень, калі СССР будзе вітаць у магутным свабодным Кітаі прыяцеля і саюзьніка і што ў вялікай барацьбе за вызваленьне прыгнечаных народаў сусьвету—абодвы саюзьнікі пойдуць да перамогі рука з рукой“.

У выніку сумеснага з кітайцамі кіраўніцтва чыгункай яна стала першаклясная магістральлю з вялікай прыбытковасьцю. Апрача таго, значна палепшаны матар'альныя і бытавыя ўмовы жыцьця рабочых і служачых бяз розьніцы нацыянальнасьці. Установлены штогодныя 2-х тыднёвыя адпускі для рабочых і служачых, якія праслужылі на чыгунцы ня менш 6 месяцаў. Ім-жа прадстаўлены шэраг кліматычных станцый для адпачынку. Заробак кітайскіх рабочых і служачых параўнаны з такім-жа іншых нацыянальнасьцяй. На КУЧ праведзен 8-гадзінны рабочы дзень. Аднак лёс КУЧ увесь час заставаўся цесна перапляценым з агульнай політычнай сітуацыяй на Далёкім Усходзе і ва ўсім сьвеце. Імпэрыялістыя не заспакоіліся, і пасьля падпісаньня савецка-кітайскіх згод яны працягвалі натужваць усе свае сілы для зрыву іх практычнага правядзеньня ў жыцьцё. Раней усіх узрушылася Францыя, якая не забыла аб сваіх прэтэнзіях на КУЧ на грунце падложных дакумэнтаў самазванцаў з Руска-Азіяцкага Банку і заявіўшыя Пекінскаму ўраду протэст. Надзвычайна характэрнай рысай у адносінах капіталістычных урадаў да статуту на КУЧ зьяўляецца руплівасьць, якая была праяўлена „прыязнымі“ дзяржавамі да лёсу арыштаваных у Харбіне кітайскай уладай, был. кіраўніка чыгункай белагвардзейца Астраумова і яго супрацоўніка Гондаці. Прадстаўнікі ПАЗШ, Англіі, Японіі і Францыі палічылі неабходным выступіць нават з рэзкім про-

тэстам і патрабавалі ад Чжан-Цзо-Ліна іх вызваленьня. Ці ня праўда,—крыху падазронае хадайніцтва, якое выдае з галавой сувязі дзяржаў з белагвардзейцамі.

Не магла раўнадушна прайсьці паўз красаваўшую КУЧ і бліжэйшая яе суседка Японія. Яна—гаспадар становішча ў Паўднёвай Манчжурыі—лічыла сябе адзіным прэтэндэнтам на пашырэньне экономічнага і політычнага ўплыву і на тэрыторыю Паўночнае Манчжурыі. Зусім зразумела, што ўсялякі конфлікт СССР з Кітаем, які мог адцягнуць зьдзяйсьненьне згоды, павінен быў уяўляцца Японіі выратоўчым якарам. Кажуць, што апэтыт прыходзіць у часе ежы. Так адбылося і з кітайскай ваеншчынай. Красаваньне КУЧ, хуткая ліквідацыя ранейшай яе дэфіцытнасьці, яе значная прыбытковасьць паказаліся надзвычайна ласым кавалкам, якім у першую чаргу спакусіўся былы дыктатар Манчжурыі, да таго-ж надзвычайна заахвочваемы Японіяй,—Чжан-Цзо-Лін. І калі ў першы час Чжан адносіўся да ўтварэньня конфліктаў стрымана, то гэта тлумачыцца толькі ўплывам вайны, якую Чжан-Цзо-Лін веў з другім паўночным мілітарыстам У-Пэй-Фу. Чжан разумеў, што ўсялякае абвастрэньне адносін з СССР толькі затрымае ўзмоцненае разьвіцьцё яго вайсковых чыннасьцяй супроць свайго ворага. У далейшым ужо пасьля разгрому У-Пэй-Фу, Чжан-Цзо-Лін ня змог ня выявіць свайго сапраўднага твару рабаўніка. Але ён паказаў таксама, што дзейнічае не самастойна, а што за яго плячыма стаіць Японія. Гэта асабліва акрэсьлена выявілася ўлетку 1925 г., калі Чжан-Цзо-Лін у часе конфлікту на КУЧ па пытаньню аб звальненьні з чыгункі белых, пасылаў у Японію свайго радцу для згод з японскім урадам у сувязі з тымі напружанымі адносінамі паміж Чжан-Цзо-Лінам і СССР, якія ўтварыліся ў той час. Гэтага не захоўвалі і кітайскія газэты. Неаднаразовыя інтэрвью Чжана з прадстаўнікамі японскіх газэт аб становішчы на КУЧ таксама сьведчаць аб тым, што лёс гэтага мілітарыстага шчыльным чынам быў зьвязаны з японскімі мілітарыстамі.

* * *

З 1924 году падрыхтоўка захопу КУЧ становіцца зусім відавочнай. Зусім відавочна таксама, што далейшаму абвастрэньню супярэчнасьцяў на Далёкім Усходзе садзейнічала разьвіцьцё і паглыбленьне нацыянальна-рэволюцыйнага руху ў Кітаі. Бязумоўна, што гэта выклікала і далейшую актывізацыю антысавецкае работы імпэрыялістых. Рэакцыя, якая адбылася зараз за здрадай Гоміндана і буржуазіі справе нацыяльнае рэволюцыі, яшчэ больш акрыліла ўсіх, хто імкнуўся прыкласьці рукі да зрыву савецка-кітайскіх адносін. Налёт Чжан-Цзо-Ліна на пасольства СССР у Пекіне, напад белагвардзейскіх малайцоў на Савецкае консульства ў Шанхаі, зруйнаваньне нашага консульства ў Кантоне, забойства шэрагу працаўнікоў консульства, разрыў Нанкінскага ўраду з СССР—гэта толькі найбольш яскравыя этапы жорсткае барацьбы імпэрыялістых супроць нашага ўплыву ў Кітаі.

Міжнародная буржуазія з кожным годам усё больш упэўнівалася ў тым, што Кітай зьяўляўся і зьяўляецца плацдармам надзвычайна ўпартых авангардных рэволюцыйных боек, што блізкасць цытадэлі сусьветнае рэволюцыі—Савецкага Саюзу—зьяўляецца надзвычайна небясьпечнай перашкодай у зьдзяйсьненьні сваіх захопніцкіх задумаў. Таму СССР трапляе ў сфэру контр-атакі міжнароднага імпэрыялізму, які ўсяк імкнецца ізоляваць уплыў савецкае дзяржавы на Далёкім Усходзе.

Скомпромэтаваць мірную політыку Савецкага Саюзу, паказаць, што рэволюцыйны рух у Кітаі разьвіваецца ў выніку „Савецкіх інтрыг“ і

„агітацыі бальшавіцкіх агэнтаў“—вось, што было ўключана ў парадак дню. Ліхманкава рыхтуючыся да агрэсыўных дзеяў у адносінах да СССР, імпэрыялістыя пракрычалі на ўвесь сьвет аб „чырвонай небясьпецы“, чырвоным імпэрыялізьме. Зварачаюцца да апрабованых, праўда, жыцьцём адкінутых—на першы час дзейнічаючых на некаторых атрутным чынам, сродкаў—зьяўляюцца груба падробленыя „дакуманты“, вынаходзяць „паседжаньні III Інтэрнацыяналу“. Усё гэта павінна было зрабіць уражаньне, быццам консульства СССР і КУЧ зьяўляюцца асяродкамі комуністычнае пропаганды [1]).

Трэба толькі дзівіцца, як пасьля чарговага правалу ў гэтай бруднай справе падтасоўкі палітычных карт, пасьля правалу провакацыі на КУЧ, да гэтых-жа брудных сродкаў зварачаецца ўжо ў апошні час буржуазны і соцыял-фашысцкі друк Нямеччыны. Але прырода імпэрыялістычнае буржуазіі і соцыял-фашызму ўсюды аднолькава, таму і мэтоды барацьбы супроць нарастаючай міжнароднай рэволюцыі адрозьніваюцца знаёмымі рысамі. Як відаць, нічога новага ня маюць ужо здольнасьці прыдумаць ворагі рабочае клясы, а таму—і старыя сродкі зьяўляюцца добрымі.

Як у свой час у Ангельшчыне, потым у Кітаі, гэтак і цяпер у Нямеччыне, анты-савецкая кампанія ўпіраецца ў пытаньне аб выабражальнай сувязі савецкіх гаспадарчых організацый у Нямеччыне з Нямецкім комуністычным рухам. Напружаныя нямецкія буржуа, ужо „вынайшлі“ ў памяшканьнях нашых гаспадарчых організацый, галоўным чынам, у гандлёвым прадстаўніцтве—„ударныя атрады нямецкіх комуністых“. Некаторыя газэты ўпэўніваюць палахлівага абывацеля і паведамляюць яму сэнсацыйную вестку аб тым, што ў Нямеччыну зьявіліся „рускія агітатары, якія пераходзяць з падробленымі дакумантамі мяжу“ і г. д. Трэба думаць, што ўвесь гэты шум дазволіць хутчэй правесьці ў жыцьцё новы закон аб абароне рэспублікі, закон яўна рэакцыйны, які ставіць пад удар комуністычную партыю Нямеччыны і ўвесь нямецкі рэволюцыйны пролетарыят.

Таксама СССР у свой час абвінавачваўся ў падрыхтоўцы захопу Манчжурыі, Кітайскага Туркестану, Унутранай Манголіі і г. д.

Ня гледзячы на протэст нашага ўраду з прычыны парушэньня Нанкінам і Мукдэнам норм міжнароднага права, ні Мукдэнскі ні Нанкінскі ўрады ня сьцішыліся і не пакідалі свае антысавецкае кампаніі, якая прывяла да захопу КУЧ і разрыву дыплёматычных зносін.

* * *

Чым-жа аб'ясьніць такое пэрманэнтнае аднабаковае парушэньне за апошнія гады кітайскай рэакцыяй дабраахвотна заключаных згод. Як зразумець адмаўленьне нанкінскіх і мукдэнскіх катаў над працоўнымі ад самых прымітыўных дыплёматычных норм і пераход да палітыкі наглага вызаву, які, калі-б на месцы СССР была капіталістычная дзяржава, скончыўся-б вайной з наступнымі анэксыямі і контрыбуцыямі.

Кітайская рэакцыя, выконваючы волю імпэрыялістычных гаспадароў, надзвычайна добра разумела, што савецкі ўрад верны сваёй міралюбівай палітыцы, вайны не абвесьціць і да рэпрэсый, якія абмяжоўваюць

---

[1]) Нядаўна, ужо пасьля ліквідацыі конфлікту, Харбінскі дыплёматычны камісар Цай, ад імя Кітаю падпісаўшы Хабараўскі пратакол, у часе публічнага дакладу ў Фудзядане, зрабіў сэнсацыйную заяву, якая выдае вінавайцаў провакацыі з галавой. Цай сказаў:— „Вобыск у савецкім консульстве адбыўся нечакана для мяне: потым я даведаўся, што, справа ўзьнікла па тайнаму даносу асобы, якая была падкуплена з нашага боку,—за 15000 доляраў. (Гл. „Известия“ № 25—1930 г.).

суварэнныя правы Кітаю, ня прыбегне, а з другога боку ўсякі акт абароны СССР сваіх межаў у выпадку нападу з кітайскага боку і Кітаем, і міжнароднай буржуазіяй быў-бы вытлумачаны і фактычна-б тлумачыўся як парушэньне пакту Кэлёга, як праява чырвонага імпэрыялізму. Але правакацыя мела яшчэ адну важнейшую задачу: пашкодзіць нашаму соцыялістычнаму будаўніцтву і адцягнуць увагу працоўных мас Савецкага Саюзу ад ваеннага нападу, які рыхтаваўся супроць яго.

Наш бурны рост, рашучы соцыялістычны наступ пролетарыяту на рэшткі капіталізму ў нашай краіне, ліквідацыя кулака як клясы—усё гэта вызывае, поруч з абвастрэньнем клясавай барацьбы ў нашай краіне, і ўзмоцнены націск капіталістычнага сьвету на краіну дыктатуры пролетарыяту. Сарваць наш рост, дэзорганізаваць нашу гаспадарку, унесьці непакой у сузнаньне шырокіх мас працоўных, паслабіць мацнеючы саюз рабочае клясы з шырачэзнымі масамі сялянства—гэта магло-б значна адцягнуць пагібель капіталістычнага сьвету. Капіталізм, які загнівае, прымушаны выдаткоўваць вялізарную колькасьць энэргіі для таго, каб прарваць фронт наступаючага міжнароднага пролетарыяту і зьніштожыць краіну будуючагася соцыялізму. Атуліць СССР цесным колам антысавецкага блёку, які гатовы па першаму вокліччу напасьці на нашую краіну, разрадзіць насычаную супярэчнасьцямі атмосфэру сусьветнага імпэрыялізму, спровакаваць, калі можна, СССР на вайну—вось асноўная мэта, якой у дадзеным выпадку ды і раней кіраваліся і будуць кіравацца сусьветныя акулы. Хто зробіць першы стрэл—гэта для іх зусім аднолькава. Імпэрыялістыя, апрача таго, меркавалі, што СССР, даючы рашучы адпор усякім нападам, не застановіцца перад далейшымі рэпрэсыямі, што магло-б уцягнуць у конфлікт шэраг капіталістычных краін. Апошнія, абвяшчаючы адзіны вайсковы саюз супроць савецкай дзяржавы, не застанавіліся-б перад абаронай сваіх інтарэсаў у Кітаі, окупавалі-б асобныя тэрыторыі ў Кітаі, і такім чынам, правялі б у жыцьцё сыстэму мірнае інтэрвэнцыі, а разам з тым вырашылі-б па-свойму пытаньне аб сфэрах уплыву.

Супроць такое „дапамогі“ нанкінскія і мукдэнскія мілітарыстыя не супярэчылі. Яны мелі на ўвазе, з дапамогай чужаземнага ўплыву, ліквідаваць агульнага ворага як кітайскай, так і заходняй буржуазіі—узрастаючы рэволюцыйны рух. Вось у асноўным палітычнае значэньне далёка-ўсходняе провакацыі.

* * *

Далёка-Ўсходні „вузел“ адначасна ўскрыў позыцыі і супярэчнасьці імпэрыялістых у Кітаі, расчыніў сэнс барацьбы ў самім Нанкіне. Вышэй часткова аб гэтых супярэчнасьцях ужо казалася. Паглядзім, якія-ж конкрэтныя позыцыі імпэрыялістычных дзяржаў у Кітаі. Застановімся толькі на асноўных момантах,—пачнем з Японіі. Раней за ўсё яна ставіць пытаньне аб Манчжурыі, якая мае вялізарнейшае значэньне для ўсяго лёсу японскага імпэрыялізму. Манчжурыя, як вядома, адыгрывае ролю сырцовае базы японскае прамысловасьці. Багатая вуглем, жалезам і лесам, яна можа на доўгія гады садзейнічаць разьвіцьцю японскае прамысловасьці. Ня менш важнай акалічнасьцю зьяўляецца і тое, што Манчжурыя ўсё больш набывае значэньне вялізарнага рынку і сфэры зьмяшчэньня японскага капіталу. Апошнія гады гаспадараньня японцаў у Манчжурыі зрабілі з яе амаль японскую колёнію. Чыгунка, марскія порты, шахты, радыё-станцыі, школы, больніцы і г. д. знаходзяцца пад контролем і кіраўніцтвам Японіі. Для „аховы сваіх спэ-

цыяльных інтарэсаў“ [1]) яна ўтрымоўвае сваю армію. Ня менш вабнымі для Японіі зьяўляюцца пэрспэктывы пашырэньня свайго ўплыву на вонкавую Манголію, Шандунь і даліну Янцзы. У гэтых пытаньнях Японія праводзіць надзвычайна настойлівую лінію, робіць дробныя і буйныя палітычныя манэўры, якія павінны ізоляваць яе інтарэсы ад другога буйнага драпежніка, які да апошняга часу ня меў сур'ёзных сфэр уплыву ў Кітаі—ПАЗШ. Пасьля падзеньня габінэту Танакі, Японія досыць крута мяняе сваю палітыку ў адносінах да Кітая. Як вядома, палітыка габінэту Танакі, які інсьпіраваў забойства Чжан-Цзо-Ліна, выклікала масавае нездаволеньне і жорсткі байкот з боку Кітаю. Новая палітыка Японіі падкрэсьлівае неабходнасьць прыязных адносін з Кітаем, дапамагаць яму праводзіць у жыцьцё яго „законныя жаданьні“. Тымчасам пра апошнюю акалічнасьць было надрукавана ў спэцыяльнай дэклярацыі, якая была выпушчана 9-га ліпеня 1929 г. Дата, як бачыць чытач, надзвычайна падазроная па сваёй блізкасьці да даты пачатку провакацыі на КУЧ. За некалькі месяцаў правядзеньня „новага курсу“ японскае палітыкі „мірнага“ падначаленьня свайму ўплыву Кітая, Японія грунтоўна падзарабіла. Так, напрыклад, пасыўнае сальдо па гандлю за першую палову 1928 г. раўнялася 231 мільёну іен, а за той-жа час 1929 г. яно дасягнула 276 мільёнаў іен [2]).

Аднак, лёгіка разьвіцьця здарэньняў на КУЧ і абвостраньне супярэчнасьцяў у самым Кітаі прымусілі Японію зноў перамяніць сваю палітыку, і ў барацьбе з нарастаючым уплывам у ПАЗШ на Нанкінскі ўрад яна ўтварыла паўночны генэральскі блёк, нават арганізавала пакушэньне на жыцьцё Чан-Кай-Шы і г. д. Гэта, з другога боку, вызывае ахладжэньне да Японіі з боку нанкінцаў і паглыбленьне супярэчнасьцяў паміж ПАЗШ і Японіяй. Падтрыманьне Японіяй у свой час гуаньсыніцкае клікі, а з цягам часу Фын-Юй-Сяна, Ён-Сі-Шаня, а таксама і Чжан-Сюэ-Ляна павінна быць расцэнена, як барацьба супроць Злучаных Штатаў, якія дамагаліся аб'яднаньня Кітаю пад кіраўніцтвам Нанкіна, утварэньня моцнае цэнтралізаванае дзяржавы, якая-б знаходзілася пад кантролем і „ідэёвым“ кіраўніцтвам ня розных імпэрыялістычных груп, а толькі яе—ПАЗШ.

Імкненьне Амэрыкі ўціснуць інтарэсы Японіі выявілася і ў тым, што калі Амэрыка выступіла з прапановай „пасрэдніцтва“, Японія ня была запрошана ўдзельнічаць у гэтым „мірным“ умешваньні трэціх дзяржаў. Праўда, Японія не асабліва засумавала ад такога „няветлівага“ дыплёматычнага ходу свае суперніцы, і высунула пытаньне аб такім самым „пасрэдніцтве“ зусім самастойна, зразумела бяз удзелу ў гэтай справе Злучаных Штатаў. Гэтае разыходжаньне інтарэсаў двух бакоў, якія вядуць барацьбу, расчыніла сур'ёзныя і глыбокія супярэчнасьці ў стане імпэрыялістых. Адгэтуль і пэўная іх тактыка ў адносінах да пытаньня аб КУЧ. У той час, як ПАЗШ увесь час штурхалі нанкінцаў на агрэсыўныя дзеі супроць СССР, высоўвалі плян „інтэрнацыяналізацыі“ дарогі, прасьцей кажучы, зьбіраліся ўзяць чыгунку пад свой „высокі“ нагляд і гэтым самым апынуцца ў надзвычайна няпрыемным суседзтве з японцамі ў Манчжурыі, апошнія зрабілі контрманэўр, які ўтварыў не малы эфэкт як у Эўропе, так і ў Кітаі. Японскі друк стаў выступаць супроць „незаконных“ дзеяў Нанкіна, заняўся выкрыцьцем гвалтаў над савецкімі грамадзянамі ў Кітаі. Зусім зразумела, што на дадзеным этапе барацьбы Японіі лепш мець на КУЧ

[1]) Па дагавору Вашынгтонскай конфэрэнцыі 1921 г. Японія прызнала правы Кітая на Манчжурыю, прыняўшы пункт аб тым, што Манчжурыя зьяўляецца часткай Кітаю. Але Японія настоіла на прызнаньні за ёю „спэцыяльных інтарэсаў у Манчжурыі“.

[2]) Іена—прыблізна 1 рубель.

блізкасьць з СССР, якая ніякімі інтрыгамі супроць яе не займаецца, чым ПАЗШ. Прасякненьне ў Манчжурыю нанкінцаў таксама зьяўляецца надзвычайна небясьпечнай рэччу, бо гэта роўназначна ўкараненьню ў Манчжуры амэрыканскага капіталу. Бязумоўна, што і ў далейшым пры ўзьнікненьні конфліктаў, паміж Паўночнымі провінцыямі і Нанкінам, Японія будзе стаяць, пакуль ня зьменіцца політыка сёнешніх „зьбіральнікаў“ Кітаю, на баку Мукдэна. Толькі ў гэтым і можна зразумець „мірны“ настрой Японіі ў конфлікце, які нядаўна скончыўся.

У справе барацьбы супроць амэрыканскага ўплыву Японія знайшла сабе хаўрусьніка ў асобе Англіі, якая таксама, вядучы барацьбу супроць амэрыканскага ўплыву, павінна была арыентавацца на сілы, накіраваныя супроць узмацненьня ўплыву Нанкіна, што правільней значыла—узмацненьне ПАЗШ. Інтэнсыўнасьць разьвіцьця „сымпатый“ апошняй да Нанкіну,—што ў перакладзе з мовы дыплёматычнае на мову фактычных, політыка-экономічных адносін, азначае інтэнсыўнасьць імпэрыялістычных тэндэнцый,—выклікае проста пропорцыянальную інтэнсыўнасьць разьвіцьця англа-японскага супрацоўніцтва. Але Англія мае свае спэцыфічныя інтарэсы ў Кітаі, якіх яна ня хоча ўпусьціць, і дзяліць іх ні з кім таксама ня зьбіраецца. Гэта, бязумоўна, вызывае супярэчнасьці і ў лягеры хаўрусьнікаў, што яшчэ больш ускладняе абставіны.

Боязьнь згубіць свой уплыў у Кітаі так нэрвуе Англію, што яна прымушана весьці падвойную політыку. З аднаго боку, падтрыманьне варожых Нанкіну і Чан-Кай-Шы груп [1],—так лепш узмацніцца хоць-бы ў асобных карысных для Англіі провінцыях,—з другога,—каб ня ўдарыць тварам у гразь перад сваім больш пасьпяваючым конкурэнтам Амэрыкай,—такое-ж прызнаньне Кітая дэ-юрэ, праўда, з некаторым спазьненьнем, такое-ж аб'яднаньне адмену (толькі абяцаньне) права экстэрыторыяльнасьці і шэраг іншых прыгожых і „добрых“ абяцаньняў, дадзеных за апошні час Нанкіну. Практыка выкананьня гэтых абяцаньняў паказала, што яны засталіся толькі абяцаньнямі. Але тыл ангельскага імпэрыялізму гэтым забясьпечыць можна. Пры любой зьмене сытуацыі Англія зможа зьвярнуцца да ўсіх сваіх абяцаньняў і пачаць выгодны дая сябе гандаль, а тым часам яна ўзмацняе свае вайсковыя базы ў Кітаі і рыхтуецца да „абароны“ правоў грамадзян Ангельшчыны ад „нечаканых эксцэсаў з боку дэзорганізаваных кітайцаў“. Трэба меркаваць, што гэта адначасна азначае і імкненьне паказаць свайму суперніку сваю моцнасьць у Кітаі, а таксама ўтварыць моцны кулак для ліквідацыі новага ўздыму кітайскае рэволюцыі, якая зьяўляецца ня менш небясьпечнай, чым пасьпяваючы імпэрыялізм Злучаных Штатаў. Апошнія зьяўляюцца ў Кітаі ўладарамі думак контр-рэволюцыі. Усебакова падтрымоўваючы цэнтралісцкія тэндэнцыі Нанкіна, Амэрыка б'е напэўна: такую, па-амэрыканскі злучаную адзіную дзяржаву, можна будзе, па-першае, лягчэй эксплёатаваць, а па-другое,—пазбавіцца ад усіх іншых капіталістычных конкурэнтаў.

Для выкананьня гэтае задачы Злучаныя Штаты залiваюць Кітай сваёй „культурай“, пазыкамі, тэхнічным абсталяваньнем. Побач з гэтым інтэнсыўна ідзе пабудова розных прадпрыемстваў, якія ў любы момант могуць быць выкарыстаны для *вайсковых мэтаў*. Орыгіналь-

[1]) Паводзіны Ангельшчыны ў часе барацьбы між Чан-Кай-Шы і гуансійскай клікай былі настолькі нядвухсэнсны, што шанхайскі абласны камітэт Гаміндану дэмонстраваў з лёзунгам, які кажа сам сабе: „Далоў мілітарыстых гуансійскае клікі—зброю ангельскага імпэрыялізму“ (глядз. „Камун. Інтэрнацыянал“ № 32—33 1929 г., стр. 54).

нае спалучэньне,—сваясаблівы плян Дауэса[1]) з падрыхтоўкай рэальнай вайсковай базы ў Кітаі, на выпадак будучай вайны ці новага нападу на СССР. Гэтая апошняя акалічнасьць зноў набывае першараднае значэньне, асабліва, калі прыняць пад увагу, што ў сваёй кітайскай політыцы ПАЗШ імкнуцца прыцягнуць на свой бок Нямеччыну, якая ў апошні час, вачавідкі, па паказцы нейкае, тагобочнае сілы, стала надзвычайна агрэсыўна выступаць супроць СССР. Калі-ж да гэтага далучыць адазваньне Мэксыкай, якая дзейнічае па паказцы амэрыканскага імпэрыялізму, свайго поўнамоцнага пасла ў СССР, і ўлічыць новы напад на кіраўніцтва КУЧ белабандытаў, што прарочыць новую провакацыю, то малюнак актывізацыі заантлянтычнае вялікае дзяржавы, якая дзейнічае „ў інтарэсах“ Нанкіна, таго самага Нанкіна, які ўвесь час тармазіў справу ўладжваньня конфлікту, стане зусім ясным.

Яшчэ ясьней стане політыка апошніх дзён, калі ўспомніць вядомае інтэрвью амэрыканскага радцы пры Нанкінскім міністэрстве чыгунак Мантэля, у якім ён даў весткі аб быццам-бы, стратным вядзеньні спраў на КУЧ і які заявіў у гэтым інтэрвью „аб недапушчэньні аднаўленьня старога становішча на КУЧ“. Праўда, у далейшым сам Мантэль, трэба меркаваць, ня толькі абвергнуты савецкім друкам, але інспыруемы сваім урадам павінен, быў адмовіцца ад гэтае літаратурнае провакацыі. Адмежавалася ад гэтага інтэрвью і афіцыйная амэрыканская ўлада, але прырода рэчаў дала сябе адчуць. Няўдалы манэўр амэрыканскага імпэрыялізму паказаў яшчэ раз, якімі белымі ніткамі шыты ўсе гэтыя бясконцыя комбінацыі супроць Савецкага Саюзу.

* * *

Дакумэнтацыя абодвых бакоў, якая маецца па конфлікту, характар зьдзяйсьненьня дыплёматычных мэтодаў, нарэшце, практыка рэальнага дыплёматычнага ўплыву абодвых бакоў могуць даць яснае ўяўленьне аб існасьці мэт двух, па рознаму абараняючых свае правы, бакоў. Сумленная і простая дыплёматычная акцыя Савецкага Союзу, як Дамоклаў меч, вісела над кітайскімі мілітарыстымі і кампаніяй, якія далёка зарваліся. Соцыялістычная вонкавая політыка СССР прымусіла ўвесь час нэрвавацца як самых кітайцаў, так і ўсіх тых, у чыіх руках знаходзіліся асноўныя падважнікі ўплыву на вынік конфлікту. Чым далей, тым ясьней станавілася, што пачатая провакацыя, ці, як аднатоўваў наш друк,—„генэральная рэпэтыцыя“ вайны супроць Савецкага Саюзу, скончыцца няўдала для пачынальнікаў гэтае бруднае і агіднае справы. Захопнікам трэба было толькі выграць час для некаторае свабоды манэўраваньня. Расцэньваньне прыязных і міралюбівых адносін Савецкай дзяржавы, як слабасьці СССР, надзвычайна хутка атрымала паражэньне. Усякае перайманьне некаторых капіталістычных краін, якія ў свой час зрабілі інтэрвэнцыонісцкія спробы, стыкнулася з рашэньнем шматмільённых мас працоўных саюзу абараняць са зброяй у руках па першаму прызыву ўраду позыцыі Кастрычніка.

Да ліпнёўскіх здарэньняў рабочая дзяржава сьвядома зьбягала рэзкіх мер супроць Манчжурскай улады. Але памеры, якія набылі новыя провакацыйныя дзеі, павінны былі пакласьці мяжу ўсякай цярплівасьці. Ужо першая нота савецкага ўраду ад 13-га ліпеня павінна была ўпэўніць захопнікаў, што застаючыся на позыцыі вядзеньня абарончае лініі, СССР, адстайваючы свае правы, свабодна прызнаныя кітайскім

[1]) У амэрыканскім друку ўсё часьцей чуюцца галасы аб неабходнасьці выпрацоўкі і правядзеньня ў жыцьцё спэцыяльнага пляну Дауэса ў Кітаі.

урадам ранейшых год, мае досыць сродкаў, неабходных для таго, каб абараніць правы народаў СССР ад усялякіх гвалтоўных навал. Гэтая нота ўжо павінна была ўпэўніць некаторых у тым, што яны памыляюцца ў сваіх разьліках і што дзеі з кітайскага боку могуць выкліваць непрадбачаныя для гэтага боку вынікі.

Гэтая нота ўпітала ў сябе першы ўздым рэволюцыйнае волі працоўных мас СССР. Гэтая нота—адказ клясы-заваёўніцы Кастрычніка. Да гэтага рашучага голасу трэба было сваячасова прыслухацца. Захопнікі і іх звадыяшы павінны былі зразумець, што *наша міралюбівасьць пры адмаўленьні вонкава-палітычнай агрэсіі, не абсолютная і не бязьмежная.*

Трэба толькі зьвярнуцца да прапаноў, якія паказаны ў гэтай ноце, каб зразумець, што яны зьяўляюцца мінімальнымі запатрабаваньнямі. У ёй няма паказаньняў нават на неабходнасьць папрасіць прабачэньня і пакараць вінавайцаў. Бяз гэтых запатрабаваньняў звычайна ў такіх выпадках не абыходзіцца ні адна дзяржава. Праўдзівей за ўсё, калі-б на месцы СССР ды была якая-небудзь капіталістычная краіна бяз інтэрвэнцыі і цэлага шэрагу самых жорсткіх рэпрэсій Кітаю не абыйсьціся. Савецкі ўрад не пайшоў па шляху рэпрэсіі, ён даў магчымасьць кітайскаму боку як належыць выйсьці з утворанага становішча.

Адказная нота нанкінскага ўраду ад 16-га ліпеня ўсю віну за склаўшаеся становішча ўзвальвае на савецкі ўрад. Яно, як быццам, было несправядліва да Кітаю, арыштаваўшы „без усялякіх прычын нашых (кітайскіх) эмігрантаў і гандляроў“. Далей ідуць фальшывыя развагі аб тым, што „нашы (кітайскія) грамадзяне, якія пражываюць у межах СССР, заціснуты дзеямі савецкага боку“, а таму міністэрства чужаземных спраў Кітайскае рэспублікі спадзяецца, што „савецкі ўрад сьвядома справіць свае няправільныя дзеі“, якія былі зроблены ў мінулы час. Адказная нота Кітаю, зусім не саромячыся, патрабуе, каб СССР з павагай адносіўся да „сувэрэнытэту Кітаю і яго законаў“... Гэта адказ рабаўнікоў і, злоўленага на месцы злачынства, дробнага ашуканца. Ключ да гэтае дыплёматычнае нахабнасьці шукаць ня прыходзіцца. Напярэдадні гэтае ноты галава Кітайскае дзяржавы Чан-Кай-Шы выдрукаваў дэклярацыю, у якой ён апраўдвае незаконныя дзеяньні на КУЧ і аднатоўвае: „Нашы крокі, якія накіраваны да таго, каб узяць КУЧ у свае рукі, не зьмяшчаюць у сабе нічога надзвычайнага (здольны вучань у вас, паны імпэрыялісты.—*Н.К.*) Мы хочам спачатку ўзяць у свае рукі КУЧ, а потым распачаць абгаварэньне іншых пытаньняў [1]).

Гэтыя заявы, як аднатаваў тав. Карахан у сваёй ноце ад 17-га ліпеня, не пакідаюць ніякага сумненьня адносна сапраўднае падкладкі ноты кітайскага ўраду.

Наступны поўны разрыў з Кітаем паставіў пытаньне аб бясьпечнасьці значнае часткі нашых усходніх межаў, бо да агрэсыўнасьці харбінскіх захопнікаў далучылася і акцыя белагвардзейцаў, якія згрупавалі на далёка-ўсходняй мяжы свае сілы.

Організацыя Асобнае Далёка-Ўсходняй Арміі ўнесла строгую азначанасьць у адносіны. Варожыя дзеі кітайскіх і белагвардзейскіх рабаўнікоў спаткалі досыць моцны адпор ня толькі з боку савецкае *дыплё-*

---

[1]) Да гэтых „другіх пытаньняў“, трэба меркаваць, адносіцца і пытаньне аб Мангольскай Народнай Рэспубліцы, на якую нанкінцы глядзяць, як на провінцыю Кітая. Гэтым тлумачацца пагрозы Нанкіна, якія ўсё ўзмацняюцца ў апошні час, адносна пасылкі войск у вонкавую Манголію для яе падначаленьня. Да гэтага трэба дадаць, што незадоўга да конфлікту на КУЧ група былых мангольскіх гандляроў зьвярнулася да нанкінскага ўраду з просьбай окупаваць вонкавую Манголію і заняць Улан-Батор.

*матыі.* Кожная новая вылазка кітайцаў і белабандытаў выклікала з нашага боку руйнуючыя ўдары, якія не прасьледвалі ніякіх палітычных мэт. Гэты адпор нашае Далёка-Усходняй Арміі, які даходзіў часам да руйнаваньня тых гнёзд, адкуль рабіліся правакацыйныя напады на нашу мяжу, ні ў якім выпадку ня быў накіраваны супроць кітайскага народу. Больш таго, наша Чырвоная армія, пераходзячы кітайскую мяжу, паказвала прыклад дысцыплінаванасьці, высокае сьвядомасьці і прыносіла з сабой заспакаеньне, ліквідуючы звычайныя пагромы і рабункі, адступаючых у непарадку кітайскіх і белагвардзейскіх банд. Зусім зразумела, што нашы вайсковыя часткі, ня ставячы перад сабой мэтаў захопніцтва, пасьля імклівага ўдару па кітайскіх атрадах, варочаліся на савецкую тэрыторыю, тым самым паказваючы прыклад павагі сувэрэнных правоў кітайскага народу, які таксама жадаў хутчэйшага вырашэньня конфлікту.

Стала наяўным, што мукдэнская і нанкінская авантуры правальваюцца. Заварушыліся галоўныя рэжысэры гэтага прадпрыемства, якія атрымалі з нашага боку належачыя дыплёматычныя лекцыі. Француская пасрэдніцтва, хоць і было ацэнена нашым урадам, але яно было прызнана „беспрадметным з прычыны адмаўленьня кітайскай улады аднавіць парушаную ёй прававую базу, якая ўяўляла сабой неабходную перадумову для згоды“...

Ня менш удалым аказалася місія міністра чужаземных спраў ПАЗШ Стымсона, які напомніў абодвым бакам, што яны падпісалі пакт Кэлёга, а таму моральна абавязаны вырашыць пытаньне, не пераходзячы да варожых дзеяў. Трэба меркаваць, што гэты рэцэпт для саміх Злучаных Штатаў зьяўляецца маладзейным, калі гутарка ідзе аб сваіх уласных „грахох“ у адносінах тых краін, куды Паўночна-амэрыканскі імпэрыялізм накіроўвае свае моцныя шчупальцы. Заставаючыся сапраўдным выяўнікам волі пакту, ПАЗШ мелі дастаткова „моральных“ сродкаў уплыву да таго, каб прымусіць кітайскі ўрад не пераходзіць да варожых СССР дзеяў. Ці магчыма, ПАЗШ разгубіліся ад нечаканасьці, ці, пры ўдалым выпадку—забылі пра існаваньне адпаведных параграфаў пакту. Хутчэй за ўсё, неофіцыйна, дзе-небудзь у кулуарах, пакт Кэлёга быў комэнтыраваны якім-небудзь вайсковым радцай заатлянтычнае рэспублікі.

Тым часам кітайскі ўрад на ўсе нашыя прапановы мірнага ўладжаньня конфлікту адказваў адцягваньнем ці ўхільнымі контр-прапановамі. Гэта можна тлумачыць толькі тым, што і Мукдэн і Нанкін чакалі ўмяшацельства ў пачатую імі справу—трэцяе сілы. У той-жа час яны пашыралі сярод насельніцтва, якое было нездаволена зацяжкай конфлікту, розныя чуткі аб быццам-бы ідучых перамовах, аб гвалтах савецкіх войск, аб парушэньні Савецкім урадам сувэрэнітэту ў Кітаі. З другога боку—сталі гутарыць аб меркаваньнях Мукдэна не чакаць згоды Нанкіна і ўступіць у самастойныя перамовы з СССР.

Жадаючы паказаць, з аднаго боку, сваё фальшывае імкненьне да нацыянальнага вызваленьня Кітаю і аднаўленьня яго поўнага сувэрэнітэту, а з другога—намацаць палітычную глебу перад вачавідным правалам далёка-ўсходняй авантуры, Нанкін у пачатку лістападу адправіў ПАЗШ патрэбаваньне безадкладнага абгаварэньня пытаньняў аб адмене экстэрыторыяльнасьці. У сваёй адказнай ноце амэрыканскі ўрад паўтарыў свае ранейшыя заявы аб тым, што сучасныя ўмовы ў Кітаі ня спрыяюць адмене экстэрытарыяльнасьці. Урад выражае гатоўнасьць (трэба-ж адбыць дыплёматычныя традыцыі) абгаварыць мэтоды паступовага зьнішчэньня экстэрыторыяльных правоў“.

І зусім, не сумляваючыся, далей заяўляе: „некаторыя здарэньні апошніх месяцаў могуць толькі ўзмацніць думку аб тым, што юрыдычныя і фактычныя гарантыі асабовай і маемаснай бясьпекі ў Кітаі прымушаюць яшчэ жадаць надзвычайна шмат чаго“. У такім-жа духу адказаў прыблізна і ўрад „яго каралеўскае вялікасьці“—урад Макдональда.

Пасьля такога панскага выкрыку, спрыт генэралаў значна зьменшыўся. Да таго-ж часу нашай Асобнай Далёка-Усходняй Арміяй была дадазена навочная лекцыя нашае рашучасьці і моцы. Кітайскі бок пасьпяшаўся пачаць гутарыць лагодным тонам. Выстаўленыя намі 3 папярэдніх пункты, на грунце якіх могуць пачацца перагаворы (1) аднаўленьне статус-кво на КУЧ, 2) безадкладнае аднаўленьне кіраўніка і яго памоцніка і 3) безадкладнае вызваленьне ўсіх арыштаваных у сувязі з конфліктам грамадзян), былі безагаворачна прыняты Чжан-Сюэ-Лянам.

Нанкін аднак спадзяваўся яшчэ ў апошні раз адцягнуць перамовы, ставячы ў апошні раз стаўку на сваіх „прыяцеляў“. Ён апэлюе да імпэрыялістых і просіць абараніць Кітай ад „уціску правоў кітайскага народу“. Нанкін хоча „з гонарам“ выйсьці з становішча. Ды і імпэрыялістычным „міратворцам“ таксама карысна выступіць, хоць-бы ў заключным акордзе зьвястунамі „міра“ і „чалавечнасьці“ як-бы не заўважваючы пачатак Мукдэнам крокаў да ліквідацыі конфлікту, ПАЗШ, Францыя і Англія выступілі ў якасьці ініцыятараў „міру“. Але ў СССР нэрвы аказаліся мацней, чым меркавалі няпрошаныя пасрэднікі. Ён не адступіўся ад сваіх замераў дасягнуць цьвёрдага выкананьня сваіх законных запатрабаваньняў, не навязваючы пры гэтым Кітаю ўмоў, якія былі-б ганебнымі для кітайскага народу, ці каторыя не выплывалі-б з імкненьняў СССР да міру і сумленнаму і роўнапраўнаму супрацоўніцтву на КУЧ.

Як вядома, дружнае выступленьне трох вялікіх дзяржаў, да якіх з цягам часу далучыліся і некаторыя іншыя ўдзельнікі пакту Кэлёга, праўда, калібрам значна меншыя, скончылася досыць няпрыемным конфузам, як для пачынальнікаў гэтага дэ-маршу, так і іхных дапаможнікаў.

Карацей кажучы, гэтая спроба адчыненага ўмяшаньня чужаземных дзяржаў ва ўнутраныя справы нашага Саюзу, каб такім чынам зрабіць уплыў на вынік перамоў, была саячасова кваліфікавана савецкім урадам, як імкненьне гэтых дзяржаў сарваць ліквідацыю конфлікту. Саюзны ўрад у ноце сваёй ад 23-га сьнежня констатаваў, што ўрад Злучаных Штатаў Амэрыкі зьвярнуўся да яго з сваёй заявай у той момант, калі савецкімі і мукдэнскімі ўрадамі пагоджаны ўжо шэраг умоў і вядуцца непасрэдныя перамовы, якія адчынілі магчымасьць хутчэйшага вырашэньня савецка-кітайскага конфлікту. З прычыны гэтае акалічнасьці паказанае ўмешваньне ня можа быць разгледжана інакш, як нічым не апраўданы ціск на перамовы, а значыць, зусім ня можа лічыцца актам прыязным. Апрача таго, саюзны ўрад павінен быў канстатаваць, што парыская ўмова аб адмаўленьні ад вайны не прадугледжвае для паасобнае дзяржавы ці групы дзяржаў функцый аховы пакту. Увогуле ўрад рабочае дзяржавы даў зразумець чужаземным дзяржавам, што на гэты раз справа абыйдзецца без няпрошаных „гасьцей“ і „радцаў“. Апрача таго, наш ўрад выразіў сваё зьдзіўленьне, што ўрад ПАЗШ, які па ўласнаму жаданьню не знаходзіцца ні ў якіх афіцыйных адносінах з урадам Савецкага саюзу, знаходзіць магчымым зьвярнуцца да яго з парадамі і паказаньнямі. У такім-жа духу адказ быў дадзены францускаму і англійскаму ўраду.

Адказ савецкага ўраду зрабіў уражаньне бомбы, якая разарвалася. Друк усяго сьвету і розных напрамкаў у працягу некалькіх дзён комэнтыраваў адказ Саюзу. Адны лічылі адказ „вялікім дыплёматычным ударам для буйных дзяржаў, які вызваны іх спозьненым і да таго-ж крывадушным умяшаньнем“, іншыя, у тым ліку і соцыял-дэмократычны друк, выяўлялі свае расчараваньне не пасьпяховасьцю спроб некаторых дзяржаў зрабіць ціск на СССР. Стымсон не замарудзіў даць у друку свае „тлумачэньні“ пасьля атрыманьня Савецкага адказу. У гэтым тлумачэньні Стымсон дае адбой, паказваючы, што гэты адказ ня быў няпрыязны ў адносінах СССР, і што калі савецкі ўрад дасягне ў перамовах вынікаў, то ён сваю місыю ў гэтай справе будзе лічыць выкананай. З гэткімі-ж заявамі 10-га кастрычніка выступіў прэзыдэнт ПАЗШ і ангельскі прэм'ер. 3-га сьнежня ў Нікольск-Усурыйску быў падпісаны пратакол аб ліквідацыі савецка-кітайскага конфлікту. Але гэтая згода 5-га сьнежня была дадзена сіламі старшыні мукдэнскага ўраду—маршала Чжан-Сюэ-Ляна і, такім чынам, спроба ўмяшаньня дзяржаў у вырашэньне конфлікту скончылася поўным правалам. Удзельнікам дэ-маршу прышлося „зрабіць міну пры дрэннай гульні“ і заявіць, што яны задаволены вырашэньнем пытаньня і ў далейшым будуць таксама кіравацца інтарэсамі „міру“. Як кажуць,—„свежо предание, но верится с трудом“.

Ня трэба думаць аднак, што выступленьне трох дзяржаў зьявілася заключным акордам варожай СССР міжнароднай акцыі. Раўналежна з адбываўшымі перамовамі з Кітаем, дыплёматыя вялікіх дзяржаў не пакідала весьці свае інтрыгі аж да падпісаньня хабараўскае згоды. Сьпіс патэнтаваных ахоўнікаў міру дасягнуў досыць значных памераў. Праўда, гэты дыплёматычны сьверб натрапіў на нечаканыя для некаторых дзяржаў няпрыемнасьці і конфуз. Успомніць, хоць-бы, гісторыю з румынскаю нотаю, якую надзвычайна хацелася францускаму паслу ў Маскве сілцом навязаць ураду СССР. Гэта запатрабаваньне, як потым казалі „злыя языкі“, паставіла і парыскіх і бухарэскіх дыплёматаў у сьмешнае становішча, ад якога доўга ня могуць ачуняць „пострадавшие неудачники“.

Перамога савецкае палітыкі ўяўляе сабой ня толькі ўрачыстасьць асноўных прынцыпаў міру, гатоўнасьць да згоды і імкненьне трактаваць усе народы на грунце поўнае роўнасьці і ўзаемнасьці, але і перамогу над палітыкаю імпэрыялізму, які спрабаваў даць нам бой на Далёкім Усходзе.

Палітычны сэнс здарэньня на КУЧ, яго ўнутраная лёгіка засталася недастаткова асьветленай, калі-б прайсьці каля адносін да гэтага пытаньня міжнароднае соцыял-дэмократыі і розных рэнэгацкіх груп. Калі не забыць пры гэтым, што конфлікт павінен быць разгледжаны, як рэпэтыцыя вайны супроць СССР, то стане зразумелым і тая роля, якую выконвала міжнародная соцыял-дэмократыя ўсіх адцэньняў і гэтак званая „міжнародная левая комуністычная дыпозыцыя“, прасьцей кажучы—троцкістыя розных афарбовак.

Гэта роля ня можа быць інакш ахарактарызавана, як роля рупора міжнародных імпэрыялістых. У гэтым, як і ўва ўсіх папярэдніх выпадках усякіх контр-рэвалюцыйных выступленьняў, гэты надзейны дапаможнік капіталізму і актыўны душыцель рэволюцыйнае рабочае клясы ня змог ня выступіць супроць мірнае палітыкі Савецкага Саюзу, ня мог ня быць застрэльшчыкам у справе консолідацыі варожых, супроць пролетарскае дзяржавы сіл. Але на долю міжнароднае соцыял-дэмократыі, апроч таго, на гэты раз выпаў і гонар абаронцы... „Кітайскай рэвалюцыі“. Добрая рэволюцыя з Чан-Кай-Шы на чале!

Трэці пэрыяд пасьлявайсковага крызысу імпэрыялізму ў асобе соцыял-дэмократыі высоўвае на першы плян абаронцаў капіталістычнага ладу. Асноўная супярэчнасьць капіталізму—супярэчнасьць працы і капіталу—вызывае надзвычайнае абстварэньне клясавае барацьбы ва ўсіх краінах і кладзе здрадніцкую пляму на твар сучаснае соцыялдэмократыі.

Увесь час яна выступала ў ролі апошняга разэрву буржуазіі, як буржуазная „рабочая“ партыя, якая ганебнейшым чынам прадае рабочую справу і служыць небясьпечнай зброяй падману працоўных мас.

Лінія паводзін соцыял-дэмократыі ў галіне вонкавай палітыкі дастаткова падрабязна была ахарактарызавана VI Кангрэсам Камінтэрну. У гэтых адносінах соцыял-дэмократыя зьяўляецца пасьлядоўным выяўнікам інтарэсаў буржуазнае дзяржавы. Яна падтрымоўвае ўзбройныя сілы гэтае дзяржавы, яго паліцыю, яго экстэнсыўныя імкненьні, яго прынцыповую варожасьць супроць СССР, падтрымоўвае рабаўнічыя ўмовы і згоды, колёніяльную політыку, акупацыі, анэксіі і г. д. Разам з гэтым „пацыфісцкі“ падман мас, пад шумок якога вядзецца падрыхтоўка вайны супроць пролетарскіх рэспублік.

Гэту ролю ворагаў СССР—с.-д. узяла на сябе ў кітайска-савецкім канфлікце. Яна адзінадушна разам з сваімі дапаможнікамі—троцкістымі і брандлераўцамі—выступіла з заявамі аб „імпэрыялістычных намерах“ палітыкі савецкага ўраду. Не кітайскія рабаўнікі, і за іх сьпінамі капіталістычныя дырыжоры, а краіна будуючагася соцыялізму ўяўлялася вуснамі і друкам с.-д. нападаючым бокам. Аб „чырвоным імпэрыялізьме“ не забыліся напісаць і ў спэцыяльнай рэзалюцыі Другога Інтэрнацыяналу. У той-жа час, напрыклад, соцыял-дэмакратычнае кіраўніцтна аднаго з міністэрстваў Нямеччыны дапускае ўвоз зброі ў Кітай і паслала туды сваіх афіцэраў рэорганізаваць армію Чан-Кай-Шы. Ніхто іншы, як дзеячы таго-ж 2-га Інтэрнацыяналу пракрычалі на ўсіх раскрыжаваньнях аб законнасьці дзеяў кітайскай ваеншчыны, якая разагнала профсаюзы ў Манжурыі і зрабіла агіднейшыя гвалты над рабочымі. Усё гэта апраўдвалася тым, што, быццам, „савецкі ўрад сам даў повад да гэтага“, бо ён „выкарыстаў рабочыя організацыі на кітайскай глебе ў якасьці зброі расійскае політыкі“.

Замоўчваючы ўвесь час пра правакацыйную дзейнасьць Нанкіну і імпэрыялістых, соцыял-дэмократычныя рыцары ўвесь час не пераставалі казаць аб непавазе СССР сувэрэнытэту Кітая. У адказ на масавыя пратэсты працоўных СССР і ўсяго сьвету супроць кітайскіх рабаўнікоў зьвястун соцыял-фашызму „Форвэртс“ не пастыдаўся прызваць працоўных да масавага пратэсту супроць „усякіх падпальшчыкаў вайны“. „Усёроўна,—піша „Форвэртс“, даючы вокліч: „рукі прэч ад кітайскага народу“,—„ці сядзяць імпэрыялісты ў Японіі, у Вашынгтоне, ці ў Маскве“. Комэнтарыі непатрэбны. Раней за ўсё, „спасіцелі кітайскага народу“ запомнілі пра працоўных Савецкага Саюзу, а з другога боку—Масква апынулася ў поравні з Вашынгтонам па сваіх заваёўніцкіх мэтах. Такою-ж моваю хлусіць і аўстрыйская с.-д., не адстаючы ад сваіх нямецкіх братоў, апошняя таксама трызьніць“ імпэрыялізмам Савецкае Расіі, якая вызвала канфлікт“ і зьяўляецца „такім-жа прыгнятальнікам, як і ўсякая іншая капіталістычная дзяржава“. У адзін голас выступае і троцкісцкі друк, толькі з тэю розьніцаю, што ён ставіць пытаньне больш пуката і карыстаецца больш нахабным тонам. Калі „левыя“ з Клясэн-кампфа“ лічаць, што яны ні ў якім выпадку ня могуць пакінуць на выпадак лёсу „абуджаны кітайскі народ“, і тым больш на папячэньні „бальшавіцкіх агітатараў з Комінтэрну“, то троцкістыя проста высоўваюць лёзунг: „зьвярнуць кітайцам

Кітайска-Ўсходнюю чыгунку“. Савецкі Саюз імі аб'вяшчаецца „чэмпіёнам імпэрыялізму“, які быццам-бы падтрымоўваецца ўсімі капіталістычнымі краінамі на чале з ПАЗШ.

З другога боку, трацкістыя здраднiцкі дэзарганізавалі рабочую клясу, кажучы, што конфлікт не ўяўляе сабою вострае вайсковае небясьпекі.

Апрача таго, здарэньні на КУЧ трацкістыя выкарысталі, каб зьвесьці рахункі з палітыкай нашае партыі і Комінтэрну. Абгаворваючы пытаньне аб конфлікце, орган нямецкіх трацкістаў піша, што „Савецкая Расія 1917 году зусім не падобна на Савецкую дзяржаву 1929 году, і што яна, хоць і не зьяўляецца яшчэ буржуазнаю дзяржаваю, але ідзе да яе вялізарнымі крокамі, а таму яе (Расію—Н. К.) нельга лічыць краінаю дыктатуры пролетарыяту“. Колькі брудных старонак было напісана за гэты час аб „бюрократычным рэжыме Сталіна“, аб „адраджэньні буржуазных правоў“ у Саюзе, аб „інтрыгах Комінтэрну“, які правакуе вайну.

Але як ні стараўся адзіны фронт штрэйкбрэхэраў барацьбы супроць імпэрыялізму сьцягнуць з рэвалюцыйнага шляху міжнародны пролетарыят, ён (фронт) павінен быў уступіць пад моцным націскам грозных калён рабочае клясы. Зоолёгічная нянавісьць верных служак сусьветнага капіталу натрапіла на цьвёрдую рашымасьць сусьветнага пролетарыяту ўсяк падтрымоўваць Савецкі Саюз. Першага жніўня—дзень моцнай дэмонстрацыі солідарнасьці рабочае клясы павінен быў утварыць у „прыхільнікаў“ Савецкага Саюзу надзвычайна недвухсэнсныя настроі. Такім чынам савецка-кітайскі конфлікт ня толькі ўскрыў супярэчнасьці паміж пэўнымі капіталістычнымі краінамі, але і паказаў сапраўдны твар асобных палітычных партый, якія выступалі ад імя пэўных клясаў, якія рыхтуюцца да вялікіх гістарычных боек.

* * *

22-га сьнежня ў Хабараўску быў падпісаны савецка-кітайскі пратакол. Кітайская рэакцыя прымушана была адступіць. Памыліліся ў сваіх разьліках імпэрыялістыя, ганебна праваліліся соцыял-фашысты. Здарэньні навокала захопу КУЧ паказалі, што Савецкі Саюз, які праводзіць мірную політыку ў адносінах да ўсіх дзяржаў, зусім не дазволіць каму-б ні было зьдзеквацца над сабою і ганьбіць яго правы.

Аднак, ліквідацыя конфлікту зусім ня значыць, што пасьля яго можна заспакоіцца і адмовіцца ад свае гатоўнасьці да абароны сваіх заваёў ад нападаў, якія рыхтуюцца.

А што гэтыя напады рыхтуюцца, у гэтым няма ніякага сумніва.

Характар сучаснага пэрыяду разьвіцьця капіталізму, пэрыяд яго загніваньня вызывае нарастаньне агульнага крызысу, узмоцненага абвастрэньня асноўных супярэчнасьцяў—вонкавых і ўнутраных капіталізму, якія вызываюць вялізарныя клясавыя конфлікты і імпэрыялістычныя войны.

У такіх абставінах, бязумоўна, будуць выкарыстаны ўсе сродкі і ўсе магчымасьці, каб ліквідаваць адзіную пакуль Савецкую дзяржаву, якая „даганяе і пераганяе“ капіталістычныя краіны, якая творыць цуды перабудовы сьвету пановаму, якая рэволюцыйна дзейнічае на рабочую клясу і прыгнечаныя народы ўсяго сьвету. Між родныя драпежнікі, у прыватнасьці амэрыканскі капітал, якому не ўдалося ні распаліць савецка-кітайскай вайны, ні дасягнуць пашырэньня свайго ўплыву ў Манчжурыі, будуць рабіць неаднакроць спробы так ці інакш пашкодзіць нормальнаму становішчу на Далёкім Усходзе. І ва ўсякім

выпадку спробы сарваць Хабараўскую ўмову ня змогуць зьдзівіць нас сваёю нечаканасьцю.

Першая спроба дыплёматычнага намацаваньня глебы ў гэтым пытаньні ўжо мела месца.

Зусім нядаўна, калі ўжо важнейшыя пункты ўмовы праведзены і праводзяцца ў жыцьцё, небезвядомы пан У-Чао-Чу—нанкінскі пасланьнік у ПАЗШ—заявіў, што мірнае ўрэгуляваньне конфлікту на КУЧ магчыма толькі ў тым выпадку, калі на савецка-кітацкай конфэрэнцыі, якая мае адбыцца 25 студзеня, будзе ўдзельнічаць у ролі ні то „наглядчыка“, ні то „сьведкі“ прыемны Нанкіну „трэці бок“. Разам з гэтым, самім Нанкінам прымаюцца ўсялякія меры, каб адцягнуць ці сарваць савецка-кітайскую конфэрэнцыю. Некалькі дзён таму назад 27-га студзеня,—ужо пасьля таго, як выявілася, што конфэрэнцыя ў азначаны тэрмін не адбудзецца, адбылося новае пагромнае выступленьне белагвардзейцаў у Харбіне, якое сыгналізуе новую небясьпеку зрыву, новыя магчымыя провакацыі.

Пункт 4-ты хабараўскага пратаколу кажа: „Кітайская ўлада безадкладна разбройвае расійскія белагвардзейскія атрады, высылае з межаў трох усходніх правінцый іх арганізатараў і натхніцеляў“. Налёт белабандытаў 27-га студзеня сьведчыць аб тым, што імпэрыялістычная гульня з расійскімі контр-рэволюцыянэрамі ня спынілася. Гэта набывае асабліва важнае значэньне ў сьвеце антысавецкае дзейнасьці асобных дзяржаў, у сьвеце зьяўленьня ў прыёмных буржуазіі і актывізацыі такіх слупоў расійскай контр-рэвалюцыі, як Мілюкоў і Керэнскі.

У свой час—яшчэ зусім нядаўна і, трэба меркаваць, аб гэтым некаторыя яшчэ ня ўсьпелі забыць,—рабочая кляса і працоўныя масы Саюзу моцна адказалі дружным протэстам супроць жаданьня сарваць нашу соцыялістычную работу. Адпор, які пасьледваў за гэтым морам протэсту, ахаладзіў ня мала гарачых галоў. Працоўныя масы савецкае дзяржавы могуць патрабаваць ад кітайскага ўраду добрасумленнага і хутчэйшага выкананьня ўсіх пунктаў умовы, і гэтым самым даказаць шчырасьць свайго жаданьня мірнага ўрэгуляваньня ўсіх пытаньняў згоды.

Неабходна, каб пункт, які гаворыць аб разброеньні расійскіх белагвардзейцаў і высылцы з межаў Манчжурыі іх арганізатараў і натхніцеляў, быў праведзены ў жыцьцё безадкладна. Савецкі ўрад можа, у мэтах наладжаньня добрасуседзкіх і мірных адносін з Кітаем, патрабаваць хутчэйшага выкананьня абавязкаў, якія ўзяты на сябе кітайскім бокам. Ад тэмпу і характару выкананьня гэтых абавязкаў, ад ступені рашучасьці ачышчэньня межаў трох Усходніх провінцый ад „абаронцаў расійскае бацькаўшчыны“—будзе залежыць канчатковае аформленьне адносін між дзьвюма краінамі.

Кітайскаму ўраду і ўсім тым, хто яшчэ не адмовіўся ад думкі выкарыстаць белагвардзейскае сьмецьце, трэба было-б памятаць дыялектычнае пératварэньне нашае мірнае політыкі ў вымушаную неабходнасьць абарончае політыкі супроць тых, хто спрабуе пасягаць на сувэрэнныя правы дыктатуры пролетарыяту.

2-II—1930 г.

**Мачульскі**

# Мястэчкі пры суцэльнай колектывізацыі*)

У свой час урадам БССР быў выдан дэкрэт аб гаспадарчым упарадкаваньні бядняцкага насельніцтва мястэчак.

Пасьля гэтага дэкрэту былі складзены гадавыя, а пазьней і пяцігадовы плян гаспадарчага ўпарадкаваньня бядняцкага насельніцтва мястэчак, ахапляючы гэтым плянам 56 мястэчак гарадзкога тыпу. Усім плянам прадугледжвалася выдаткаваць на ўпарадкаваньне каля 10 мільёнаў рублёў за пэрыод 27-28—32-33 гг.

У 1927-28 г. выдаткавана на 9 мястэчак 407 тыс. руб., у 1928-29 г. на 18 мястэчак 836 тыс. руб. (плян) і па пляну ў 1929-30 г. на 27 мястэчак—1.784 тыс. руб. Усяго за гэтыя 3 гады меркавалася выдаткаваць спэцыяльна на гаспадарчае ўпарадкаваньне бядняцкага насельніцтва 3.077 тыс. руб., з якіх на падрыхтоўку земфондаў—35,4 проц., а організацыю гаспадарак на гэтых земфондах—47,7, на бядняцкія паі ў калгасы 5,8 проц. і на організацыю саматужна-прамысловых арцеляў 11,1 проц.

З разьмеркаваньня гэтых сродкаў відны і тыя формы, па якіх меркавалася праводзіць гаспадарчае ўпарадкаваньне бядняцкага насельніцтва мястэчак.

Гэтыя формы ішлі па 2-х напрамках—аграрызацыі ці пераводу часткі працоўнага насельніцтва мястэчак на земляробства на запасных земфондах і другой часткі—у форме організацыі саматужна-прамысловае арцелі.

Па 48 мястэчках, у якіх налічваецца 24,7 тыс. сем'яў жыхароў, з якіх 48,6 проц. яўрэйскіх, меркавалася ўпарадкаваць бядняцкіх сем'яў 9.436 ці 38 проц. ад усіх жыхароў. Прычым у ліку гэтых бядняцкіх сем'яў налічвалася 78 проц. сем'яў яўрэйскіх. З усіх вызначаных да гаспадарчага ўпарадкаваньня сем'яў 57 проц. трэба было перавесьці на земляробства. Само сабой зразумела, што значную частку—4,072 сям'і, ці 16,5 проц. да ўсіх жыхароў 48 мястэчак—меркавалася для перасяленьня з мястэчак на земфонды, якія не знаходзіліся паблізу ад мястэчак.

У процэсе гаспадарчага ўпарадкаваньня бядняцкага насельніцтва мястэчак і ў сувязі з суцэльнай калектывізацыяй БССР, перад намі паўстала некалькі пытаньняў, якія не заўсёды правільна вырашаліся на практыцы. Такімі галоўнейшымі пытаньнямі ў проблеме мястэчак можна назваць наступныя:

а) скажэньне клясавай лініі;
б) вузка-нацыянальны падыход да гэтага пытаньня;

*) У парадку пастаноўкі пытаньня.

в) імкненьне абавязкова захаваць мястэчка ў будучым як экономічны цэнтр;

г) адсутнасьць увязкі местачковае проблемы з суцэльнай калектывізацыяй.

Вось тыя чатыры галоўнейшыя пытаньні, на якіх мы хочам спыніцца па местачковаму пытаньню.

Ужо пры абсьледваньні мястэчак у 1928-29 годзе высьветліўся на практыцы цэлы шэраг яўнага скажэньня клясавае лініі пры падборы сем'яў да плянавага гаспадарчага ўпарадкаваньня. Мы мелі вельмі шмат фактаў, калі замест бядняцкіх працоўных сем'яў у плянавае ўпарадкаваньне браліся гандляры, розныя пазбаўленыя права голасу і наогул чужыя нам элемэнты. Гэта праваопортуністычная ўстаноўка некаторых працаўнікоў, што ў калгасы і саматужна-прамысловыя арцелі патрэбна прымаць усіх, хто хоча туды ісьці, у тым ліку і былых гандляроў і розных нэпманскіх элемэнтаў, у свой час была асуджана партыяй і ў гэтае пытаньне была ўнесена цьвёрдая яснасьць. У калгасы і саматужна-прамысловыя арцелі забаронена прымаць розныя нэпманскія элементы, у тым ліку яўрэяў былых гандляроў.

У сувязі з тым, што ў мястэчках налічваецца да 50 проц. яўрэйскага насельніцтва, значная частка якога ня мае сталае ці нават ніякае вытворчае працы, у шмат сякіх яўпрацаўнікоў былі тэндэнцыі падыходзіць да вырашэньня местачковае проблемы, як проблемы толькі нацыянальнае (яўрэйскае), у сувязі з гэтым і была таксама няверная ўстаноўка, што трэба організаваць у калгасы ці сам. прам. арцелі яўрэяў паасобна, і што нельга ствараць гэтыя організацыі як інтэрнацыянальныя. Вядома, што гэта зусім няверна. Да местачковае проблемы нам абавязкова патрэбна падыходзіць з інтэрнацыянальнага пункту гледжаньня і зусім не абавязкова ствараць організацыі, толькі нацыянальныя. Наадварот, у мэтах выхоўваньня працоўных у духу інтэрнацыяналізму ў прыватнасьці, у мэтах барацьбы з антысэмітызмам, якраз неабходна ствараць калгасы і саматужна-прамысловыя арцелі іменна інтэрнацыянальныя. У самім процэсе працы ніякае спэцыфічнасьці нацыянальнасьць сама па сабе не патрабуе. Процэс працы ёсьць, у першую чаргу, процэс інтэрнацыянальны. Трэці момант гэта імкненьні некаторых працаўнікоў абавязкова захаваць мястэчка ў пэрспэктыве як экономічны цэнтр.

На пасяджэньні Экономічнае Сэкцыі Дзяржпляну 25-га сьнежня 1929 г. па гэтаму пытаньню быў прачытан надзвычайна цікавы дакумант. Адзін з яўрэйскіх спэцыялістых (аграном) напісаў дакладную запіску ў Белкамзэт, дзе ён падыходзіць да местачковае проблемы наступным чынам:

„З вышэйадзначанага выходзіць, што пры гаспадарчым упарадкаваньні мястэчак, па прынятаму мэтоду, значны процант местачковага насельніцтва павінен выселіцца з мястэчка.

Ясна, што падбор высяляючыхся не супадзе з прызнакам суседняга пражываньня, суседняга месцазнаходжаньня двароў.

Двары, якія перасяляюцца, часам акажуцца ў мястэчку суседнімі, часам распыленымі.

Якім-жа акажацца знадворны архітэктурны выгляд мястэчка пасьля „гаспадарчага“ яго ўпарадкаваньня.

Відавочна, што вуліцы акажуцца месцам густа заселенымі, месцам з нязначнымі разрывамі, месцам з буйнымі разрывамі і *ўсё мястэчка будзе мець выгляд „палуразбуранага“* (Які страх! Ф. М.). Чаго-ж хоча гэты працаўнік? Якое-ж сыстэмы ўпарадкаваньня ён патрабуе? На гэтыя пытаньні мы далей маем такі адказ:

„Павінна быць устаноўлена такая сыстэма, каб местачковы калгас зьяўляўся *цэнтрам* агра-вытворчае адзінкі, якой зьяўляецца вытворчы раён у цэлым".

І далей гэты працаўнік ідэалізуе мястэчка наступным чынам:

„Мястэчка—вытворчы цэнтр, вагар сельскае гаспадаркі ўсяго раёну, яно і культурна-політычны цэнтр і збыта-снабжэнчаскі, але не ізолявана, гэтыя функцыі яму належаць у сілу яго рэконструкцыйнае ролі для гаспадаркі ўсяго раёну".

Вось якую дробна-буржуазную шкодную нам ідэолёгію сустракаем мы на практыцы пры вырашэньні местачковае проблемы.

Па-першае, мы павінны адзначыць, што мястэчкі, як буйныя паселішчныя цэнтры, спэцыфічныя толькі для Беларусі і Заходняе Украіны, стварыліся ў выніку царскае політыкі, якою была ўстаноўлена сталая „рыса яўрэйскай аседласьці".

У выніку гэтага ствараліся пры абшарніцкіх маёнтках і пры буйных водных, чыгуначных і іншых шляхох спэцыфічныя гандлёвыя цэнтры, так званыя мястэчкі, дзе царскім рэжымам дазвалялася асядаць і яўрэйскаму насельніцтву.

Адсюль сярод местачковага насельніцтва налічваецца каля 50% яўрэяў, якія звычайна займаліся рамесьніцтвам, саматужніцтвам, гандлем і іншымі комэрцыйнымі справамі.

На пасяджэньні Экономічнае Сэкцыі Дзяржпляну некаторыя прамоўцы правільна кваліфікавалі мястэчка як „экономічную аномалію".

Дык вось выходзіць так, што ў пэрспэктыве плянава-соцыялістычнае будаўніцтва павінна прыстасоўвацца да старое стыхійна-капіталістычнае спадчыны.

Мы павінны павесьці рашучую барацьбу з такімі шкоднымі імкненьнямі—прыстасаваць будучыя соцыялістычныя аграіндустрыяльныя цэнтры да былых цэнтраў выпадковых, да цэнтраў, якія па сутнасьці зьяўляюцца „экономічнай аномаліяй". Мы павінны вызначаць будучыя аграіндустрыяльныя, а разам і культурна-політычныя цэнтры там, дзе гэтага будзе патрабаваць мэтавая ўстаноўка і задача соцыялістычнага будаўніцтва, адкуль можна будзе сапраўды найбольш пасьпяхова кіраваць соцыялістычным гаспадарчым і культурным будаўніцтвам.

Ці змогуць такімі цэнтрамі зьяўляцца ў пэрспэктыве мястэчкі? Як правіла, ня змогуць, бо мястэчкі ёсьць элемэнт стыхійнасьці і царскага галавацяпства.

Для плянава-соцыялістычнага, вытворчага і культурнага цэнтру патрэбны зусім іншыя прызнакі і якасныя элемэнты.

Для соцыялістычных цэнтраў экономічных раёнаў мы павінны шукаць месцаў, якія маюць максымальную энэргетычную базу і знаходзяцца ў цэнтры оптымальнае тэрыторыі, якая мае больш-менш аднолькавыя прыродна-гістарычныя ўмовы, што найбольш спрыяюць пасьпяховаму выкананьню соцыялістычных плянаў па сельскай гаспадарцы і с.-г. індустрыі.

Як правіла, мястэчкі („экономічная аномалія") ня змогуць адпавядаць гэтым запатрабаваньням соцыялістычнага будаўніцтва і пагэтаму надзвычайна шкодная тая ідэолёгія, якая імкнецца прыцягнуць за валасы соцыялістычныя цэнтры да мястэчак.

З штучным утварэньнем аграіндустрыяльных цэнтраў у мястэчках, якія цяпер часова ў большасьці зьяўляюцца адміністрацыйнымі цэнтрамі, трэба павясьці рашучую барацьбу як са шкоднай работай. У ўмовах суцэльнае калектывізацыі, пры вышуканьні будучага агра-

індустрыяльнага цэнтру, ні ў якім разе ня трэба лічыцца з мястэчкамі, як экономічнымі цэнтрамі.

Тымчасам трэба заўважыць, што калі партыя і ўрад давалі дырэктывы аб гаспадарчым упарадкаваньні мястэчак, то пад гэтымі дырэктывамі па сутнасьці разумелася ўпарадкаваньне працоўнага *насельніцтва* мястэчак, а не саміх мястэчак.

Ці значыць гэта, што ні адно мястэчка ня зможа стаць у ўмовах суцэльнае калектывізацыі соцыялістычным аграіндустрыяльным цэнтрам? Мы думаем, што частка (хаця, на нашу думку, нязначная) мястэчак зможа адпавядаць усім запатрабаваньням плянава-соцыялістычнага цэнтру і зможа сапраўды ў пэрспэктыве перарасьці ў соцыялістычны аграіндустрыяльны горад, але гэтае выключэньне ня трэба пертвараць у абавязковае правіла, бо гэта шкадліва можа адбіцца на плянава-соцыялістычным будаўніцтве. У зьвязку з гэтым асабліва перасьцярагаем адпаведных працаўнікоў не захапляцца мястэчкамі пры вышуканьні цэнтраў для будучых аграіндустрыяльных вытворчых раёнаў суцэльнае калектывізацыі.

Зараз апошняе пытаньне—як увязаць вырашэньне местачковае проблемы з суцэльнай калектывізацыяй.

Перш за ўсё трэба адзначыць, што ў зьвязку з суцэльнай калектывізацыяй местачковая проблема ня здымаецца з парадку дню, а, надварот, нам здаецца, яшчэ больш завастраецца, бо патрабуе больш тэрміновага вырашэньня.

Ці можна вырашаць местачковыя пытаньні ў далейшым так, як мы гэта вырашалі дагэтуль? Не! Жыцьцё, у зьвязку з суцэльнай калектывізацыяй БССР, патрабуе другога вырашэньня. Пытаньне гаспадарчага ўпарадкаваньня абавязкова патрэбна ўвязаць з суцэльнай калектывізацыяй, па-першае, з тэй прычыны, што каля 45% местачковага насельніцтва займаецца землеробствам, а, па-другое, таму, што наогул амаль усе мястэчкі, як паселішчныя пункты, будуць уключацца ў тэрыторыю тых ці іншых агравытворчых раёнаў суцэльнае калектывізацыі.

Адсюль, усё працоўнае насельніцтва (землеробы, саматужнікі, рабочыя і іншыя) мястэчак неабходна будзе ўключаць у балянс працы адзіных агравытворчых раёнаў.

Нам здаецца, што сыстэма гаспадарчага ўпарадкаваньня бядняцкага насельніцтва мястэчак павінна быць такая, якая-б уключала ўсё працоўнае насельніцтва ў будучыя буйныя калгасы ці аграіндустрыяльныя комбінаты. Бо калі ў будучых буйных калгасах ці аграіндустрыяльных комбінатах будуць працаваць свае с.-г. індустрыяльныя прадпрыемствы, то чаму ў гэтых-жа аб'яднаньнях ня могуць быць організаваны саматужна-прамысловыя арцелі, якія змогуць па пляну адзінага буйнога калгасу працаваць ня толькі для задавальненьня патрэб вытворчасьці і насельніцтва самага калгасу, а нават па заказу іншых раёнаў, ці проста на рынак.

Наогул пры суцэльнай калектывізацыі ўсё местачковае працоўнае насельніцтва трэба будзе ўключаць у адзіны працоўны балянс агравытворчага раёну, на тэрыторыі якога будзе знаходзіцца мястэчка.

Узаемаадносіны-ж паміж саматужнікамі і землеробамі ў калгасе будуць конкрэтна вырашацца плянам організацыі працы, прыблізна ў такой, напэўна, форме, як гэта будзе і з рабочымі на індустрыяльных прадпрыемствах калгасу. А таму мы лічым, што ў далейшым выкананьне старых пляноў гаспадарчага ўпарадкаваньня мястэчак павінна быць спынена, і тэрмінова складзены новыя пляны, якія ўвязвалі-б гэтае пытаньне з суцэльнай калектывізацыяй

---

М. Зярніцкі і Г. Гершман

# Як у Гомелі сказілі лёзунг самакрытыкі

„Партыя прызвала працоўных к жорсткай самакрытыцы для таго, каб гэтую самакрытыку зрабіць падважнікам барацьбы за сапраўднае выпраўленьне ўсяго апарату, для сапраўднае,—а не папяровае барацьбы з бюракратызмам, для масавага паходу супроць усіх ворагаў, пачынаючы з кулака і шкодніка і канчаючы элемэнтамі разлажэньня ў нашых уласных радох“.

Лёзунг самакрытыкі—„ня гледзячы на асобы“, крытыкі зьверху да нізу і зьнізу да верху, ёсьць адзін з цэнтральных лёзунгаў дню“.

(З адозвы ЦК УсеКП(б) аб самакрытыцы).

Што „самокритика нам нужна, как воздух, как вода“, што самакрытыка гэта „адзін з цэнтральных лёзунгаў дню“, што „трэба падняць сустрэчную магутную хвалю творчае самакрытыкі зьнізу“, што ўсё гэта надзвычайна важна, патрэбна і неабходна—гэта вам ўсякі гомельчанін партыец, як радавы, гэтак і кіруючы працаўнік—заявіць. Больш таго, ён вас запэўніць, што ў парторганізацыі з прычыны гэтага і даклады былі, і адозвы пісалі, і заклікалі, і прапрацоўвалі і ўсё, што хочаце, рабілі...

Але мы ў гэтым артыкуле маем на ўвазе паказаць, як у Гомелі ў сапраўднасьці *не на словах*, а *на справе*, у жывой конкрэтнай рэчаіснасьці праводзіўся лёзунг самакрытыкі ў напрамку бязбоязнага выяўленьня недахопаў „ня гледзячы на асобы“, наколькі дзейная была крытыка мас; наколькі рашуча вялася барацьба з фактамі заціску самакрытыкі і ўрэшце—наколькі самакрытыка сапраўды стала *мэтодам* усяе працы, сродкам мобілізацыі мас вакол асноўных задач соцыялістычнага будаўніцтва, барацьбы з усялякімі скажэньнямі клясавае лініі ў практычнай дзейнасьці організацыі, інакш кажучы, *ці заўсёды крытыка накіроўвалася ў абарону генэральчае лініі партыі*. Мы застанавіліся перш за ўсё на характарыстыцы становішча самакрытыкі ў асноўных рабочых райпарторганізацыях—гарраёне, Н.-Беліцы, Добрушы, Рэчыцы і Залін. р-не, што, бязумоўна, дазволіць нам даць ацэнку агульнага становішча ў Гомельскай акруговай парторганізацыі.

## Гарраён

Удзельная вага гарадзкое парторганізацыі, як вядома, надзвычайна вялікая ў акр. парторганізацыі. ГРК задае тон у організацыі па шмат якіх важнейшых пытаньнях. Работа гаррайкома зьяўляецца прыкладам для працы іншых раённых парткомаў.

А таму, мы з асаблівай уважлівасьцю павінны прыглядзецца, як ў гар. раёне была разгорнута самакрытыка.

*Чыстка вытворчых ячэек* выявіла зусім нездавальняючае становішча з разгортваньнем самакрытыкі на прадпрыемствах, наліччa ў шэрагу з іх зьявішч заціску самакрытыкі і,—як масавае зьявішча,—зусім слабое рэагаваньне на крытыку мас.

*Ячэйка заводу „Пролетары“*. Абсьледваньне становішча партыйнага калектыву ў сувязі з чысткай і сама чыстка выявіла, што самакрытыка да гэтага часу ня стала мэтодам работы заводзкіх організацый. Мелі месца факты заціску самакрытыкі, нават у адносінах да члена брыгады ЎсеЦСПС т. Шапіра. Гэткае становішча самакрытыкі адбілася на становішчы работы ўсяго заводу, адсюль і надзвычайна марудны тэмп росту парткалектыву, прытупленьне політычнае пільнасьці цэхавых партыйных ячэек, наліччa шэрагу момантаў слабое адказнасьці асобных партыйцаў за работу і нават наліччa выхадаў з партыі. Профэсыянальная праца не перабудована, яна не перанесена ў цэх, слабое кіраўніцтва соц. спаборніцтвам, надзвычайна слаба кіруецца работа вытворчае камісіі. Кіраўніцтва бюро партколектыву цэх. парт. ячэйкамі было недастатковае, за ўвесь час існаваньня цэх. ячэек (7 месяцаў) ніводнага разу іх на бюро парткалектыву не заслухоўвалі.

Рэдактар насьцэнгазэты т. Зэльманаў піша артыкул у „П. П.“, што на заводзе „Пролетары“ ўтварылася „кладбище рабочих предложений“, якія ня выконваюцца: член брыгады ЎсеЦСПС т. Шапіра ў артыкуле зазначае: „в чугунно-литейном цеху рабочие прямо говорят, что боятся критиковать мастера, это имеет место и в других цехах. По адресу коммунистов—здесь раздается „жиды“, это остается без последствий. О хулигане-рабочем Снитко боялись говорить открыто, смотрели, как он избивает в цеху свою дочь—рабочие не реагировали. Секретарь партколлектива т. Косовой (б. член Бюро Окружкома) на заседании завкома заметил инструктору ОПБ—„поменьше нас критикуйте“,—твое дело критиковать, а наше дело опровергать“, „12 лет жили без помощи центра (читай: без критики сверху)—проживем и дальше“. Непрерывка введена в пожарном порядке без ведома рабочих, административным приказом. Еще 6 ноября директор завода не знал, с какого срока он думает переводить завод на непрерывку, а 12 он надумал ввести ее с 20 ноября; бюро партколлектива механически проштемпелевало это решение, не внеся никаких практических предложений, не дав никаких политических установок ни партчасти заводоуправления, ни завкому. Завком узнал 16, что через 2 дня вводится непрерывка“. І вось т. Шапіра робіць вынік, што можна сьмела сказаць, што на заводзе „Пролетарий“ крытыка не разьвіта, не ў пашане, яна праводзіцца формальна, сьлізіць на паверхні, „асоб не чапае“ і патрэбнага выніку не дае; напрыклад, загад ВСНГБ за № 27 ад 19/X 1929 г. аб тым, што дырэктар атрымаў вымову за ігнараваньне рабочых прапаноў, застаўся на паперы,—гэтае ігнараваньне застаецца і цяпер. НКРСІ абвясьціў дырэктару вымову за здачу транспартных работ прыватніку і за галаслоўнае „опровергательство“ рабкораўскіх заметак. І гэта ня ўзьдзейнічала. А тымчасам сярод рабочых наглядаецца вялікая зацікаўленасьць, праяўляецца вялікая ініцыятыва да соц. спаборніцтва, ініцыятыва, якая даходзіць да організацыі рабочых камун, а гэтую ініцыятыву ніхто не скарыстоўвае: партыйны калектыў ёю ня кіруе.

У час працы камісіі ЦКК—сэкратар ячэйкі тав. Касавой быў зьняты з працы сэкратара, адведзен з бюро АК за падтрыманьне сувязі з бацькам, былым прадпрыемцам, які пасьля быў высланы ДПУ з Гомелю за сыстэматычную спэкуляцыю валютай.

*Ячэйка „Рухавік Рэвалюцыі“*. Рашэньне АКК па справе рабкора Крыштафука ня было скарыстана для разгортваньня самакрытыкі,

вынікі толькі абгаварваліся на партыйным актыве, нават пасьля рашэньняў бюро і актыву ня было жорсткага адпору недапушчальным настроям, якія складаліся вакол т. Крыштафука. Бюро ячэйкі не рабіла рашучых захадаў да таго, каб сваячасова рэагаваць на заметкі рабкораў, якія зьмяшчаліся ў „П. П." і насьценгазэце; у рабоце ячэйкі самакрытыка ня стала сродкам мобілізацыі мас вакол правядзеньня генэральнае лініі партыі, у выніку чаго стаўся шэраг фактаў заціску самакрытыкі, складаліся ўмовы для гэтага заціску. Выступаючы на сходзе рабочых па пытаньню самакрытыкі, кіраўнік колектыву т. Файбусовіч дае такую ўстаноўку—„нас маецца 2 групы людзей—адна, якая ненавідзіць самакрытыку, крытыкуючых і прасьледуе іх за крытыку, а другая церпяліва адносіцца да крытыкі". На другім сходзе выказаў думку:—„Я гляджу на тое (на самакрытыку), што ў нас робіцца зараз на заводзе і ні чорта не разумею, што вы грызеце адзін аднаго за горла—гэта не самакрытыка, а грызьня", „да чаго мы дойдзем далей, калі цяпер майстар кузьнечнага цэху баіцца перадаць гарно другому рабочаму без агульнага сходу рабочых цэху". Факт гэты не пацьвердзіўся. Гэта была спроба стварыць паніку, што крытыка паніжае вытворчую дысцыпліну; атрымалася наадварот—што абгаварэньне гэтага пытаньня на працягу 4-х дзён умацавала дысцыпліну і падняло ініцыятыву рабочых.

Калі група членаў партыі, разьбіраючы пытаньне аб самакрытыцы, гаварыла пра сэкратара каляктыву т. Файбусовіча, другая частка партыйцаў ім кажа—„вы, братцы, не знаете, с кем дело имеете, наживете себе врага на всю жизнь, выживет сразу с завода, ведь ему больше верят, чем нам".

*Яч. скурзаводу „Пролетарский Путь"*. З боку Бюро ячэйкі быў грубы заціск самакрытыкі, што стварыла сярод партыйцаў настрої: „лучше не критиковать, тогда спокойнее будет"; рабочыя баяліся адкрыта выступаць і ўказваць на недахопы ў працы, маючы на ўвазе звальненьне за крытыку рабкора Дубава і беспадстаўнае выключэньне з партыі т. Шуба. Усялякія крытычныя заўвагі выклікалі з боку кіруючых працаўнікоў заводу абвінавачваньні ў групоўках: „дубаўшчына", „шубаўшчына" і г. д. Такое становішча прывяло да паслабленьня ўсяе парт.-грам. работы на прадпрыемстве, рабочыя пакінулі наведваць сходы (факт зачыненьня скрынак з нумарамі, каб ня даць рабочымісьці з заводу, затрымаўшы іх гэткім чынам на сходзе); зусім аслабла крытыка праз насьценгазэту; профработа ў ячэйцы была пастаўлена нездавальняюча; соц. спаборніцтва праводзілася без усялякага кіраўніцтва.

*Фабрыка „Труд"*. Самакрытыка не разгорнута. Ёсьць моманты боязьні крытыкі, слабое разгортваньне яе ў вытворчым жыцьці, мела, напрыклад, месца выступленьне партыйца на аднэй вытворчай нарадзе, што „адна зьмена ня можа крытыкаваць другую"; боязкасьць крытыкі яшчэ выклікаецца грубымі адказамі адміністрацыі і старшых майстроў рабочым—„не хочешь выбирать кусков из мусора, на биржу пойдешь"; на запытаньне т. т. Вясёлава да Рэўзіна, чаму валяецца падашва, быў атрыманы адказ—„так было и так будет"; на другое запытаньне—„чаму ваганеткі ідуць не па 20 пар, а па 17,—быў атрыман адказ: „я тебе в бане скажу". Член партыі т. Фундатар назваў беспартыйнага рабочага провакатарам за тое, што ён сказаў яму пра недахопы ў яго рабоце, пасьля чаго ўзьнік настрой, што „беспартыйным нельга ўказваць на партыйцаў". Слаба падлягае крытыцы работа партыйнае ячэйкі, яшчэ горш—работа фабкому.

Ня гледзячы на тое, што навокал насьценгазэты згрупаваны значны актыў, аднак ніякая выхаваўчая работа з ім не вядзецца. Кіраўніцтва ячэйкі вытворчасьцю недастатковае, прапрацоўваемыя пытаньні ня носяць конкрэтны характар, ячэйка несваячасова рэагуе на ненармальнасьці ў вытворчасьці, якія выклікаюць нездавальненьне сярод рабочых; атсутнічае дастатковае кіраўніцтва вытворчасьцю з боку адміністрацыі і старшых майстраў; маюцца частыя перабоі ў снабжэньні сыравінаю, што выклікае частыя прастоі і перакідкі рабочых з аднаго цэху ў другі; рашэньне Лістападаўскага Пленуму ЦК УсеКП(б), пытаньне аб адзінаначальлі, пытаньне аб гаспадарчых цяжкасьцях—зусім ня былі прапрацованы сярод рабочых, дзякуючы чаму зьяўляюцца настроі: „в ЦРК ничего нет, а если и есть, то гнилые селедки“. Адработка 2-х дзён у фонд індустрыялізацыі—гэтае пытаньне ня было абгаворана сярод рабочых.

*Ячэйка „Водосвет“*. Ня гледзячы на тое, што гарадзкі райком у студзені м-цы 1929 г. даў дырэктывы кіраўніку прадпрыемства Звагельскаму аб зьнішчэньні грубасьці, необ'ектыўнасьці пры рашэньні пытаньняў, што прыводзіла да боязьні рабочых выступаць—гэтыя дырэктывы засталіся невыкананымі. Пры іх праверцы 11-IX 1929 г. гарадзкі райком вынес наступную пастанову: „Констатировать, что факты, указанные в заметке „Зажим самокритики в „Водосвете“—как в отношении защиты негодного техника Пустовойтова, невыполнение предложений рабочих, бюрократическое отношение бухгалтера Коткина и замазывание этих фактов управляющим „Водосвета“ Звангельским—подтверждаются; самокритика развернута слабо, нельзя установить фактов открытого зажима, но он выражается в скрытой форме, в недолюбливании критики со стороны управляющего, косоглядстве на критикующих, в одергивании критикующих, отсюда боязнь рабочих критиковать Звангельского. Не выполнено большинство деловых предложений рабочих. На заметки стенгазеты администрация не реагирует или даются казенные отписки. Отсюда большое уменьшение поступления рабкоровского материала, ослабление участия рабочих на производственных совещаниях (12—15 человек)“.

Ня гледзячы на тое, што Звангельскаму вынесена суровая вымова з папярэджаньнем і пераабрана бюро, аднак у час працы камісіі ЦКК паступіў шэраг новых заяў аб зажыме самакрытыкі, цкаваньне крытыкуючых з боку гэтага-ж самага Звангельскага.

*Ячэйка Хлебазаводу*. Рабкоры, якія абсьледвалі па даручэньню камісіі становішча самакрытыкі на прадпрыемстве, у зьвязку з паступіўшымі заметкамі ў „П. П.“, выявілі шэраг недапушчальных зьявішч, што характарызуюць заціск самакрытыкі, цкаваньне рабкораў, сьценкораў. Абсьледвацелі пішуць: „Для того, чтобы искусственно создать вокруг рабкоров плохое общественное мнение, член партии Бараночников—он же член Бюро и кандидат Райкома—собирает подписи у тех, кто недоволен рабкорами, задетые ими в газете, чтобы скомпрометировать рабкора, как негодного человека с целью выжить с завода. Одно время рабкора отстраняют от общественной работы под предлогом „уходи, отдохни немного“, чтобы избавить себя от нападок. Рабкоров обзывают „собаками“, „гонорарщиками“, „забронировали себя мандатом рабкора“. Издевательство над активным рабкором и общественником Хаймовичем продолжается уже 2 года, как только он приходит на работу, группа рвачей, противники рационализаторских мероприятий, проводят его гиканьем, свистом, песнями, похабными словами. Однажды рабочий завода Хиславский, обстреленный в стенгазете Хаймовичем, взял чашку с грязной водой и окурками и облил Хаймо-

вича. Дело это разбиралось на завкоме, который вынес мудрое решение: об'являются выговора обоим—пострадавшему рабкору (Хаймовичу) и Хиславскому, который издевался над рабкором.

Еще один случай: во время перерыва рабкор Хаймович по разрешению мастера ушел в Правление ЦРК. Администрация с быстротой молнии увольняет его с работы... Через некоторое время, однако, администрация спохватилась и восстановила его обратно. Все это так подействовало на рабкора Хаймовича, что он начал кашлять кровью".

А партячэйка, заўком і адміністрацыя на ўсе гэтыя факты зусім не рэагавалі.

Вось якое становішча з самакрытыкай у вытворчых ячэйках.

*Вынікі чысткі 20-ці савецкіх ячэек*, а таксама азнаямленьне з работай ячэек Акрфа і Акрсуду, у сувязі з абследваньнем гэтых органаў ЦКК, паказваюць, што ў гэтай групе ячэек самакрытыка не разгорнута, ячэйкі не паставілі ў асяродку ўвагі і практычнага вырашэньня пытаньняў барацьбы з бюрократызмам, спрашчэньня савецкага апарату, значная частка ячэек нават не прапрацоўвала пастановы ЦК УсеКП(б) аб задачах работы савецкіх ячэек. Падамо некаторыя факты:

*Ячэйка Камунаддзелу.* Работа гэтае ячэйкі праверкамісіяй прызнана нездавальняючай. Вынікі РСІ ад 14 жніўня мінулага году аб становішчы апарату пасьля артыкулу ў „Пал. Праўдзе" п. н. „Цёмныя справы працаўнікоў Камунаддзелу" ня былі прапрацаваны. Ячэйка зусім не займалася пытаньнямі зьніжэньня адм.-гаспадарчых выдаткаў, зжываньня цеганіны, ня было сувязі апарату з рабочаю масаю, ня было самакрытыкі ў рабоце апарату, наліччa грубых скажэньняў клясавае лініі". Ячэйка ўжо пасьля чысткі 23-XII 1929 г. прымае наступную пастанову аб запазычанасьці супрацоўнікаў Камунаддзелу: „Заслушав информацию т. Гибалевича о задолженности сотрудников Коммунотдела, в том числе и руководителя т. Коровина, бюро считает недопустимым явлением то, что со стороны руководителя т. Коровина было обращено недостаточное внимание по этому вопросу, вследствие чего задолженность сотрудников выражается на сегоднешний день в 3.000 рублей. Вместе с тем, бюро считает недопустимым и неэтичным поступком со стороны Коровина, что последний занимался самоавансированием и задолженность т. Коровина выражается в сумме 450 р. На основании этого, бюро считает необходимым за моменты слабого реагирования и непринятия решительных мер к ликвидации задолженности сотрудниками и за самоавансирование со стороны руководителя—об'явить т. Коровину выговор. Одновременно с этим предложить руководителю т. Коровину принять решительные меры к ликвидации задолженности, не останавливаясь перед тем, чтобы с особо злостных неплатильщиков взыскать в судебном порядке. Предложить т. Коровину ликвидировать свою задолженность (450 р.) в 6-ти месячный срок". Вось „паказчык" работы ячэйкі на грунце „самакрытыкі".

*Ячэйка Полессельсаюзу* (2 разы чысьцілася). У ячэйцы выкрыты шэраг спраў правае практыкі, зрашчваньне з чужым элемэнтам, сувязь з прыватнікам (сад. саюз.). Палессельсаюз дапусьціў арганізацыю крухмальнае арцелі з кулакоў, даваў пазыкі кулакам, разьмяркоўваў сярод іх машыны. Малочсаюз—засьмечан заможнымі элемэнтамі, сярод часткі партыйцаў правыя настроі: „если не будет мешать кулак, пусть идет в колхоз", „почему его не принять в колхоз, если он хороший хозяин?". Ячэйка не мобілізавала ўвагі на барацьбу з гэтымі недахопамі, на барацьбу з бюрократызмам, цеганінай, за спрашчэньне апарату. Самакрытыка не разгорнута, былі выпадкі заціканьня (выклік кіраўніком Рыўкіным супрацоўніка Чэрніна, напісаўшага артыкул аб недахопах

ячэйкі), боязкасьць крытыкаваць адкрыта. Сярод беспартыйных служачых ходзяць гутаркі: „беспартийный зависит от руководителя, укажу недостаток, а он меня сократит, пути для этого найдет“. Доказам гэтага зьявілася амаль поўная адсутнасьць выступленьняў беспартыйных служачых у час чысткі і праверкі кіруючых кадраў.

*Ячэйка АКРФА.* Абсьледаваньне ад ЦКК грашовага апарату Гомельшчыны выкрыла грубейшыя права-опортуністычныя скажэньні лініі партыі ў падатковай практыцы, як недаабкладаньне кулацкіх, нэпманскіх элемэнтаў, пры чым парт'ячэйка ў час чысткі фактычна замазала гэтыя скажэньні ў сваёй рабоце. Самакрытыка разгорнута зусім нездавальняюча, з боку шэрагу партыйцаў, у тым ліку і актыву, наглядаецца неразуменьне задач партыі ў галіне самакрытыкі. Напрыалад,—па пытаньню аб чыстцы апарату граш. аддзелу выносіцца на кгульным сходзе служачых, дзе прысутнічаў і сэкратар ячэйкі—пастанова з такім канцом: „Прымаючы пад увагу спэцыфічныя ўмовы грашовага апарату, якім не здаволены ўсялякія кулакі і нэпманы, прасіць камісію з асаблівай асьцярожнасьцю падыйсьці да служачых грашовага апарату“. Вось гэтая „асаблівая асьцярожнасьць“ і стварыла ўмовы сямейнага змазваньня недахопаў, яна не мобілізавала партыйцаў і наогул увесь апарат на барацьбу з праяўленьнямі бюрократызму, якія былі ў самых грубых формах. Экономработа пастаўлена нездавальняюча, нарады склікаюцца рэдка і ў гэтай галіне фактычна нічога ня зроблена.

*Ячэйка Райсаюзу.* У ячэйцы быў яўны заціск самакрытыкі, ганеньне супроць рабкора партыйца Гаўрылава, шляхам падвядзеньня пад антысэмітызм яго зусім правільнае крытыкі недахопаў у апараце Райсаюзу. Гэта падмацоўвалі тым, што Гаўрылаў крытыкаваў яўрэйскую частку працаўнікоў апарату (яўрэі—большасьць ў Райсаюзе). Прасьледаваньне Гаўрылава за крытыку стварыла спрыяючыя ўмовы для скажэньняў лініі партыі ў нацыянальным пытаньні і актывізацыі яўрэйскіх шовіністычных элемэнтаў. Гэта выклікае ў сваю чаргу і праявы антысэмітызму. Былі дапушчаны скажэньні права-опортуністычнага парадку ў гандлёвай дзейнасьці Райсаюзу. Апарат ня быў мобілізаваны на барацьбу з бюрократызмам. Пры чыстцы гэтае ячэйкі праверкому не ўдалося высьветліць сапраўднае становішча ячэйкі, таму цяпер намечана паўторная чыстка.

*Ячэйка Жылсаюзу.* У сувязі з чысткай, камісія ў сваіх выніках адзначае, что, ня гледзячы на тое, што рабочыя крытыкуюць, аднак непасрэдных кіраўнікоў (прарабаў) баяцца крытыкаваць, бо былі моманты, калі прараб пагражаў адправіць на біржу. Наогул, за крытыку можа даць горшую работу. Служачыя апарату баяцца крытыкаваць праўленьне. Камісіяй райкому ўстаноўлена, што Петрачэнка,—старшыня Жылсаюзу яўна па-непартыйнаму адносіцца да крытыкі, ён абвінавачвае яўрэйскіх працаўнікоў у яўрэйскім шовінізьме і ў тым, што яны быццам крытыкуюць яго таму, што ён—рускі і хочуць яго выжыць. Райком па гэтаму поваду ў сваёй пастанове зазначае, што „з боку Петрачэнка былі *недастаткова лояльныя адносіны да крытыкі*“. Бачыце, як мякка сказана: „нелояльныя адносіны да крытыкі“, замест кваліфікацыі ў гэтым выпадку наліччa яўнага заціску самакрытыкі.

*Ячэйка ГЭТ'у.* Камісія ЦКК разам з райкомам расьсьледавала заяву рабкора Малева аб прасьледваньні яго кіраўніком аддзяленьня ГЭТ'у партыйцам Гарневічам: устаноўлена, што ў калектыве ГЭТ'у заціскалі самакрытыку. Аднак, Райком саюзу мэталістых кваліфікаваў гэта, як „нэрвовыя адносіны да крытыкі“, у той час, калі Гарневіч нават напісаў загад, што ўсялякія заўвагі рабочых ў час працы будуць раз-

глядацца, як парушэньне працоўнае дысцыпліны. Фактычна-ж вышла, што загадам Гарневіча была адменена самакрытыка ў ГЭТ'е.

На заметку Малева, зьмешчаную ў „П. П.", аб зацiску самакрытыкі ў колектыве ГЭТ, фабком прыняў наступную пастанову: „Канстатаваць, што зацiску самакрытыкі ня было, а ёсьць частковае пакрыўленьне лініі самакрытыкі з боку адміністрацыі". На заметкі рабкораў—фабком не рэагаваў, кожная памылка рабкора раздувалася ў некалькі разоў, і гэткае становішча стварыла абставіны ігнараваньня прапаноў рабочых, немагчымасьць крытыкі недахопаў,—дайшло да таго, што ў адным з калектываў, якім кіраваў гэты фабком, разагналі рэдкалегію, на што таксама не рэагавалі.

*Ячэйка аўта-гуж-транспарту.* Ня гледзячы на тое, што райком 5 месяцаў таму назад даў дырэктыву аб разгортваньні самакрытыкі, зазначыў на зацiсканьне самакрытыкі і г. д.—яны ў асноўнай масе сваёй засталіся нявыкананымі і цяпер ёсьць таксама моманты зацiсканьня самакрытыкі з боку б. загадчыка аўтагужтранспарту Тарасевіча. Гэты загадчык заявіў на адным сходзе ячэйкі—„трэба ўбраць 2-х бузацёраў рабкораў, ці я уйду з працы". Бюро ячэйкі не праяўляла патрэбнае аб'ектыўнасьці пры вырашэньні шэрагу пытаньняў, зьвязаных з рабкорамі. Шэраг заметак рабкораў успрыймаюцца і кваліфікуюцца, як асабістыя разрахункі, склокі, адсюль—неразуменьне большасьцю ячэйкі значэньня і мэтодаў разгортваньня самакрытыкі, што прыводзіць часта да няправільных рашэньняў бюро (пастаўлена на від рабкору Восіпаву за падачу заявы на камсамольцаў), альбо пастанова бюро: „Прасіць гаррайком аб зьняцьці з работы Літвінава, як разлагаючы элемэнт у калектыве", тым часам, калі паданыя Літвінавым факты ў асноўным пацьвердзіліся.

Камісія вывучыла таксама *матар'ялы перавыбарчае кампаніі рэдколегіі насьценгазэт.* Сам райком у сваёй пастанове ад 13/I—30 г. па пытаньні „аб становішчы насьценгазэт і рабкораўскае работы ў гаррайёне" вымушан быў зазначыць наступнае: „Самакрытыка праз нізавы друк разгорнута вельмі слаба. Нават лепшыя газэты недастаткова рашучыя ў справе выяўленьня і выпукленьня хваравітых зьявішч і недахопаў як на вытворчасьці, так і ў грамадзкай рабоце. Маюцца асобныя выпадкі адкрытага зажыму самакрытыкі (электрастанцыя, аўтагужтранспарт, аб'яднаны заўком мэталістых, фінаддзел, Белдзяржбуд, ф.-ка „Труд", „Двигатель". Найбольш распаўсюджаныя мэтоды зажыму самакрытыкі—гэта скрытая форма (дробныя прыдзіркі, недалюбліваньне і інш.). Тормазам у справе разгортваньня самакрытыкі зьяўляецца несваячасовае рэагаваньне на заметкі, а часта і поўнае іх ігнараваньне, асабліва з боку адміністрацыі, а таксама ячэек, фабкомаў і інш. організацый (Акрсуд, „Двигатель", Акрза, Палесдрук, „Просвет", „Пролетарий" і інш.).

Выхаваўчая работа сярод рабкораў вядзецца вельмі слаба. Рэдка склікаюцца нарады, сходы рабкораў; якасны склад рэдколегій у значнай сваёй частцы не адпавядаў тым запатрабаваньням, якія стаяць перад газэтамі.

„Пол. Праўда" 27/IX—29 г. у сваёй перадавіцы зазначыла: „шэраг організацый слаба, альбо зусім не рэагуе на рабкораўскія заметкі, маса заметак, пасылаемых рэдакцыяй на расьсьледваньне—марынуецца ва ўстановах, часта на іх атрымоўваюцца казённыя адпіскі, нічога ня вартыя, бессэнсоўныя. Пры гэткім становішчы самакрытыка сыходзіць на ні што".

Інструктар „П. П.", які абсьледваў нізавы друк, у сваім артыкуле піша: „на большасьці прадпрыемствах—рэдколегіі прадастаўлены самі

сабе. Рэдка дзе справаздача рэдколегіі ставілася на ячэйцы". На ф-цы „Просвет" сэкратар парт'ячэйкі заявіў камісіі—„зачем вы сюда ходите, чего вы так часто обследуете нас", гэта ў той час, калі на ф-цы напісаўшага ў насьценгазэту ставяць у такія ўмовы, што ён больш ня хоча пісаць. На ф-цы „Х Кастрычнік" рэдколегія накіроўвае завкому заметку аб майстры, які сябе праявіў як стары прадпрыемца, а завком пастанаўляе—„не прапускаць, занадта рэзка". Прышлося сустрэцца з такімі адказамі: „грош цена газете, когда она пишет об администрации" (Шэйндлін, Акрсуд).

Другі абсьледавацель т. Чухман адзначыў: „большая часть редколлегий не избрана рабочими, а назначена ячейками"; асабліва гэта адносіцца да савецкіх ячэек. Шмат выпадкаў заціску самакрытыкі, боязьні пісаць у газэту. Нерэагаваньне на заметкі выклікае гутаркі,—„пишем, а что толку".

* * *

Гэтыя факты, узятыя на выбар з матар'ялаў камісіі ЦКК, сьведчаць аб тым, што самакрытыка ў Гомельскай гарадзкой арганізацыі як на прадпрыемствах, так і па ўстановах,—разгорнута нездавальняюча. Ня гледзячы на тое, што гарадзкі раённы камітэт за апошні час, у сувязі з чысткай, сам выкрыў шэраг зьявішчаў заціску самакрытыкі, прыняў па ім рашэньні („Водосвет", „Двигатель Революции", Белдзяржтэатр і інш.), аднак лінія Райкому на разгортваньне самакрытыкі была далёка нерашучая. У сваёй практычнай дзейнасьці Райком ня ўлічыў вурокі 1928 г. па справе рабкора Любіна і сваімі недапушчальнымі паводзінамі, асабліва ў справе ячэйкі Скурзаводу і рабкора Дубава—аб'ектыўна тармазіў разгортваньне самакрытыкі ў гарадзкой арганізацыі.

Нам здаецца зусім невыпадковым, што ў шмат якіх ячэйках гарраёну пры чыстцы партыі выкрыта гэткае нездавальняючае становішча з самакрытыкаю, менавіта гэтак няправільна вырашаліся рабкораўскія справы, што кампанія перавыбараў рэдколегій дала нездавальняючыя вынікі ў сэнсе характарыстыкі становішча самакрытыкі ў нізавых зьвеньнях парт., праф. і грамадзкіх арганізацый раёну. Асабліва недапушчальна яшчэ таксама тое, што ўсе гэтыя ненормальныя зьявішчы адбываліся ў момант якраз самых настойлівых дырэктыў партыі аб рашучым разгортваньні самакрытыкі і энэргічнай барацьбе з праявамі заціскаваньня самакрытыкі.

Зусім зразумела, што на ўсё гэта павінна была адказаць у першую чаргу парткіраўніцтва гарраёну, якое пагэтаму рашэньнямі ЦК і ЦКК ў сучасны момант абнаўляецца.

### Нова-Беліцкая арганізацыя

Гэта—другая буйная парторганізацыя, якая працуе ў фабрычна-заводзкім раёне, пад бліжэйшым, непасрэдным кіраўніцтвам акругкому. Паглядзімо, як тут разгорнута самакрытыка.

Абсьледваньне ячэек запалкавае ф-кі „Везувий", лесазаводу „Колтруд", сьпіртазаводу „Чырвоны Хэмік" выявіла яўна нездавальняючае становішча самакрытыкі ў арганізацыі, моманты заціску і прасьледваньня за крытыку. Гэтыя недапушчальныя скажэньні, як і моманты праваапортуністычнае практыкі былі выкрыты толькі за апошні час, пры чым адначасова, гэта значыць у парадку кампаніі.

У яч. „Колтруд" сярод ячэйкавага партыйнага актыву маецца надзвычайна вузкае разуменьне задач самакрытыкі. Яе абмяжоўваюць толькі пытаньнем аб рабсьценкорах і насьценгазэтах. Пры абгаварэньні гэтага пытаньня на 2-х партыйных сходах заводу „Колтруд" былі

такія разважаньні: „у нас дрэнна з самакрытыкай таму, што рабкоры паміж сабой не паладзілі“. На гэтых сходах кожны рабкор разьбіраўся па костачках—хто ён такі, яго паходжаньне і г. д., а вось пры абгаварэньні на ячэйцы два тыдні таму назад дакладу аб чарговых задачах ячэйкі—пытаньне аб самакрытыцы зусім не закранаецца, бо „гэта па пляну будзе стаяць асобным пытаньнем“, як казаў сэкратар ячэйкі Клімовіч. У спрэчках, як галоўны момант, стаіць пытаньне „есть ли у нас прямой, или косвенный зажим самокритики“ і выносіцца проэкт пастановы—„у нас у ячэйцы ні прамога ні косьвенага зажыму самакрытыкі няма“. У той час, калі ў ячэйцы і на прадпрыемстве гэта мела яўнае месца, успомнім справу рабкора Маркава. Супроць яго на глебе рабкораўскай дзейнасьці было організавана ганеньне і ўзьведзена клеветніцкае абвінавачваньне з інсцэніраваньнем судовае справы. Беспартыйнага рабкора Пашалыка, прыкладнага рабочага, які рашуча выкрывае недахопы на прадпрыемстве (выкрыў злачынства ў адным цэху), цкуюць, стварылі навакол яго недапушчальныя адносіны, пусьцілі чуткі, што ён сын былога абшарніка, што ён белы афіцэр, што ён шпіён з партбілетам, што ён лодыр і г. д. Тав. Пашалык прымушаны быў прасіць парт'ячэйку праверыць усе высунутыя супроць яго абвінавачваньні. Бюро ячэйкі вылучыла камісію, якая ўстанавіла, што абвінавачваньні ні на чым не абгрунтаваны, аднак, ня лічыла патрэбным яго рэабілітаваць, і ў гэтую справу прышлося ўмяшацца камісіі ЦКК.

У ячэйцы „*Чырвоны Хэмік*“ выяўлены яўны заціск самакрытыкі, неразуменьне сэнсу лёзунгу партыі аб самакрытыцы. Прадстаўнікі бюро ячэйкі на пасяджэньні бюро РК выказваюць думку, „што дзякуючы гэтай самакрытыцы нам няма часу займацца работай, толькі тое і рабі, што разьбірай заметкі“. АПА ячэйкі ў час чысткі пайшоў далей, кажучы, што „крытыка вашых рабкораў—гэта базарная крытыка“. Ход чысткі ячэйкі паказаў, што рэагаваньня на заметкі ня было, падыходзілі да паасобных заметак не па іх зьместу, а *хто* пісаў гэтую заметку. У спрэчках ставілі пытаньне—„з-за самакрытыкі мы ня можам брацца за сур'ёзную работу“, „заметкі, ня маючыя 100 проц. праўды, зьяўляюцца базарнай крытыкай“, „раз асьветлены факт не павінен больш асьвятляцца ў друку“, „у нас не рабкораў зажымаюць, а рабкоры зажымаюць“, „рабкораў баяцца і ім папусьціцельствуют“. Усё гэта яскрава характарызуе аб тых скажэньнях, якія маюць месца ў ячэйцы. На гэтым-жа прадпрыемстве беспартыйнаму рабкору т. Міко стварылі недапушчальныя абставіны ў працы, чапляюцца, хочуць як-небудзь пазбавіцца ад яго. ІІ/ХІІ-29 а 6 гадз. увечары да яго прыходзіць нам. дырэктара Перавозчыкаў і кажа: „ты нешта хворы“. Ён атрымаў адмоўны адказ. Перавозчыкаў паўтарае: „не, гэта я думаю, што ты п'яны“. Атрымаў ізноў адмоўны адказ. Нам. дырэктара пайшоў ад яго, падаслаў да рабкора Міко дырэктара заводу, старшыню аховы працы і тыя прычапіліся, што Міко п'яны. Прымусілі яго пайсьці на мэдыцынскі агляд, аказалася, што ён ня толькі ня піў, а нават ня нюхаў гарэлкі. Гэткімі мэтодамі спрабуюць компромэтаваць рабкора—грамадзкага работніка, і за ўсе гэтыя зьдзекі ніхто ніякае адказнасьці не нясе. Дзякуючы адсутнасьці кіраўніцтва рабкорамі з боку ячэйкі, рабкоры супроцьставяцца часамі і правільным указаньням партыйнае ячэйкі. Заціск самакрытыкі ў ячэйцы стварыў глебу для праяўленьня правае практыкі, правых настрояў сярод значнае часткі партыйцаў. Справа дайшла да таго, што на пасяджэньні бюро стала пытаньне аб дапамозе сакратару ячэйкі Караленка скончыць пабудову свайго дому у 3.000 р. і бюро ячэйкі выносіць пастанову „прапанаваць адміністра-

цыі выдаць Караленка цэглу і інш. матар'ялы". У выніку чысткі—бюро ячэйкі распушчана.

*Ячэйка Комбінату*. Тут былі выкрыты факты заціску самакрытыкі і звальненьне 2-х рабкораў—Астрэйкі і Склізьнёва—за крытыку недахопаў партыйца, кіраўніка работ—Лісоўскага (дзякуючы камісіі ЦКК, рабкоры цяпер адноўлены на працы). Акрамя гэт га, з боку праараба было яўнае ганеньне і ціск усялякае крытычнае думкі рабочых, напрыклад, выразы: „когда ты бросишь вмешиваться не в свои дела? Брось мне указывать!". Гэткае становішча пасеяла сярод рабочых боязкасьць крытыкаваць, нават па пытаньню самакрытыкі на рабочым сходзе ніхто не хацеў выказвацца, матывуючы тым, што „мы баімся звальненьня з працы". Ячэйка не рэагавала на гэтыя агідныя зьявішчы, больш таго, сакратар ячэйкі, будучы адначасова старшынёй рабачкому, без усялякіх падстаў аформіў звальненьне 2-х рабкораў па лініі РКК.

Абсьледваньне *ф-кі „Везувий"* і ўдзел у чыстцы 2-х ячэек таксама паказалі зусім нездавальняючае становішча працы на фабрыцы, зрыў прамфінпляну за І-ы квартал новага гаспадарчага году. Мацней загаварылі шкоднікі, кулацка-нэпманскі элемэнт, манашкі, якіх трохі ёсьць на прадпрыемстве. Партыйная організацыя ф-кі, якая налічвае 220 чалавек, комсамольцаў—120, не рэагуе як сьлед на факты антысэмітызму, якія ёсьць. Ва ўпаковачным цэху распушчана бюро ячэйкі, за ўціск самакрытыкі, дапушчэньне п'янства на рабоце, у тым ліку і партыйцаў—нават і кіраўнікоў. На фанэрным заводзе выкрыты агідныя зьявішчы шкодніцтва, аднак навакол іх, як і навакол недапушчальных скажэньняў на прадпрыемстве, ні райком, ні цэхячэйкі не мобілізавалі ўвагі партыйнага калектыву і рабочых мас. Культ-масавая работа сярод рабочых і работніц амаль не разгорнута. Усе гэтыя прычыны ў выніку даюць прарыў у вытворчай програме за першы квартал.

Вынікі чысткі ячэйкі мэханічнае майстэрні ф-кі „Везувий" кажуць аб наліччы шэрагу недапушчальных фактаў правае практыкі, асабліва па лініі жылбудаўніцтва, пабудовы ўласных дамоў (група сакратароў яч. ф-кі „Везувий" пабудавалі свае дамы). Задачы самакрытыкі не ўясьнены ячэйкай. Нават па справаздачы бюро ў час чысткі была вельмі нізкая актыўнасьць (выказаліся—адзін член партыі і тры беспартыйных). Соцспаборніцтва не разгорнута, вытворчыя камісіі і нарады не працуюць. Бюро ячэйкі за слабую работу атрымала вымову.

Вынікі чысткі ўпаковачнага цэху таксама выявілі, што хваравітыя зьявішчы, якія мелі месца ў цэху (п'янства, заціск самакрытыкі, праяўленьне момантаў нацыянал-шовінізму), яшчэ ня зжыты. З боку бюро ячэйкі да апошняга часу былі моманты сьвядомага змазваньня самакрытыкі: „не стоит выносить сор из своей избы". З боку сакратара ячэйкі Папсуевай была яўная пагроза крытыкуючаму таварышу: „яшчэ паглядзім, каму пападзе". Замест разбору па сутнасьці заметак—бюро ячэйкі шукала—*хто* пісаў. Насьценгазэта не сыгналізавала аб гэтых агіднасьцях і толькі фіксавала заднім числом зьверху ўскрытыя факты.

Абсьледваньне насьценных газэт, шмат—тыражнаегазэты „Трускі", праведзеная нарада рабсьценкораў—выявілі, што газэты зьяўляюцца фактычна бяспрытульнымі і бяззубымі, на асноўную масу заметак ніхто не рэагуе, асноўныя пытаньні (сацспаборніцтва, чыстка партыі і інш.) яны асьвятлялі нездавальняюча. Больш таго, ёсьць факты зрыву 2—3 насьценгазэт на катна-мачальным цэху і на гэта ніхто не рэагаваў. І вось рабкоры ў сваіх выступленьнях на нарадзе кажуць: „па вучоту ў нас рабкораў—40 чалавек, а запаўняюць газэту—5—6, пры чым у парадку спаборніцтва адзін сьценкор выклікае другога—хто больш напіша". Бюро цэхячэек замест кіраўніцтва газэтамі таксама падрывае

іх работу, напрыклад: партыйка Сазонава расказвала: „у нас на с'ёмцы прапісалі аднаго члена бюро ў насьценгазэце, заметка была правільная, але-ж бюро 4 разы зьбіралася, каб рэабілітаваць яго, і ўсё-ж далі няправільнае абвяржэньне". „Напісалі пра другую партыйку Эстрыну, бюро таксама няправільна яе рэабілітавала". Тут гібкасьць 100-процантная, а вось, каб наладзіць наогул рэагаваньне на заметкі—гэтага няма.

Абсьледваньне *ячэйкі Сьпіртазаводу* і асобных спраў рабочых гэтага заводу рабкора Мяжэньнікава і групы рабкораў-партыйцаў—Качаноўскага, Фрыдляндэра, Весялова, таксама сьведчыць аб скажэньні гэтай ячэйкай лёзунгу партыі аб самакрытыцы. Ня гледзячы на жорсткі вурок, які быў дадзены ячэйцы пры пераглядзе вышэйпамянёных спраў рабкораў, у ячэйцы і зараз маюцца настроі боязьні крытыкаваць, моманты заціску. Бюро і зараз, баючыся памыліцца, у пытаньнях крытыкі—ня кіруе. Пры разглядзе на бюро ячэйкі заметкі аднаго беспартыйнага рабкора Гурына, зьмешчанай у „Пал. Пр.", бюро зыйшло з правільнага шляху і замест абгаварэньня заметкі па сутнасьці, перайшло на абгаварэньне рабкора, што гэта моў крытыка клясавага ворага, што гэта чужы элемэнт і г. д. Калі старшыня Праверкому т. Кузэн, прысутнічаўшы на бюро, выправіў памылку, то праз пару дзён сэкратар ячэйкі Турчынскі „рэкамэндуе гэтага рабкора Гурына для прыёму ў партыю, будучы ўнутрана яўна супроць яго, матывуючы тым, што „я баюся, ён можа абвінаваціць мяне ў зажыме самакрытыкі". Гэты паказчык „разуменьня" лёзунгу партыі аб самакрытыцы, нават у сэкратара ячэйкі.

Раённае кіраўніцтва Н.-Беліцы ня справілася з задачамі рашучага разгортваньня самакрытыкі. Больш таго, сваімі рашэньнямі аб выключэньні з партыі групы рабкораў-партыйцаў за пасылку калектыўнае заметкі ў „Пол. Прав.", райком стаў на шлях простага заціску самакрытыкі. Райком, у прыватнасьці сакратар райкому т. Віханаў, фактычна ўвёў у абман вышэйшыя органы, абвінавачваючы таварышоў у „групіроўцы" і супроцьстаўленьні бюро, што адпала пры расьсьледваньні іх калектыўнае заметкі. Дапушчэньнем-жа процэсу над рабкорам Мяжэньнікавым і Маркавым—райком пайшоў яшчэ далей, стаў на шлях разгрому самакрытыкі ў організацыі. Завяршэньнем права-опортуністычнага кіраўніцтва Н.-Беліцкага РК, як вядома, зьявілася недапушчальнае абвінавачваньне па адрасу ячэйкі жал.-дор. палка ў „левым загібе", у той час, калі гэта ячэйка зусім правільна, па-бальшавіцкаму рэзка, крытыкавала і патрабавала пераабраньня раённага кіраўніцтва, якое дапусьціла ў сваёй дзейнасьці шэраг скажэньняў партыйнае лініі.

## Залінейны раён

Мы ня спыняемся падрабязна на характарыстыцы разгортваньня самакрытыкі ў гэтай буйной пролетарскай частцы Гомельскай акруговай парторганізацыі, бо рашэньні Бюро ЦК КП(б)Б аб становішчы Залінейнага раёну, аб прарывах клясавае лініі і опортуністычных памылках у Залінейнай організацыі яскрава сьведчаць аб зусім нездавальняючым становішчы самакрытыкі ў організацыі.

У галоўных майстэрнях самакрытыка была заціснута, супроць рабкораў вялося цкаваньне, актыўных рабкораў, якія протэставалі супроць скажэньняў і заціскаў, аддавалі пад суд, кваліфікавалі, як вар'ятаў, злодзеяў, бузацёраў і г. д. У ячэйцы працасьветы лепшую частку настаўніцтва, якая сьмела і рэзка крытыкавала агідныя злачынствы і скажэньні, вельмі часта цкавалі, абвінавачвалі ў склочніцтве,

разлажэньні і г. д. Кіраўніцтва ня здолела стаць на чале самакрытыкі і забясьпечыць яе шырокае разгортваньне „ня гледзячы на асобы“. Кіраўніцтва не прыслухоўвалася да сыгналаў, якія чуліся з асобных вучасткаў работы. На фронце разгортваньня самакрытыкі ў Залінейнай організацыі было яўнае скажэньне лініі партыі, што, нажаль, да апошняга часу грунтоўна яшчэ ня выпраўлена.

## Добруш

Чыстка колектыву—„Герой працы“ ў Добрушы праведзена камісіяй ЦКК. Сход актыву па пытаньнях самакрытыкі, азнаямленьне з матар'яламі—таксама паказваюць аб зусім слабым разгортваньні самакрытыкі і дрэнным рэагаваньні на крытыку мас у Добрушы.

Добруская партыйная організацыя яшчэ ня вышла з таго крызісу, у якім яна аказалася ў мінулым годзе (вядомыя антысэміцкія справы). Чыстка 2-х буйнейшых цэхаў выявіла настроі боязьні крытыкаваць, наліччa момантаў заціску крытыкі, дзякуючы гэтаму на фабрыцы ня выкананы прамфінплян за 1-ы квартал, ёсьць і вялікае паслабленьне ў правядзеньні соцспаборніцтва (апошні зрыў конфэрэнцыі ўдарных брагад). Некалькі ўдарнікаў заявілі аб выхадзе з ударных брыгад, дзякуючы нячуласьці, бюрократычным адносінам адміністрацыі да рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў рабочых, усё гэта сьведчыць аб наліччы на сёнешні дзень старых закасьцянелых мэтадаў профэсыянальнае работы, зусім нездавальняючае разгортваньне масавае работы як па свайму зьместу, так і па ахопу рабочых.

Чыстка таксама выявіла наліччa шматлікіх фактаў праяўленьня правае практыкі сярод камуністых—парушэньня ўнутрыпартыйнае дэмократыі.

Адсутнічае ўсялякая работа з рабкорамі і сьценкорамі. Рабкор Сударыкаў у спрэчках на сходзе актыву кажа—„самакрытыка памерла, засохла, яе ў нас у Добрушы пахавалі“.

Старшыня камісіі па чыстцы т. Бескаравайны заявіў, што „ў Добрушы ня толькі ўшчамленьне самакрытыкі, а ёсьць трывожныя сыгналы сямейнага затушоўваньня самакрытыкі. Рабкоры пішуць аб недахопах на вытворчачьці, на іх ніхто не рэагуе“.

На ячэйцы ст. Добруш беспартыйны рабочы пытае ў сэкратара ячэйкі: „Што такое соцыялізм?“ Сэкратар адказвае: „Соцыялізм гэта тое, калі ты 80% заробку аддасі грамадзе, а 20% заставіш сабе“. Варта было беспартыйнаму рабочаму не паверыць адказу сэкратара, як той праявіў грубасьць. Калі беспартыйны рабочы ў час чысткі ячэйкі ўказваў на аднаго камуністага аб яго сувязі з кулакамі, дык пасьля чысткі ён яму заяўляе: „я от тебя потел, но ты от меня в 50 раз больше попотеешь“. Мэтод глушэньня самакрытыкі выяўляецца нават і на самой чыстцы.

У Добрушы неяк атрымалася так, што 2 рабкоры засталіся па-за партыяй (выключылі) фактычна за крытыку: аднаго АКК аднавіла, а другога—выключыла, пры чым выключэньне гэтага другога рабкора Дзянічэнка праходзіла праз галаву ячэйкі, непасрэдна яго выключыла бюро колектыву за тое—„что он противопоставлял линию партии в цеху, выносил целый ряд склок в цеху и цехпартячейке, давая этим возможность чуждым элементам дискредитировать отдельных членов партии“.

АКК пайшла далей колектыву, яна выключыла яго за „подсиживание членов бюро партколлектива“ (выкрываньне іх п'янства); „возведзение против них необоснованных обвинений, в целях дискреди-

тации, за то, что приносил секретарю ячейки на квартиру водку и они вместе выпили“ (сэкратар ячэйкі застаўся і ў партыі і сэкратаром ячэйкі), „что он подговаривал исключенного члена партии апеллировать в ОКК о том, что его исключили за самокритику“(!). А вось галоўнае абвінавачваньне: „при разборе дела на парттройке подтвердилось и выяснилось, что *т. Дениченко использовал каждую ошибку в работе ячейки с тем, чтобы дискредитировать руководство ячейки*“ (якое „злачынства“!). Вось за якія „крымінальныя злачынствы“ аказаўся выключаны з партыі т. Дзянічэнка. У справе аказаўся яўна фальшывы дакумант аднаго райкому аб тым, што ён быццам быў зьнят з працы за п‘янства і за грубыя адносіны да насельніцтва, у той час, калі другія дакумэнты мясцовых організацый кажуць аб адваротным.

АКК пры разглядзе справы напэўна ня чытала выпісу з пратаколу бюро калектыву ад 10-III-29 г., дзе кіраўнікі, у тым ліку і сэкратар райкому Валюкевіч, зусім не па партыйнаму ставілі пытаньне, напрыклад: „т. Дениченко считает себя больше рабкором, чем членом партии“, „если замечает ненормальности или ошибки у товарища, никогда не скажет на бюро коллектива, а будет ходить и хныкать, что ему больно смотреть на это, как рабкору“. Дырэктар заводу Арндт кажа—„т. Дениченко считает себя только рабкором, а забывает, что он член партии. По моему, зажима нет, а у него выходит зажим“. АКК гэта праглядзела, а ў абвінавачваньні Дзянічэнка пры выключэньні яго з партыі зафіксавала: „не выполнил директивы ячейки о проведении на заседании фракции редколлегии стенгазеты председателем т. Тресковского вместо исключенного из партии Курилина“ (таксама рабкор быў выключаны з партыі, зараз адноўлены АКК): „не представил в ячейку протокола фракции редколлегии и тенденциозно там составлял протокол о гонении на него как на рабкора“ (пратакол быў складзены ўсёй фракцыяй, дзеля пасылкі ў „П. П.“). Гэткія адносіны да Дзянічэнка адштурхнулі яго ад партыйнае організацыі і ён захварэў. Рашэньне аб выключэньні яго з партыі ЦКК было перагледжана і ён адноўлены ў правох члена партыі; шэраг таварышоў у зьвязку з яго справай прыцягнуты да партадказнасьці.

### Рэчыца

Рэчыцкія справы выкрыты акруговымі парторганізацыямі, *але выкрыты надзвычайна позна*, тым часам як сыгналізацыі ў рабкораўскіх заметках былі куды раней. Прарывы ў Рэчыцы таксама сьведчаць аб нездавальняючым разгортваньні самакрытыкі, аб дапушчэньні шэрагу грубейшых скажэньняў лёзунгу партыі і простага заціску самакрытыкі на буйнейшых прадпрыемствах акругі.

Некаторыя прыклады: „На фабрыцы „Днепр“ бюро цэхпартячэйкі майстэрні патрабавала прыцягнуць да партадказнасьці рэдактара насьценгазэты за тое, што ён зьмясьціў выкрываючую заметку на члена партыі без узгадненьня гэтага пытаньня з бюро партячэйкі. Парткалектыў не рэагаваў на заявы рабкораў аб зацісканьні самакрытыкі на ф-цы. У калектыве была ўстаноўка контраляваць усе бяз выключэньня заметкі да іх зьмяшчэньня ў газэце. Сэкратар парткалектыву т. Фрэйдлін, інформуючы бюро аб рашэньнях цэхпарт‘ячэйкі па контролю заметак на комуністых, заявіў: „это решение, официяльно надо отменить, но на практике его надо проводить“, гэта заява была прынята як партыйная ўстаноўка. Рабочаму Стрэль-

чанка за напісаную заметку на комуністага, якая цалкам пацьвердзілася, вынесьлі вымову на рабочым сходзе і прапанавалі: „Ня бузіць на ўвесь цэх“. Выступленьне супроць сакратара парткалектыву кваліфікавалася як падрыў партыйнага кіраўніцтва, як паход супроць адказных працаўнікоў, супроць лініі партыі (?). Калі член партыі Смалякоў напісаў заметку пра сэкратара партколектыву пад загалоўкам „Лакіраваныя комуністы“, дык за гэта патрабавалі выключэньня Смалякова з партыі, ацэньвалі гэта, як троцкізм, больш таго, за гэту заметку рабкора аддалі пад суд.

Па заводу „Інтэрнацыянал“—былы дырэктар заводу (Зелянкоўскі) на просьбу прыбыўшага чырвонаармейца прыняць яго на завод адказаў—„мне рабкоры не нужны“, а справа ў тым, што брат гэтага чырвонаармейца Дзянічэнка быў рабкорам на гэтым заводзе. Загадчык цэхам Ганчарэнка адказвае на заметку, якая была напісана пра яго:—„Дал бы в рожу, чтобы больше не писали“.

Тав. Разумаў у адным артыкуле, пад загалоўкам „Рабкор в осаде“, апісвае шлях аднаго найбольш актыўнага рабкора з Рэчыцы—Місюкова. Гэты рабкор (член фабкому, старшыня вытворчае камісіі, старшыня ячэйкі Аўтадору, член Праўленьня Жылтаварыства) вядзе шэфскую працу на вёсцы. Здаецца, яму павінны былі дапамагчы.—Дык куды? „Обиженные партийцы“ пачынаюць зьбіраць усялякія плёткі пра Місюкова—пускаюць хлусьлівыя чуткі аб тым, что брат яго расстрэляны за бандытызм, што сам ён дзесьці прадаваў соль, што яго дзесьці судзілі, што ён падхалім, кар'ерыст, хабарнік, склочнік і растратчык. Цэлы вечар судзілі Місюкова на бюро ячэйкі за заметку, напісаную ім у „П. П.“ у прысутнасьці прадстаўнікоў райкому Саланца і Узьдзінскага, прычым заметку ніхто аправергнуць ня мог, аднак яму за гэтую заметку вынесьлі вымову. Гэта рашэньне было нязначнай большасьцю прынята сходам.

Глушыцелі потым пачалі дзейнічаць далей. Чым больш вострай была крытыка рабкора Місюкова, тым больш вострай становіцца цкаваньне рабкора. У насьценгазэце зьявіліся заметкі членаў партыі пад загалоўкамі „Кар'ера Місюкова“, „Місюк на аўтадораўскія ўзносы купляе сабе ложак“, пачаліся размовы на заводзе, што яго трэба зволіць, пачалі зьбіраць матар'ял супроць яго... І толькі камісія АКК РСІ на працягу тыдню змагла разьвязаць клубок і адвесьці ўдар, які быў занесены над галавой рабкора. Рабочыя далі самы лепшы водзыў Місюкову ў часе расьсьледваньня яго справы.

Вось як у Рэчыцы распраўляліся з крытыкуючымі!

---

## Пытаньні самакрытыкі і акруговае партківаўніцтва

Аб тым, як у Гомелі падыходзілі да вырашэньня *рабкораўскіх спраў,* досыць шырока ўжо асьвятлялася ў нашым друку (пастановы ЦКК па справах рабкораў Межэньнікава, Маркава, Дубава, Гаўрылава, Заікі, Дзянічэнка і інш.

Няверная ўстаноўка партківаўніцтва наконт „чыстай самакрытыкі“, за якую, бясспрэчна, з радасьцю прагаласуюць правыя опортуністыя, стварыла спрыяючую глебу для расправы з найбольш перадавымі і актыўнымі рабкорамі з боку глушыцеляў самакрытыкі. Замест бязьлітаснае барацьбы з апошнімі, асноўны ўпор быў зроблены на вышукваньне „клясавага ворага“ сярод рабкораў, на фактычную барацьбу з перадавою часткаю рабкораў. Узьнік цэлы шэраг спраў па абвінавачваньню рабкораў у політычных групоўках, накіраваных супроць

парткіраўніцтва і за падрыў вытворчасьці (справа рабкораў сьпіртазаводу і гарбарні). Былі сфабрыкаваны абвінавачваньні на рабкораў у хуліганстве і чубараўшчыне (справа рабкораў Маркава і Мяжэньнікава). З мэтаю дыскрэдытацыі рабкораў супроць іх шгучна фабрыкаваліся беспадстаўныя абвінавачваньні ў антысэмітызьме (справа рабкора Гаўрылава), такія недапушчальныя і ганебныя мэтоды ўжывал ся для барацьбы з рабкорамі, а гэта значыць і для глушэньня самакрытыкі. У Гомелі справа дайшла нават да таго, што рабкоры імкнуліся пакончыць самагубствам (справа рабкора Ліндэнбаўма).

Адносна *ролі АКК,* разгортваньні самакрытыкі трэба адзначыць, што ў зьвязку з гэтым пытаньнем *Прэзыдыум ЦКК прызнаў дзейнасьць АКК нездавальняючаю.* За дапушчэньне ў рашэньнях па рабкораўскіх справах, грубых парушэньняў лініі партыі аб самакрытыцы, за слабасьць у барацьбе з глушыцелямі самакрытыкі *АКК акрамя гэтага абвешчана вымова.* Прэзыдыум ЦКК канстатаваў, што прыняцьцем шэрагу памылковых рашэньняў па рабкораўскіх справах, сваёю нерашучасьцю і нясьмеласьцю ў барацьбе з глушыцелямі самакрытыкі, няўмешваньнем у справы неабгрутованых рэпрэсій праз суд супроць асобных рабкораў—АКК об'ектыўна садзейнічала ўзмацненьню бюрократычных элемэнтаў, накірованых супроць самакрытыкі і ў гэтых адносінах АКК ня выканала пастаўленых партыяй задач".

Нявыразная лінія АК і АКК у пытаньнях самакрытыкі адбілася на практыцы газэты *„Полеская Правда".* Газэта з-за боязьні „левых загібаў" і „перахлёстваньняў" аказалася нябздольнай сьмела і рашуча паставіць рад баявых пытаньняў па барацьбе з праваопортуністычнымі скажэньнямі, па сапраўднаму разгортваньню самакрытыкі „ня гледзячы на асобы". Газэта страціла свой твар, як кіруючы друкаваны партыйны орган.

*Калі ўнікнуць у створаную ў Гомелі абстаноўку фактычнага заціску самакрытыкі—нам будзе зусім зразумела, чаму меў месца ў організацыі шэраг іншых буйных палітычных памылак і прарываў.*

Мы вышэй закранулі ўжо пытаньне аб праявах праваопортуністычнае практыкі, калі капіталістычныя элемэнты з санкцыі Акрвыканкому і Нова-Беліцкага райкому імкнуліся аўладаць асобнымі вучасткамі сампрамкоопэрацыі (справа аб пабудове каніфольнага заводу пры дапамозе прыватнага капіталу). У Гомельскіх *фінорганах* мелі месца ня менш выразныя ўзоры праваопортуністычнае практыкі, як недаабкладаньне кулацкіх гаспадарак, недаабкладаньне прыватнага сэктару, грубыя скажэньні клясавае лініі і яўныя злачынствы ў падатковай практыцы шэрагу раённых фінорганаў, як недаабкладаньне прыслужнікаў рэлігійных культаў, недапушчальнае становішча са спаганьнем падатку з тылаапалчэнцаў і г. д. У практыцы *судовых органаў* выкрыты рад фактаў грубых скажэньняў клясавае лініі (па падатковых справах). Суд не дааценіў соцыяльнае небясьпечнасьці супраціўленьня капіталістычных элемэнтаў нашаму разгорнутаму соцыялістычнаму наступленьню і ў цэлым шэрагу выпадкаў, скажаў клясавую лінію мяккімі прысудамі па справах гандляроў і нэпманаў. Гомельскія судовыя органы не разгарнулі рашучае барацьбы з бюрократызмам і цеганінай, з глушыцелямі самакрытыкі. Наадварот, акрсуд і прокуратура сталі на зусім няправільную, грубапамылковую позыцыю пры правядзеньні ганебных процэсаў супроць рабкораў (справы т. т. Маркава і Мяжэньнікава). Судовыя органы спынялі па „немэтазгоднасьці" цэлы рад спраў аб бюрократызьме і цеганіне. І ў гэты час Гомельская АКК, заслухаўшы даклад пракуратуры, ухваліла яўна опортуністычную рэзолюцыю, у якой моўчкі абышла пытаньне аб кляса-

вай лініі судовых органаў, замяніўшы конкрэтныя дырэктывы ў гэтым напрамку опортуністычным адвакацкім тэрмінам „аб прававвых нормах сялянства“.

Нерашучае і нездавальняючае разгортваньне самакрытыкі стварыла спрыяючую глебу для скажэньняў лініі партыі і на іншых вучастках работы. Зброя пролетарскае самакрытыкі ня была накіравана супроць тых, хто скажаў лінію партыі ў *нацпытаньні*. У організацыі былі яўныя скажэньні ў пытаньнях нацыянальных узаемаадносін, калі пад шыльдай барацьбы з антысэмітызмам глушылася самакрытыка, змазваліся праявы яўрэйскага шовінізму (райсаюз). Увага парторганізацыі была нездавальняюча мобілізавана на барацьбу з беларускім нацыянал-дэмократызмам. Нерашуча выконваліся дырэктывы партыі аб беларусізацыі. У цэлым шэрагу выпадкаў не праводзілася барацьба са скажэньнямі нацыянальнае політыкі, якія насілі яўна вяліка-дзяржаўны русацяпскі характар.

У ходзе абсьледваньня ЦКК былі выяўлены недапушчальныя *факты сямейнасьці і кругавое парукі*, у выніку чаго асобныя партыйцы, ня вартыя быць членамі партыйных кіраўнічых органаў, трапілі ў члены бюро акруговага камітэту партыі (справы Херомінскага і Касавога). Аб маючыхся компрамэтуючых матар'ялах на гэтых партыйцаў у Гомелі доўга маўчалі і толькі ў прысутнасьці камісіі ЦКК было вырашана пытаньне аб вывадзе гэтых партыйцаў са складу бюро акруговага камітэту партыі.

Мы паўтараем: усе гэтыя зьявішчы ў Гомелі адбыліся таму, што ў парторганізацыі сапраўдная дзейная самакрытыка, ня гледзячы на асобы, была разгорнута зусім нездавальняюча.

Мы цяпер ужо ведаем, як у Гомелі за рэзкую і правільную крытыку праяў правага опортунізму на практыцы—штучна прышываліся ўхілы. Калі ячэйка чыгуначнага палка выступіла з рэзкаю крытыкаю праваопортуністычнае лініі Нова-Беліцкага райкому партыі (справа аб пабудове каніфольнага заводу), то сэкратар АК КП(б)Б т. Малаковіч на пленуме акругкому (лістапад 1929 г.) абвінаваціў ячэйку і сэкратара ячэйкі ў „левых заскоках“. Гэткія-ж недапушчальныя адносіны з боку сэкратара АК былі ім праяўлены і да іншых таварышоў, якія крытыкавалі памылкі акруговага парткіраўніцтва.

Вось як ацэньвае гэтыя факты Ц. О. „Правда“ у перадавой партаддзелу ад 3 лютага г. г.:

„Опортуністы заўсёды крычаць аб „свабодзе крытыкі“. Але як толькі ён сам становіцца на чале кіраўніцтва, дык тут-жа бязьлітасна расправляецца з тымі, хто на справе рэалізуе лёзунг партыі аб самакрытыцы. Для опортуністага бальшавіцкая самакрытыка сьмерці падобна. Вось чаму раённае кіраўніцтва, сумесна з акр. КК выключае рабочых з партыі за тое, што яны ўтрох даюць допіс у газэту.

Правы опортуністы, стоячы ля кіраўніцтва, абвінавачвае ў троцкізьме членаў партыі пасьлядоўна праводзячых у жыцьцё лінію партыі. Опортуністыя высоўваюць абвінавачваньне ў троцкізьме супроць таварышоў, што стаяць на позыцыі партыі, для таго, каб з імі расправіцца. Такі мэтод па сутнасьці практыкаваўся Гомельскім партыйным кіраўніцтвам“. Нам, здаецца, што непатрэбна дадаваць да гэтае характарыстыкі Гомельскага парткіраўніцтва [1]).

[1]) Рашэньнем аб'яднанага пасяджэньня Бюро ЦК і прэз. ЦКК ад 10-II—1930 г. т. Малаковіч па асабістай просьбе вызвалены ад абавязкаў сэкратара Гомельскага АК.

Апісаныя тут буйныя палітычныя памылкі і прарывы, якія былі дапушчаны кіраўніцтвам Гомельскае організацыі КП(б)Б, яшчэ і яшчэ раз падкрэсьліваюць, куды можа прывесьці нерашучае і нездавальняючае выкананьне дырэктыў партыі аб самакрытыцы. Гэтыя прарывы яшчэ і яшчэ раз падкрэсьліваюць патрэбнасьць упарта, настойліва і бязьлітасна змагацца з усялякімі скажэньнямі баявога бальшавіцкага лёзунгу партыі аб разгортваньні дзейнае пролетарскае самакрытыкі „ня гледзячы на асобы“, бо без самакрытыкі немагчыма мобілізацыя ўсіх сіл партыі і рабочае клясы на вырашэньне грандыёзных задач соцыялістычнага будаўніцтва і выкарчоўваньне рэштак капіталізму ў нашай краіны.

---

П—ч

# Аб становішчы самакрытыкі ў Віцебскай парторганізацыі

## Самакрытыка—асноўны мэтод усяе нашае працы

Адозва ЦК УсеКП(б) да ўсіх членаў партыі, да ўсіх рабочых па пытаньні аб самакрытыцы асабліва яскрава адзначае і падкрэсьлівае вялізарнае значэньне самакрытыкі, як аднаго з важнейшых *мэтодаў* уцягненьня рабочых мас у соцыялістычнае будаўніцтва („задачи реконструктивного периода не могут быть решены без самого смелого, самого решительного, самого последовательного вовлечения масс в дело социалистического строительства, проверки и контроля со стороны этих миллионных масс всего аппарата его очищения от негодных элементов").

Вось гэтага значэньня самакрытыкі далёка яшчэ не разумеюць парторганы на мясцох. Досыць часта разумеюць самакрытыку, як такую дырэктыву, якую варта прапрацаваць на агульным партыйным, ці профсаюзным сходзе—і кропка. А што самакрытыка—асноўны мэтод штодзеннае працы масавых організацый—гэта неяк забываецца, выпускаецца. Пагэтаму правільна рабочыя адзначылі (і на швэйнай фабрыцы „Прафінтэрн", панчошнай і інш.), што „ў нас самакрытыка тады, калі хтонебудзь прыяжджае з цэнтру і ставіць гэтае пытаньне на абгаварэньне". У кожнае паўгодзьдзе організуюцца вечары самакрытыкі, на якіх адзначаецца шмат недахопаў, якія павінны былі зжывацца штодзенна, прымаецца добрая, гучная рэзолюцыя аб разгортваньні самакрытыкі, а назаўтра забываюць аб усім, ніхто не займаецца рэалізацыяй дадатных прапаноў рабочых і адхіленьнем адмоўных бакоў у працы прадпрыемства, якія выяўляюцца на вечарох самакрытыкі і наогул маюць месца на прадпрыемствах. Таму лёзунг самакрытыкі набывае нейкае абстрактнае значэньне, замест таго, каб прапітаць ёю ўсю работу партыйных, профэсыянальных і савецкіх організацый. Неразуменьне самакрытыкі, як *мэтаду* работы, прыводзіць да таго, што не вядзецца фактычна барацьбы з опортунізмам на практыцы, з бюрократызмам. У яч. Віцебскага гар. камітэту ўзаемадапамогі бязумоўна ёсьць добрыя рэзолюцыі супроць правага ўхілу і барацьбы з ім. Уся бяда толькі ў тым, што памянёны камітэт у сваёй практычнай штодзеннай працы яскрава ажыцьцяўляў правую тактыку, а ячэйка гэтага ня бачыла, ня гледзячы на рэзолюцыю, якую яна прыняла супроць правага ўхілу. Чаму так здарылася? Таму, што самакрытыка ў гэтай установе (зноў-такі мелася добрая рэзолюцыя і аб самакрытыцы) ня толькі ня была разгорнута, а была ў загоне. Спробы некаторых супрацоўнікаў пакрытыкаваць дзейнасьць камітэту, яго недахопы праз насьценгазэту, расцэньваліся, як „спробы варожых элемэнтаў скарыстаць насьценгазэту, каб падар-

ваць аўторытэт рабочага вылучэнца“, пасьля гэтага газэта ня выходзіла некалькі месяцаў, матар‘ял хаваўся рэдактарам газэты (беспартыйная жанчына) пад падушкаю і на гэта агіднае зьявішча ніхто не рэагаваў у свой час.

Ячэйка нарсувязі на працягу году нічога абсолютна не рабіла, прадстаўляла сабою своеасаблівае парожнае месца і ніхто не заікнуўся аб гэтым—бо самакрытыка была ў загоне.

У яч. лекавых установ існавала сямейнасьць, пакрывацельства недахопаў друг за другам—гэта выцякала з неразуменьня лёзунгу самакрытыкі, бо кіраўнік установы, растлумачваючы дырэктывы партыі, абавязкова патрабаваў ад кожнага выступаўшага з самакрытыкай—аб асобах менш за ўсё гаварыць, а аб недахопах установы ў цэлым, прычым абавязкова даваць конкрэтныя мерапрыемствы, як зжыць гэтыя недахопы. Пагэтаму пра *асобы* маўчалі, гэта і ёсьць, як быццам, крытыка „ня гледзячы на асобы“, маўчалі і аб агульных недахопах установы,—ня ўсякі можа адначасова з крытыкай недахопаў, якія ён бачыць простым вокам, даць і прапановы, як зжыць гэтыя недахопы. Можна было-б прыводзіць яшчэ шмат прыкладаў з дзейнасьці паасобных ячэек аб неразуменьні самакрытыкі, але хопіць і гэтых. Чыстка вясковых і савецкіх ячэек у Віцебскай парторганізацыі паказала, што амаль няма ніводнае ячэйкі, дзе не скажаліся-б дырэктывы партыі аб самакрытыцы, ці ў лепшым выпадку—самакрытыка не разгорнута, як сьлед.

Асноўны вывад, які можна зрабіць з вышэйсказанага, у тым, што ў сучасны момант парторганізацыі, якія не зразумелі, што самакрытыка зьяўляецца асноўным мэтодам усяе нашае работы, ня змогуць выконваць вялізарных задач, пастаўленых партыяй у справе рэконструкцыі ўсяе нашае гаспадаркі.

Дарэмна будуць прымацца гэтымі парторганізацыямі гучныя рэзолюцыі аб барацьбе з опортунізмам усіх колераў („правым“ і „левым“), аб барацьбе з бюрократызмам, усё гэта застанецца на паперы, калі самакрытыка ня будзе ўзьнята на належную вышыню, калі ўсе партыйныя, а за імі профсаюзныя, коопэрацыйныя і савецкія органы не перабудуюць форм і мэтодаў свае працы.

Ступень ажыцьцяўленьня лёзунгу самакрытыкі, пры праверцы на тым ці іншым прадпрыемстве, установе, організацыі трэба ацэньваць не таму, колькі раз былі зроблены даклады, ці прыняты рэзолюцыі, а наколькі палепшана праца ўстановы, прадпрыемства, організацыі, наколькі ўцягнуты шырокія масы ў працу, наколькі адхілены недахопы, паказаныя імі, наколькі павялічылася вытворчасьць працы.

## Для разгортваньня самакрытыкі трэба скласьці належныя ўмовы

Акрамя зразуменьня таго, што самакрытыка зьяўляецца асноўным мэтодам працы партыйных, профэсыянальных і савецкіх організацый, неабходна яшчэ забясьпечыць ва ўсёй сыстэме працы гэтых органаў належныя ўмовы для разгортваньня самакрытыкі, бо „дарэмна крычаць аб самакрытыцы“, калі для разгортваньня яе ня будуць зложаны спрыяючыя ўмовы, ня будзе забясьпечана дзейснасьць самакрытыкі. Галоўнай умовай для разгортваньня і садзейнічаньня самакрытыкі, як гэта адзначаюць дырэктывы ЦК УсеКП(б)—зьяўляецца захаваньне *ўнутрыпартыйнай і профэсыянальнай дэмократыі*: „только последовательно проведенная внутрипартийная и профсоюзная демократия—подлинная выборность партийных и профсоюзных органов, полная возможность смещения любого секретаря, любого бюро, комитета и т. д.—создает постоянный контроль масс, сможет снять бюрократические

наросты с нашего аппарата и уничтожить возможные проявления бюрократического зажима, компанейской „круговой поруки“, чиновной угодливости, самодурства, забвения интересов масс и мещанской успокоенности. Вне этих мероприятий лозунг самокритики превратится в бумажную отписку, которая лишь скомпрометирует в глазах масс и этот лозунг, и руководство партии, и самое партию“.

Некаторыя парторганізацыі і партячэйкі паступаюць наперакор гэтым дырэктывам. Яскравым прыкладам грубага парушэньня дырэктыў партыі аб унутрыпартыйнай дэмократыі паказвае нам практыка Сураскага РК КП(б)Б у адносінах да вытворчае ячэйкі картон. ф-кі імя „Вароўскага“ і дзейнасьць самое ячэйкі. На працягу шэрагу гадоў там зьмяняўся адзін сэкратар за другім. Гэты факт прыводзіўся працаўнікамі Сураскага РК, каб давесьці, якія дрэнныя і мала выхаваныя партыйцы і наогул рабочыя на фабрыцы, якія ня любяць прысланых сэкратароў ячэйкі і выжываюць іх. Пры больш блізкім азнаямленьні з фактамі аказалася, што раённы камітэт на працягу апошніх гадоў праяўляў выключнае адміністраваньне і верхаглядства ў кіраўніцтве ячэйкай. Досыць адзначыць толькі той факт, што партячэйка выбрала ў сэкратары аднаго таварыша, а РК наперакор ячэйцы адклікае яго, дае яму яшчэ вымову за „абраньне“ і прысылае новага таварыша. Гэта-ж самое адбылося і з выбарам у фабком. Супроць аднаго таварыша ў фабком выказалася большасьць ячэйкі, а РК, каб захаваць „честь мундира“, катэгорычна навязвае гэтую кандыдатуру, партыйцы падпарадкуюцца, але-ж на агульным сходзе рабочых кандыдатура праваліваецца і такім „парткіраўніцтвам“ бязумоўна быў падарваны аўторытэт партыі ў цэлым.

Натуральна, што пры такім грубым парушэньні дырэктыў партыі аб унутрыпартыйнай і профсаюзнай дэмократыі ўмоў для разгортваньня самакрытыкі ня толькі ня было, а наадварот, на гэтым прадпрыемстве быў выключны заціск самакрытыкі і прасьледваньне за самакрытыку.

У Вышэцкай ячэйцы (Межынская райпарторганізацыя) быў такі выпадак, калі пры выбарах бюро ячэйкі ў прысутнасьці сэкратара РК (мінулага складу) была абрана канд., якую не падтрымліваў сэкратар РК, то апошні пускаецца на „трюк“, парушаючы статут партыі: дае права голасу прысутнаму канд. партыі, але калі кандыдат партыі таксама не падтрымаў сэкратара РК, ён пазбаўляе яго голасу, а сам галасуе і, урэшце, усё-ж такі праводзіць тую кандыдатуру, якую сам выставіў. Аўторытэт РК такім чынам выратоўваецца. Па прастаце душы, гэты сэкратар РК думае, што ён выконвае дырэктывы партыі, а ня груба парушае іх. З такім, досыць „спрошчаным“ разуменьнем парткіраўніцтва, бязумоўна, трэба весьці самую рашучую барацьбу.

Дырэктывы партыі гавораць аб замене ў любы час любога сэкратара і бюро камітэту, якія не апраўдалі сябе, абюрокрацiліся і г. д. Тымчасам, амаль зусім няма такіх прыкладаў, каб па ініцыятыве мас і самімі масамі быў зьняты той ці іншы працаўнік, падарваўшы давер‘е мас. У большасьці такіх выпадкаў працаўнік „здымаецца“ ціхенька, бяз шуму (а гэта значыць бяз шырокага і актыўнага ўдзелу мас) і добра, калі ён не пасылаецца на больш адказную працу, а ў большасьці выпадкаў бывае наадварот—высоўваецца на яшчэ большую працу, чым да гэтага часу.

Між іншым, захаваньне ўнутрыпартыйнае дэмократыі патрабуе, каб масы, якія ўдзельнічалі ў выбарах таго ці інш. працаўніка, павінны прымаць удзел і ў зьняцьці яго.

Дзеля таго, каб крытыка не абярнулася ў „балталёгію“, трэба забясьпечыць сваячасовае рэагаваньне на самакрытыку і рэалізацыю тых

прапаноў, якія ўносяцца ў парадку самакрытыкі. Практыка і факты паказваюць, што ў гэтай частцы справа абстаіць вельмі агідна, фармальна і бюрократычна.

Паколькі гэта носіць да апошняга часу масавы характар, трэба вакол гэтага скласьці такую думку, што несваячасовае рэагаваньне з боку адміністрацыі, профсаюзных і партыйных органаў павінна разглядацца об'ектыўна, як саботаж, як нежаданьне садзейнічаць разгортваньню самакрытыкі, у не залежнасьці ад таго, як і што думае тэй ці іншы адміністратар, ці прадстаўнік адпаведнае організацыі наконт гэтага.

Асабліва дрэнна абстаіць справа з рэагаваньнем на газэтныя заметкі (насьценгазэты і шматтыражныя на прадпрыемствах). Нідзе ня знойдзена на абсьледваных прадпрыемствах і ўстановах, каб была якаянебудзь сыстэма па рэагаваньню на газэтныя заметкі і наогул на прапановы рабочых.

Некаторыя посьпехі мы маем толькі ў галіне рэалізацыі прапаноў рабочых праз вытворчыя камісіі і нарады, дзякуючы таму, што вакол гэтага пытаньня за апошні час была складзена пэўная грамадзкая думка, а таксама гэтаму магчыма дапамог спэцыяльны дэкрэт СНК СССР аб прыцягненьні віноўных да судовае адказнасьці за невыкананьне карысных прапаноў рабочых. Што датычыцца агульных сходаў, вечароў самакрытыкі, насьценгазэт, куды вельмі часта зьбіраецца цэлая куча прапаноў і паказаньняў рабочых на недахопы, ніхто не бярэ на сябе абавязку сачыць, каб усе мэтазгодныя прапановы былі рэалізаваны, каб недахопы былі адхілены. Узяць хаця-б агульныя сходы рабочых. Звычайна, на іх прымаюцца пастановы, не гаворачы ўжо аб шэрагу прапаноў рабочых, якія ўносяцца ў спрэчках, і амаль ніхто не праводзіць гэтых пастаноў у жыцьцё, а калі і праводзіць, то перад рабочымі не адлічваюцца аб ступені выкананьня іх. А ёсьць-жа пэўная пастанова ВЦСПС, якая абавязвае праформы, на кожным сходзе першым пунктам парадку дня рабіць інформацыю аб тым, як выкананы пастановы, прынятыя папярэднімі сходамі. Гэтага ніхто ня робіць. Гэтым самым выхоўваецца ў рабочых масах, дзякуючы безадказнасьці профэсыянальных і парторганаў на прадпрыемствах, на абавязку якіх ляжыць правядзеньне пастаноў агульных сходаў, абыякія адносіны да прымаемых рэзолюцый і пастаноў.

Тое-ж самае і ў галіне рэагаваньня на газэтныя заметкі. На ўсіх прадпрыемствах і ўстановах, дзе толькі ня прыходзілася быць, усюды рэдакцыі газэт скардзяцца, што ніхто не зьвяртае ўвагі на тыя заметкі, якія зьмяшчаюцца на старонках друку („Чулочница", „Метпромовец", „Очковщина" і г. д.). І самі рэдакцыі, асабліва бюро дасягненьняў слаба працуюць у гэтым напрамку, не дамагаюцца належнае рэалізацыі газэтных заметак. Аб усім гэтым маецца шэраг дырэктыў і пастаноў партыйных органаў, а „воз", што называецца, і „ныне там". Аднак, пакінуць так становішча нельга. Партячэйкі на прадпрыемствах павінны заняцца справаю пастаноўкі правільнага рэагаваньня на прапановы рабочых, што паступаюць у парадку самакрытыкі (агульныя сходы, друк і г. д.). Дзеля гэтага, у першую чаргу, партячэйкам самім трэба паказаць сваім прыкладам, як трэба рэагаваць і рэалізаваць прапановы рабочых. У другую чаргу—прыцягваць да партыйнае адказнасьці ўсіх тых, хто бюрократычна адносіцца да адхіленьня недахопаў, паказаных рабочымі. Вылучыць спэцыяльных працаўнікоў па лініі партячэек, фабкомаў, на абавязку якіх ляжыць сачыць за пастановамі агульных сходаў, за рэалізацыяй рознага роду прапаноў і заўваг, унесеных з боку шырокіх мас на гэтых сходах. Органы КК РСІ на месцох

павінны ў большай меры прыцягваць да адказнасьці віноўных адміністратараў, гаспадарнікаў, партячэйкі і прафорганы за нерэагаваньне на прапановы і газэтныя заметкі рабочых.

Калі Віцебская АКК прыцягнула да адказнасьці дырэктара панчошнае фабрыкі за нерэагаваньне на газэтныя заметкі, то гэта дало пэўныя вынікі. Пасьля таго ў адміністрацыйным парадку быў зложаны загад па фабрыцы аб абавязковым рэагаваньні на газэтныя заметкі з боку адм.-тэхн. пэрсаналу на тыя газэтныя заметкі, якія тычацца іх цэху, зьмены, аддзяленьня і г. д. Гэта мерапрыемства трэба прызнаць вельмі мэтазгодным, толькі на вялікі жаль, выкананьне загаду на працягу доўгага часу не правяралася і шэраг інструктароў і майстроў ня выконвалі яго.

Трэба, каб органы пракуратуры на мясцох таксама падышлі да гэтае справы бліжэй і ўзяліся за яе сур'ёзна. Нават невялічкі вопыт Віцебскае пракуратуры прыцягненьня да судовае адказнасьці за грубое ігнараваньне газэтных заметак з боку адміністрацыі (зав. Метпром) відавочна паказаў рабочым, што пісаньне ў насьценгазэту не зьяўляецца гульнёю ў „салдацікі", як можа гэта скласьціся такое ўражаньне, там дзе ніхто на газэту не зьвяртае ўвагі, дзе ходзяць такія нікудышнія настроі, што гаспадарнікам няма часу адказваць на заметкі, ім трэба займацца сваімі справамі. Гэтая думка, выказаная на сходзе партактыву ф-кі „Профінтэрн" адным адміністратарам зьяўляецца тыпова бюрократычнаю. Па аднаму гэтаму выразу відаць, што гэты працаўнік ня любіць самакрытыкі, ён зусім не разумее, што газэта менавіта і зьяўляецца сродкам выяўленьня рознага роду недахопаў на прадпрыемстве і дапамагае гаспадарніку ў яго працы.

## Формы і мэтоды заціску самакрытыкі і прасьледваньня за самакрытыку

Разглядаючы цэлы шэраг фактаў, якія сьведчаць аб становішчы самакрытыкі ў паасобных арганізацыях Віцебскае акругі па матар'ялах чысткі вясковых і савецкіх ячэек, па матар'ялах газэты „Віцебскі Пролетары" і спэцыяльнаму абсьледваньню некаторых прадпрыемстваў, прыходзіцца канстатаваць, што для пасьпяховага разгортваньня самакрытыкі прыдзецца перамагаць вялікую коснасьць, супраціўленьне і боязкасьць крытыкі, што існуе на практыцы цэлы шэраг паасобных поглядаў, спроб абмежаваньняў і наогул няправільнага разуменьня самакрытыкі. Усе гэтыя паасобныя погляды пры іх ажыцьцяўленьні на практыцы прыводзяць ні да чаго іншага, як толькі да заціску самакрытыкі і магчымасьці бюрократычным элемэнтам любога апарату „па свайму погляду" кваліфікаваць любую крытыку, як непатрэбную і шкодную. У гэтых адносінах мы маем шматлікія комбінацыі, якія даходзяць часта да віртуознасьці.

Адным з найбольш популярных момантаў зьяўляецца патрабаваньне раней (чым пісаць, ці выступаць) праводзіць праверку сапраўднасьці фактаў з тым, каб гэта было падцьверджана на 100% (швэйная ф-ка). Інакш—абзываньне бузацёрам (Сураская арганізацыя—картонная ф-ка, абутковая ф-ка). Наогул, ужываньне апошняга тэрміну ў сучасны момант выклікае сумненьне ў праўдзівасьці яго, бо кожнага выступаючага з крытыкай, кожнага, хто не дае спакойна жыць, „можна залічыць у бузацёры". Выказаўся, напрыклад, старшыня праўленьня арцелі сампрамсаюзу Бэйлінсон у такім сэнсе, у адносінах да т. т., якія паказвалі на недахопы ў арцелі: „3—5 бузацёраў выключым з арцелі і будзе ціха".

Падвядзеньне выступаючых з крытыкай пад склочнікаў, што яны зводзяць асабістыя разрахункі (яч. камітэт. узаемадапамогі). Нават больш таго, уся газэта ў гэтай установе была абазвана „склочнай“, бо, бачыце, яна там крытыкавала старшыню камітэту і інш. кіраўнікоў.

Выступленьне, што „рабкоры і самакрытыка перашкаджаюць працаваць“, абгрунтоўваецца такім чынам, што досыць часта для расьсьледваньня заметак складаюцца камісіі, якія затрачваюць пэўны час, што трэба даваць адказы ў газэту, траціць таксама час і г. д. („Профінтэрн“, панчошная фабрыка).

Крытыка дзейнасьці членаў партыі, сэкратароў парт'ячэек, працаўнікоў РК і г. д. лічыцца як падрыў партыйнага кіраўніцтва, падкоп пад партыйнае кіраўніцтва і на падставе гэтага абагуленьня—гэтым самым наогул крытыкуецца, як быццам, уся партыя (Межынскі раён, Сураскі раён, картон. ф-ка).

З гэтым зьявішчам трэба весьці барацьбу і растлумачэньне, што крытыка паасобных кіраўнікоў няхай сабе і вельмі паважаных—няёсьць крытыка партыі і яе палітыкі. Бязумоўна партыя вяла і будзе весьці рашучую барацьбу з рознымі антыпартыйнымі выступленьнямі супроць генэральнае лініі партыі, але-ж з выкарыстоўваньнем гэтага моманту з мэтаю заціснуць самакрытыку таксама змагацца.

Незразуменьнем лёзунгу самакрытыкі трэба лічыць і такое зьявішча, калі працаўнік, падпаўшы пад крытыку, у якога аказаўся той ці іншы недахоп, ставіць пытаньне аб зьняцьці яго з працы, што ў яго падарваны аўторытэт, што яму нельга працаваць далей. Якраз наадварот—самакрытыка разьлічана на дапамогу таварышом, якія знаходзяцца на тэй ці іншай кіруючай працы. Калі яны правільна зразумеюць самакрытыку і калі своечасова будуць адхіляць усе тыя дэфэкты, якія будуць выяўлены ў парадку самакрытыкі, калі кіраўнік будзе прыслухоўвацца да голасу шырокіх мас, гэтым самым ён будзе ў далейшым унікаць памылак і аўторытэт яго павінен узрастаць у большай ступені.

Найбольш агідны такія адносіны да крытыкуючага, калі на падставе яго асабістых недахопаў, кідаецца яму абвінавачваньне, што ты „ня лепшы“, а „горшы“ і г. д., што „куды ты лезеш крытыкаваць другіх, калі ты сам не бяз грэха“ (камітэт узаемадапамогі, Пышнякі Сур. раёну, „Прафінтэрн“, картон. ф-ка).

Людзі, якія працуюць, ня могуць быць без памылак. І сапраўды, калі лічыць, што крытыкаваць можа толькі той, хто ня мае памылак, г. зн. зьвесьці самакрытыку да нуля. Гэта зьявішча набывае масавы характар і з ім трэба павесьці рашучую барацьбу.

Так, хапаюцца за соцыяльнае становішча таго, хто выступае з крытыкай і калі ў яго родзе знойдуць якую-небудзь „бабульку“ непралетарскага паходжаньня, то залічваюць у катэгорыю „чужы элемэнт“. Так, напрыклад, залічвалі ў Віцебскім гар. камітэце ўзаемадапамогі крытыкаваўшых селькора Ваяводу, Лесьнікава, у п/кал., у пажарнай камандзе, у ячэйцы кіноўстаноў і г. д., і г. д., ня гледзячы на тое, што ў сучасны момант гэта—сумленныя савецкія працаўнікі і засталіся яны-б такімі, калі-б ня выступалі з крытыкай, а вось калі пачалі выкрываць недахопы, узяліся тады і за іх.

Па гэтай-жа лініі ідуць нягодныя спробы празьмернага раздуваньня асабістых недахопаў крытыкаваўшых, выкарыстоўваньне іх мінулых праступкаў з мэтаю дыскрэдытацыі іх, а на падставе гэтага—простае прыкрываньне тых недахопаў і памылак, якія ўказваюцца імі ў сучасны момант.

Патрабуюць, каб крытыкаваўшы быў „сьвяцей самаго папы рымскага“.

Сучасны рабкор, калісь яшчэ ў 1922 г. быў п‘яным падабраны міліцыяй, значыцца ён і цяпер „разлажыўшыйся элемэнт, п‘яніца, сядзеў арыштаваны за цёмныя справы і г. д.“ (пажарная каманда).

Рабкор быў у партыі ў 1923 г. мэханічна, а магчыма і па другіх прычынах выбыў з партыі, працуе на прадпрыемстве рабочым, член саюзу; яму ўвесь час напамінаюць, што яго з партыі выкінулі і амаль ня лічаць антысавецкім элемэнтам.

У селькора Лесьнікава (Сураскі раён) выпадкова карова ўзышла на калгаскія пасевы, фігуруе абвінавачваньне, што „ён падрывае калгаснае будаўніцтва, сьвядома травіць пасевы калгасаў“.

Селькор Ваявода (Ліозьнянскі раён) для сельска-гаспадарчае выстаўкі ўзяў два экспонаты з агульнага ліку 25 у заможнага сяляніна, значыцца „сувязь з кулакамі“.

На картоннай фабрыцы рабкор сказаў, што „норма вялікая“,—адгэтуль вёў агітацыю супроць нормаў, супроць мерапрыемстваў, намечаных партыйнымі і профэс. арганізацыямі—і падвялі пад „шкодніцтва“. Фактаў пра гэта шмат.

Колькаснае падагульваньне фактаў супроць крытыкі прыводзіць да новых якасных адносін да іх—пачынаюць прасьледваць. Бязумоўна, калі мы гаворым аб прасьледваньні і прасьледвацелях, то трэба мець на ўвазе, што такіх прастакоў ня бывае, якія скажуць адкрыта, што „вось я сякі-такі цябе прасьледую, ці прыдзіраюся да цябе за тое, што ты выступаў з крытыкаю“ і г. д. Дзеля гэтага і ўжываюцца ўсе тыя прыёмы, якія апісваліся вышэй і досыць часта прыходзіцца дасканала расьсьледваць справу, каб дакапацца да сутнасьці яе.

Рабселькораўскія справы бываюць вельмі і вельмі складаныя і акруговыя органы (АК, АКК) досыць часта штэмпелююць іх, як гэта паказваюць ім мясцовыя працаўнікі, якія бываюць зацікаўлены ў гэтых справах, і, бязумоўна, штэмпеляваньне прыводзіць да палітычных памылак.

На цэлым шэрагу прадпрыемстваў (не гаворачы аб установах) рабочыя выступаюць з заявамі аб тым, што яны баяцца выступаць, ды ня толькі рабочыя, а і комуністыя: „Здаравей паслухаць і памаўчаць, чым выступаць з крытыкай“ (акулярная ф-ка); „выступіш з крытыкай, потым за вароты пойдзеш“ (панчошная ф-ка); „мы баімся выступаць з крытыкай“ (картон. фабрыка). Адкуль выцякае баязьлівасьць рабочых выступаць. На гэтых прадпрыемствах, як быццам, непасрэднага ганеньня за самакрытыку не ўстаноўлена. Рабочыя, якія даўно працуюць на прадпрыемствах, старыя кадры, як правіла, больш адкрыта і больш рашуча выступаюць з самакрытыкай. Але адным тым, што яны „маладыя рабочыя“, нельга аб‘яськіць боязкасьці выступаць. Гэтую прычыну, па-мойму, досыць яскрава выразіла адна работніца („Прафінтэрн“, № 1), якая на такое запытаньне дала адказ: „Адміністрацыя ў любы час знойдзе магчымасьць прыжаць хвост“. Зусім правільна. Кожны рабочы, кожны працаўнік мае якія-небудзь недахопы ў сваёй працы. Інструктары, майстры, загадчыкі, адміністрацыя заўсёды маюць магчымасьць на гэтыя недахопы „зьвярнуць увагу“. Загэтым яна і пастаўлена. Уся розьніца толькі ў меры адносін да гэтых недахопаў. Гэтую меру адносін бывае надта цяжка выявіць тады, калі ўвесь „трохкутнік“ на прадпрыемстве ня любіць самакрытыкі.

Парт‘ячэйкам на мясцох трэба быць надта чулымі пры падыходзе да вырашэньня такіх спраў, маючы на ўвазе адзначаную акалічнасьць.

Вельмі часта прыдзецца высьвятляць, чаму за адны і тыя-ж недахопы аднаму спагнаньне дадзена, а другому не. Чаму дэфэкты пачалі вышукваць у такога рабочага цяпер, а не раней, г. зн. калі ён пачаў выступаць з крытыкай. Толькі пры правільным разуменьні самакрытыкі і правільным падыходзе да яе з боку нізавых партыйных і прафэсыянальных організацый, якія штодзенна працуюць і назіраюць за ўсёю работаю, могуць быць адхілены зьявішчы лішняе прыдзіркі адміністрацыі да рабочых, выступаючых з крытыкай, а на факты прасьледваньня, заціску самакрытыкі будзе своечасовае рэагаваньне і рашучы адпор з прыцягненьнем віноўных да адказнасьці. Толькі пры гэтых умовах шырокія рабочыя масы будуць усё больш і больш удзельнічаць у разгортваньні самакрытыкі без усялякае боязьні быць за гэта падвергнутым якому-небудзь ганеньню.

### Крытыка, якая непатрэбна нам

На Пленуме Маскоўскага Камітэту ЎсеКП(б) тав. Молатаў з прычыны артыкулу, зьмешчанага ў „Большевику" сказаў „нельзя же в одно и то же время говорить „наш лозунг самокритики" и вместе с тем усиленно заботиться о том, как бы поаккуратнее срегламентировать эту самокритику, как бы уже сразу осадить проведение этого лозунга. В конце концов, чтобы научиться плавать, надо войти в воду. Необходимость же руководства со стороны партии никто оспаривать не будет". Пагэтаму, зразумела, катэгорычна і рашуча трэба адкінуць усе тыя абмежаваньні і тлумачэньні, якія імкнуцца даць паасобныя працаўнікі і кіраўнікі гэтаму пытаньню, аб чым пісалася вышэй.

Адгэтуль ні ў якім разе не выцякае тое палажэньне, што асобам, якія хочуць выкарыстаць гэты лёзунг з мэтаю пакрытыкаваць генэральную лінію партыі, мы павінны ім патураць. Гэткае крытыкі нам непатрэбна, бо яна накіравана супроць асноўных падвалін дыктатуры пролетарыяту. Наадварот, самакрытыка мае мэтаю, акрамя выяўленьня і накіраваньня агню на бюрократаў, жулікаў і інш. разлажыўшыхся элемэнтаў, і выкрыцьцё тых, хто выступае супроць партыі і савецкай улады ў целым, хто пасуе перад гаспадарчымі цяжкасьцямі і г. д.

На практыцы Віцебскай акругі выяўлены некаторыя адмоўныя бакі непатрэбнае нам крытыкі, на якіх трэба застанавіцца. Некаторая адсталая частка рабочых, толькі што прыйшоўшая на фабрыку, новыя слаі, яны, будучы нездаволены жорсткімі запатрабаваньнямі ў сучасны момант адносна павышэньня працоўнае дысцыпліны, прадукцыйнасьці працы і якасьці продукцыі, за што ім выносяцца тыя ці іншыя спагнаньні ў адміністрацыйным парадку, яны выступаюць супроць быццам грубасьці і бюрократызму адміністрацыі, а пры расшыфроўцы гэтага выходзіць, што яны нездаволены адпаведным працоўным рэжымам. З гэткімі настроямі цэхаўшчыны, саматужніцтва, жадаючага выкарыстоўваць самакрытыку з мэтаю падрыву працоўнага рэжыму, трэба весьці барацьбу (панчошная фабрыка і інш.).

Гэткія факты выяўляюцца на тых, галоўным чынам, прадпрыемствах, дзе недастаткова разгорнута крытыка недахопаў вытворчага быту рабочых. Гэта выцякае з няправільнага разуменьня самакрытыкі ў тым напрамку, што „крыць можна толькі адміністрацыю" і асабліва на вечарох самакрытыкі, а што адмоўныя зьявішчы і недахопы ў вытворчым быту саміх рабочых, дэзорганізуючыя социялістычнае будаўніцтва, як: п'янства, прагулы, брак, дзякуючы нядбалай

працы—зьніжэньне вытворчасьці працы і г. д.—што гэта ня так важна, што з гэтым у лепшым выпадку трэба пачакаць да лепшага моманту.

Вось таму на прадпрыемствах, дзе гэтыя недахопы бічуюцца, выступаюць некаторыя рабочыя і плачуць аб тым, што „калісьці рабочыя былі, як адна сямейка, а зараз кожны крытыкуе друг друга“ (панчошная, швэйная фабрыкі). Гэтыя настроі і адначасова недахопы вытворчага быту рабочых будуць зьнішчацца па меры лепшае арганізацыі соцспаборніцтва і ўцягненьнем у яго ўсіх рабочых. Разгортваючы ўсё шырэй лёзунг партыі аб самакрытыцы, падымаючы шырокія рабочыя масы на барацьбу супроць бюрократаў, злачынцаў, растратчыкаў, асоб, што скажаюць клясавую лінію ў рабоце апарату, організуючы яшчэ больш лютую крытыку ўсіх недахопаў, адначасова мы павінны паставіць у большай меры на практычныя рэйкі організацыю паказальнае працы і спаборніцтва сярод саміх рабочых і паміж масавых і грамадзкіх організацый.

Ня гледзячы на шырокую кампанію, якую правяла партыя па соцспаборніцтву, ёсьць усё-ж паасобныя вучасткі, паасобныя прадпрыемствы, якія яшчэ недастаткова аценілі і практычна падышлі да справы соцспаборніцтва. Гэтаму прыкладам зьяўляецца швэйная ф-ка „Профінтэрн“. Яшчэ дагэтуль адсутнічалі ўдарныя брыгады, спаборніцтва паміж цэхамі разгорнута ня было, дзякуючы чаму цэлы шэраг якасных паказчыкаў зьнізіўся (узрос брак з 0,92 проц. да 1,02 проц., сабекошт зьнізіўся толькі на 3,17 проц. замест 7,1 проц. прадугледжаных па пляну). Партыйцы і камсамольцы зусім недастаткова ўдзельнічалі ў правядзеньні соцспаборніцтва, слаба ўдзельнічалі ва ўдарных брыгадах і выкліках, не змагаліся за разгортваньне гэтае справы.

Трэба адзначыць, як агульны недахоп працы нізавых парт. і профячэек—адсутнічае спэцыяльная праца з новымі слаямі рабочых. Ні на водным прадпрыемстве, якія былі ўзяты ў выбарачным парадку, не пастаўлена гэтая праца. А ёсьць прадпрыемствы, якія за апошні год значна ўзрасьлі за лік прыняцьця новых рабочых з вёсак, што не пераварыліся яшчэ ў пролетарскім катле (панчошная ф-ка ўзрасла на 45 проц.).

Прыглядаючыся да гэтых прадпрыемстваў, заўважваецца таксама, што недастаткова была прапрацована дырэктыва партыі аб адзінаначальлі ў напрамку правільнага ўразуменьня правоў і абавязкаў дырэктара на прадпрыемстве і яго ўзаемаадносін з другімі часткамі заводзкага „трохкутніку“.

Правільна пастаўленая праца па соцспаборніцтву, з новымі слаямі рабочых і правільнае ўразуменьне дырэктывы партыі аб адзінаначальлі зьнішчыць недахопы, якія маюцца ў вытворчым быту рабочых, паставіць самакрытыку сярод рабочых саміх на належную вышыню.

### Агульныя вывады становішча самакрытыкі ў Віцебскай парторганізацыі

Усе паказаныя факты грунтуюцца на матар'ялах, здабытых пры праверцы вясковых і савецкіх ячэек у Віцебскай організацыі. Акрамя гэтага, было спэцыяльнае абсьледваньне шэрагу прадпрыемстваў у напрамку таго, як разгорнута там самакрытыка, праверка дзейнасьці Віцебскай АКК, галоўным чынам у напрамку таго, як яна вяла барацьбу з парушэньнямі лёзунгу партыі аб самакрытыцы. Гэта асабліва сур'ёзная ўвага да данай галіны зразумела таму, што ўсялякае паслабленьне самакрытыкі цягне за сабою паніжэньне актыўнасьці

мас у барацьбе з бюрократызмам і інш. недахопамі савецкага апарату і злачынствамі паасобных працаўнікоў.

Віцебская парторганізацыя атрымала належныя вурокі на справах, зьвязаных з пытаньнем самакрытыкі і прайшоўшымі ў апошні час у ЦКК і ЦК КП(б)Б. Справа адносна абвінавачваньня рэдакцыі „Заря Запада“ (сучасны „Віцебскі Пролетары“), дзе бюро АК і Прэзыдыум АКК, а потым і аб'яднаны пленум АК і АКК прызналі сваю памылку, дапушчаную ў справе самакрытыкі, палітычную памылку; справа гарадзкога камітэту ўзаемадапамогі, калі дзякуючы таму, што Бюро АК не завастрыла, як належыць пытаньня аб скрыўленьнях клясавае лініі і правае практыкі ў камітэце ўзаемадапамогі, а зьвяла ўсю справу да асобы, чым была дэзорыентавана партыйна-грамадзкая думка.

Усё гэта разам узятае і чыстка парт'ячэек, бязумоўна, адыграла вялікую ролю ў справе садзейнічаньня разгортваньню самакрытыкі, Аднак, сучасная паласа самакрытыкі ў Віцебскай парторганізацыі характарызуецца пакуль што тым, што ўся паказаная работа (прызнаньне сваіх памылак кіруючымі парторганамі, „крытыка зьверху“, чыстка парт'ячэек) садзейнічала выкрыцьцю такіх фактаў скажэньня клясавае лініі, такіх відаў бюрократызму і злачынстваў, якія знаходзяцца, можна сказаць, на павярхоўі і відаць простаму воку, якія пасьля выкрыцьця абураюць і выклікаюць зьдзіўленьне, як яны маглі быць да гэтага часу. Выкрыцьцё гэтых фактаў, бязумоўна, зьяўляюцца дадатным, але-ж сьведчыць, што самакрытыка яшчэ толькі пачынаецца, што яна знаходзіцца на першай ступені, а за гэтым павінна пайсьці больш глыбокая і сыстэматычная самакрытыка такіх фактаў бюрократызму і іншых недахопаў, якія простым вокам зразу ня выкрыеш, якія патрабуюць досыць частага вывучэньня ўсяе сыстэмы працы таго ці іншага апарату і яго хібаў.

Адозва верасьнёўскага пленуму ЦК КП(б)Б да ўсіх членаў КП(б)Б, у якой пленум з бальшавіцкай цьвёрдасьцю заявіў, што „усе адзначаныя недахопы ў рабоце паасобных органаў зьяўляюцца вынікам таго, што ў організацыі ня былі створаны належныя ўмовы для разгортваньня сьмелае бальшавіцкае самакрытыкі, што самакрытыка ня была ўзьнята на бальшавіцкую вышыню, часта крытыкавалі“, зважаючы на асобы,—самакрытыка ва многіх выпадках была „невыстарчальна дзейнай“; таксама пастанова аб'яднанага пленума Віцебскага АК і АКК (20/Х 1929 г.) аб сваёй памылцы ў справе самакрытыкі і разгортваньні яе—не знайшлі яшчэ да гэтага часу належнага пералому ў нізавых раённых парторганах і парт'ячэйках. Уся купнасьць фактаў, якія меліся, якія маюцца і цяпер у нізавых парторганізацыях і якія ахопліваюць большасьць парт'ячэек у організацыі, паказваюць, што дырэктывы партыі аб разгортваньні самакрытыкі „ня гледзячы на асобы“, „крытыкі зьверху да нізу і зьнізу да верху“ (адозва ЦК Усе КП(б) *ня выканана да гэтага часу ў Віцебскай парторганізацыі*. Асабліва гэта невыкананьне назіраецца ў частцы падняцьця магутнае хвалі самакрытыкі зьнізу, уцягненьне ў гэтую справу шырокіх працоўных мас.

На самой справе, калі ўзяць любое бюро парт'ячэйкі на вёсцы, ва ўстанове, а таксама на прадпрыемстве, дык мы ўбачым, што самакрытыку яшчэ сяк-так ажыцьцяўляюць паасобныя рабкоры, друк (насьценгазэта); бюро парт'ячэек жа ня толькі не выпраўляюць усяе гэтае справы, а, наадварот, большасьць з іх знаходзіцца ў ролі абараняючыхся ад самакрытыкі (гэта ў лепшым выпадку), а то і ў ролі ганіцеляў і глушыцеляў самакрытыкі (усе пералічаныя вышэй прад-

прыемствы). Няўжо самакрытыку павінны праводзіць толькі спэцыяльныя працаўнікі, рабкоры і друк.

А ніводная з абсьледваных парт'ячэек ня ўжыла належных і рашучых мер да правільнае пастаноўкі рэагаваньня на заметкі з боку адміністрацыі і ўсяго заводзкага трохкутніка. Таксама не выкарыстоўваюцца газэты, „як праваднік партыйнага ўплыву на масы і сродак выяўленьня сапраўдных настрояў рабочых". Парт'ячэйкі яшчэ не падыходзяць да насьценгазэт, як да істотнага зьвяна партыйнае і масавае працы на прадпрыемствах (з пастаноў 4-й нарады рабселькораў). Ніякае спэцыяльнае працы з рабселькорамі не вядзецца, на мясцох яны ня выхоўваюцца на паасобных прыкладах памылак у пытаньні самакрытыкі з боку парт'ячэек і парторганаў. Адгэтуль бываюць такія сур'ёзныя факты, калі Віцебскі РК склікае 3 разы рабкораў, яны ня прыходзяць, ці заява ў рэдакцыю „Віц. Пралет." Ліозьнянскага сэкратара РК: „Дайце мне сьпісы рабселькораў—тады я склікаю іх". Процівапастаўленьне ў шэрагу выпадкаў парторганаў і парт'ячэек, з аднаго боку, і рабкораў і друку—з другога, адсутнасьць кіраўніцтва самакрытыкай з боку парторганаў і парт'ячэек на мясцох, а не такое кіраўніцтва, якое разумелася ў сэнсе „рэгуляваньня і тармажэньня" самакрытыкі. Усё гэта прывяло да таго, што ў некаторых выпадках самакрытыкай пачалі аўладаць элемэнты, якія па свайму соцыяльнаму становішчу далёка не зьяўляюцца пролетарскімі, якія пастараліся папоўніць гэты прабел, якія не адыгрывалі-б асабліва актыўнае ролі пры ўмовах, што парт'ячэйкі кіруюць і садзейнічаюць разгортваньню самакрытыкі.

Паглыбіць разгортваньне самакрытыкі так, як гэтага патрабуюць дырэктывы партыі, можна толькі тады, калі парторганы на мясцох усьвядомяць, што працаваць старымі мэтодамі немагчыма, што трэба зрабіць значны пералом ва ўсёй сваёй працы, што трэба без баязьлівасьці прызнавацца перад шырокімі масамі працоўных аб сваіх памылках і ўсю сваю працу падаваць крытыцы гэтых мас. А факты кажуць, што нізавыя парторганізацыі не ўсьведамляюць палітычнае сутнасьці гэтае справы і ня робяць пералому нават тады, калі ім прапануюць аб гэтым. Возьмем хоць такія факты. У Сураскім раёне праходзіць політычны судовы процэс у абарону селькора Лесьнікава, яго ганцеляў асуджаюць. Замест таго, каб мясцовай парт'ячэйцы (Пытнякоўскі сельсавет) і РК заняць пасьля гэтага рашучую позыцыю, зрабіць належныя політычныя вынікі, скласьці адпаведныя абставіны для працы селькора, дык яны, бачыце, нездаволены процэсам, яны працягваюць тую-ж самую лінію „пасыўных і нэйтральных назіраццеляў", якую займалі і да судовага процэсу, бо яны лічаць, што гэта „ня зусім добраякасны селькор", што за ім ёсьць паасобныя памылкі,—яны не разумеюць політычнага сэнсу ўсяе справы. Прыгавор падцьверджаны вышэйшай судовай інстанцыяй—Вярхсудом, але-ж у Суражы працягваюць сваю лінію, гэтыя таварышы забываюць, што ў нас адна законнасьць—пролетарская, савецкая і што сураскае законнасьці няма. І трэба не адзін раз стукнуць па галаве, як сьлед гэтым таварышом, каб яны хоць што-небудзь зразумелі. А гэтых фактаў шмат (Ліозно, картон. ф-ка і інш.).

Ці возьмем такі яшчэ факт разуменьня лёзунгу партыі аб самакрытыцы.

Калі старшыня Высачанскага РВК, хоць перад чысткай савецкага апарату ў раёне, рашыў адкрыта прызнацца ў сваіх памылках і памылках працы РВК, то бюро РК забараніла яму выступаць, бо там

у сілу неабходнасьці прышлося-б закрануць райкомаўскія „пэрсоны“ і наогул РК, бо масы запыталі-б: „А дзе было кіраўніцтва РК“?

Пры такой сьвядомасьці парторганаў, якія з прычыны „чести своего мундира“ ня хочуць прызнаваць адкрыта памылак, разгарнуць самакрытыку немагчыма.

Віцебскаму АК і АКК, не абмяжоўваючыся прыняцьцем пастаноў Кастрычнікавага Пленуму АК і АКК, прыдзецца намеціць яшчэ шэраг практычных мерапрыемстваў, якія-б забясьпечылі сапраўднае разгортваньне самакрытыкі і падняцьце яе на вышэйшую ступень і штодзенна і неаслабна праводзіць праверку выкананьня партыйных дырэктыў па гэтаму пытаньню, робячы і арганізацыйныя вывады да асоб, не разумеючых лёзунгу самакрытыкі, якія праяўляюць тупасьць у гэтым пытаньні і тармазяць разгортваньне самакрытыкі.

---

Н. Конюхаў

# Правы ўхіл на справе [1])

## Правыя ідэолёгі кулака і нэпмана

Пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі мы ўтрынаццаты год пролетарскае рэволюцыі ўступілі з вялікімі палітычнымі, гаспадарчымі культурнымі дасягненьнямі.

Гэтыя дасягненьні зьяўляюцца непасрэдным вынікам праводзімай адзіна-правільнай політыкі партыі, якую з энтузіязмам падтрымліваюць і рэалізуюць мільёны пралетарскіх мас і мільёны асноўных мас сялянства. Першы год ажыцьцяўленьня пяцігодкі, увесь жыцьцёвы вопыт шляху, які намі пройдзены, з усёй яснасьцю і відавочнасьцю сьцьвярджаюць гэта. Уся рабочая кляса ўпарта працуе над ажыцьцяўленьнем пяцігодкі ў 3—4 гады па ўсіх грунтоўных галінах разьвіцьця народнае гаспадаркі і культуры і тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва, якія вызначыліся ў мінулы год, даводзяць аб мажлівасьці выкананьня гэтае задачы.

І вось пасьля гэтага ставіцца пытаньне, што-ж засталося на сёньняшні дзень ад „раўнаньня на вузкія месца", ад „дэградации сельского хозяйства" і г. д. Што сьцьвярджалася ідэолёгамі правага ўхілу? Зусім нічога. Жыцьцёвы вопыт, лінія, якая прадугледжана партыяй па ўсіх пытаньнях соцыялістычнага будаўніцтва—*„палажылі на абедзьве лаπаткі" правых ухілістых.* Дзякуючы непрымірoным адносінам з боку партыі і яе ЦК да правага ухілу, дзякуючы напружанай барацьбе з ім, за прынцыповую лінію партыі і яе ідэёвую чыстату бяз ніякіх уступак, партыя паставіла перад сабою на калені ідэолёгаў і тэорэтыкаў правага ўхілу, партыя перамагла.

Бухарын, Рыкаў, Томскі і інш. прыхільнікі правых падалі заяву аб прызнаньні сваіх антыпартыйных памылковых поглядаў. Пры ацэнцы гэтых прызнаньняў правых ухілістых, мы павінны сказаць, што ўсё гэта ставіць іх бліжэй да генэральнае лініі партыі, бліжэй да таго, каб разам з партыяй змагацца за ажыцьцяўленьне яе. Зразумела, што партыя дасьць магчымасьць удзельнічаць ва ўсім яе будаўніцтве былым ідэолёгам і тэорэтыкам правага ўхілу, але яна будзе правяраць іх на справе ажыцьцяўленьня лініі, на праводзімай рабоце.

Але-ж прызнаньне памылак правымі ўхілістамі зусім ня зьнішчае правага ўхілу, бо карэньні яго пакуль што захоўваюцца ў існаванай дробна-буржуазнай вытворчасьці. Ня здымецца з парадку дню і далейшае змаганьне з правай практыкай, з правай ідэолёгіяй ва ўсіх галінах нашага будаўніцтва.

Патрэбна ўлічыць тое, што ідэолёгі правага ўхілу так далёка зайшлі ў сваіх разнагалосьсях з партыяй, што сталі на шлях фрак-

[1]) У аснове сваёй артыкул напісаны па матар'ялах Кастрычнікавага РК КП(б)Б.

цыйнае барацьбы, на шлях актыўнае барацьбы з партыяй, супроць яе генэральнае лініі. На гэтай стадыі барацьбы правых ухілістых з партыяй могуць быць толькі дзьве мажлівасьці: усё больш і больш адыходзіць ад партыі, ці рашуча павярнуць да партыі і разам з партыяй змагацца супроць правага ўхілу, разам з партыяй змагацца за ажыцьцяўленьне яе генэральнае лініі.

Прынятае Пленумам ЦК УсеКП(б) апошняе папярэджаньне правым ухілістым, прымусіла, іх выбраць другое. Цяпер за імі справа давесьці партыі ня толькі формальна, а па сутнасьці поўную сваю гатоўнасьць на рашучую барацьбу з правым ухілам, барацьбу за ажыцьцяўленьне генэральнае лініі партыі.

Ні ў якім разе нельга ацэньваць падачу заяў Бухарыным, Рыкавым, Томскім і іншымі, як канец барацьбы з правым ухілам і яго забясьпекай. Цяпер можа здарыцца, што некаторыя таварышы паслабяць барацьбу з праяўленьнем правага ўхілу як у тэорыі, так і ў практыцы, выходзячы з думкі, што правы ўхіл абмяжоўваецца тым асабовым складам „большых" і „малых" ідэолёгаў, а ня тымі карэньнямі, умовамі, абставінамі і базай—чыю ідэолёгію тэорэтыкі правага ўхілу адбівалі. Вось чаму грубаю памылкаю трэба лічыць такія настроі ў сувязі з падачай заяў Бухарыным, Рыкавым, Томскім і др. Гэтыя настроі накіраваны на тое, каб усыпіць старожкасьць партыі, паслабіць увагу да барацьбы з правым ухілам, як найбольш небясьпечным на цяперашняй стадыі нашага социялістычнага будаўніцтва. Возьмем, напрыклад, тэорыю „мирного врастания кулака в социализм". У інтарэсах каго гэта тэорыя і да чаго яна вядзе. Гэта тэорыя толькі ў інтарэсах кулака і нэпмана, бо яна прыводзіць да ўступак кулаку, на супрацоўніцтва рабочае клясы і беднаты з ім, а ў выніку на перараджэньне дыктатуры пролетарыяту. Супрацоўніцтва двух варожых кляс цягне за сабою здачу позыцый пролетарыяту і панаваньне кулака і нэпмана пры падтрыманьні сусьветнае буржуазіі. А на практыцы? Кулак змагаецца з калгасным будаўніцтвам, шляхам падпалаў, забойства ў адным выпадку, імкненьнем папасьці ў калгас, узарваць і разлажыць яго з сярэдзіны, у другіх выпадках. Вось што азначае на практыцы „мирное врастание кулака в социализм".

А што азначае пропаганда поглядаў „узких мест", супроць узятых партыяй тэмпаў індустрыялізацыі. Гэта ня што іншае, як адцягваньне тэрмінаў будаўніцтва социялізму ў нашай краіне, як падпаданьне нашае краіны ў поўную залежнасьць ад капіталістычных краін. Для пасьпяховага прасоўваньня ўперад, партыя і рабочая кляса з усёю рашучасьцю разьвіваюць тэмпы социялістычнага будаўніцтва як у галіне індустрыялізацыі краіны, так і сельскае гаспадаркі. Гэтым самым разьвіваецца рашучае социялістычнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты ў напрамку іх выкарчоўваньня як у горадзе, так і ў вёсцы. Суцэльная калектывізацыя вёсак, раёнаў і акруг; давядзеньне пляну загатовак, пры актыўным удзеле батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас, да кулацкага двара; выцісканьне кулака і нэпмана з таваразвароту, усё гэта выклікае шалёнае супраціўленьне кулака і нэпмана; усё гэта яшчэ больш абвастрае клясавую барацьбу. І ў гэтым самы час з боку правага ўхілу наглядаем актыўнае выступленьне супроць мерапрыемстваў партыі. І калі ідэолёгі правага ухілу адышлі і адмовіліся ад пропаганды сваіх поглядаў, то засталіся карэньні, засталася база, ідэолёгію якое яны адбівалі. Вось чаму ў шмат разоў павінна быць узмоцнена рашучая барацьба з праявамі правага ўхілу як у тэорыі, так і на практыцы.

## За выразную клясавую лінію ў рабоце

Для партыі ў цэлым заўсёды важна, каб усе зьвеньні—партыйнага, савецкага, гаспадарчага і профсаюзнага апаратаў працавалі выразна, спраўна, каб цалкам і поўнасьцю забясьпечвалася абарона пролетарскае дыктатуры, адзінства партыі. Для партыі патрэбна, каб у поўнай адпаведнасьці з генэральнай лініяй партыі вялася сапраўдная барацьба з клясавым ворагам на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва. Даны ў свой час Ільлічом лёзунг „хто каго" набывае ў сучасны момант выключнае значэньне. Цяпер, мінавіта ставіцца пытаньне так: ці ты з намі супроць клясавага ворага, ці ты на яго баку супроць соцыялістычнага будаўніцтва.

Цяжкасьці рэконструкцыйнага пэрыоду, абвастрэньне клясавае барацьбы, бурны ўзрост усяе соцыялістычнае гаспадаркі, нябывалы ўзрост актыўнасьці пролетарскіх мас,—усе гэтыя процэсы патрабуюць вялічэзнае напружанасьці і выразнасьці ў рабоце. Адначасова гэта зьяўляецца і праверкаю таго, на колькі ўсе нашы зьвеньні здольны забясьпечыць прасоўваньне ўперад, наколькі здольны біць па клясаваму ворагу, добра разабрацца ў абстаноўцы ўсіх зьявішч, выбраць з іх найбольш важныя і галоўныя з тым, каб, ухапіўшыся за яго, падняць усю суму зьявішч на прынцыповую палітычную вышыню. Гэта павінна зьявіцца галоўным і рашаючым у ацэнцы кожнага комуністага на кожным вучастку нашага будаўніцтва, куды яго паставіла партыя.

Жыцьцё паказвае, што паасобныя вучасткі соцыялістычнага фронту, некаторымі комуністымі здаюцца на літасьць клясаваму ворагу. Паасобныя зьвеньні ня вытрымліваюць актыўнага ціску, дробна-буржуазнага акружэньня, кулак і нэпман яшчэ ў шэрагу выпадкаў прарываецца, корміцца савецкай капейкаю, разлагае з сярэдзіны падчас вельмі важныя зьвеньні гаспадарчага і савецкага апарату. Вось чаму ў шмат разоў павінна быць узьнята клясавая старожкасьць, рашучая барацьба на ўсіх вучастках, якая забясьпечвае нам пасьпяховае прасоўваньне ўперад па соцыялістычнаму будаўніцтву.

Тыя факты, якія былі разабраны ў нашай організацыі ў свой час, а таксама тыя, якія ўлічаны за апошні час, усе яны характэрны тым, што мы маем у паасобных вучастках нашае працы, у некаторых частках партыі, прытупленьне клясавае старожкасьці і скажэньне партыйнае лініі ў рабоце. Вось затым неабходна разабраць усе гэтыя факты, зрабіць з іх належныя палітычныя вурокі, паказаць, у якіх формах і праяўленьнях на практыцы жыве правы ўхіл.

## За бальшавіцкую няпрымірымасьць

У № 266 „Зьвязды" была дана падрабязная характарыстыка і ацэнка антыпартыйнай вылазцы Кузьміцкага ў АБВШ. Разгляд гэтых памылак паказвае, да чаго можа прывесьці павярхоўны разгляд і немарксыцкі аналіз зьявішч, што мелі месца ў парт'ячэйцы АБВШ.

У пастанове Кастрычнікавага Райкому КП(б)Б, у адным з пунктаў сказана „Бюро Райкому зварачае ўвагу парторганізацыі АБВШ на тое, што наўкола данага антыпартыйнага выступленьня Кузьміцкага з боку паасобных таварышоў былі праяўлены прымірэнчыя адносіны, жаданьне замазаць палітычную сутнасьць справы Кузьміцкага і г. д. Палітычнае кіраўніцтва школы дапусьціла памылку, калі не дабіліся бальшавіцкага ўсьведамленьня данае справы, як справы, што носіць падзойна-палітычны характар сярод пагалоўна ўсіх таварышоў парторганізацыі". Гэты пункт пастановы Бюро Райкому і прадугледжвае

тыя памылкі, якія былі дапушчаны пры вырашэньні пытаньня аб Кузьміцкім.

Кузьміцкі зусім выразна вылажыў плятформу правае опозыцыі па асноўных пытаньнях соцыялістычнага будаўніцтва. Кузьміцкі ў адказ на пастанову Лістападаўскага Пленуму ЦК УсеКП(б) аб выключэньні з Політбюро Бухарына, на апошняе папярэджаньне Рыкаву і Томскаму, зрабіў злосную вылазку супроць лініі партыі, супроць наступленьня на капіталістычныя элемэнты, супроць тэмпу соцыялістычнага будаўніцтва. І, не ўважаючы на тое, асобныя таварышы з парторганізацыі школы паставілі пытаньне, а потым ухвалілі рэзолюцыю, што Кузьміцкі моральна разлажыўся, што Кузьміцкі п'яніца, што гэта павінна заняць пэўнае месца пры выключэньні яго з партыі. З гэтымі мотывамі партыйны сход і выключыў з партыі Кузьміцкага. Вось рэзолюцыя, ухваленая сходам:

„Разам з гэтым (г. зн. Кузьміцкі ня згодзен з лініяй партыі— *Н. К.*), Кузьміцкі ў апошні час праявіў поўнае маральнае разлажэньне (п'янства, хуліганства), ня гледзячы на шэраг папярэджаньняў“. І далей для матываў выключэньня: „Прызнаючы ўсю няправільнасьць і шкоднасьць палітычных поглядаў Кузьміцкага ў справе соцыялістычнага будаўніцтва, што супадаюць з поглядамі правай опозыцыі, а таксама поўнае яго маральнае разлажэньне, партсход пастанаўляе выключыць Кузьміцкага з партыі“.

У гэтай пастанове партыйнага схода АБВШ ясна выявілася, што ячэйка, ня гледзячы на антыпартыйную дзейнасьць Кузьміцкага зрабіла памылку, паставіўшы на ўзровень з прапагандай антыпартыйных поглядаў, якія несаўмяшчальны з прабываньнем у партыі, бытавое і моральнае разлажэньне Кузьміцкага.

З гэтае пастановы таксама відаць, што акалічнасьць бытавога парадку Кузьміцкага прытупіла політычную вострасьць пытаньня, разбавіла выразную політычную ацэнку, унесла сумненьні ў асяродзішча некаторых таварышоў з парторганізацыі. Гэта паказвае і тое, што політычна-прынцыповая вышыня гэтага пытаньня была зьніжана да ўзроўню простага і немарксыцкага тлумачэньня зьявы (моральнае разлажэньне Кузьміцкага).

Перад тым, як была ўхвалена партсходам гэтая рэзолюцыя, разгарнуліся шырокія спрэчкі. Усе выступленьні таварышоў за выключэньнем двух, асноўную ўвагу концэнтравалі якраз на бытавым і маральным разлажэньні Кузьміцкага.

— Выступленьне Кузьміцкага ня мае ніякай ідэі.

— Кузьміцкі політычна няпісьменны і сьляпы як дзіця.

— Ён ад папоек разлажыўся так, як разлагаецца васеньні грыб пасьля васеньняга дажджу.

— У выступленьні Кузьміцкага відаць, што ён політычна няпісьменны і хоча спэкуляваць на політычным выступленьні.

— Опозыцыйнасьць Кузьміцкага зьяўляецца непаразуменьнем і ва ўсім гэтым адыгрывае галоўную ролю алькаголь.

— Я бачу ў выступлиньні Кузьміцкага манэўр, якім ён хоча замазаць сваё п'янства і хуліганства.

Такі быў тон выступленьняў у спрэчках пры ацэнцы злоснае антыпартыйнае вылазкі Кузьміцкага.

Глыбокая памылка гэтых таварышоў менавіта заключаецца ў тым, што яны зусім не разглядалі гэтага выступленьня ў сувязі з клясавай барацьбой, якая актывізуецца ў горадзе і ў вёсцы, з актыўным супроцьдзеяньнем кулака і нэпмана соцыялістычнаму наступленьню. Гэтыя таварышы акалічнасьць бытавога парадку палічылі за сутнасьць, узялі

за выточнае палажэньне пры ацэнцы вылазкі Кузьміцкага і няўхільна скаціліся да беспрынцыповасьці ў справе Кузьміцкага.

З усяго матар'ялу відаць, што выступленьне Кузьміцкага супроць партыі застала ячэйку зьнянацку. Таварышы, што выступалі зусім не разглядалі Кузьміцкага ў сувязі з яго палітычнай лініяй, дзейнасьцю ў мінулым. На самай-жа справе, Кузьміцкі, яшчэ будучы ў лягерах, выказвае падобныя погляды. Значыцца, выступленьне 20-га лістапада мела за сабой сваю гісторыю і толькі заставалася бяз рэагаваньня з боку некаторых таварышоў і парторганаў.

Палітычнае кіраўніцтва школы калі і ўзяло ў пачатку правільную палітычную ўстаноўку ў сувязі з выступленьнем Кузьміцкага, дык не давяло яе да канца. Тады, калі спрэчкі набылі фальшывы напрамак з боку асобных таварышоў, трэба было даць тон, выразны напрамак далейшым спрэчкам. Гэтага-ж ня было зроблена. Па-другое, яўная памылка, якая была дапушчана і знайшла свае выяўленьне ў рэзолюцыі, не атрымала цьвёрдага і рашучага протэсту з боку палітычнага кіраўніцтва школай, і па-трэцяе, нельга было дапускаць такога становішча, каб паасобныя таварышы вышлі з партыйнага сходу з нявыразным усьведамленьнем палітычнае сутнасьці выступленьня Кузьміцкага. Палітычнае кіраўніцтва школы гэтага не дамаглося. Вось група тых асноўных памылак, якія былі дапушчаны пры вырашэньні пытаньня аб выступленьні Кузьміцкага.

Кастрычнікавы раённы камітэт вылучыў свайго прадстаўніка для супольнага з ячэйкай разгляду дапушчаных памылак. Трэба сказаць, *што парт'ячэйка зусім пабальшавіцку і своечасова выправіла дапушчаную памылку. Таксама своечасова і з усёю шчырасьцю прызналі свае памылкі асобныя таварышы з парт'ячэйкі АБВШ.* Ва ўхваленай другой рэзолюцыі парт'ячэйка з усёю выразнасьцю формулявала палітычную сутнасьць выступленьня Кузьміцкага. Аднак вурокі справы Кузьміцкага трэба значна пашырыць, бо яны кідаюць сьвятло на работу правае опозыцыі і цень на невыстарчальна часамі энэргічную і выразную работу асобных ячэек у барацьбе з ідэёвымі хістаньнямі, за лінію партыі.

Па-першае, тактыка правых ухілістых у фракцыйнай барацьбе з партыяй характэрная сваім палітычным двурушніцтвам. Да пары, да часу „згаджацца“ з лініяй партыі, у вузкім коле весьці пропаганду антыпартыйных паглядаў, а ў цяжкі момант з усёю сілаю паўстаць супроць лініі партыі.

Па-другое, выступленьне Кузьміцкага і іншых, як ён, з усёю яснасьцю паказвае, куды расьце і коціцца правы ўхіл, чыю ідэолёгію ён выказвае ў тэорыі і на практыцы. Выступленьне паказвае на непарыўную сувязь актыўнае дзейнасьці правага ўхілу супроць партыі з супраціўленьнем кулака і нэпмана, якія актывізуюцца ў горадзе і ў вёсцы. Вось чаму трэба быць асабліва клясава-пільным і заўсёды ўзброеным для рашучае ідэёвае і організацыйнае барацьбы з антыпартыйнымі поглядамі правых, якія несумяшчальны з прабываньнем у партыі.

Па-трэцяе, часта нашы партыйныя ячэйкі заслаба ведаюць і ўлічваюць асобных таварышоў па іх рабоце і ў праводзімай імі лініі. Асобныя таварышы часамі прыніжаюць палітычна-прынцыповую вышыню зьяў і фактаў.

Па-чацьвертае, іншы раз, няўмела, няверна мы выхоўваем нашы маладыя партыйныя кадры на конкрэтных пытаньнях барацьбы за чыстату ленінскае лініі, за ідэёвую чыстату радоў нашай партыі.

### „У нас няма скажэньня ў клясавай лініі“

Здавалася-б, што пра справу Белсампрамсаюзу гаварыць не патрэбна-бо справа ўсім вядомая і вырашаная, аднак некаторыя таварышы з Белсампрамсаюзу лічаць, што „Права-ўхілістых з работы паздымалі, кіраўніцтва абнавілі і пытаньне вырашана“. У гэтым і ёсьць грубейшая памылка гэтых таварышоў, якая прыводзіць да яўнае недаацэнкі тых карэньняў адкуль выцякае правы ўхіл. Паздымалі людзей, якія праводзілі на практыцы правы ўхіл, але карэньні ўхілу засталіся, яны жывуць і цяпер. Малейшае прытупленьне клясавае старожкасьці— і зараз-жа мы будзем адчуваць у дзейнасьці правую практыку. На гэтую хваробу хварэюць тыя партыйныя ячэйкі, якія лічаць, што „адкуль у нас быць праваму ўхілу“. Пры такой пастаноўцы пытаньня можа быць адно становішча—прадставіць паўнейшы прастор для права-опортуністычнае практыкі. Так здарылася ў аднэй з парт'ячэек нашага раёну.

Сакратар партыйнае ячэйкі „Чырвонага Крыжу“, на сходзе па справаздачы бюро, ідэолёгічнае становішча ячэйкі ацэньвае так: „У нас праваопортуністычных зьявішч не адмечана і скажэньня клясавай лініі няма“. Такая ацэнка бязумоўна прымусіла настаражыцца прысутных і выступіць з рэзкаю крытыкай. Даць такую ацэнку гэта раўнасільна таму, што ячэйка жыве ізолявана ад усяе краіны, і на якой не адчуваецца ніякіх уплываў звонку. А што-ж мы маем на самай справе. У апараце, які абслугоўваецца ячэйкаю, дзе працуюць комуністыя, маецца нічым няпрыкрыты правы ўхіл і прымірэнцтва да яго. Мелі месца зьявішчы, калі на выдаваемых брошурах, блянках зусім „баяліся“ абазначыць слова БССР, бо гэтыя журналы ішлі за межы. У брошурах маюцца месцы, дзе выказваецца адкрыта аб цяжкасьцях умоў жыцьця ў Савецкім Саюзе і жаданьне выехаць за-граніцу. Калі беспартыйная частка супрацоўнікаў апарату стварыла нецярпімыя ўмовы работы для комуністых, калі фактычна кіраўніцтва апратам было ў руках непартыйных і г. д.

Усе гэтыя зьявішчы мелі сваю гісторыю, даўнасьць, але ніхто на іх не рэагаваў, мірыліся з гэтымі зьявішчамі і комуністыя.

### Правая практыка

Беларускі Саюз інваліднае коопэрацыі (БСІКО) мае дастаткова шырокі ахоп работы па вытворчаму коопэраваньню інвалідаў. У гэтую сыстэму ўключана і сетка гандлёвых арцелей. На працягу 1927-28 г. праводзілася права-опортуністычная практыка ў значнай частцы гандлёвых арцелей бяз чоткага і яскравага рэагаваньня і барацьбы з гэтым як з боку праўленьня, так і партыйнай ячэйкі. Праведзенае дасьледваньне РК і ЦКК КП(б)Б выявіла шэраг недапушчальных зьявішч і ў сваім рашэньні адзначыла наступнае: „Прэзыдыум ЦКК ухваляючы вынікі камісіі адзначае, што парт'ячэйка і фракцыя Праўленьня БСІКО праводзілі права-опортуністычную лінію ва ўсёй партыйнай дзейнасьці з яўным зажымам самакрытыкі, ігнараваньне насьценгазэт, прасьледваньне за крытыку, даходзячае да звальненьня з працы за крытыку (справа Гурвіча, Міхальцова, Марозенкі, Кагана, Шварца). Гэта недапушчальная дзейнасьць выказалася ў асаблівасьці ў:

а) у гандлёвай сувязі з прыватнікам шэрагу арцеляй (асабліва 1927-28 г.), скарыстаньне некаторымі прадпрыемствамі прыватнага капіталу, дапушчэньне кабальных зьдзелак з прыватнікамі;

б) засьмечанасьць арцеляй, асабліва гандлёвых, клясава-варожымі элемэнтамі і давер'і ім кіраваць часткаю арцеляй, моманты абароны гэтых элемэнтаў у час чысткі арцеляй з боку некаторых партыйцаў (Сайкоў, Каліскі, Сіняўскі);

в) актыўным праяўленьні з боку значнае часткі рабочых інвалідаў, у гэтым ліку з боку часткі партыйцаў і комсамольцаў рвацкіх настрояў і наогул анты-пролетарскіх адносін да вытворчасьці (п'янства, растраты і г. д.), пры зусім слабой барацьбе з гэтымі зьявішчамі з боку партыйнай ячэйкі і фракцыі Праўленьня БСІКО;

г) дапушчэньні бюрократычных адносін да законных запатрабаваньняў рабочых інвалідаў, нерэагаваньне на прапановы рабочых, праяўленьне ў кіраваньні мэтадаў камандаваньня ў шкоду разгортваньня коопэрацыйнай грамадзкасьці, дапушчэньне мэтадаў скажэньня коопэрацыйнай дэмократыі і недапусьцімага навязваньня кандыдатур пры выбарах".

Бюро Райкому пастанавіла—аб'явіць выгавар бюро ячэйкі, зьняць сэкратара, зрабіць датэрміновыя перавыбары бюро ячэйкі і чыстку яе радоў.

Як і ў шэрагу другіх устаноў і організацый, так і НКФ не ізоляваны ад тых умоў і тае абстаноўкі, у якой мы жывем і працуем. Тым больш, што НКФ стаіць на надзвычайна вялікім вучастку фронта наступленьня на капіталістычныя элементы. Яго апарат выконвае надзвычайна важныя задачы і па гэтаму зусім зразумела, што партыя павінна прад'явіць да яго органаў вялікія запатрабаваньні, паасобныя-ж зьявішчы гавораць аб тым, што ў некаторых выпадках у даным апараце дапушчаюць перакручваньне лініі партыі. Напрыклад, мы ня гэтак даўно мелі такія процэсы, як Віцебскіх фінпрацаўнікоў, справу Менскага АКРФА. Па тых даных, якія ёсьць, дасьледваньне праводзіў беспартыйны інспэктар. Да якога-ж заключэньня ён прышоў і як ён правільна ставіў пытаньне аб тым кіраўніцтве, якое мела месца ў Гомельскім апараце падатковага абкладаньня. У выніках ён піша: „Нічога ня зроблена ва ўказаных галінах. АКРФА фактычна выпусьціла з сваіх рук справу кіраўніцтва абкладаньнем самай заможнай вярхушкі групы таргоўцаў". Гэта было ў першай рэдакцыі, у другой рэдакцыі гэтага месца не аказалася. У разьдзеле, па недавучоту зваротаў па паасобных прадпрыемствах і памылкі ў абкладаньні ў першапачатковай рэдакцыі былі наступным чынам формуляваны: „Усе пералічаныя намі недахопы ў рабоце падатковага апарату Гомельскага АКРФА, якія датычацца абкладаньня бягучага году, мелі сваёй несамненнай спадчынай наступнае: 1) праізвольнае, неабаснаванае, а ў іншых выпадках незаконнае ісчысленьне зваротаў даходаў плацельшчыкаў, а другое зусім відавочнае недаабкладаньне прыватнага тарговага сэктару, і сьледавацельна, недабор у карысьць дзяржаўнага і мясцовага бюджэтаў, значныя па сваім разьмерам сумы налагавых даходаў. Асоба важна тут адзначыць тыя абставіны, што недаабкладаньне галоўным чынам каснулася вярхушачнай, самай моцнай і з пункту поглядаў інтарэсаў таваразварота, самай паразытычнай групы палуоптавых і оптавых прадрыемстваў г. Гомелю. Гэты вывад выцякае з прыведзенага намі аналізу ўстанаўленьня зваротаў па крупнейшых прадпрыемствах на аснаваньні кніг, выбарак з спраўкамі і г. д.".

У другой спраўленай рэдакцыі дадзена наступная формулёўка: „Усе пералічаныя намі недахопы ў рабоце падатковага апарату Гомельскага АКРФА, якія датычацца абкладаньня бягучага году, мелі сваёй спадчынай наступнае: 1) недавучот зваротаў па паасобным прадпрыемствам; 2) неабаснаванасьць абкладаньня. „Патрэбна сказаць, што па гэтаму

дасьледваньню былі складзены два акты і другі акт належыць як аўтару не каму небудзь, а Начальніку Падатковага Кіраўніцтва тав. Кардашэнка. Беспартыйны інспэктар у палітычнай ацэнцы пайшоў далей ва ўсіх адносінах, чым Кардашэнка—партыйны кіраўнік гэтага апарату. Кардашэнка грунтоўныя, вузлавыя пытаньні маючыя вялікае палітычнае значэньне ў дзейнасьці АКРФА змазаў, выбіў усю клясавую сутнасьць. Гэта зьявішча зусім недапушчальна тады, калі мы павінны патрабаваць ад падатковага апарату больш выразнага рашучага наступленьня на клясавага ворага, а тут мы маем здачу пазыцый кулацкім, нэпманскім элемэнтам.

Па даных НКФ лічыцца нядоімак з прыватніка 2.385.000 руб., а з коопэрацыі 527.000 руб. Калі супаставіць адносіны ў таваразвароце коопэрацыі з прыватнікам, дык суадносіны будуць адваротныя. Патрэбна сказаць, што нядоімкі складаліся на працягу некалькіх гадоў і сродкі дзяржавы клалі ў кішэню нэпману. Для доказу можна прывесьці наступныя зьявішчы: скажам Шпрыц павінен нядоімак 9.453 руб., Тургель 14.000 руб. і г. д., а ці ўзыскана гэта сума. Зразумела, што яна ў фонд дзяржавы не паступіла. Падатковы апарат перадаў справу ў суд, суд засудзіў пасадзіць на 9 месяцяў і ў канечным выніку Шпрыц і Тургель зарабілі па 1.000 руб. у месяц. Ці такая лінія адпавядае лініі партыі ў галіне рашучага наступленьня на нэпмана, далёка не. Гэта дае магчымасьць думаць аб неабходнасьці перагляду лініі НКЮ. Гэта патрабуе ад нас рашуча выразнае, глыбокае праверкі дзейнасьці ўсіх органаў НКФ і НКЮ ў галіне забясьпечаньня ўзятае партыяй лініі ў наступленьні на кулака. Яшчэ адна заўвага аб тым-жа НКФ і НКЮ—гэта справа Лапірава. Яна заключаецца ў тым, што буйны пастаўшчык каменьняў быў аблажаны і вось Гомельскі АКРФА з разьліку 80.000 зрабіў аблажэньне. Лапірава за нявыплату пасадзілі пад арышт. Што-ж робіць яго жонка,—яна падае заяву Пракурору Рэспублікі. І вось Гохман, нядоўга думаўшы, накладвае рэзолюцыю: „Запатрабаваць справу, пераглядзіць яе і арышт на маемасьць адмяніць“. Гэта справа цягнецца на працягу цэлага году, а Лапіраў нажывае на ёй. З аднаго боку Гохман праявіў поўнае адсутнічаньне клясавае старожкасьці пры разглядзе гэтае заявы і другое—праявілася злачынная цеганіна. Гомельскае АКРФА піша НКФ, НКФ НКЮ‘у, цягаліся на працягу году з-за Лапірава і ўсё-ж об‘ектыўна здарылася так, што яны абаранялі Лапірава. Факты скрыўленьня клясавае лініі, факты праяўленьне правага ўхілу на справе можна адзначыць і ў Белжылсаюзе ў шэрагу ЖАКТ‘аў, і ў Палаце Мерак і Вагі і ў шэрагу іншых устаноў. Але лічу, што ўзятых, розных па сваёй форме, праяўленьняў конкрэтных выпадкаў зусім досыць для таго, каб зрабіць палітычныя вывады ў нашай рабоце і кіраўніцтве.

### За бальшавіцкі контроль і сьмелую пролетарскую самакрытыку

Пералічаныя вышэй факты і зьявішчы правае практыкі мелі месца на шэрагу вучасткаў фронту соцыялістычнага будаўніцтва. Цяпер важна адказаць на пытаньне, чаму-ж гэтыя зьявішчы мелі ў шэрагу выпадкаў сваю гісторыю, сваю даўнасьць і былі цярпімы.

Яны ня былі выжыты своечасова таму, што ня было разгорнута сапраўднае пролетарскае самакрытыкі. Справа Белсампрамсаюзу, БСІКО, Чырвонага Крыжу і г. д. характэрныя тым, што ня было самакрытыкі ў адным выпадку і заціскалася яна ў другім.

Барацьба з правым ухілам у тэорыі і ў практыцы мысьліма толькі на грунце самакрытыкі, ня гледзячы на асобы, незалежна ад таго адкуль-бы ня выходзіла і кім-бы ня прыкрывалася.

Пры ўсім гэтым, ва ўсіх справах чырвонаю ніткай праходзіць адсутнасьць пролетарскага контролю і ўплыву. Скажам у ЦК Чырвонага Крыжу няма ніводнага вылучэнца-рабочага. НКФ, НКЮ, Дзяржаўны Унівэрсытэт да гэтага часу з прадпрыемствамі зьвязаны ня былі, пролетарскага ўплыву не адчувалі. Той вопыт, які атрымалі ў час чысткі партыі і савецкага апарату праз прымацаваньне рабочых брыгад, якія добра апраўдалі сябе, патрэбна і на далей замацоўваць, як шэфства прадпрыемстваў над савецкім апаратам.

Усе вышэй адзначаныя факты і зьявішчы патрабуюць ад кожнага комуністага і парторганізацыі ў цэлым высокае клясавае старожкасьці, непаслабнае ўвагі да рашучае барацьбы з конкрэтнымі праявамі правае практыкі. Патрэбна з усёю сілаю ў штодзеннай рабоце весьці выкрываўчую дзейнасьць тэорыі і практыкі правага ўхілу і прымірэнчых адносін да яго, як найбольш небясьпечнага на цяперашнім этапе соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта ні ў якай меры не павінна паслабіць барацьбы з рэштакамі і рэцэдывамі контр-рэволюцыйнага троцкізму, левымі загібамі, якія знаходзяць сваё праяўленьне і патрабуюць ад кожнага комуністага няпрыміронае актыўнае барацьбы.

---

П. Пасюкевіч

# Практыка правага ўхілу на вёсцы

XVI партконфэрэнцыя ў сваіх пастановах досыць выразна паказала партыі тыя прычыны, якія выклікалі неабходнасьць правядзеньня генэральнае чысткі партыі.

„У пэрыод рэконструкцыі соцыялістычнай гаспадаркі краіны, зьвязанай з соцыялістычным наступленьнем на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі і з абвастрэньнем клясавае барацьбы, партыя павінна асабліва дасканальна пераглядзець свае шэрагі для таго, каб узмацніць супроцьдзейнічаньне ўплыву дробна-буржуазнае стыхіі, зрабіць партыю больш аднолькавай, больш баяздольнай у справе перамогі цяжкасьцяй соцыялістычнае рэконструкцыі народнае гаспадаркі (З рэз. XVI партконфэрэнцыі“ Аб чыстцы і праверцы членаў і кандыдатаў УсеКП(б)Б).

Верасьнёўскі Пленум ЦК КП(б)Б падводзячы вынікі чысткі вясковых ячэек, адзначыў „наяўнасьць шматлікіх яркіх выпадкаў простага скрыўленьня клясавае лініі, п'янства і разлажэньня, змычкі асобных вясковых камуністых з кулацкімі элемэнтамі, вельмі слабы і абмежаваны ўдзел вясковых комуністых у калектыўным будаўніцтве сельскае гаспадаркі, простае нежаданьне з боку шэрагу вясковых камуністых ісьці ў калгасы, пасыўны ўдзел, а ў некаторых выпадках і простае процідзеяньне з боку камуністых калектывізацыі“. Пленум ЦКК КП(б)Б прызнаў, што „чыстка і праверка вясковых ячэек паказала, што далёка ня ўсе вясковыя камуністыя зразумелі сутнасьць небясьпекі правага ўхілу. Барацьба з правым ухілам у практычнай рабоце не заўсёды праводзіцца рашуча“.

Партыя вядзе рашучую барацьбу з опортуністымі ўсіх колераў у тэорыі і практыцы ня толькі ў парадку чысткі, але і ў усёй штодзеннай працы, таму будзе карысным разглядзець усе тыя факты і праявы правага ўхілу на практыцы, якія выяўлены ў процэсе чысткі вясковых ячэек. Віцебская парторганізацыя, каб зрабіць пэўныя і практычныя вынікі для яшчэ большае барацьбы ў далейшай рабоце паасобных парторганізацый і камуністых з фактамі опортуністычнае тэорыі і практыкі, зьнішчэньне гэтых фактаў у пачатку іх узьнікненьня, умець разглядаць сімптомы „правае хваробы“ і не даваць ёй распаўсюджвацца і прыносіць шкоду партыі.

Цяжкасьці пэрыоду соцыялістычнае рэконструкцыі, абвостраўшая клясавая барацьба, бязумоўна выклікаюць хістаньні ў дробна-буржуазных пластох насельніцтва, што знаходзіць свой адбітак ў некаторых праплastаваньнях рабочае клясы і нават партыі. Гэтыя хістаньні, якія адбіваюць уплыў дробна-буржуазнае стыхіі, на практыцы праяўляюцца ў тым, што камуністыя адыходзяць ад генэральнае лініі партыі ў асноўных пытаньнях і перш за ўсё ў пытаньні разгортваньня соцыялістычнага наступленьня на капіталістычныя элемэнты, на кулацтва ў

вёсцы. „У даных ўмовах найбольшай небясьпекай унутры партыі зьяўляецца правы ўхіл, як выражэньне простага адмаўленьня ад ленінскае палітыкі партыі (з пастановы XVI партконфэрэнцыі).

Вельмі часта думаюць, што тэорэтыкі правага ўхілу сядзяць недзе ў цэнтры, а што на вёсцы—проста па сваёй несьвядомасьці, па палітычнай няпісьменнасьці, людзі пачынаюць кульгаць на правую нагу. Бязумоўна, што пераважная частка менавіта такіх, але-ж факты кажуць нам, што ёсьць „тэорэтыкі", што яны ня хочуць працаваць сьляпцамі, яны хочуць паказаць нам тую ці іншую „тэорыю". Бязумоўна, усяе сыстэмы поглядаў правага ўхілу ў іх няма, у іх ёсьць тэорэтыка, узятая з опортуністычнага арсэналю—па аднаму, двух пытаньнях.

Вось прыклады з паасобных выступленьняў (Пынякоўская ячэйка):

а) „Я ня веру ў ажыцьцяўленьне 5 гадовага пляну, бо сельская гаспадарка заняпала".

б) „Трэба ўзмацніць лёгкую індустрыю, ці па крайней меры прывозіць тавары з-за межаў, а ня ўсе грошы тахціць у буйную прамысловасьць. Прычым досыць арыгінальна абгрунтоўвае гэтую сваю заяву тым, што цяпер праводзіцца загатоўка другароднага віду сырцу, у тым ліку і ануч; пагэтаму ён лічыць, што Савецкая ўлада хоча зрабіць усіх „анучнікамі" (вось куды хваціў), а ён супроць гэтага. Як і сьлед „прылічнаму" опозыцыянэру, ён за шырокую дэмократыю. „Ня трэба зачыненых сходаў, навошта сакрэты, усе павінны ведаць". Ён і супроць вылучэньня рабочых і сялян, бо яны „зьяўляюцца непадрыхтаванымі". Гэта найбольш буйны „тэорэтык".

А вось тлумачэньне другога тэорэтыка-ўхіленца (Бешанкавіцкая ячэйка) Лабанава, які скончыў да рэчы Зіноўеўскі Унівэрсытэт. Ён скрыўляў у сваёй працы клясавую лінію, не апіраўся на беднату і на запытаньне растлумачыць разьлічча паміж бальшавікамі і меншавікамі адказаў:—„Бальшавікі ідуць проста за беднатой, а меншавікі навуковым спосабам". Гэткае „марксыцкае" тлумачэньне паказвае, што вучоба яго ў Камвузе не дала яму карысьці.

Ёсьць і такія тэорэтычныя абгрунтаваньні, што малазямельныя і бядняцкія гаспадаркі ня могуць быць калектывізаваны, што „з бядняцкіх калектываў нічога ня выйдзе". Выходзіць, значыцца, што кулацкія, як больш моцныя, больш абсталяваныя маглі-б скарэй пабудаваць калгасы. Гэта ўжо ня толькі ўрастаньне кулака ў соцыялізм, побач ці сумесна з бедняком і серадняком, але-ж і перавага кулака па шляху да соцыялізму перад другімі соцыяльнымі праплastаваньнямі.

Своеасаблівым „урастаньнем кулака ў соцыялізм" трэба лічыць і такое абгрунтаваньне свае правае практыкі. „Трэба здаваць ў арэнду зямлю не бедняку, а кулаку, бо апошні лепш апрацуе зямлю і дзяржаве больш будзе хлеба" (Янавічы, загадч. вэтэрынарным пунктам).

Тое-ж самае гаварыў адзін аб'ездчык-камуніст у Сураскім раёне і ажыцьцяўляў гэта на практыцы—наймаў на працу выключна заможных, бо „беднякі гультаі" і аддаваў угнаеньне таксама заможным— „на іх зямлі будзе большы ўраджай".

Ёсьць і такія разважаньні, „што калектывы можна і трэба будаваць толькі на асушаных балотах". (Гэта, здаецца, устаноўка „блажэннай памяці" Лабаноўскага). Тут у гэтых разважаньнях хаваецца нежаданьне чапаць заможнага і кулака. „Нашто агітаваць, каб сяляне, што абжыліся ў вёсцы, будавалі калгасы на тэй зямлі, якая ім належыла з даўняга часу. Вось на новай, дык калі ласка. Прычым на новую, мабыць, пойдзе той, хто ня мае „старое", ці наогул у каго

дрэнная гаспадарка—гэта значыць бядняк. Такім чынам усе будуць здаволены і будзе клясавы мір".

І ўрэшце мы маем выступленьне (Нефэдаў, Немайцянская ячэйка), што калгасы ў сучасны момант не зьяўляюцца „жыцьцёвымі", адгэтуль вядома трэба разумець, што галоўная ўвага партыі павінна быць сконцэнтравана на індывідуальных гаспадарках, накіравана на рост і дапамогу ім, прычым нават не разьмяжоўваецца, каму з соцыяльных груп трэба дапамагаць.

Мы добра ведаем, што правы ўхіл і „левы" досыць часта пераходзіць адзін у адзін і што там, дзе ёсьць правы ўхіл, там павінен быць і „левы". „Левы ўхіл ёсьць цень правага ўхілу" (Сталін). Але-ж мы заўсёды разумелі, што конкрэтныя носьбіты гэтых ухілаў, суб'екты ўсё-ж такі розныя, па крайней меры, калі ёсьць такія факты, што правыя трансформіруюцца ў „левых" ці наадварот, то ўсё-ж з працягам пэўнага часу. Аднак маецца такі прыклад, калі камуністы адначасова зьяўляецца і права-ўхіленцам і „левым". Гэта яскрава паказвае, як добра могуць ужывацца гэтыя, на першы погляд два канцавосьсі, абодвы па сутнасьці дробна-буржуазныя тэорыі.

Прыклад, які мы прыводзім першым, калі камуністы ня верыць у ажыцьцяўленьне пяцігодкі, калі ён супроць узмоцненае індустрыялізацыі краіны і адначасова лічыць, што „Троцкага дарэмна выключылі з партыі", што „Троцкі быў і будзе рэвалюцыянэрам".

Разглядаючы усе гэтыя факты, а іх магчыма ёсьць многа, мы павінны адзначыць, што хаця барацьба з конкрэтнымі праявамі правага ўхілу на даным этапе барацьбы мае асабліва важнае значэньне, аднак гэта ні ў якай меры не павінна паслабляць ідэолёгічнага выкрываньня правага ўхілу. Пагэтаму партыйныя органы павінны непаслабна весьці разьясьняльную работу сярод камуністых, пранізаць усю палітыка-выхаваўчую і асьветную працу пытаньнямі, якія дасканальна аналізуюць опозыцыйныя сыстэмы і погляды, усямерна падвышаючы ідэйна-політычны ўзровень вясковых камуністых.

* * *

Уласна кажучы, група так званых практыкаў правага ўхілу, алілюйшчыкаў, якія быццам не заўважваюць у штодзеннай практычнай рабоце, што яны скажаюць клясавую лінію, што яны абслугоўваюць сваім апаратам, а досыць часта і сродкамі соцыяльна варожыя пролетарыяту элемэнты, гэта група найбольшая і гэтых спатыкнуўшыхся людзей штодзенна праз друк і іншымі спосабамі выяўляюць, выводзяць, што называецца, на чыстую ваду.

Тут асабліва шмат фактаў па лініі працаўнікоў зямельных нізавых органаў, паколькі яны ня ўсюды на мясцох рашуча перабудавалі сваю працу ў адрозьніваньне ад тэй, якую „дыктавала прышчэпаўшчына", паасобных коопэрацыйных, грашовых, судовых і іншых органаў. Напрыклад, у гэтай частцы мы маем такія факты: камуністы, ведаючы, што кулак абкладзены падаткам ў 1.500 руб., у парадку самаабкладаньня, налічвае яму толькі 9 руб., у той час, як патрэбна 250 руб. (Бешанковічы); камуністыя, што стаяць на чале розных устаноў, выдаюць розныя даведкі, не адбіваючыя сапраўднага маемаснага становішча кулацкае ці заможнае гаспадаркі і кулацкія дзеці скарыстоўваюць гэтыя даведкі для розных мэт (паступленьне ў навучальныя ўстановы і г. д.); бярэцца пад абарону кулак, якога пазбавілі права голасу, камуністы організуе збор подпісаў (з большага падкулачнікаў) з хадайнічаньнем аб аднаўленьні ў правох голасу пазбаўленага (Ліозна).

Прыём комуністых, вычышчаных, як чужы элемэнт, ва ўстановы (старшыня райсаюзу Савгандльслужачых). Выкрэсьліваньне тэрміну „гандляры" і замена іх „заможнымі", таму што гэта прыгажэй гучыць (Віцебскі Камітэт Узаемадапамогі). Прывілеі, якія даюцца пасаджаным у ДОПР спэкулянтам і гандляром, перад беднякамі, бо першыя больш інтэлігэтныя людзі і г. д. Адным словам опортунізм у практычнай працы досыць распаўсюджанае зьявішча і ён прымае розныя формы, часам да таго дзікія і галавацяпскія, што дзівішся, як гэта мог зрабіць чалавек, які лічыць сябе камуністым. Бязумоўна, трэба тут-жа адзначыць, што вясковым камуністым прыходзіцца весьці працу непараўнальна ў больш цяжкіх умовах, чым гарадзкім. Абкружэньне іх дробна-ўласьніцкімі масамі, ва ўмовах дробнае тварнае вытворчасьці, якая „параджае капіталізм, стала штодзенна, шточасна стыхійна і ў масавым маштабе" (Ленін), садзейнічае таму, што маладыя камуністыя (а ў вёсцы галоўным чынам члены партыі з невялікім партстажам) пад напорам гэтае дробна-буржуазнае стыхіі здаюць на першым часе паасобныя (можа і невялікія) вучасткі клясавых позыцый. Такія камуністыя вельмі часта не разумеюць у чым іх, уласна кажучы, абвінавачваюць, бо суб'ектыўна яны думалі, што працуюць надта сумленна і правільна, а выходзіць, што памаленьку яны коцяцца ў балота опортунізму, а не і больш—у балота абывальшчыны. Гэтых фактаў шмат. Іх выявіла і праверка вясковых камуністых, і выяўляюць іх штодзенна, паміма праверкі. Аднак характэрным зьяўляецца тое з большага партячэйкі, у якіх былі гэтыя камуністыя, ня бачылі гэтых зьявішч, праглядзелі іх. Досыць часта і ячэйкі і вышэйшыя партоўганы (РК) не правяраюць як сьлед фактаў, не зьвяртаюць увагі на ўсялякія сымптомы, штэмпэлююць той матар'ял і інформацыю, якую ім даюць, без належнае праверкі. Так, у адным мэліорацыйным т-ве скажалася клясавая лінія, а член партыі запэўнівае РК, што там усё добра, і яму верылі на слова. Чым гэта ўсё можна аб'ясьніць. Гэта можна аб'ясьніць толькі палітычнаю блізарукасьцю, дзяляцтвам гэтых ячэек, няўменьнем улавіць палітычны сэнс у цэлым шэрагу зьявішч. А ня трэба забываць, што дзяляцтва і прымірэнцтва—рэзэрвы правае лініі ў практычнай працы. Чыстка вясковых ячэек павінна паслужыць пераломным момантам у пастаноўцы працы кожнае ячэйкі і асабліва тых, дзе былі выяўлены факты правае практыкі. Павінна весьціся самая паступовая і рашучая барацьба з правым ухілам на практыцы. Неабходна, каб кожны камуністы, кожная ячэйка на вёсцы ўсямерна імкнулася падымаць свой палітычны і культурны ўзровень, каб лепей зразумець тыя палітычныя задачы, што стаяць цяпер перад усёю партыяй.

* * *

Праверка вясковых ячэек выявіла шмат фактаў нежаданьня паасобных камуністых ісьці ў калгасы. З рэшты-ж група гэтых камуністых як быццам імкнецца праводзіць лінію партыі і нават праводзяць „агітацыйную" працу сярод насельніцтва за ўступленьне ў калгасы. Бязумоўна фальшывасьць іх становішча не дае магчымасьці быць актыўнымі працаўнікамі ў гэтым напрамку, іх зараз-жа выкрываюць простым запытаньнем: „А чаму сам ня ідзеш у калгас". І яго „агітацыя" зводзіцца да нуля, а з большага яшчэ дае і адмоўныя вынікі.

Ніжэй будуць прыводзіцца якраз такія факты, якія кажуць, што ўмовы для ўступленьня ў калгасы былі, але паасобныя камуністыя па ўсялякіх прычынах ухіляліся ад уступленьня.

Вось якія ёсьць прыклады. Быў арганізаваны калгас і камуніст уступіў у яго, але праз некаторы час з прычыны таго, што быццам не жадаюць другія сябры сям'і, асабліва жонка,—выходзіць з калгасу. Прычым высьвятляецца, што ён сам падбухторваў жонку выходзіць з калгасу і нават сам заяву ёй напісаў (Вярхоўная яч., Бандарэнка). Наогул, ёсьць шэраг фактаў, калі партыйцы матывуюць няўступленьне ў калгас тым, што сям'я, жонка ня хоча ўступаць і што яе цяжка перавыканаць. Калі ўжо ёсьць, скажам першая ступень да калектывізацыі, аграмаджэньне некаторых процэсаў—сумесная апрацоўка зямлі, запрашка коняй і г. д., дзе і камуністы ўдзельнічае, тут здавалася-б, яму даецца поўная магчымасьць весьці працу ў напрамку організацыі калгасу, а ён ставіцца пасыўна, трусьліва да гэтага (Суражская яч.). Аднаму камуністаму пры праверцы на запытаньне: „Чаму ня ўступаеш у калектыў", у той час, калі пры яго вёсцы гэткі быў арганізаваны, дык ён адказваў, што ня ідзе таму, што жонка яму сказала, „што нядаўна забілі аднаго яўрэя ў калгасе". Тут мы бачым ня толькі нежаданьне клясавае барацьбы, так сказаць прынцыпова, але трусьлівасьць і боязкасьць за сваю скуру, якая можа пастрадаць, калі камуністы будзе ажыцьцяўляць лінію, якая не па нутру кулаку (Лазукоўская яч.—Дэмэнтэй).

Маюцца і выпадкі процідзейнічаньня організацыі калгасаў, ці злачынная халатнасьць, калі сяляне жадаюць уступіць у калгас, але, дзякуючы нежаданьню камуністага справа развальваецца (Дабрамысьленская яч., Ганчароў). Сяляне на сходзе ўзьнялі пытаньне аб організацыі колгасу, а камуністы, што прысутнічаў тут, не прычакаў канцу сходу, зьбег і такім чынам таксама справа ня была даведзена да канца. У вёсцы організаваўся калгас з 14-ці бядняцкіх сем'яў, а камуністы туды не ўваходзіць. Дзякуючы гэтаму ён ўжо страчаны, як член партыі, бо кулакі выступаюць супроць калгасу, а ён адпору не дае. Парт'ячэйка даручае яму працу сярод калгасьнікаў, ён сабатуе яе, бо сапраўды які-ж з яго працаўнік, калі ён не пайшоў у калгас (Бешанковічы—Анціховіч).

Ёсьць і такія выпадкі, калі „здаюць партбілет", каб ня ісьці ў калгас, уласьніцкія тэндэнцыі пераважаюць над усім іншым. Характэрныя і такія настроі, што некаторыя жадаюць ісьці ў калгас, але каб не са сваёю гаспадаркаю. Двурушніцтва іх надта яскрава відаць—яны хочуць і „камуніі" служыць і на ўсякі выпадак мець уласную гаспадарку, калі не яны самі, то хоць бацькі, браты і г. д.

Ёсьць і такая зьява аднаго члена партыі, што „ў калгасы няхай ідуць усе п'яніцы". Вышэй пералічаныя камуністыя, якія толькі абцяжарвалі партыю і перашкаджалі будаваць калгасы,—павыкідваны з шэрагаў партыі. Мы маем значны рост калгасаў за апошні час як па БССР, так і па ўсяму Саюзу, чым расчараваны ня толькі практыкі опортуністыя, але-ж рухнула дашчэнту разьбітая ўстаноўка правых, што калгасы не зьяўляюцца шляхам соцыялістычнага разьвіцьця вёскі, што сяляне адмовяцца ад гэтага „шляху", ня пойдуць па ім і гэтак далей.

„Усё ўзрастаючая кіруючая роля буйное сацыялістычнае прамысловасьці зьявілася асноваю таго масавага калектыўнага руху, тэй вялізарнай працы, якая праводзіцца цяпер на вёсцы. Калгасны рух за апошні год набыў нячуваны размах. У будаўніцтва калгасаў ужо ўцягнуты па СССР і БССР мільённыя масы батракоў, беднякоў і серадняков".

(З адозвы ЦК КП(б)Б да дню ўраджаю).

* * *

Праверка выявіла сапраўдных кулакоў, па маемаснаму становішчу, якія пралезьлі ў партыю. Магчыма, што яны акулачыліся ўжо будучы ў партыі, дзякуючы іменна скарыстоўваньню ў асабістых мэтах свайго прабываньня ў партыі, аб гэтым гаворыць нам і спэцыяльнае абсьледваньне, праведзенае ЦК КП(б)Б (гл. арт. Пайкіна „Камуністы-сяляне беларускай вёскі“). Наогул, у выніку абсьледваньня сялян-камуністых склад іх з соцыяльнага пункту гледжаньня прызнаны нездавальняючым.

Факты, выяўленыя ў процэсе чысткі, паказваюць, што камуністыя зьвязаны з заможнай гаспадаркай, не гаворачы ўжо з эксплёатагарскай-кулацкай, ня могуць быць праваднікамі клясавае лініі партыі на вёсцы, нават і тады, калі-б яны жадалі гэтага. І задача праверкі галоўным чынам была—выявіць гэтых тыпаў і рашуча ачысьціць ад іх шэрагі партыі, бо калі можна перавыхаваць чалавека заражанага тэй ці іншай скажам нават кулацкай ідэолёгіяй, то кулака, які прырос да свае эксплёататарскае гаспадаркі ўсёю істотаю сваёю, перавыхаваць нельга.

Камуністы мае 10 дзесяцін зямлі, гаспадарка заможная, сам член праўленьня сельска-гаспадарчае коопэрацыі. Працаваў у коопэрацыі выключна для асабістае выгады, сыстэматычна скрыўляў клясавую лінію. Вось яго праца: а) перадае насенны матар‘ял 50 пуд. свайму цесьцю, замест таго, каб выдаць яго бедняком; б) ужывае ўсе захады, каб надзяліць зямлёю былога абшарніка і якраз у тым маёнтку, дзе ён раней быў і эксплёатаваў сялян. У дадатак яшчэ да ўсяго ўчыніў рэлігійны абрад—вянчаўся ў царкве.

Характэрна адзначыць, што большасьць гэтых кулацкіх тыпаў не парывае сувязі з рэлігіяй. Для іх няпрыемна неяк быць атэістымі, парываць з рэлігіяй, гэта ўжо будзе „яскрава камуністычны крок“. Кулацкая ідэолёгія ня можа мірыцца з атэізмам.

Вось другі яскравы прыклад:—камуністы—старшыня сельска-гаспадарчае арцелі (Чашнікі, Лазарэвіч). Бацька мае 15 дзесяцін зямлі, 2 коняй, 3 каровы, дробнае жывёлы 10 шт., зямля абрэзана, сын не парваў з гэтаю гаспадаркаю, відавочна, што сын уступіў у партыю і ў арцель для „адводу вачэй“. Бязумоўна, што арцель працавала дрэнна, бо ён асабіста ня быў зацікаўлены ў гэтай працы.

Тав. Яраслаўскі ў сваім артыкуле „Папярэднія вынікі чысткі шэрагаў партыі“ адзначае, што „праверка вясковых ячэек зьявілася адным з момантаў, калі выявілася рэзкая клясавая барацьба ў вёсцы“ і што вакол выключэньня ці ня выключэньня таго ці іншага камуністага паміж беднатою і кулакамі з падкулачнікамі разгарэлася бойка.

Для ілюстрацыі гэтага палажэньня цікава прывесьці яскравы прыклад гэтае барацьбы пры чыстцы вышэйпамянёнага Лазарэвіча, проста можна сказаць літаратурны дыялёг. Прывожу яго так, як ён запісаны ў пратаколе праверкамісіі.

„Аб кандыдатуры Лазарэвіча выказваюцца ў спрэчках:

С.—(падкулачнік)—„Лазарэвіч прымае актыўны ўдзел у рабоце сельскага савета, увесь час бароніць беднату, чотка праводзіць клясавую лінію“.

М. „Лазарэвіч зьяўляецца з кулацкай сям‘і, абіжае сям‘ю чырвонаармейцаў. П‘янствуе, бярэ хабары. Прышоўшы да мяне, сілком заставіў сьпячы яічніцу, кажучы, „я табе скіну частку падатку“. Маю гаспадарку ня ўнёс у сьпіс на аслабаненьне ад сельгаспадатку, хаця гаспадарка сям‘і чырвонаармейца. Яму ня месца ў шэрагах партыі.

Быў выпадак, калі ён жадаў згвалціць быўшую загадчыцу чытальняю А.“

Ш.—(падкулачнік)—„М. (выступіўшы перад ім) сёньня зьяўляецца эксплёататарам чужое працы, ёсьць батрак, яе брат, будучы ў валвыканкоме, браў хабары, горкі п'яніца, яна клеймiць зра пазорам Лазарэвіча, ён стаіць у сваёй працы толькі за беднату, чотка праводзіць клясавую лінію. Калі яго выключыць з партыі, то, бязумоўна, будзе памылка“.

Б.—„Мой сын у Чырвонай арміі, я бяднячка, Лазарэвіч мяне абклаў падаткам, гэта неправідлова, тады як заможных аслабаняе“.

П.—„М. напрасіла жанчыну і па асабістых счотах жадае абклеветаць Лазарэвіча. Б. атрымала крэдыт, як бяднячка, а потым пусьціла сыну на касьцюм. Гэта злоўжываньне, Лазарэвіч правільна працаваў“.

Ш.—„Па с.-савету Лазарэвіч працаваў, як астатні работнік. У 1927 г. У. скідваў сельска-гаспадарчы падатак і гасьціў у яго“.

К.—„Ш—гутарыць лож, ён свайго брата разарыў, пабіў, за што прыцягваўся судом да адказнасьці і наогул, ён супроць калектывізацыі і савецкай улады, і ўсіх камуністых ня любіць“.

Комэнтарыі да гэтага дыялёгу клясавае барацьбы зусім лішнія. Ня толькі кулакі, але не парваўшыя сувязі з сваімі заможнымі гаспадаркамі таксама ня могуць праводзіць яскравае клясавае політыкі, затым калі даручаецца яму ўзысканьне самаабкладаньня, то ён вельмі энэргічна сыскваў з беднаты, пагражаў ёй усімі карамі і зусім павольна ня прымаючы рашучых мер, узысківаў самаабкладаньне з заможных (Ліозна).

Магчыма, што праверка ня ўсіх кулацкіх тыпаў выявіла, пакольк ў шэрагу ячэек недастаткова была разгорнута самакрытыка, яшчэ можа сям-там дзе-небудзь і заваляліся яны (трэба прыняць пад увагу іх вялікую прыстасавальнасьць) і задача партячэек пільна сачыць за гэткімі выпадкамі і рашуча ачысьціцца ад усіх, як простых кулакоў дык гэтак і тых, што не парвалі сувязь з кулацкімі гаспадаркамі.

* * *

На мясцох існуе думка, што выкрыцьцё правага ўхілу заўсёды цягне за сабою тое ці іншае загніваньне камуністага. Гэта няправільна. Усе вышэйпададзеныя факты з большага ня былі зьвязаны з маральным распадам. А таму мы залічваем такія факты ў асобную групу, прычым лічым, што адыход іх ад пролетарскіх клясавых позіцый адбыўся дзякуючы таму, што на глебе маральнага распаду, яны прадстаўляюць сабою людзей, якія лёгка падпадаюць пад уплыў кулацкіх і чужых нам элемэнтаў, прычым, бязумоўна, сюды не адносяцца асобы проста загніўшыя ці што парушаюць камуністычную этыку, а на мясцох досыць часта ўсе гэткія факты залічваюцца як „правы ўхіл“.

„Правда“ ў перадавіцы партыйнага аддзелу „Выше знамя принципиальной борьбы с опортунизмом“ падкрэсьлівае ўсе гэтыя моманты: „Половая распущенность, семейственность, не есть еще правый уклон на практике“... „надо распознавать і разоблачать опортунистическую практику даже тогда, когда она не сопровождается моральным разложением“.

Усе факты маральнага загніваньня пачынаюцца звычайна з п'янкі, а ад яе і ўсе якасьці.

Глушнёў (Сененск. яч.) сыстэматычна п'янстваваў з кулакамі. А таму калі працаваў старшынёю сельска-гаспадарчага крэдытнага т-ва, то

выдаваў крэдыт на мэліорацыю пераважна заможным, ваўначоску, якая была ў коопэрацыі, перадаў ілжэтаварыству, у якім галоўным чынам сядзелі заможныя і кулакі.

Бутвіловіч (Ліозна)—сябра праўленьня спажывецкага таварыства—сыстэматычнае п'янства, склокі, групоўкі. На працягу свае працы груба парушаў клясавую лінію, выкарыстоўваў фонд беднаты, не па прызначэньню коопэраваў заможных за лік гэтых фондаў, скрываў усякімі мерамі хваравітыя зьявішчы ў ячэйцы і г. д.

Такіх прыкладаў шмат ёсьць. Яны з фактычнага боку ні чым не адрозьніваюцца ад выпадкаў простага парушэньня камуністычнае этыкі. Але тут адначасова мы маем клясавыя скажэньні. Будзе, бязумоўна, зусім няправільным, як гэта некаторыя партячэйкі і райкомы робяць, калі яны завастраюць пры разглядзе гэткіх пытаньняў галоўную ўвагу на парушэньнях камуністычнае этыкі, а не на фактах парушэньня клясавае лініі (асабліваcьць дзяляцтва) і рашуча трэба адхіліць такія выпадкі, калі простае парушэньне яе і разлажэньне партячэйкі будуць кваліфікаваць як правы ўхіл. Гэта асабліва шкодна, бо гэтым самым „отвлекается внимание масс от политических прорывов в отдельных звеньях аппарата, от извращений классовой линии в работе отдельных организаций“ (з „Правды“).

* * *

Апошняе пытаньне, якое можа паўстаць у сувязі з вышэйпаданым матар'ялам і аб якім мы ўжо гаварылі, гэта тое, што шмат якія ячэйкі не заўважылі фактаў опортунізму, фактаў скажэньня клясавае лініі, якую праводзілі іхныя партыйцы.

Акрамя палітычнае блізарукасьці ячэек тут трэба яскрава адзначыць такі тэзіс: усё гэта сталася магчымым дзякуючы таму, што *крытыка і самакрытыка недастаткова была разгорнута ў гэтых партячэйках.*

Тут узаемазалежнасьць бязумоўна поўная, адсутнасьць самакрытыкі не дае магчымасьці выкрыць ня толькі правы ўхіл, а і розныя злачынствы. Аб гэтым гавораць факты. Прычым маецца шэраг фактаў, калі ячэйкі сваімі паводзінамі—заціскаsuccessive самакрытыкі—процідзейнічаюць раскрыцьцю фактаў правага ўхілу. Побач з тым, што прымаюцца добрыя рэзолюцыі аб барацьбе з правым ухілам, наогул канкрэтна не зьвяртаецца ўвага на тое, што робіцца пад носам у ячэйкі і райкома.

Характэрным прыкладам можа служыць Межынская райпарторганізацыя, дзе была слаба разгорнута самакрытыка і калі сакратар РК разумеў крытыку дзейнасьці Райкому як вядзеньне пад яго падкопу. Дзякуючы гэтаму стварыліся: а) прымірэнчыя адносіны да правага ўхілу (выбары заможных у коопэрацыю); слабая праца па калектывізацыі раёну: самакрытыка сярод рабочых саўгасу не разгорнута. Рабочыя баяцца крытыкаваць адміністрацыю, баяцца каб ня зволілі. Партыйцы цьмяна разумеюць лёзунг самакрытыкі (Тыраспольская ячэйка); налічча сямейсьцьвеннасьці (Бешанковічы) пры чыстцы сяброў партыі, не жаданьне „выносіць сьмяцьця з сваёй хаты“ (з вывадаў праверкому).

Селянін, які выкрываў аднаго камуністага, дадае ў канцы выступленьня: „Ведаю, што за маё выступленьне мне не пааздаровіцца, гаварыў-бы больш, але боязна, бо будзе пасьля „порка“ (Сененская арганізацыя).

Меліся выпадкі і помсты за выступленьне з крытыкаю, прычым у досыць арыгінальных формах. Пры чыстцы пакрытыкавалі старшыню спажывецкага таварыства (Пустын. яч., Сенно) і калі назаўтра адна сялянка прышла ў коопэрацыю, дык старшыня т-ва сказаў: „Я вам мукі ня дам, бо ваш гаспадар умее многа гаварыць“.

Яшчэ шмат ёсьць такіх фактаў. Бязумоўна, што сьвядомыя і несьвядомыя ўхіленцы баяцца самакрытыкі, але дзякуючы ёй раскрываецца іхны палітычны твар. А адсутнасьць самакрытыкі, наадварот, садзейнічае прытупленьню клясавае чуласьці і спрыяе правай лініі ў практычнай працы.

Вось чаму партячэйкі і наогул парторганізацыі павінны ўсямерна садзейнічаць разгортваньню самакрытыкі, сыстэматычна правяраць як выконваюцца дырэктывы партыі ў гэтай галіне, бо самакрытыка ёсьць гострае аружжа супроць правага ўхілу ў практычнай працы, супроць скажэньня клясавае лініі. Правільна разгорнутая самакрытыка павінна садзейнічаць выкрыцьцю права-ўхіленцкіх памылак у самым пачатку, ня дасьць магчымасьці ім назьбірацца, а зможа нават і папярэдзіць (выхаваўчая мэта) тых камуністых, якія па несьвядомасьці ці па сваёй непадрыхтованасьці губяць клясавы твар і якія змогуць выправіць свае памылкі.

---

Куніца

# Нацыянальнае будаўніцтва на Гомельшчыне за апошнія тры гады

## Вялізарныя посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва забясьпечваюцца пасьпяховым вырашэньнем нацпытаньня

Пасьпяхова будуючы сацыялізм, партыя і рабочая кляса тым самым пасьпяхова вырашаюць нацыянальнае пытаньне, як частку ўсяго непарыўнага цэлага нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Шпаркі тэмп індустрыялізацыі Савецкае краіны, шпаркі рост соцыялістычнае прамысловасьці і сацыялістычных элемэнтаў сельскае гаспадаркі адзначае і больш шпаркі тэмп зьнішчэньня перажыткаў нацыянальнае няроўнасьці, забясьпечвае ў пэрспэктыве канчатковае і поўнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня ў Савецкім Саюзе.

Пролетарыят Савецкага Саюзу, пад кіраўніцтвам УсеКП(б), настойлівым правядзеньнем ленінскай лініі ў нацыянальным пытаньні сапраўды дамогся значнага экономічнага і культурнага пад'ёму ўсіх акраінных савецкіх рэспублік, што былі ў мінулым пераважна раёнамі сельска-гаспадарчымі з вялізарнай большасьцю сялянскага насельніцтва, раёнамі прыгнечанымі і зруйнованымі політыкаю царскае ўлады. Экономічны і культурны рост БССР зьяўляецца найбольш відавочным паказальнікам гэтых дасягненьняў. Пад кіраўніцтвам КП(б)Б, з вялізарнай дапамогай СССР, Савецкая Беларусь з краіны аграрнае, адсталае вырастае ў краіну індустрыяльна-аграрную, дзе хутка растуць новыя магутныя электрастанцыі, фабрыкі, заводы, гіганты-савгасы і калгасы, буйнейшыя культурныя ўстановы.

У Гомельскай акрузе, далучанай да БССР усяго 3 гады таму назад, у той пэрыод, калі ва ўсім Савецкім Саюзе рашуча вызначыўся пераход ад пэрыоду вастанавіцельнага к пэрыоду рэконструкцыйнаму, калі побач з бурным ростам і соцыялістычнай перабудовай усяе гаспадаркі СССР, экономічны і культурны рост акраінных савецкіх рэспублік, у тым ліку і БССР, пайшоў яшчэ шпарчэй,—правільнае правядзеньне нацыянальнае політыкі дало асабліва спрыяючыя вынікі. За апошнія гады мы маем асабліва шпаркі рост прамысловасьці, што забясьпечвае значнае разьвіцьцё ў акрузе мэталёапрацоўчае, хэмічнае дрэваапрацоўчае прамысловасьці, рост капітальных укладаньняў у прамысловасьць на 311 проц. па параўнаньню з 1926-27 г., рост бюджэту па параўнаньню з бюджэтам 1926-27 г.—на 229 проц. Адначасова маем значны рост культурных устаноў як у горадзе, так і на вёсцы.

На базе магутнага росту соцыялістычнага будаўніцтва па ўсёй БССР і па Гомельскай акрузе маем значнае паляпшэньне матар'яльнага і культурнага ўзроўню рабочых і сялянскіх мас; пашыраецца пролетарская база ў акрузе, ідзе буйны рост пролетарскае культуры, пролетарскае па зьместу і нацыянальнае па форме, беларускіх працоўных

мас і культуры нацыянальных меншасьцяй, узмацняецца саюз рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства.

### Рашучая барацьба з скажэньнямі лініі партыі ў нацпытаньні

Рашуча праводзячы ў жыцьцё генэральную лінію партыі, настойліва змагаючыся з усялякімі ўхіламі ад правільнае ленінскае лініі, партыя адначасова вяла і вядзе непаслабную барацьбу з усялякімі ўхіламі ад правільнае лініі партыі па нацыянальным пытаньні. Разбурыўшы контр-рэволюцыйны троцкізм і троцкісцкую ўстаноўку ў нацыянальным пытаньні, партыя не паслабляе барацьбы з праявамі правага ўхілу, як галоўнай небясьпекай у даны момант і прымірэнцкімі адносінамі да яго, як па ўсім фронце будоўлі соцыялізму, таксама на фронце нацыянальнага будаўніцтва. Правыя ўхілістыя, выказваючыся супроць шпаркага тэмпу індустрыялізацыі краіны, тым самым трымаюць курс на захаваньне і замацаваньне рэштак нацыянальнае няроўнасьці. Правыя ўхілістыя, замазваючы наліччa абвостранае клясавае барацьбы ў краіне, тым самым спрабуюць дэмобілізаваць сілы партыі, накіраваныя на барацьбу з кулаком і нэпманам, якія актывізуюцца, якія ў сваім супраціўленьні мерапрыемствам партыі і савецкай улады усямерна скарыстоўваюць старую апрабаваную прыладу—сеяць нацыянальную варожасьць (актывізацыя вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму, нацыянал-дэмократызму, рост антысэмітызму, актывізацыя яўрэйскага і польскага шовінізму).

Вялізарнае абвастрэньне клясавае барацьбы, зьвязанае з рэконструкцыйным пэрыодам, узмацненьне супраціўленьня капіталістычных элемэнтаў нашаму соцыялістычнаму наступленьню—уносіць значныя ўскладненьні ў тую абстаноўку, у якой партыі прыходзіцца праводзіць нацыянальную палітыку і патрабуе ад усяе КП(б)Б рашучае мобілізацыі ўсіх сіл для барацьбы супроць беларускага нацыянал-дэмократызму, які зьяўляецца найбольш небясьпечным у даны момант, у ўмовах БССР супроць расійскага, яўрэйскага, польскага і інш. шовінізму.

Пад кіраўніцтвам ЦК уся КП(б)Б дала рашучы адпор усім вылазкам нацыянал-дэмократаў, поўнасьцю выкрыўшы контр-рэволюцыйную сутнасьць нацыянал-дэмократычных імкненьняў. Аднак, растлумачальная праца аб сутнасьці нацыянал-дэмократызму і накіраваньне ўвагі ўсяе парторганізацыі на барацьбу з ідэолёгіяй і практычнай працай нацыянал-дэмократаў у Гомельскай акрузе, праведзена недастаткова. Таму парторганізацыя павінна зараз-жа накіраваць значна больш увагі і сіл на барацьбу з конкрэтнымі праявамі нацыянал-дэмократызму і на праведзеньне растлумачальнае працы ў гэтай галіне. Адначасова павінна праводзіцца непаслабная барацьба з паасобнымі фактамі і ідэалізацыі ролі „Бунда“ ў рэвалюцыйным руху на Беларусі, замазваньне яго дробна-буржуазнае сутнасьці да рэволюцыі і контр-рэволюцыйнае дзейнасьці пасьля Кастрычнікавага перавароту, а таксама са спробамі замазваць наліччa клясавае барацьбы ў шэрагах яўрэйскага насельніцтва, з размовамі аб усім яўрэйскім насельніцтве пры недастатковым разьмежаваньні інтарэсаў яўрэйскіх працоўных мас ад нэпманскае часткі яўрэйскага насельніцтва.

### Востра стаіць перад намі задача барацьбы з вялікадзяржаўным расійскім шовінізмам

Ва ўмовах Гомельшчыны, яшчэ вельмі складанай стаіць задача барацьбы з вялікадзяржаўным расійскім шовінізмам, бо за апошні час маюцца факты больш рэзкага праяўленьня яго. Гомельшчына яшчэ не перажыла таго этапу барацьбы з вялікадзяржаўным расійскім шовініз-

мам, які прайшла ўся КП(б)Б, у Гомельшчыне на сёнешні дзень тэмп беларусізацыі недастатковы і ёсьць шэраг фактаў актыўнага супраціўленьня беларусізацыі, у Гомельшчыне яшчэ наглядаецца такое становішча, калі паасобныя партыйныя ячэйкі не заўсёды даюць рашучага адпору праявам вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму. Бярэм некалькі прыкладаў, якія пацьвярджаюць гэтыя факты. У Залінейнай організацыі на адным са сходаў партыйнае ячэйкі Гом.-Гаспадарч. ставілася на галасаваньне пытаньне адносна выпіскі газэты „Зьвязда“,— ці трэба сябру партыі выпісваць орган ЦК партыі. Гэтае пытаньне ставілася на галасаваньне, пры чым частка галасавала—за, частка—супроць і яшчэ большая частка ўстрымалася. На II акруговай партыйнай конфэрэнцыі была прынята пастанова аб тым, каб кожны камуністы ня толькі выпісваў, але-ж і чытаў „Зьвязду“. Ня гледзячы на гэтую пастанову, якая была прынята 2 гады таму назад, галасуецца, ці выпісваць усім камуністым „Зьвязду“. Другі прыклад завода „Пралетары“. Там ставілася на галасаваньне пытаньне, рабіць даклад на беларускай ці на расійскай мове. На фабрыцы „Дняпро“ мы мелі такое зьявішча, калі ў палітшколе, пасьля вурока, які вядзецца на беларускай мове, адзін з слухачоў заяўляе: „Куды гадзіцца гэта беларуская мова, толькі дурманіць голавы, ад яе трэба ўцячы ў Расею“. Прысутныя камуністыя маўчаць і ні слова не гавораць ні за, ні супроць.

На ячэйцы Акрсуду два вечары спрачаліся па пытаньні аб тым, ці зьяўляецца парушэньнем дырэктыў партыі, калі член партыі не вывучае беларускае мовы. Адзін член партыі гэтае ячэйкі ў іншым месцы так ставіць пытаньне: „Партыя праводзіць беларусізацыю дзеля таго, каб узмацніць саюз рабочае клясы з працоўным сялянствам. Чаму нам пайсьці да сялянства, няхай яно ідзе да нас,—рабочая кляса ведае лепш расейскую мову, неабходна, каб сялянства пайшло да рабочае клясы і вывучала расейскую мову“. Бачыце, ён ледзьве не абвінавачвае партыю ў хвасьцізьме, ва ўступках сялянству. Гэта толькі маленькая частка ўсіх выпадкаў. Яны гавораць аб тым, што пытаньне барацьбы з вялікадзяржаўным расійскім шовінізмам ва ўмовах Гомельшчыны захоўвае сваё вялізарнае значэньне і што перад партыйнай організацыяй Гомельшчыны яна стаіць значна вастрэй, чым перад усёй КП(б)Б. Вось чаму Гомельская парторганізацыя ў нагу з усёю КП(б)Б, змагаючыся з нацыянал-дэмократызмам як галоўнай небясьпекай у даны момант ва ўмовах БССР, павінна ня ў меншай меры мобілізаваць свае сілы на барацьбу з вялікадзяржаўным расійскім шовінізмам, не паслабляючы аднachасова барацьбы з яўрэйскім, польскім і інш. шовінізмам.

Такім чынам на сёнешні дзень у абстаноўцы абвостранае клясавае барацьбы маем некаторы рост і актывізацыю вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму, нацыянал-дэмократызму, яўрэйскага і польскага шовінізму, а таксама антысэмітызму. Вялікадзяржаўныя расійскія шовіністы адбіваюць настроі кулацка-нэпманскага асяродзьдзя, мінулых расійскіх чыноўнікаў і зрусіфікаванае часткі яўрэйскага мяшчанства, нездаволенага мерапрыемствамі па беларусізацыі школы і савецкага апарату. Ва ўмовах БССР, дзе горад у значнай частцы зрусіфікаваны, дзе сярод гарадзкога насельніцтва значная частка яўрэйскага насельніцтва, будзе правільна, калі скажам, што носьбітамі вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму зьяўляюцца ня толькі былыя расійскія чыноўнікі, але-ж і зрусіфікаваная частка яўрэйскага мяшчанства нашых гарадоў і мястэчак. Носьбітамі беларускага шовінізму зьяўляецца беларуская інтэлігенцыя, якая адбівае настроі кулацтва, нездаволенага шпаркім тэмпам социялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне. Адносна яўрэйскага шовінізму трэба адзначыць, што за апошні час маем цэлы

шэраг выпадкаў, калі яўрэйскі шовінізм ад абароны пераходзіць у наступленьне, калі ён найбольш яскрава адбівае настроі нэпманскае часткі яўрэйскага насельніцтва, заможных саматужнікаў, незадаволеных таксама шпаркім тэмпам социялістычнага будаўніцтва. Зразумела, што ўся маса шовіністых імкнецца зрабіць уплыў на адсталыя групы рабочых і працоўнага сялянства. Галоўная мэта барацьбы гэтае варожае нам часткі насельніцтва заключаецца ў тым, каб затрымаць шпаркі тэмп экономічнага і культурнага будаўніцтва ў нашай краіне.

## Нашы дасягненьні і недахопы ў нацбудаўніцтве

Пераходзім да асьвятленьня дасягненьняў і недахопаў у практычных мерапрыемствах па вырашэньні нацпытаньня. На сёнешні дзень у Гомельскай акрузе маецца значнае павялічэньне ў параўнаньні з мінулымі гадамі рабочае праслойкі ў прамысловасьці, асабліва ў будаўнічай, дрэваапрацоўчай і хэмічнай. У гэтых галінах прамысловасьці, якія найбольш хутка растуць у акрузе, ёсьць значнае павялічэньне рабочых-беларусаў, а ва ўсім складзе членаў саюзаў 58,9 проц. беларусаў.

Тут паўстае вельмі цікавы малюнак адносна таго, які процант беларусаў выяўлены ў акрузе ў час правядзеньня перапісу ў сьнежні, 1926 г. Па гэтаму перапісу ў Гомельскай акрузе лічыцца беларусаў толькі 54,4%, а расійцаў—31%. Калі зараз возьмем лічбы на першае красавіка 1929 г., дык маем па катэгорыі рабочых членаў профсаюзаў 10 проц. расійцаў, а беларусаў—58,9 проц. Гэта гаворыць аб тым, што ў час перапісу значная частка насельніцтва аказалася запісанай расійцамі, тым часам, калі яны зьяўляюцца беларусамі.

У галіне росту рабочых беларусаў у прамысловасьці—на бліжэйшы час стаіць такая задача: пры агульным росьце рабочае клясы неабходна дамагчыся значнага павялічэньня рабочых-беларусаў, асабліва ў той частцы прамысловасьці, дзе на сёньня маецца малы процант іх. Напрыклад, сярод гарбароў—на 1,032 рабочых 48 беларусаў, што складае 4,7 проц.; сярод друкароў—усяго 35 беларусаў. На швэйнай ф-цы за апошні час набралі значную частку новых кадраў рабочых, бралі маладую рабочую сілу і нічога не зрабілі, каб павялічыць колькасьць рабочых-беларусаў у гэтай галіне прамысловасьці.

У саматужных арцелях за апошні год наглядаецца значны рост беларусаў. За тры гады павялічылася агульная колькасьць членаў саматужных арцеляў на 416 проц., беларусаў у арцелях—58 проц. У акруговых савецкіх установах сярод адказных працаўнікоў—45 проц. беларусаў, 17 проц. расійцаў, 31 проц. яўрэяў, 1 проц. палякаў. Горш абстаіць справа ў коопэрацыі, дзе толькі 28 проц. беларусаў, 11 проц. расійцаў і 57 проц. яўрэяў. У прафэсыянальных установах сярод кіруючых адказных працаўнікоў—45 проц. беларусаў, 3,5 проц. расейцаў і 40 проц. яўрэяў. Неабходна зрабіць такія вынікі, што недастаткова вядзецца праца ў галіне падрыхтоўкі рабочых-беларусаў для кіруючае працы акруговых устаноў, асабліва ў коопэрацыйных. У адносінах да савецкага будаўніцтва трэба сказаць, што з часу далучэньня Гомельшчыны да Беларусі ў акрузе значна расьце лік беларускіх сельсаветаў, якіх зараз маецца 204.

## Цэнтральным застаецца пытаньне беларусізацыі

У бліжэйшай рабоце па правядзеньню нацыянальнае палітыкі, у ўмовах Гомельскае акругі, адным з цэнтральных пытаньняў застаецца пытаньне настойлівага і рашучага правядзеньня беларусізацыі.

У абстаноўцы абвостранае клясавае барацьбы адным з асноўных сродкаў па ўзмацненьні саюза пролетарыяту з асноўнымі масамі сялянства, па ўзмацненьні кіруючае ролі пролетарыяту ва ўсім социялістычным будаўніцтве і па поўнаму ажыцьцяўленьню кіруючае ролі парторганізацыі і рабочае клясы ў культбудаўніцтве, па рашучаму змаганьню з праявамі нац.-дэмократызму і шовінізму ўсіх масьцей,—зьяўляецца актыўная праца па яшчэ большаму ўзмацненьню тэмпу беларусізацыі. Вялізарныя задачы, якія стаяць перад партыяй у справе социялістычнае рэконструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі, і асабліва ў справе социялістычнае перабудовы сельскае гаспадаркі, ня могуць быць вырашаны без вялізарнага росту актыўнасьці працоўных мас. І сотні тысяч працоўных акругі ў асаблівасьці сялянскую беднату, батрацтва і серадняцтва ня зможам цалкам прылучыць к социялістычнаму будаўніцтву, калі не перавядзем рашуча і цьвёрда працу савецкага, коопэрацыйнага, профэсыянальнага апарату, партыйных і комсамольскіх організацый на беларускую мову.

Члены партыі, якія яшчэ не ўясьнілі сабе гэтае важнейшае задачы, якія пад тым альбо іншым відам супраціўляюцца правядзеньню ўсіх мерапрыемстваў па беларусізацыі, вызначаных парторганізацыяй,—такія члены партыі граюць на руку нашым клясавым ворагам, менавіта цяпер, калі стаіць пытаньне аб актыўным уцягненьні ў социялістычнае будаўніцтва сотняў тысяч працоўных усіх нацыянальнасьцяй.

Паасобныя дасягненьні ў справе беларусізацыі ў акрузе маюцца ў навучальных установах. Адначасова ёсьць некаторыя дасягненьні ў справе беларусізацыі савецкага і партыйнага апарату. Беларусізацыя профэсыянальнага апарату праводзіцца вельмі недастаткова.

Партыйныя, савецкія і профэсыянальныя організацыі ў сваёй рабоце яшчэ не дамагліся неабходнага пералому. На сёнешні дзень нагляд..юцца такія зьявішчы, калі пастановы нацкамісіі адносна прыцягваньня да адказнасьці паасобных працаўнікоў, якія ня выконваюць дырэктыў партыі па беларусізацыі, ляжаць у АКК неразгледжанымі. Таксама правертройкі. Яны пішуць наогул, што ячэйка нічога не зрабіла ў справе беларусізацыі, а каб прыцягнуць да адказнасьці, гэтага ня робяць. Некаторыя дасягненьні ў сваёй рабоце маюць ударныя брыгады па беларусізацыі партыйнага актыву. У адносіне комсамольскае організацыі, пленум акругкамолу ўжо сказаў, што ў галіне беларусізацыі комсамольская організацыя Гомельшчыны ня толькі не зьяўляецца застрэльшчыкам, але-ж досыць часта адстае ад іншых акруговых організацый.

За апошні час ёсьць дасягненьні ў справе выпіскі беларускіх цэнтральных газэт. На 1-VI-29 г. па акрузе выпісана—738 экз. „Зьвязды“, а на 1-І-30 г.—3.510 экз., „Беларускай вёскі“ на 1-І-30 г.—4.831 экз. замест 2283 на 1-VI-29 г. Зразумела, што гэга недастаткова. Акругком даў установку, каб на 1-І-30 г. было 5.000 экз. „Зьвязды“, невыкананьне такім чынам на 1.500 экз. Таксама ёсьць пастанова пленуму Акругкамолу, што кожны комсамолец павінен выпісваць па аднаму экз. тае ці іншае цэнтральнае беларускае газэты. Па распаўсюджваньні кніг на вёсцы маецца некаторае павялічэньне. За першы квартал мінулага году па лініі Райсаюзу былі распаўсюджаны беларускія кнігі на 2800 руб., а на першы квартал г. г.—6.500 руб. У бібліотэках, якія знаходзяцца ў веданьні АкрІНА, у клюбных бібліотэках беларускіх кніг вельмі мала.

Пастанова акругкому, што да першага студзеня 1930 году насьценгазэты і друкаваныя газэты прадпрыемстваў павінны перавесьці сваю працу на беларускую мову на 25 проц., ня ўсімі рэдколегіямі яшчэ

выконваецца. Напрыклад, пасьля таго, калі ў шэрагах артыкулаў у „Зьвязьдзе“ і „Палескай Праўдзе“ досыць пісалася аб дрэнным становішчы беларусізацыі ў Залін. арганізацыі, выпушчаецца друкаваная газэта галоўных майстэрняў, у якой няма ніводнага артыкулу на беларускай мове. Таксама наглядаецца ў насьценгазэтах друкароў, заводу „Пралетары“ і інш. Цяпер стаіць пытаньне аб тым, каб на 1-1V г. г. у значна большай меры перавесьці працу насьценгазэт прадпрыемстваў на беларускую мову. „Палеская Праўда“ за гэтыя тры гады мае шэраг дасягненьняў у справе правядзеньня растлумачальнае працы аб сутнасьці нацыянал-дэмократызму, вялікадзяржаўнага шовінізму, яўрэйскага і польскага шовінізму, а таксама ў справе мобілізацыі мас на барацьбу з конкрэтнымі праявамі шовінізму ўсіх масьцей. Дырэктывы АК аб беларусізацыі газэты да пачатку гэтага году на 30 проц. „Палескаю Праўдаю“ выкананы з перавышэньнем. Неабходна ўзмацніць тэмп беларусізацыі „Палескае Праўды“ з тым, каб да 1-га жніўня гэтага году чя менш 60 проц. матар‘ялаў зьмяшчалася на беларускай мове. Газэта павінна правесьці па гэтым пытаньні адпаведную растлумачальную працу ў масе рабочых, чытачоў і сваячасова організаваць для гэтае справы ўсю масу рабкораў.

Беларускія Першы і Другі Дзяржаўныя Тэатры, а таксама Беларускі Вандроўны Тэатр адыгралі ў справе беларусізацыі ў Гомельскай акрузе вялікую ролю. Задача ўсіх грамадзкіх організацый Гомельшчыны—узмацніць тую працу, якая прароблена дзяржаўнымі тэатрамі за апошнія 2—3 гады.

З вывучэньнем гісторыі КП(б)Б, экономічнага і культурнага становішча Беларусі справа пакуль што дрэнная. Калі зрабіць праверку сярод кіруючых працаўнікоў, дык значны процант з іх ня ведае гісторыі КП(б)Б, ня мае яскравага прадстаўленьня адносна экономічнага і культурнага росту Беларусі з часу яе існаваньня. Тое, што працаўнікі дрэнна ведаюць гісторыю КП(б)Б, пагэтаму яны дрэнна разумеюць барацьбу з нацыянал-дэмократызмам, якая цяпер у нас вядзецца. У нас усе таварышы ведаюць аб Б. С. Грамадзе і калі ў газэтах сталі часьцей пісаць адносна контр-рэволюцыйнай ролі дробна-буржуазных нацыялістычных організацый на Беларусі і ў тым ліку пра Грамаду, дык паасобныя таварышы ставілі пытаньне: „Як-жа, Грамада—гэта рэволюцыйная організацыя, нядаўна мы яе абаранялі, а зараз гаворым аб дробна-буржуазнай яе сутнасьці“. Вось, якое ўяўленьне маецца аб гісторыі КП(б)Б, аб барацьбе КП(б)Б з дробна-буржуазнымі організацыямі і іх уплывам на паасобныя групы працоўнага насельніцтва Беларусі.

### Экономічны і культурны рост працоўных нацменшасьцяй

Значна палепшылася за гэтыя гады экономічнае і культурнае абслугоўваньне нацменшасьцяў і, у першую чаргу, яўрэйскага насельніцтва. Сярод членаў профсаюзаў і служачых яўрэяў маецца 26,2 проц., а ў вытворчых профсаюзах, за выключэньнем чыгуначнікаў і воднікаў—36 проц. рабочых-яўрэяў. Сярод профсаюзу сельскагаспадарчых рабочых—15 проц. яўрэяў, значна большы процант, чым па ўсёй Беларусі. Зразумела, што пры агульным росьце рабочае клясы ў акрузе—стаіць задача павялічэньня колькасьці рабочых-яўрэяў, асабліва сярод чыгуначнікаў і воднікаў. Сярод членаў арцеляй сампрамкоопэрацыі яўрэяў—42 проц., а ў сельскай гаспадарцы, у калгасах і земляўпарадкаванымі налічваецца 8.063 чалавек, што складае 13 проц. усяго яўрэй-

скага насельніцтва акругі. Гэта зьяўляецца бязумоўна значным дасягненьнем.

У справе абслугоўваньня яўрэйскага працоўнага насельніцтва, галоўнай задачай на бліжэйшы час стаіць уцягненьне працоўных мас яўрэйскага насельніцтва і яўрэйскае беднаты ў сельска-гаспадарчую працу. Адсюль вынікі, што грамадзкую працу вакол гэтага пытаньня неабходна значна падняць, што праца ОЗЕТ на сёнешні дзень ні ў якім разе ня можа нас здаволіць. Нам неабходна зрабіць ОЗЕТ інтэрнацыянальнай організацыяй, у якую ўцягнуць вялікую частку рабочых і, у першую чаргу, рабочых-беларусаў, расійцаў, палякаў і інш.

Галоўная колькасьць рабочых-палякаў маецца на чыгунцы, але праца сярод іх вядзецца слаба. У адносінах да працы сярод польскага сялянскага насельніцтва пастаўлена цяпер задача, каб да 1-га верасьня 1930 г. уцягнуць у колгасы ўсіх беднякоў, батракоў і сераднякоў палякаў, якія жывуць у акрузе.

У мэтах найлепшага экономічнага і культурнага абслугоўваньня яўрэйскіх, польскіх, расійскіх і інш. нацменшасьцяй маем па акрузе: расійскіх сельсаветаў—14, польскіх—7, яўрэйскіх—2, украінскіх—2.

Хат-чытальняў: польскіх—8, яўрэйскіх—5, украінскіх—1.

Школ: яўрэйскіх—23, з іх 9 сямігодак, польскіх—23, з іх 2 сямігодкі, украінскіх—6, польскіх—1 і г. д. Акрамя гэтага ёсьць значная колькасьць лікпунктаў, школ агульнае рабочае адукацыі, выключна для абслугоўваньня нацменшасьцяй.

Так, на падставе экономічнага і культурнага росту Гомельскае акругі за апошнія 3 гады маюцца значныя дасягненьні ў справе вырашэньня нацпытаньня. Смелым вырашэньнем нацыянальнага пытаньня партыя і рабочая кляса рашуча ідуць па шляху фактычнага вынішчэньня нацыянальнае няроўнасьці, узмацняюць саюз рабочае клясы з працоўным сялянствам, узмацняюць саюз паміж працоўнымі ўсіх нацыянальнасьцяй, і на падставе ўсяго гэтага партыя і рабочая кляса праводзяць вялізарную работу па інтэрнацыянальным выхаваньні ўсіх працоўных, што насяляюць СССР.

---

Данільчык і Карнейчык

# Супроць нацыянал-дэмократычных выпраўленьняў гісторыі Савецкай Беларусі

Ідэалізацыя мінулага Беларусі зьяўляецца аднэй з форм праяўленьня беларускага нацыянал-дэмократызму, які гэтакім чынам хоча замяніць няшчадную барацьбу супроць беларускага кулака змаганьнем за ажыцьцяўленьне „незалежніцкіх ідэалаў“.

Ідэалізацыя мінулага, дакомуністычнага рэволюцыйнага руху на Беларусі, падкрашваньне „пад бальшавізм“ нацыяналістычных плыняй і партый з боку нацыянал-опортунізму ў КП (б) Бел.; імкненьне, напрыклад, „парадніць“ КПБ з „Беларускай Сацыял. Грамадой“ об'ектыўна мае мэтаю „падправіць“ лінію КП(б)Б элемэнтамі з „Б. С. Г.“. Гэтым нацыянал-опортунізм становіцца на службу нацыянал-дэмократызму і выконвае яго задачы.

Вось чаму надзвычайна актуальнай цяпер зьяўляецца патрэба поўнага выяўленьня ўсіх падобных спроб у нацыянал-опортуністычных пісанінах і заявах. Мы бярэм на гэты раз „гістарычныя працы“ Жылуновіча, якія дадзены ў „Полымя“.

Часопісь „Полымя“ не заўсёды зьяўляецца даступнай для шырокіх партыйных колаў, якія-б маглі зьвяртаць увагу савецкае грамадзкасьці на паасобныя шкодныя думкі, але значная частка беларускай, савецкай інтэлігенцыі (як, напр., настаўніцтва і інш.) даволі часта ёю карыстаецца і, пры адсутнасьці стала распрацаваных марксыцкіх падручнікаў па гісторыі Беларусі, успрымае і распаўсюджвае, зусім памылковыя і шкодныя для нас, нацыянал-дэмократычныя тэорыі.

Усё гэта можа ня было-б такім небясьпечным, калі-б шкодныя для нашае партыі і грамадзкасьці нацыянал-дэмократычныя думкі з 1923 году не працягваліся ў той ці іншай форме т. Жылуновічам да апошніх часоў.

На разборы прыкладаў шкоднае ідэалізацыі мінулага, якімі па сутнасьці зьяўляюцца гістарычныя артыкулы т. Жылуновіча (за подпісам ЖХЗ, зьмешчаныя ў часопісі „Полымя“ №№ 5—6, 7—8 за 1923 г.; №№ 1 (9), 2 (10) за 1924 г. і № 10 за 1928 г.; на прыкладзе таго, як ня трэба і ня можна пісаць гісторыю Беларусі, мы зараз і застановімся.

## Нацыянал-дэмакратычныя ўстаноўкі ў гістарычных артыкулах ЖХЗ

Гісторыю Савецкай Беларусі т. Жылуновіч пачынае з апісаньня палітычных настрояў і поглядаў культурна-нацыянальных адраджэнцкіх колаў, якія, пасьля разбурэньня немцамі беларускага культурна-нацыянальнага асяродку—Вільні, гуртаваліся ў Петраградзе, Менску, Маскве і інш. мясцох „вакол адзінай думкі—праграмы нацыянальнага вызва-

леньня Беларусі і пабудаваньня яе незалежнай“ (гл. „Полымя“ № 5—6 за 1923 г. стар. 141).

Гэтыя колы складаліся з рабочых, пісьменьнікаў, студэнтаў, служачых і рэдкіх асоб з лібэральнае інтэлігенцыі. Уся ўвага іх зьбіралася на падзеях імпэрыялістычнае вайны, ад якой і фармаваліся іх погляды. Сілы іх былі слабыя, яны не маглі „конкрэтызаваць сталай програмы бліжэйшых патрабаваньняў“. Старую програму Бел. Сац. Грамады яны таксама не маглі прыняць з прычыны рознакаляровасьці іх палітычных і соцыяльных поглядаў. „Пры гэтым страшэннае зацішша ў рабочым і палітычным руху казала ўпэўнена за безнадзейнасьць організацыі тых сілаў, якія-б маглі прыняць гэтую програму. *Аставалася, на часе, толькі нацыянальная ідэя* (падкрэсьлена намі. *А. К.*), якая будзіла варожасьць да пануючага ладу і гуртавала на падставе гэтае варожасьці ўсе беларускія адраджэнцкія элемэнты“.

У гэтых умовах захапіла беларускіх культурнікаў „неспадзявана выбухнуўшая фэўральская рэволюцыя“. Яна „застала беларускі рух у досыць нявыразным палітычным расслаеньні“.

З гэтага кароткага ўступу, як мы бачым, справа т. Жылуновіча завязваецца адразу вакол нацыянальнага пытаньня і тых адраджэнцкіх гурткоў, якія зьяўляліся носьбітамі гэтай ідэі.

Мы ня будзем спрачацца аб тым, выразнае, ці ня выразнае было партыйнае расслаеньне беларускага руху ў часе лютаўскае рэволюцыі, ад чаго залежалі і формаваліся погляды беларускіх адраджэнцаў, ці „ад павароту ваеннага шчасьця тэй ці іншай стараны“, ці ад чагонебудзь іншага, чаму для іх важней за ўсё было-б нацыянальнае вызваленьне Беларусі і яе незалежнасьць і чаму для іх неспадзяваным выбухам зьявілася лютаўская рэволюцыя.

Для нас цікава толькі адно, чаму гэта асобныя культурніцкія гурткі, адраджэнцкія колы і іх нацыянальная ідэя засланілі сабою тыя асноўныя соцыяльныя сілы і організацыі, якія мелі рашаючае значэньне ў рэволюцыйным руху на Беларусі і якія Жылуновіч чамусьці праглядзеў у той час і наогул ня бачыць іх зусім на працягу сваіх гістарычных артыкулаў, і чаму для Жылуновіча першапачатковай справай зьяўляецца нацыянальная ідэя? Ці выпадкова гэта? Кожнаму сьвядомаму чалавеку, які, тым больш, калі піша гісторыю рэволюцыйных падзей за пэўны час, камуніст, павінна быць вядома, што ў рэволюцыйных справах адыгрывае рашаючую долю клясавы фактар, рухавыя сілы, клясы. З іх патрэбна было-б пачынаць пісаць гісторыю Савецкай Беларусі. Але, як гаворыцца ў расійскай прыказцы,—„всяк молодец на свой образец“, так замест гісторыі Савецкай Беларусі т. Жылуновіч піша гісторыю Беларускай Соц. Грамады. Нацыянальны момант на працягу ўсяго асьвятленьня гісторыі Савецкай Беларусі займае ў яго пераважнае месца, а соцыяльна-клясавы фактар—другараднае.

Чаму гэта так вышла?

А вышла гэта таму, што т. Жылуновіч не зразумеў у той час суадносін клясавых сіл на Беларусі і не зразумеў задач рэволюцыі.

Будучы членам Бел. Соц. Грамады, якая зьяўлялася групоўкай дробна-буржуазнай інтэлігенцыі і ня была зьвязана ні з шырокімі пролетарскімі масамі, ні з асноўнымі масамі працоўнага сялянства, т. Жылуновіч, як і ўся БСГ, ня мог улічваць запатрабаваньняў гэтых мас у рэволюцыі.

Пасьля лютаўскае рэволюцыі гэтыя запатрабаваньні зводзіліся якраз да: 1) выхаду з імпэрыялістычнай вайны, 2) пераходу ўлады к Саветам Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў; 3) конфіскацыі памешчыцкае

зямлі; 4) устанаўленьня контролю над вытворчасьцю, 5) нацыяналізацыі банкаў і інш.

І хіба няясна, што толькі праз ажыцьцяўленьне гэтых задач працоўныя масы, пад кіраўніцтвам пролетарыяту і яго ленінскай партыі, маглі ўступіць на сапраўдны шлях будаўніцтва соцыялізму.

Нацыянальнае-ж пытаньне ў ходзе рэволюцыі займала і цяпер займае падначальнае месца ў справе дыктатуры пролетарыяту. „Вопрос о правах наций есть не изолированный и самодовлеющий вопрос, а часть общего вопроса о пролетарской революции, подчиненная целому и требующая своего рассмотрения под углом зрения целого“ (Сталін,— „Вопросы ленинизма“, выд. 4, стар. 130).

Гэтага „цэлага“ не магла бачыць БСГ, ня бачыў яго тады і ня бачыць цяпер т. Жылуновіч. Пагэтаму ён асьвятляе рэволюцыйны рух 1917 г. на Беларусі такім чынам, што нацыянальны момант у яго займае пераважнае месца перад усімі іншымі момантамі і што толькі Беларуская Соцыялістычная Грамада ў Пецярбургу, у перадкастрычнікаўскія часы, зьяўлялася тым палітычным асяродкам, навакол якога адбываліся ўсе палітычныя падзеі, і толькі Пецярбурская організацыя БСГ была сапраўдным кіраўніком тагочаснага рэволюцыйнага руху на Беларусі; толькі БСГ зьбірала навакол сябе ўсе рэволюцыйныя сілы, яна змагалася з усімі контррэволюцыйнымі плынямі і толькі ад яе залежыў лёс усіх палітычных падзей.

Нават больш таго, па Жылуновічу, левая частка БСГ—Пецярбурская організацыя была заснавальніцай Савецкай Беларусі. Яна, бачыце,— асновапаложніца нашай дзяржаўнасьці,—з яе ўтварылася КП(б)Б. Вось тон і ўстаноўка ўсіх гістарычных артыкулаў ЖХЗ.

Што менавіта гэтакую, а ня іншую, устаноўку мы маем у палітычных поглядах т. Жылуновіча, мы гэта пакажам далей словамі самога аўтара.

На другой старонцы сваіх „уступаў да Акцябра“ (гл. „Полымя“ № 5—6 за 1923 г.) т. Жылуновіч апісвае далейшае разьвіцьцё нацыянальнага руху пасьля лютаўскае рэволюцыі, якая адчыніла „шырокія небасхілы“ для беларускіх дзеячоў і паставіла перад імі „патрэбы організацыйнай чыннасьці“ і „ўзрасьціла надзею на атрыманьне калі ня поўнай незалежнасьці, то, ва ўсякім разе, аўтаноміі“. Дзеля гэтага „трэба было расшавельвацца, зьбіраць сілы, гуртаваць іх і адначасова намячаць тыя асновы, на якіх можна было-б узводзіць будынак сталай груntоўнай працы“. Разам з гэтым, „аднак, патрабавалася праграма, ды такая, якая магла-б зьяднаць найбольшы лік людзей на найбольшым ліку пунктаў“ (якіх пунктаў? Д. і К.). З гэтай мэтай у першых днёх марта 1917 г. была склікана пашыраная нарада беларускіх дзеячоў, на якой адбываліся спрэчкі аб далейшай працы.

На нарадзе „Большасьць праводзіла думку Беларускай Сацыялістычнай Грамады *з марксыцкімі адценьнямі* (Б. Тарашкевіч, К. Душэўскі, Э. Буцько, Х. Чарнышэвіч і інш.), клічучы ўсіх згуртавацца навакол яе, *як самай сталай і апраўданай жыцьцём у мінулым.* (Падкрэсьлена намі. Д. і К.). Ня гледзячы на апазыцыю не сац. элемэнтаў і обласьнікоў, БСГ сабрала большасьць і зрабілася кіраўнікам і арганізатарам беларускіх нацыянальна-сацыялістычных элемэнтаў. Яна стала цэнтрам, куды пацякла паводка стыхійна ўзьнятага беларускага руху ў Пецярбурзе. Другой арганізацыі ня было пакуль, а таму на маяк грамады пацягнуліся ўсе тыя, хто адчуваў сябе *беларусам* і меўся прыняць удзел у вызваленьні свайго краю“ („Полымя“ № 5—6 за 1923 г., стар. 142).

Якія там маглі быць „марксысцкія адценьні“, аб гэтым мы гаварыць не бярэмся, але ў чым заключаецца „сталасьць і апраўданасьць жыцьцём у мінулым“ БСГ і на якую апраўданасьць спасылаецца аўтар, гэта нас вельмі дзівіць. У якіх рэволюцыйных бойках сябе БСГ апраўдала і ў чым гэта яе мінулае? Калі гутарка ідзе аб рэволюцыі 1905 г. і ўдзеле ў ёй БСГ, дык роля БСГ, як нацыянальна-рэволюцыйнае організацыі, была нязначнай. Наколькі вядома, тады яна шырокай сувязі з працоўнымі масамі ня мела, хаця і выдала некалькі лістовак. Тады-ж БСГ зьмяніла лёзунг—„Пролетарии всех стран, соединяйтесь“, на лёзунг—„Працавітая бедната ўсіх краёў, злучайся“.

„Зьмена лёзунгу і нават нявыстаўленьне яго на сваіх адозвах,—як зазначае т. Ігнатоўскі,—сьведчыць аб дробна-ўласьніцкім напрамку БСГ, палітычнай нясталасьці, нявытрыманасьці“ (глядзі зборнік „Сацыялістычны рух на Беларусі ў проклямацыях 1905 г.“—выданьне Інбелкульту, Менск, 1927 г., стар. 63).

Па зямельных пытаньнях БСГ пасьля 1905 г. выказвалася за Сталыпінскую рэформу, як гэта рабіў у 1907 г. і ў наступных гадох орган БСГ „Наша Ніва“.

„БСГ заўсёды была партыяй беларускай дробна-буржуазнай і буржуазнай інтэлігенцыі і 1904—1905 годы—годы рэволюцыйнага ўздыму—яна толькі маскавалася ў рэволюцыйнае адзеньне, арудавала радыкальнымі лёзунгамі, каб пацягнуць за сабою масы.

У годы-ж рэакцыі і Сталыпіншчыны яна пачала яскрава выяўляць імкненьні роднай сабе социяльнай праслойкі—беларускіх вясковых багатыроў, якія натуральна зьяўляліся яе социяльнай базай“. (Я. Штыль. „Зьвязда“ № 186 ад 17/VIII-29 г.).

Мы ня маем ніякае падставы дзеля таго, каб сказаць, што ў 1917 г. БСГ, і яе Пецярбурская організацыя, стала партыяй новых социяльных сіл, іншай палітычнай організацыяй, якая-б паставіла перад сабой новыя социяльныя задачы. Яна ў 1917 г. ставіла перад сабой тыя-ж самыя вузка-нацыяналістычныя задачы, якія потым адыгралі контр-рэволюцыйную ролю ў яе дзейнасьці.

Тав. Ігнатоўскі ў сваім лісьце ў газэту „Зьвязда“, які зьмешчаны ў № 222, 28-га верасьня г.г. на 4-й старонцы, гаворачы аб памылках, зробленых ім у сваёй кніжцы „Гісторыя Беларусі ў XIX і пачатку XX стагодзьдзя“, зазначае, што ім: „5) Недастаткова падкрэсьлена контр-рэволюцыйная сутнасьць Беларускай Социялістычнай Грамады і нацыяналістычнага беларускага руху ў часы перадкастрычнікаўскія і часы Кастрычнікавай рэвалюцыі“. Чуеце, тав. Жылуновіч? *Контр-рэволюцыйная сутнасьць БСГ!* Аб чым гэта ўсё сьведчыць? Аб якой апраўданасьці жыцьцём і сталасьці БСГ у мінулым можа быць гутарка? Цэнтрам якога беларускага руху яна зьявілася? Што гэта быў за нацыянальна-социялістычны рух, мы добра ведаем з контр-рэволюцыйнай дзейнасьці „Беларускага нацыянальнага Камітэту“, утворанага ў сакавіку м-цы 1917 г. у Менску зьездам Беларускіх дзеячоў пры актыўным удзеле БСГ. Зьяўляючыся ўвесь час цэнтрам контр-рэволюцыйнага руху, нацыянальны камітэт разам з ЦК БСГ на працягу ўсяе рэволюцыі, утвараючы розныя організацыі (Вялікая Рада, Вайсковая Рада і інш.) у інтарэсах абшарнікаў, утваралі контр-рэволюцыйныя блёкі, то з пятлюраўскімі організацыямі, то з нямецкімі і польскімі окупантамі.

Такое становішча, што БСГ—„самая сталая і апраўданая ў мінулым“, „рэвалюцыйная“, якая „мела гістарычную заслугу“, панібраталася з памешчыкам Скірмунтам, старшынёю Белнацкамітэту і бандытам Алексюком, маючы большасьць у Белар. камітэце, мусібыць

Жылуновічу ня вельмі падабалася. Каб выйсьці з гэтай няпрыемнасьці і супярэчнасьці, Жылуновіч адмяжоўваецца ад БСГ наогул і пераходзіць да ўсхваленьня левай часткі БСГ, якой зьяўлялася Пецярбурская організацыя. Гэтую левую частку БСГ Жылуновіч выводзіць з Пецярбурскіх фабрык і заводаў.

„На Знаменскую 36, дзе заснавалася Бюро БСГ, пацягнуліся беларускія рабочыя з Нараўскай і Неўскай застаў, з Выбарскай стараны, з Васільеўскага востраву, ды салдаты“.

Нават Пуцілаўскі завод, па словах Жылуновіча, зьяўляўся пролетарскай базай БСГ.

„Далейшыя сходы, якія ішлі адзін за другім праз кожныя 4 дні, папаўнялі лік сяброў Грамады, галоўным чынам рабочымі. Само сабою вядома, што тактыка ўправы Пецярбурскай арганізацыі БСГ мусіла пастулова ўхіляцца ўлева“, бо—„усе дэлегаваньні ў тыя ці іншыя рэвалюцыйныя ўстановы падалі на сяброў Грамады—рабочых“ („Полымя“ № 5—6 за 23 г., стар. 143).

Палявеньне Пецярбурскіх організацый БСГ Жылуновіч тлумачыць у асноўным так: улетку 1917 г. Беларускі нацыянальна-соцыялістычны рух, дзякуючы ўплыву беларускага пролетарыяту Пецярбургу на Пецярбургскія організацыі БСГ, паступова прымаў левы напрамак і быў накіраваны супроць сіл адкрытай контр-рэволюцыі, супроць русіфікатарскае політыкі эсэраў і інш. Як довад у карысьць сапраўднага рэволюцыйнага змаганьня левай часткі БСГ, Жылуновіч замест фактаў падае рэзолюцыю, прынятую на мітынгу БСГ 1-га чэрвеня 1917 г. у будынку Пуцілаўскага заводу, наступнага зьместу:

„Вітаючы лёзунг *„вольнае самаўсьведамленьне“* (падкрэсьлена намі. Д. і К.), мы беларусы—рабочыя Нараўскага раёну—бяром яго пад сваю ахову і лічым яго адным з выдатнейшых пунктаў нашае праграмы. Побач з другімі і беларускаму працоўнаму народу павінна быць дадзена права на культурна-нацыянальнае самаўсьведамленьне“... І далей: „Мы беларусы—рабочыя Нараўскага раёну, як дзеці і сыны працоўнага дэмакратычнага дзесяцімільённага беларускага народу, павінны ўзяць долю Беларусі ў свае рукі і абараніць яго ад гвалту як польскага, гэтак і расійскага, вольна *вядучы справу яе культурна-нацыянальнага адраджэньня*“ (падкрэсьлена намі. Д. і К.). Рэзолюцыя канчаецца наступнымі радкамі: „Азнаёміўшыся з праграмаю Беларускай Сац. Грамады, як партыі, маючай сваім грунтам інтэрнацыянальна-рэвалюцыйны сацыялізм, прызнаем яе сапраўднай паказчыцай волі працоўнага беларускага народу і становімся пад яе штандар змаганьня за сацыялізм, за інтэрнацыянал, праз самаўсьведамленьне ўсіх народаў наогул і беларускага ў асобку. („Полымя“ № 5—6 за 1923 г., стар. 147).

З гэтае рэзолюцыі і далейшых разважаньняў Жылуновіча відаць, што левая частка БСГ у сваёй дзейнасьці нічым не адрозьнівалася ад усяе БСГ. Мы бачым, што яна таксама стаяла на глебе культурна-нацыянальнага адраджэньня Беларусі, як і ўся БСГ.

І хіба ня ясна, якою туманнаю заслонаю блытанных фраз у параўнаньні з сапраўдным шляхам да соцыялізму зьяўляецца „шлях“ праз „вольнае самаўсьведамленьне ўсіх народаў“.

Ясна, што левая частка БСГ так далёка была ад „сапраўднай паказчыцы волі працоўнага беларускага народу“, як далёкімі зьяўляліся яе нацыяналістычныя імкненьні ад сапраўдных імкненьняў пролетарыяту і працоўнага сялянства.

Ясна, што левая частка БСГ сваімі нацыяналістычнымі імкненьнямі да „вольнага самаўсьведамленьня“ выражала інтарэсы клясаў, жадань-

нямі якіх было разброіць рэволюцыю, а інтарэсы пролетарыяту і працоўнага сялянства выражала бальшавіцка-ленінская партыя, якая зьявілася адзіным кіраўніком усіх працоўных у рэволюцыйнай барацьбе.

Што „сапраўднай паказчыцай волі беларускага працоўнага народу" была ні левая ні правая БСГ, а Комуністычная партыя (б-коў), гэта давялі самі працоўныя масы сваім падтрыманьнем усіх мерапрыемстваў бальшавікоў і галасаваньнем за іх ва Ўстаноўчы Сойм (гл. лічбы, даныя т. Кнорыным у брашуры „1917 год в Белоруссии и на Западном Фронте", стар. 69-70).

І дарэмна Жылуновіч напружвае свае сілы, каб надаць рэволюцыйны выгляд Пецярбурскім організацыям БСГ. Так, на старонцы 143—144 „Полымя" № 5—6 за 23 г. вось у які колер фарбуе ён „сапраўдную паказчыцу волі працоўных" Пецярбурскую БСГ:

„Пераважнасьць рабочых у Пецярбурскай організацыі Сацыялістычнай Грамады прыдавала ёй выгляд чыста-пралетарскай Беларускай організацыі".

А далей, пасьля зьмены Грамадою старой праграмы, ён піша:

„Да гэтага створаная новая праграма яе была цалкам прыстасавана да марксыцкай і Беларуская Соц. Грамада выраўнялася па партыі марксыцкай". („Полымя" № 7—8 за 1923 г., стар. 90).

Але як ні стараецца паважаны наш гісторык, які адзначае палітычную дыфэрэнцыяцыю ўнутры БСГ, барацьбу левае часткі з правымі ў Белнацкамітэце і іншымі дробна-буржуазнымі партыямі (меншавікамі і абласьнікамі-эсэрамі), а на справе выходзіць, што ўжо напярэдадні Кастрычніка (15-га кастрычніка 1917 г.) гэтая, з дазволу сказаць,— *„марксыцкая партыя"* замест сапраўднае рэволюцыйннае барацьбы займалася вылучэньнем прадстаўнікоў у пятлюраўскую „Раду Народаў, абраную зьездам прыгнечаных народаў Расіі ў Кіеве". І толькі нязгода на кандыдатуры абшарніка Р. Скірмунта, як прадстаўніка ўраду, вымусіла левых грамадаўцаў пакінуць сэсію Рады беларускіх організацый і партый і адкалоцца ад правае часткі БСГ.

Праўда, мы бачым далей, што гэты раскол ня быў яшчэ канчатковым і габінэтная, машыная вазьня яшчэ працягвалася. На 3-м зьезьдзе БСГ у Менску 14—25-га кастрычніка 1917 г. Пецярбурская гарадзкая організацыя БСГ брала ўдзел у выбарах Цэнтральнага Камітэту БСГ. І нават „агонь Кастрычнікавай рэвалюцыі, якраз супаўшы з днём заканчэньня 3-га зьезду", ня мог зрушыць левае часткі БСГ з яе нацыяналістычнае пляцформы. Гэты агонь „перад ёю,—бачыце,— адчыняў іншыя шляхі ў далейшым змаганьні ў галінах нацыянальнага пытаньня". Вось у чым была „рэволюцыйнасьць", так званае, левае БСГ. Ад нацыянальнага пытаньня яна не магла адыйсьці ніяк, ні на крок, як і ўся БСГ.

Выстаўляючы нацыянальнае пытаньне, як галоўнае перад іншымі соцыяльнымі задачамі, БСГ гэтым абязбройвала пролетарыят, затуманьвала яму галаву і тым твэрыла контррэволюцыйнную справу. Гэтага, аднак, не разумее тав. Жылуновіч.

Але для Жылуновіча і гэтага мала. Ён ня толькі не разумее гэтае шкоды БСГ і ня толькі не прызнае сваіх памылак, калі апісвае контррэволюцыйнную сутнасьць і дзейнасьць БСГ у ружовых колерах, ён называе яе яшчэ рэволюцыйнымі заслугамі ў барацьбе за справу пролетарыяту, якіх БСГ ніколі ня мела.

Тут лявізна, па нашаму, ні пры чым. А на ёй фактычна Жылуновіч хоча адыграцца. Роля кожнае дробна-буржуазнае партыі і яе, так званыя, „левыя напрамкі" дастаткова высьветлены і праверaны ў ходзе ня толькі нашае пролетарскае рэволюцыі. Гісторыя рабочага

рэволюцыйнага руху і дзейнасьць так званых „Рабочай Партыі“ ў Англіі і ў Нямеччыне соцыял-фашысцкіх, згодніцкіх прадажных організацый даюць найлепшыя прыклады таго, чаго варты ў сапраўднасьці іх левыя крыльлі (часткі), якія толькі абманьваюць і штодзенна прадаюць інтарэсы рабочае клясы буржуазіі. Не магла быць выключэньнем у гэтых адносінах і левая частка БСГ, як-бы аб ёй не расьпінаўся Жылуновіч.

Але ў яго, чым бліжэй да Кастрычніка, тым рэволюцыйней становіцца Пецярбурская організацыя БСГ, тым большае раздваеньне намячаецца ў яе шэрагах. Нават больш таго, пасьля Кастрычніка з левай часткай БСГ адбываецца цудоўная мэтамарфоза, яна ператвараецца ў Беларускую Соцыял-Дэмократычную рабочую партыю (большавікоў) і закладвае БССР.

> „У Кастрычнікаўскім паўстаньні чынны ўдзел прыняла Нароўская раённая організацыя, якая гэтым палажыла канчатковую мяжу падзелу між згодніцкімі элемэнтамі і іх рэвалюцыйным крылом. Гэтая акцыя работніцка-пралетарскай часткі Белсоц. Грамады была больш, чым акцыяй прызнаньня Савецкага ладу—гэта быў першы крок да організацыі тае Савецка-Камуністычнае ідэолёгіі, якая прывяла праз організацыю Беларускай Соцыял-Дэмакратычнай Рабочай Партыі бальшавікоў да залажэньня Бел. Соц. Сав. Рэспублікі. („Полымя“ № 1 (9) за 1924 г., стар. 165).

Вось дык вынаходніцтва. А мы думалі дагэтуль, што Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка закладвалася на аснове братэрскага саюзу пролетарыяту і працоўных сялян усіх нацыянальнасьцяй былое Расіі, у тым ліку і нацыянальных меншасьцяй сучаснай Беларусі, пад кіраўніцтвам Ленінскае партыі, злучаных у барацьбе за сваё вызваленьне ад усіх відаў соцыяльна-эканамічнага, у тым ліку і нацыянальнага прыгнечаньня. Мы ніколі ня думалі, што ёсьць такія асобныя групы, якім адным толькі належыць роля ўтварэньня такіх фактаў, як Савецкая Рэспубліка, не гаворачы ўжо аб організацыі новае ідэолёгіі, ды яшчэ „Савецка-Камуністычнай“ (?!) (вось дык сапраўды „боты ў сьмятку“). Аказваецца, у Жылуновіча знайшлася такая група ў асобе Нароўскае організацыі БСГ, якая, змагаючыся за „іншыя шляхі... у галіне нацыянальнага пытаньня“ і толькі, зразу гэтым самым робіць пачатак організацыі і новай ідэолёгіі, і Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

Заклаўшы такі „моцны“ грунт для сваёй тэорыі, Ж., з лёгкасьцю кіно-апарата, круціць кола гісторыі і перад гледачамі выплывае „хуткае пераіменаваньне“ Нароўскае організацыі ў Беларускую Соцыял-Дэмократычную Рабочую Партыю (бальшавікоў). Цэнтральная Гарадзкая Арганізацыя БСГ гэтае пераіменаваньне „сустракае з прыемнасьцю“, хацproperties сама прызывае бальшавікоў пасьля 25-га кастрычніка да „стварэньня адзінае Соцыялістычнае ўлады“ ў блёку з меншавікамі, Беларуская Соцыял-Дэмократычная Рабочая Партыя (бальшавікоў) з свайго боку таксама падтрымлівае цесныя зносіны з Цэнтральнай Пецярбурскай Гарадзкой Арганізацыяй БСГ і зьвязаньні з ёю Бабруйскай і Віцебскай організацыямі. Усе яны паступова лявеюць, паміж імі і ЦК БСГ у Менску ляжыцца „непераходная ідэёвая прорва“. Але, вось бяда... „апошнія спробы захаваньня таго ці іншага контакту паміж Беларускім Пецярбургам і Менскам“ паказваюць, што, ня гледзячы на іх лявізну, і нават пераіменаваньне Нароўскае організацыі БСГ у бальшавіцкую партыю, яны бяруць удзел у справе, якая межавалася з контррэволюцыйнасьцю. Справа гэтая выразілася ў пасылцы 13 дэле-

гатаў з Пецярбургу ў Менск на Ўсебеларускі зьезд, які арганізавалі 15-га сьнежня 1917 г. нацыяналістычныя і контр-рэволюцыйныя арганізацыі: Вялікая Рада, Вайсковая Цэнтральная Рада, Беларуская Соц. Грамада і Беларускі Спаўняючы Камітэт Заходняга Фронту (гл. „Полымя" № 1 (9) за 1924 г., стар. 166—170).

Работа зьезду зводзілася к падрыхтоўцы нацыянальна-дэмократычнай улады на Беларусі ўзамен Савецкай улады, і Саўнарком Заходняй вобласьці прыняў захады к разгону гэтага зьезду.

Вось якія захады да ўтварэньня Савецкай Беларусі прымала БСГ, а па Жылуновічу гэта называецца залажэньнем БССР. Дзе-ж тут сумленнасьць?

Аб разгоне гэтага зьезду ў сваёй кніжцы „1917 год в Белоруссии и на Западном Фронте", стар. 74, тав. Кнорын піша наступнае:

> „Перед Совнаркомом Области стал вопрос о I-м Всебелорусском с'езде, созванном в Минске с разрешения Наркомнаца, но без контакта с Областными органами власти, и представляющем белорусские кружки со всей РСФСР, но не представляющем белорусских крестьянских мас Области. После длительной борьбы за революционное большинство левой части с'езда принятая с'ездом рэзолюция о власти, однако, оказалась национально-демократической, на деле сводящеюся к замене власти советов национально-дэмократической властью, выделенною с'ездом. Вследствие этого Совнарком Области решил С'езд распустить. Что он в этом решении был прав, доказывает то обстоятельство, что в течение продолжительного времени различные организации, связывающие себя с первым Всебелорусским с'ездом, велі антисоветскую пропаганду в крае".

Можна было-б чакаць ад прадстаўнікоў Пецярбурскіх беларускіх арганізацый і ў прыватнасьці ад т. Жылуновіча прызнаньня памылкі ў справе з гэтым зьездам. Але-ж мы бачым, што яшчэ ў 1924 годзе („Полымя" № 1 (9), стар. 166) Жылуновіч усё гэта называе, як „апошнія спробы захаваньня таго ці іншага контакту" (з кім?—Д. і К.)

Калі-ж паглядзім, як паставіўся сам Жылуновіч да разгону зьезду і параўнаем яго тагочасную думку з тым, што ён напісаў аб зьезьдзе ў пазьнейшыя часы, дык убачым яшчэ большую яго асабістую памылку. Памылка заключаецца ў наступным.

На III Усерасійскім Зьезьдзе Саветаў (10-га студзеня 1918 году), дзе ў ліку дэлегатаў былі як прадстаўнікі ад Саветаў Беларусі і прадстаўнікі БСГ. Апошнія выступалі з протэстам супроць разгону Ўсебеларускага зьезду Менскаю бальшавіцкаю ўладаю. Адказваючы на гэты протэст, тав. Сталін абазваў Усебеларускі зьезд „зьездам памешчыкаў". Прадстаўнікі ад Беларусі на чале з т. Фрунзэ ў сваю чаргу вынесьлі протэст супроць нацыянал-дэмократычнае вылазкі грамадаўцаў. Жылуновіч па поваду гэтага моманту вось што напісаў у той час у газэце „Вольная Беларусь" № 5 ад 17 (4) лютага 1918 г.:

> „У першы раз на III зьезьдзе Радаў Рабочых, Салдацкіх і Сялянскіх дэпутатаў, паміж іншымі фракцыямі была згуртавана грамадка беларусаў-сацыялістаў, якая заняла месца на зьезьдзе між бальшавікамі і інтэрнацыяналістымі. Праўда, грамадка беларусаў была невялічкая ў параўнаньні з другімі фракцыямі—усяго з 15 чалавек, але гоману нарабіла аб сабе многа. Расійская дэмократыя бадай што ніколі аб беларускіх соцыялістых гэтулькі не гаманіла. Другі інтэрас,—у які бок хілілася гэта гаворка.

Бальшавікі і левыя эсэры крычалі, што беларусаў соцыялістаў няма, што гэта самазванцы, трасьлі на іх кулакамі і пагражалі набіць, але нічога не памагала Не, не,—ды загаворыць хто-небудзь з грамадкі беларусаў. Яны скардзіліся і даводзілі хвальшывую палітыку бальшавікоў у нацыянальным пытаньні, напаміналі аб разгоне Усебеларускага зьезду і—крык і пратэсты былі ім адказам. На беларусаў сыпаліся мянюшкі: каледзінцы, згоднікі з буржуазіяй і т. п. Ні досыць таго, мабыць, беларусы соцыялісты дужа рэзалі вочы камісарам „Заходняй вобласьці“ з Міхайлавым [1]) на чале. І яны, гэтыя паны з дэмакратыі, павялі болей адважную барацьбу, хоць і не-пачэсную для дэмократыі, затое рашучую. Матар'ялам яны запасьліся раней, перад зьездам.Ніважны гэта быў матар'ял—з хлусу і плётак зложаны, але падпёрты „рэальнаю сілаю“. Едучы на зьезд, камісары захапілі з сабою тузін „бѣлоруссовъ“ Слуцкага павету, каторыя катэгарычна запратэставалі супроць аддзелу Беларусі. Гэтага, казалі яны, дамагаюцца толькі паны, а з імі падкупленыя беларусы-соцыялісты. Вось гэты тузін цёмных вырадкаў з Случчыны, да пяць-шэсьць „сьвядомых“ камісараў „Западной Области“, ды два-тры чужынцы—сацыялісты з Віцебшчыны,—на агульны лік чалавек з дваццаць—зрабілі сход наперакор беларусам-соцыялістам і доўга спрачаліся аб тое, як ім назвацца: ці проста соцыял-дэмакратамі, ці сацыялдэмакратамі „так званай Беларусі“. Нарэшце ўхвалілі пратэст, назваўшы яго „Протест социалистов с Белоруссии“.

У гэтым протэсьце, прачытаным на зьезьдзе і потым выдрукаваным у „Правдѣ“, гаварылася, што Мінскі зьезд беларускі складаўся з адных памешчыкаў і згоднікаў-сацыялістаў, што ўсе цяперашнія беларускія вайсковыя і іншыя рады—гэта контр-рэвалюцыйныя гнёзды, што яны іх пастанавілі разагнаць і шм. др. Частка зьезду надарыла пратэстантаў воплескамі. Беларусам-сацыялістам адказаць на гэту хлусьню не дазволілі.

Нацыянальнае пытаньне яшчэ дужа незразумела для Расійскай дэмакратыі. Ды і якое ім дзела да нацыянальнага пытаньня? Яны належаць да... Расійскай інтэрнацыянальнасьці і—баста. І стоючы на гэтым грунце, яны лічаць усякі нацыянальны рух буржуазным. Каб ня даць месца беларусам у Цэнтр. Выкан. Камітэце, яны апратэставалі сем мандатаў, выданых прадстаўніком Рады, бяз жаднае матывіроўкі.

— „Што-ж?—падумалі беларусы-сацыялісты:—іх сіла—іх воля“. Толькі трэба навучыцца трохі, каб ведаць саміх сябе, каб не сароміць сябе потым, а з расійскай дэмакратыяй беларускім сацыялістам бадай што спаткацца яшчэ давядзецца“. „Д. Жылуновіч“.

З гэтага агіднага артыкулу мы бачым, што ў той час Жылуновіч, абзываючы бальшавікоў „панамі з дэмакратыі“, вырашэньне нацыянальнага пытаньня Савецкай Уладаю і Камуністычнаю партыяю лічыў русіфікатарствам і захоўваў думку аб тым, што „з расійскай дэмакратыяй (чытай, Савецкаю Уладаю—Д. і К.) беларускім сацыялістым бадай што спаткацца давядзецца“.

І цяпер, будучы комуністым, замест таго, каб прызнацца, што сваёю работаю ён рыхтаваў нож у сьпіну Савецкай уладзе, ён усё гэта пакрывае такімі выразамі:

[1]) Міхайлавым ў тыя часы зваўся т. Фрунзэ (Д. і К.)

„Факт роспуску Ўсебеларускага зьезду ў Менску хутка адышоў на задні плян і ўражаньне ад гэтага няпрыёмства згладжвалася. Усё больш і ясьней вызначаліся перад левай паловай БСГ перспэктывы грунтоўнай пастаноўкі нацыянальнай палітыкі ў праграме Савецкай ул■ды... Перад ёю (левай паловай БСГ. Д. і К.) яскрава вызначыўся іншы шлях, на які амаль не *з самага моманту лютаўскай рэвалюцыі, яна ціха, упарта і ўпэўнена накіроўвала* (падкрэсьлена намі Д. і К.). Гэты шлях вёў да шчыльнага прылучэньня к прынцыпам Савецкай Улады". („Полымя" № 1 (9)—24 г., стар. 171).

І нявіннасьць захована, і рэволюцыйнасьць набыта.

І прыкрытыя гэтаю рэволюцыйнасьцю нацыянал - дэмократычныя групы—Нароўская і Пецярбурская гарадзкая арганізацыя БСГ, залажыўшы аснову для будучай КП(б)Б праз праіменаваньне першай у „Беларускую РСДРП бальшавікоў" цяпер сумесна прыступілі да арганізацыі асновы Савецкае Беларусі, праз утварэньне Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту.

Факт залажэньня гэтае асновы Жылуновіч апісвае так:

„У інтарэсах рэвалюцыі трэба было беларускую нацыянальную справу перадаць у рукі рэвалюцыйным элемэнтам, блізкім да Камуністычнае партыі. Гэткімі былі—Беларуская Соц.-Дэмокр. Рабочая Партыя і Левая Беларуская Сацыялістычная грамада. Першая, шчыльна збліжалася з Комуністычнаю (у той час Сацыял-Дэмакратычнаю) Партыяй бальшавікоў і сваёю праграмаю і сваёй тактыкай. Вось тады і пачала Белар. Соц.-Дэмокр. Раб. партыя перагаворы з Народным Камісарыятам па нацыянальных справах адносна заснаваньня Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту. Пецярбурская арганізацыя Бел. Соц. Грамады сваёю пастановаю ад 4-га студзеня згадзілася прылучыцца да гэтага.

*Гэткім чынам адчынілася першая мажлівасьць да супрацоўніцтва з Савецкаю ўладаю Беларускіх нацыянал-сацыялістых*" (падкрэсьлена намі. Д. і К.) („Полымя" № 1 (9) за 1924 г., стар. 172).

Шчыра дзякуем вам, т. Жылуновіч, за тое, што вы хоць са спазьненьнем, у 1924 годзе, але-ж прызналіся, што ў заснаваньні Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту ўтваралася „мажлівасьць супрацоўніцтва з Савецкаю ўладаю Беларускіх нацыянал-сацыялістых".

І вось з гэтага органу „супрацоўніцтва нацыянал - сацыялістых" тав. Жылуновіч выводзіць заснаваньне Беларускае савецкае дзяржаўнасьці. У „Полымі" № 10 за 1928 г. на стар. 81 ён піша, што:

„Беларускі Нацыянальны Камісарыят зьявіўся першаю ячэйкаю Беларускае Савецкае дзяржаўнасьці".

Якая-ж гэта дзяржаўнасьць, запытае чытач,—калі ў яе аснове ляжаць не Саветы Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў—органы дыктатуры пролетарыяту, а Беларускі Нацыянальны Камісарыят—орган „супрацоўніцтва з Савецкаю ўладаю беларускіх нацыянал-сацыялістых?". Выходзіць, што Савецкая Беларусь ня ёсьць дзяржава дыктатуры пролетарыяту. Можа гэта памылковае выражэньне думкі тав. Жылуновіча? Факты паказваюць адваротнае. Заключны акорд, якім тав. Жылуновіч заканчвае апісаньне ўтварэньня Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту, як пачатку новага этапу рэволюцыйна-соцыялістычнага руху, гаворыць нам, што гэтая думка не выпадковая. Свой артыкул „Ад Кастрычніка 1917 году да лютага 1918 году" тав. Жылуновіч канчае наступнымі радкамі:

„*Так паступова пасоўвалася левае крыло Беларускага нацыянальнага рэвалюцыйнага руху ў бок злучэньня свае працы*

*з працаю ўлады работнікаў і сялян, завяршаючы гэтым адзін з сваіх гістарычных кругабегаў* (падкрэсьлена намі. Д. і К.) („Полымя“ № 1 (9) за 1924 г., стар. 173).

Такім чынам па Жылуновічу выходзіць, што беларускі нацыянальна-рэвалюцыйны рух, завяршаючы сваё разьвіцьцё *новым кругабегам злучэньня з працаю ўлады работнікаў і сялян,* прывёў к утварэньню Савецкай улады на Беларусі праз утварэньне Бел. Нац. Камісарыяту. Выходзіць, што Савецкая ўлада на Беларусі ёсьць вынік злучэньня нацыянальна-рэволюцыйнага руху на яго новым этапе з уладаю рабочых і сялян. Гэта значыць, што на Беларусі Савецкая ўлада ня ёсьць вынік пролетарскае рэволюцыі і дыктатуры пролетарыяту, а што гэта—улада, якая атрымалася ад злучэньня пролетарскае рэволюцыі з буржуазна-нацыяналістычным рухам.

Вось дзе гістарычнае абгрунтаваньне сучаснага нацыянал-дэмократызму ў Жылуновіча.

Ня злучэньне буржуазнага руху і дыктатуры пролетарыяту зьяўляецца зьместам Савецкай улады на Беларусі,—адкажам мы яму,—а зьмест Савецкай улады ёсьць дыктатура пролетарыяту, якой т. Жылуновіч да гэтага часу зусім не зразумеў. Ён стаіць на пункце гледжаньня буржуазнае рэволюцыі, не разумее сутнасьці пролетарскае рэволюцыі і мэханічна злучае дзьве працілегласьці, дзьве нязлучныя па свайму зьместу рэчы.

На гэтым аднак яшчэ ход гістарычных падзей у Жылуновіча не канчаецца. Стаўшы раз на буржуазны пункт погляду ў ацэнцы пролетарскае рэволюцыі і не зважаючы на перасьцярогі партыі, ён вымушан быў дайсьці у нац.-дэм. памылках да свайго лёгічнага канца. Утварэньне Камуністычнае Партыі (бальшавікоў) Беларусі, ён без вялікае цяжкасьці выводзіць з левае часткі БСГ і розных сэкцый РКП, заснаваных у Маскве і іншых гарадох РСФСР.

Вышэй мы ўжо зазначалі, што Нароўская раённая організацыя БСГ была пераіменавана ў Бел. С.-ДРП (бальшавікоў) Гэта перайменаваньне Жылуновіч зьвязвае з рэволюцыйным уздымам, які адбываўся перад кастрычнікам у 1917 годзе. Няўдалае выступленьне Карнілава, нявыразныя адносіны да яго коаліцыйнага ўраду „ясна сьведчылі пра арганізаваны наступ на заваёвы рэвалюцыі... Нясталасьць меншавіцка-эсэраўска-кадэцкага ўраду ў поглядах на вырашэньне нацпытаньня... сьвядомая і ўпартая нядбайства да важнейшых заданьняў рэвалюцыі“, усё гэта спрыяла шырокаму ўспрыманьню „масамі ленінскіх ідэй і лёзунгаў. Зразумела, што гэты працэс ня мінаў і членаў арганізацыі БСГ. Яе Нароўская рабочая арганізацыя адлалялася ад Цэнтральнае гарадзкое, намацваючы глебу для новых афармленьняў.

Апошнія пад канец верасьня канчаткова пасьпелі на тое, каб на іх падставе перайменаваць Нароўскую рабочую арганізацыю Беларускай Сацыялістычнай Грамады ў Беларускую Сацыял-Дэмакратычную рабочую партыю бальшавікоў, з праграмай і статутам РС-ДРП(б)“. („Полымя“ № 10 за 1928 г., стар. 95).

У „Полымі“ № 1 (9) за 1924 год, стар. 165, Жылуновіч адзначае, што „чынны ўдзел“ Нароўскай раённай арганізацыі ў Кастрычнікаўскім пераварoце і яе „хуткае перайменаваньне ў Бел. С-ДРП(б)“ прывяло да залажэньня Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі. Аб залажэньні БССР, як яно адбывалася, мы даволі выразна сказалі ўжо. Нас цяпер толькі цікавіць гісторыя Бел. С-ДРП і яе месца і роля па тэй характарыстыцы і дзейнасьці, якую ёй надае Жылуновіч.

З паданых вышэй вынятак можна ўявіць сабе, што канчатковым момантам для хуткага перайменаваньня Нароўскай Раённай організа-

цыі БСГ у БС-ДРП зьявіўся яе чынны ўдзел у Кастрычнікавым перавароце, а паступовае аддаленьне яе перад кастрычнікам ад Цэнтральнай Гарадзкой організацыі падмацавала пад ёю глебу ня толькі для афармленьня і перайменаваньня, а нават і да прыёму програмы і статуту РСДРП(б).

Так, нам здаецца, трэба разумець думкі Жылуновіча па гэтаму пытаньню; тым больш, што ён тутсама („Полымя" № 10, 1928 год, стар. 75) зазначае, што „гэты значны ў гісторыі беларускага сацыялістычнага руху факт (перайменаваньне БСГ у БСДРП—Д. і К.) адбыўся пры непасрэдным кіраўніцтве т. А. Чарвякова. Такім чынам, з кастрычніка месяца пачалося арганізаванае жыцьцё Беларускіх камуністычных атрадаў адзінае ў той час Расійскае Сацыял-Дэмакратычнае партыі бальшавікоў".

Тут, як бачым, БСДРП у Жылуновіча зьяўляецца атрадам адзінае РСДРП(б), які заснаваны ў Кастрычніку 1917 году. Гэта ён піша ў 1928 годзе. У 1924 годзе ў артыкуле „Ад Кастрычніка 1917 году да лютага 1919 году („Полымя" № 1 (9) за 1924 г., стар. 171-172), гаворачы аб заснаваньні Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту, Жылуновіч характарызуе БСДРП у той час не як атрад адзінае РС-ДРП(б), а як блізкую да камуністычнай партыі. Вось яго характарыстыка: „Гэтакімі (элемэнтамі, блізкімі да камуністычнай партыі. Д. і К.) былі— Белар. Соц.-дэмокр. рабочая партыя і Левая Беларуская Социяліст. Грамада. Першая шчыльна зьбліжалася з Комуністычнай (у той час сацыял-дэмократычнай) партыяй бальшавікоў і сваёю праграмай і сваёю тактыкай".

Тут пэўная супярэчнасьць і заблытанасьць, нявыразнасьць у асьвятленьні гэтага пытаньня Жылуновічам. Пазьнейшыя зазначэньні Жылуновіча аб БСДРП (1928 г.) гавораць аб прыёме ёю програмы РСДРП(б) і статуту, а ранейшыя (1924 г.) гавораць толькі аб шчыльным зьбліжэньні з РКП(б).

Па той самай вынятцы аб набліжэньні да РСДРП(б) можна меркаваць, што блізкімі да камуністычнае партыі і рэволюцыйнымі зьяўляліся і Левая БСГ і БСДРП. Паміж імі, як быццам, у Жылуновіча ніякае розьніцы ня існуе.

Па справе аб адчыненьні Ўстаноўчага Сойму, які вызначаўся на 5-е студзеня 1918 году, Жылуновіч зазначае, што: „Бел. С-ДРП мела свой выразны погляд на падзеі, якія мелі быць: яна ішла разам з Савецкай уладай" (Полымя № 1 (9)—24 году, стар. 170).

Аб чым сьведчыць такое зазначэньне? Яно найлепшым чынам паказвае, чым магла зьяўляцца Бел. СДРП пры такой характарыстыцы і што гэта быў за організаваны атрад адзінае РКП(б),—авангарду пролетарскай рэволюцыі. Бел. СДРП ішла разам з Савецкаю ўладаю. Добра яшчэ, што ня супроць Савецкай улады. З гэтага зазначэньня ніякім чынам нельга разглядаць Бел.СДРП, як атрад адзінага авангарду рабочае клясы—РКП(б), а тут хутчэй за ўсё выглядае нейкі падарожнік Савецкае ўлады. Гэтаму падарожніку ў такім разе ніяк не прыстае гучная назва Бел. СДРП(б). Па сваёй дзейнасьці яна не адпавядае ні ў якой меры таму атраду РСДРП(б), у які яе залічае Жылуновіч, бо працоўным Беларусі добра вядома, як вырашаў іх рэволюцыйную справу сапраўдны атрад РКП(б) у асобе старых бальшавікоў франтавікоў, якія праводзілі працу на мясцох і ў цэнтры. Нароўская-ж раённая організацыя БСГ—пазьней Бел. СДРП(б), у якую ўваходзілі рабочыя Беларусі, як мы бачым з апісаньня Жылуновіча, пасьля кастрычніка выключна займаецца нацыянальнымі справамі. У гэтых адносінах яна

сапраўды нічым не адрозьніваецца ад левае БСГ: гэта, мусіць, і дае падставу Жылуновічу раўнаць іх паміж сабою.

Разам з БСГ Бел. СДРП брала ўдзел у 1-ым Усебеларускім „славутым“ зьездзе ў *Менску,* які быў разагнаны потым за тое, што прадстаўнікі ні БСГ ні Бел. СДРП не змаглі пайсьці разам з Савецкай уладай, ні з комуністычнай партыяй, як гэтага ад іх патрабавалася, а нацыяналістычныя імкненьні паставілі іх у адны шэрагі з контррэволюцыйнымі элемэнтамі.

У далейшым усю дзейнасьць БСДРП(б) Жылуновіч зьвязвае з працаю Нацыянальнага Беларускага Камісарыяту. БСДРП(б) ён проста імянуе Беларускай Камуністычнай Партыяй. На стар. 163 „Полымя“ № 2 (10) за 1924 г. (артыкул „Арганізацыя сіл“) Жылуновіч, выказваючы здавальненьне ў справе вырашэньня Беларускага нац. пытаньня Савецкаю ўладай пасьля Кастрычніка, ставіць перад сабою такія задачы:

> „Між левымі коламі беларусоў і Савецкай уладай было поўнае паразуменьне, поўная коордынацыя чыннасьці ў справе належнага вырашэньня беларускага нац. пытаньня. Ад гэтага хутка напрашвалася чароднае пытаньне—зьліць Левую Беларускую Сацыялістычную Грамаду з Беларускай Камуністычнай Партыяй. І ня сумленна, што яно зараз-жа магло-бы выліцца ў канкрэтную форму і гэтым адмецiць вобразнае завяршэньне ў эвалюцыі наймацнейшай Беларускай Соцыялістычнай Партыі, якою была на працягу лютаўскага пэрыяду рэвалюцыі Беларуская Соц. Грамада ў яе левым крыле“..., але „здарэньні моманту“ (наступ немцаў на Менск і Петраград) „перамянілі хаду разьвіцьця беларускага руху“.

Паступова, няўхільна і вельмі проста завяршаў свой гістарычны кругабег у Жылуновіча Кастрычнік, які ўтварэньнем Савецкай улады злучаў з ёю для супрацоўніцтва Беларускіх нацыянальна-рэволюцыйных соцыялістых, а далейшы ход падзей павінен быў мецць сваім вынікам „вобразнае завяршэньне“ праз шлюб БСГ з Бел. КП(б) і ўпрыгожаньне сябе вянком з „наймацнейшай Сацыялістычнай Партыі, як—Левае БСГ. Тут, бачыце, у Жылуновіча, як у клапатлівага гаспадара добрапрыстойнага дому, усё прадугледжана наперад, усё разьлічана па пляну і робіцца паціху, спакойна, так што лепш і ня прыдумаеш. Дапраўды, каб немцы не пашкодзілі, дык у яго-б адбыўся вельмі выгадны шлюб паміж БСГ і БКП(б). Бо калі раней у Жылуновіча Савецкая ўлада на Беларусі зьявілася ў выніку злучэньня пролетарскае рэволюцыі з буржуазна-нацыянальным рухам, дык цяпер праз перайменаваньне часткі БСГ у БСДРП, і ўся Левая БСГ пасля Кастрычніка ледзьве ня стала Беларускай Комуністычнай Партыяй, толькі на яе бяду шлюб гэты ня ўдаўся. Але-ж усё-такі Жылуновіч выходзіць і тут лёгка з цяжкага становішча. На другой старонцы таго-ж часопісу ён піша, што з пераездам Савецкага ўраду ў Маскву „Грамада яшчэ падавала адзнакі жыцьця, але хутка замерла, перадаўшы большасьць сваіх сяброў Беларускай Комуністычнай Партыі, якая скора ўлілася ў Расійскую Комуністычную Партыю на правох аўтаномнай сэкцыі. Апошняя, з пераездам Беларускага Камісарыяту ў Маскву, служыла магутнаю падпораю ў шырока разгорнутай працы застаўленага ў Петраградзе Пецярбурскага аддзелу Беларускага Камісарыяту. Яна паступова расла і павялічвалася і складала сабою крэпкае ядро ў Комуністычным Беларускім Руху. Аднак, у адносінах да Камісарыягу, Беларуская Комуністычная Партыя зьяўлялася пэрыфэрыяй“.

Калі мы паставім перад сабой пытаньне, чаму хутка замерла Грамада, дык атрымаем ад Жылуновіча („Полымя“ № 10 за 28 г.,

стар. 78). наступны адказ: 1) памяншэньне ўплыву і скарачэньне асабовага складу, які адбываўся праз выезд з Пецярбургу дэмоблізаваных салдат—адна прычына, другая—пераход часткі членаў БСГ у іншыя партыі і трэцяе—„было ясна,—кажа ён, што існаваньне ў Пецярбурзе ды ў іншых мясцох БСГ пры Савецкім ладзе не натуральна“.

У чым была гэтая ненатуральнасьць, Жылуновіч яе ня вытлумачвае, але з далейшых радкоў мы можам уявіць сабе, што гэта ненатуральнасьць існаваньня БСГ пры Савецкім ладзе, па нашаму, была натуральнай сьмерцю Грамады, якое Жылуновіч ня хоча прызнаць. Бо, ня маючы пад сабою пэўнае сацыяльнае глебы—салдат беларусоў, якія разьехаліся з Пецярбургу з ліквідацыяй старое арміі, Грамадзе ня было на каго абаперціся. Пуцілаўскія рабочыя беларусы, якімі казыраў Жылуновіч, як апоры Грамады да Кастрычніка, калі і маглі выпадкова пападаць у яе шэрагі, пакуль не разабраліся ў тым, што з сябе прадстаўляла Грамада, дык пасьля Кастрычніка не маглі заставацца там і сілаю лёгікі рэволюцыйных падзей і па свайму клясаваму пачуцьцю павінны былі перайсьці—і лепшая частка іх пераходзіла ў шэрагі Адзінае Расійскае Комуністычнае Партыі, бяз права аўтаномій і якіх-бы там ні было ўмоў і сэпаратызму. У гэтым адыходзе рэволюцыйных элемэнтаў і была сьмерць Грамады.

Жылуновіч, як прадстаўнік ілжэ-рэволюцыйнае, дробна-буржуазнае Грамады, ня хоча так проста зьмірыцца з сьмерцьцю свае партыі. Яму трэба паказаць свой дробна-буржуазны гонар і пагэтаму ліквідацыю яе ён абстаўляе такім чынам, што справа адбываецца ня ў сьмерці, а ў раптоўным перараджаньні БСГ у БСДРП, праз зьмену старое назвы. Бо калі Левая БСГ была блізкай, як кажа Жылуновіч, да Компартыі і Нароўская Організацыя раней прыняла назву БСДРП, дык, па яго лёгіцы, Пецярбурскай організацыі ўсёй наогул ужо ня цяжка было зьмяніць старую назву і паказаць яе ў выглядзе злучэньня з РКП(б) на правох аўтаномнае сэкцыі. А каб гэтае злучэньне было гучным, і падобным да сапраўднасьці, дык ня простую назву трэба было надаць Грамадзе, а выставіць яе ў ролі пролетарскага авангарду абаронцы інтарэсаў працоўных усяе Беларусі, таго авангарду, пад кіраўніцтвам якога пролетарыят былое Расіі дасягнуў перамогі. Адгэтуль у Жылуновіча так лёгка надаюцца організацыям Грамады назвы Бел. СДРП, ці Беларускай Компартыі бяз жаднага права і падставы для гэтага. Ад гэтага Грамада нічога ня губляе, а набывае толькі пачэсную назву роданачальніцы КП(б)Б. У гэты бок накіравана ўсё гістарычнае асьвятленьне справы Жылуновіча. Звычайны распад дробна-буржуазнае організацыі і адыход ад яе лепшае часткі ў Адзіную Расійскую Комуністычную Партыю Жылуновіч шляхам лёгічных пабудаваньняў хоча ператварыць у нейкую гістарычную эпоху, у гістарычныя заслугі БСГ.

У яго так і атрымоўваецца. Пасьля таго, як праца Грамады аслабла, „рэштку часу яна выкарыстала толькі для таго, каб закляйміць у сваей рэзолюцыі ад 11-га сакавіка 1918 г. працу Беларускае Рады і падкрэсьліць сваю блізкасьць рэволюцыйным рабочым. Гэтай рэзалюцыяй была абвешчана вайна і правай частцы БСГ, якая прыняла ўдзел у Радзе і яе працы. *Лёгічна стварылася становішча, якое тлумачыла памянёную рэзолюцыю, як этап пераходу Левае БСГ у шэрагі БСДРП(б)* (падкрэсьлена намі. Д і К) і вайны пад яе сьцягам з Менскім буржуазна-незалежніцкім асяродкам. Ня болей, як праз месяц пасьля гэтага Пецябургская організацыя БСГ фактычна перастала існаваць. Правая яе частка, згрупаваўшыся вакол Рады, яшчэ існавала нейкі час, перайменаваўшыся далей увясну 1918 году ў Беларускую

Партыю Соцыялістых-Рэвалюцыянэраў". (Полымя № 10 за 1928 г., стар. 78).

Стаўшы пад штандарт БСДРП, якім Жылуновіч надзяліў БСГ для змаганьня з незалежнікамі, яму нямінуча прышлося ісьці далей па шляху апісаньня дзейнасьці ўсё тае-ж самае БСГ пад новаю назваю. Замест прызнаньня факту самаліквідацыі і сканчэньня на гэтым гісторыі БСГ, калі яму так неабходна было пісаць апошнюю, ён ня можа на гэтым спыніцца, бо яго сэрцу мілы грамадаўскія шэрагі, ён з імі ня хоча беспаваротна разлучыцца, таму ў яго на сцэну выплывае новая мэтамарфоза—далейшае перайменаваньне БСДРП(б) у Беларускую Сэкцыю РКП, якая ўжо сваю працу сконцэнроўвае навокал Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту.

Пецярбугская сэкцыя „зьяўлялася адказнай за працу Беларускага Камісарыяту ў Маскве". Але кіраўніцтва яе ня было выстрачальным. Паступова пры Камісарыяце складалася партыйнае ядро, якое пад канец Кастрычніка (1918 г.) злажыла фракцыю Белнакому. Па ініцыятыве гэтае фракцыі 14-га лістапада 1918 г. была заснавана і зацьверджана Маскоўская Беларуская сэкцыя РКП(б).

> „Заснаваньне Маскоўскай Беларускай сэкцыі РКП(б) таксама прымусіла шмат якіх беларусаў—рабочых, і быўшых членаў іншых партый,—гаворыць Жылуновіч (стар. 81, „Полымя" № 10 за 28 г.)—увайсьці ў шэрагі РКП(б). Праца сэкцыі навочна шырылася, захапляла пад свой уплыў разнастайныя моманты Беларускага жыцьця ў РСФСР. Са сьнежня м-ца газэта Белнакому „Дзяніца" зрабілася і ворганам сэкцыі". Маскоўская сэкцыя наладзіла зносіны з Менскам, а ў іншыя гарады РСФСР (Казань, Саратаў, Казлоў, Тамбоў і інш), дзе былі Белсэкцыі, пасылаліся людзі, каб наладзіць з імі сувязь.
>
> „Шырокім фронтам распачалася організацыя Беларускіх Комуністычных сіл і падрыхтоўкі іх для працы ў Беларусі", бо „ўсё выразьней выпуклялася ідэя агалашэньня Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Ідэя гэтага насілася ў паветры ўжо пры заснаваньні Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту".

Гэтай ідэяй захапляліся быўшыя грамадаўцы, якія, па Жылуновічу, разьяжджалі сярод бежанцаў і на сходах выносілі пастановы аб канечным абвяшчэньні Беларускае Савецкае Рэспублікі. З гэтаю мэтаю склікалася конфэрэнцыя Беларускіх Сэкцый РКП(б) 21-га сьнежня 1918 г. Сэкцыі ў Жылуновіча кіравалі ўсім рэволюцыйным рухам на Беларусі. Яны рыхтавалі кадры, пасылалі людзей на працу, яны штурхалі справу ўтвареньня БССР наперад і ўступалі ў перапалку з Абласным Камітэтам РКП(б) Заходняе Вобласьці ў Смаленску, які быццам з імі на гэта не згаджаўся. Адным словам, уся справа адбывалася па волі сэкцый, усе падзеі складваліся ў выніку іх працы, іншых організацый і іншых сіл для Жылуновіча не існавала.

Ніводнага слова аб сапраўднай, доўгай, гэраічнай, штодзеннай упартай барацьбе працоўных мас Беларусі за сваё вызваленьне і аб іх кіраўніку ў Жылуновіча няма. Сапраўдная гісторыя разьвіцьця бальшавізму на Беларусі Жылуновічу невядома і ён яе ведаць ня хоча, ён хоча пісаць сваю гісторыю.

На ідэю агалашэньня БССР пальму пяршынства Жылуновіч хоча прысудзіць Левай Грамадзе, з якое склаліся сэкцыі РКП(б) і якім быццам належыць ініцыятыва заснаваньня Белнакому, праз які ў яго адбываецца заснаваньне БССР, а праз гэта заслуга падае на БСГ з якое, па Жылуновічу, усё пачалося. Але гэта было-б ня поўным, як і

заслугі для Грамады. Сказаўшы А, трэба сказаць і Б. Утварыўшы БССР па гісторыі Жылуновіча, трэба для яе даць і кіраўніка, ды такога, які мае заслугі ва ўтварэньні гэтае дзяржавы. Раз у РСФСР гэткім кіраўнікам зьяўляецца РКП(б), чаму і БСГ ня стаць КП(б)Б?

З гэтаю мэтаю ўвесь час патрэбны былі Жылуновічу аўтаномныя Беларускія сэкцыі РКП(б) і падрабязнае апісаньне іх дзейнасьці з пасьлядоўнай на першы погляд, лёгічнай і як быццам праўдападобнай эволюцыі БСГ. Гэтая пасьлядоўнасьць, а па сутнасьці загадзя ёсьць прадугледжаная тэндэнцыйнасьць Жылуновіча—дробнага буржуа, ёсьць ня што іншае, як бессаромнае імкненьне зрабіць Грамаду бацькам КП(б)Б, абманіць грамадзкую думку, якой ён хоча навязаць тое, што падсказана яму клясавым ворагам. Ён шукае гістарычнага апраўданьня нацыянал-дэмократычным ухілам, якія на даным этапе нашага разьвіцьця асабліва небясьпечны для нашае партыі. Зьяўляючыся рупарам варожых нам сіл, Жылуновіч находзіць для іх апраўданьне ў сваёй „гістарычнай“ концэпцыі, чым узаконьвае фактычна, апраўдвае супроць нас нацыянал-дэмократычную барацьбу і ўсіляе яе, як абаронца, будучы членам нашае партыі. Наша партыя ніколі нікому не дазваляла і не дазволіць тварыць гэткую злачынную справу.

## Заключэньне

Мы ня поўнасьцю скарысталі гістарычную блытаніну Жылуновіча, бо час і мейсца ня далі нам на гэта магчымасьці. Дзеля таго, каб разабраць тую мешаніну, якая пад назваю гісторыі Савецкае Беларусі цягнецца на працягу 60 стар., патрабавалася-б напісаць цэлую кнігу. Нам здаецца, што і без вялікай пісаніны мы асноўную мэту выканалі. Мы паказалі на фактах і словах самога аўтара сутнасьць нацыянал-дэмократычных памылак, яго дробна-буржуазны, не марксыцкі, антыпартыйны падыход у апісаньні гісторыі Савецкай Беларусі.

Ні слова вы там ня знойдзеце аб працы Менскага Савету Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў і аб той рэволюцыйнай барацьбе з рознымі дробна-буржуазнымі партыямі і клясавым ворагам пролетарыяту, якую вяла на Беларусі група старых бальшавікоў-франтавікоў, закінутых імпэрыялістычнаю вайною на Заходні фронт, організаваўшых Камуністыч. Партыю (б) Беларусі. Дарэмна вы будзеце шукаць, калі захочаце знайсьці ў Жылуновіча апісаньне тых рэволюцыйных зрухаў, сапраўдных гістарычных падзей і тае рэволюцыйнае работы, якая вялася сярод салдацкіх, рабочых і сялянскіх мас на Беларусі бальшавікамі да Кастрычнікаўскіх заваёў, і пасьля кастрычнікаўскага змаганьня. Уся гістарычна-рэволюцыйная справа—героічная перамога пролетарыяту ў Жылуновіча вырашаецца габінэтным парадкам, прадстаўніцтвамі, „мышынай гульнёю“ розных дробна-буржуазных партый, згодніцтвам з буржуазнымі элемэнтамі БСГ, што ён лічыць за рэволюцыйную барацьбу і бачыць у гэтым заслугу БСГ. Усё гэта ён хоча прадставіць нам у выглядзе гісторыі Савецкае Беларусі. Бязумоўна, што гэткая гісторыя непатрэбна ні нашай Комуністычнай Партыі, ні Савецкай грамадзкасьці. Гэтая гісторыя патрэбна ўсім нацыянал-дэмократычным варожым нам элемэнтам і, як відаць, Жылуновіч разам з імі, які па сёньня ня ведае сутнасьці пралетарскае рэволюцыі, не зразумеў суадносін клясавых сіл і тых запатрабаваньняў пролетарыяту і асноўных мас сялянства, якія пад кіраўніцтвам бальшавіцкае партыі вырашалі справу пралетарскае рэволюцыі. А ведаць гэта ён павінен удвойчы, і як комуніст, і як гісторык, калі ўзяўся асьвятляць справу рэволюцыйнага руху ў інтарэсах рабочае клясы і працоўнага сялянства.

Але ён асьвятляе гэта, як дробны буржуа, якому трэба пахваліць сябе і сваё мінулае, трэба падфарбаваць тое, што асуджана і адхілена сапраўднай гісторыяй, здадзена ёю ў архіў. Жылуновічу трэба сілцом прыцягнуць факты за валасы, каб замазаць дробна-буржуазную сутнасьць сваіх поглядаў, якія выклікаюць у яго, як крадзены тавар у малавопытнага злодзея з-пад крысы. Той ідэёвы багаж, якім ён нагрузіўся ў дробна-буржуазнай БСГ, застаўся ў яго, будучы і ў нашай партыі, хоць ён хоча выдаць яго за нешта іншае, як бундаўцы ў свой час, хоча перавярнуць усё галавой уніз, каб давесьці, што компартыя да яго прыйшла, а ня ён да яе, што левая частка БСГ, у якой ён быў, гэта ёсьць роданачальніца КП(б)Б. З яе ўтварыліся ў Пецярбургу Беларускія сэкцыі РКП(б), адсюль і пачатак нашае Савецкае дзяржаўнасьці і нашага комуністычнага будаўніцтва.

Адсюль усе якасьці нацыянал-дэмократычнае прыгожасьці, адсюль усе козыры ў рукі тых нацыянал-дэмакратаў, якія мараць і чакаюць яшчэ з Захаду буржуазнае дэмакратыі. Наша партыя ніколі ня будзе згаджацца з такімі памылкамі і ўхіламі, яна заўсёды змагалася з імі, выпраўляла і будзе іх выпраўляць рашучым чынам і ў далейшым.

На спробу Жылуновіча падмяніць сапраўдныя кастрычнікаўскія заваёвы рабочых мас на Беларусі дробна-буржуазнымі дамаганьнямі мы павінны адказаць наступнымі словамі т. Кнорына аб утварэньні Савецкае Беларусі і Камуністычнае Партыі: „Основателем и создателем Коммуністической організацыі Белоруссии была старая большевистская гвардия, заброшенная в Белоруссию войной из Ленинграда, Москвы, Иванова и т. д. и нашедшая здесь широкое поле для партийной работы в рабочей и солдатской массе и среди белорусского крестьянства. Местные же белоруские и еврейские „Бундовские“ революционные организации и их старые лидеры еще долгое время продолжали оставаться под влиянием мелкой буржуазии. В тяжелых испытаниях гражданской войны им пришлось выбирать между буржуазной демократией и диктатурой пролетариата и они пошли за победившим пролетариатом.

От российского большевизма, от РСДРП большевиков, а не от национально-социалистических партий идет история коммунизма в Белоруссии“. (З прадмовы да брашуры „1917 год на Беларусі і на Заходнім Фронце“).

Вынікі, якія мы робім, павінны быць наступнымі: „Партыя арганізавала моцныя ўдары па правых ухілістых, антысэмітах, шовіністых, нацдэмакратах, глушыцелях самакрытыкі, бюрократах і розных шкодніках. Але-ж хаця харчовая база іх і звужаецца ў выніку нашага социялістычнага наступленьня, але капіталістычныя элемэнты яшчэ не разьбіты да канца, яны, адчуваючы няўхільнасьць паражэньня і пагібелі, будуць узмацняць актыўнасьць, а таму нам трэба трымаць адточанай зброю барацьбы“. І далей: „Пры абвостранай клясавай барацьбе, пры разгортваньні фашысцкіх організацый у Заходняй Беларусі, на чале якіх сталі Беларускія нацыянал-дэмократы, хістаньні асобных членаў партыі зараз-жа скарыстоўваюцца клясавымі ворагамі ў нас і за межамі ў сваіх мэтах, для барацьбы з Савецкай дзяржавай. Таму трэба памятаць, што кожны крок адыходу ад генэральнай лініі партыі ёсьць дапамога буржуазіі.

Трэба тым, хто яшчэ не канчаткова заблытаўся, тэрмінова зрабіць належныя вывады, яны павінны самі дашчэнту разьбіць і рашуча асудзіць свае „тэорыі“. Трэба хутчэй, а то будзе позна, выбіраць—ці ўдзельнічаць у будаўніцтве социялізму, ці аддаць сябе на скарыстаньне

буржуазіі". (З выступленьня т. Васілевіча на Ўсебеларускай нарадзе сакратароў ячэек КП(б)Б калгасаў і савгасаў,—„Зьвязда" № 245 ад 25-Х—29 г.).

Хутчэй варушэцеся з прызнаньнем і асуджэньнем сваіх нацыянал-дэмократычных памылак,—скажам і мы ў заключэньне іншым нацыянал-дэмократычным ухілістым, іначай позна будзе выбіраць куды пайсьці.

Сёньня т. Жылуновіч прызнаў свае памылкі, асудзіў свае шкодныя нацыянал-дэмократычныя ўстаноўкі сваёй далейшай дзейнасьцю, на справе т. Жылуновіч павінен давесьці, што ён сапраўды становіцца ў шэрагі будаўнікоў сацыялістычнай краіны.

**А. Ашаровіч**

# Нарада яўпартпрацаўнікоў пры ЦК КП(б)Б [1])

(Некаторыя вынікі)

Якую мэту ставіла сабе гэтая нарада. Па-першае, у парадку самакрытыкі ўскрыць права-опортуністычныя памылкі, зробленыя ў яўрабоце, біць конкрэтных носьбітоў правага ўхілу, разьбіць права-опортуністычную тэорыю, якая стварылася на працягу гадоў у працы яўбюро; па-другое, на аснове правільнай партыйнай установкі выправіць зробленыя памылкі і ў той-жа час актывізаваць партыйных працаўнікоў для далейшае позытыўнае працы сярод яўрэйскіх працоўных мас, разьбіваючы пэсымістычныя настроі і „левыя загібы“, якія стварыліся ў некаторых працаўнікоў.

Паводле гэтай мэтавай установкі былі зроблены даклады на нарадзе, і ў гэтым напрамку вяліся жывыя дэбаты па дакладах.

### Пэсымізм, як выраз опортунізму

Лістападаўскі Пленум ЦК УсеКП(б) падвёў вынікі вялікіх дасягненьняў партыі і пролетарыяту за першы год пяцігодкі. Дасягненьні вялізарныя ва ўсіх галінах соцыялістычнае рэконструкцыі. Тав. Сталін назваў першы год пяцігодкі „Годам вялікага пералому“.

Вось як Лістападаўскі Пленум характарызаваў мінулы гаспадарчы год: „Вынікі мінулага гаспадарчага году, які прайшоў пад знакам бурнага росту соцыялістычнай індустрыі і соцыялістычных элемэнтаў у народнай гаспадарцы, сьведчыць аб новых вялікіх дасягненьнях рабочае клясы, савецкай улады, партыі ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва“ (рэзолюцыя Лістападаўскага Пленуму).

Гэты момант правільны таксама і ў адносіне дасягненьня партыі ў галіне соцыялістычнае працы ў яўрэйскіх працоўных масах.

Яўрэйскі рабочы, як органічная частка агульнага пролетарыяту, таксама знаходзіцца пад уражаньнем вялікіх соцыялістычных дасягненьняў. Яўрэйскае працоўнае асяродзьдзе не замкнёна, аднолькавыя законы савецкай экономікі ўплываюць таксама і на яго.

Гэта трэба падкрэсьліць таму, што ад нашых правых мы часта чулі жаласьлівыя ноткі, пэсымістычныя настроі ў адносінах да эканом-працы сярод яўрэйскіх рабочых і працоўных.

Панікёры, якія спужаліся шпаркага наступленьня соцыялістычнага сэктару гораду і вёскі, гаварылі, што соцыялістычнае будаўніцтва прывядзе да дэградацыі экономічнага становішча яўрэйскіх працоўных

---

[1]) У парадку інформацыі.

мас. У такім тоне часам пісаліся розныя мэморандумы, пабудаваныя на няправільных, а часам і тэндэнцыйных лічбах.

Таму нарада асабліва падкрэсьліла позытыўныя моманты праробленай экономічнай і культурнай працы.

### Лічбы, якія б'юць па праваму ўхілу

Як ішоў рост колькасьці яўрэйскіх рабочых на фабрыках і прадпрыемствах БССР.

Возьмем некаторыя лічбы:

| На 1-ае красавіка 1927 году | | На 1-ае красавіка 1929 году | |
|---|---|---|---|
| Беларусаў . . . . | 126297 (57,7%) | Беларусаў . . . . | 158322 (64 %) |
| Яўрэяў . . . . . | 55044 (25,6%) | Яўрэяў . . . . . | 61172 (24,7%) |

Тут мы маем абсолютны рост больш чым на шэсьць тысяч рабочых. Калі процант зьнізіўся на 0,9, дык гэта таму, што беларуская вёска мае аграрную пераналюдненасьць на 40 проц., што стварае параўнальна вялікую рэзэрвовую армію для фабрык, але калі мы параўнаем рост яўрэйскіх рабочых у адносінах да яўрэйскага насельніцтва Беларусі з ростам беларускіх рабочых у адносінах да беларускага насельніцтва, дык мы ўбачым, што тым часам, калі ўдзельная вага яўрэйскіх рабочых у яўрэйскім насельніцтве павялічылася за гэтыя два гады на 1½ проц., дык удзельная вага беларускіх рабочых у беларускім насельніцтве павялічылася толькі на ½ проц.

Калі мы гаворым аб процантных суадносінах, дык гэта не таму, што мы прыхільнікі нейкае „процантнае нормы". Ні ў якім разе нашы біржы працы не рэгулююць разьмеркаваньня працоўнае сілы па нацыянальнаму прынцыпу. Але мы падалі гэтыя процантныя суадносіны, каб паказаць, што няма ніякае падставы для абы-якіх пэсымістычных настрояў, альбо дэмагогічнага штукарства. Якраз наадварот, у нас адбыўся вялікі рост, які мы адзначаем.

Падамо некаторыя лічбы, якія характэрызуюць процэсы колькасных зьмен, што адбываюцца ў складзе яўрэйскіх рабочых Беларусі.

У швэйнай індустрыі:

| У 1927 г. | | У 1929 г. | |
|---|---|---|---|
| Беларусаў . . . | 5,2% | Беларусаў . . . | 10,9% |
| Яўрэяў . . . . | 92,1% | Яўрэяў . . . . | 86 % |

Ня глядзячы на тое, што ў абсолютных лічбах мы маем вялізарны рост яўрэйскіх рабочых у швэйнай індустрыі (у адным Віцебску павялічэньне з 758 да 1565), іх удзельная вага падае. Ніхто з нас ня будзе ліць сьлёзы, калі швэйная індустрыя перастане быць спэцыфічна „яўрэйскай". Нацыянальныя адгародкі, якія адмяжоўвалі швэйную індустрыю, наклалі спэцыфічную пячатку на пэўныя пласты швэйнікаў. Гэта была нацыянальная абмежаванасьць, цэхаўшчына, хвасьцізм. Цяпер разам з мэханізацыяй індустрыі, з яе вялізарным ростам адбываецца таксама процэс інтэрнацыяналізацыі складу рабочых мас у швэйнай індустрыі.

Такія процэсы адбываюцца і ў другіх галінах індустрыі. Возьмем мэтал. індустрыю. Там мы маем такія лічбы:

| У 1927 г. | | У 1929 г. | |
|---|---|---|---|
| Беларусаў . . . | 41,9% | Беларусаў . . . | 46,6% |
| Яўрэяў . . . . | 34,7% | Яўрэяў . . . . | 37,1% |

Такім чынам у мэтал. індустрыі расьце ўдзельная вага яўрэйскіх рабочых. Гэта бязумоўна позытыўная зьява. Процэс інтэрнацыяналізацыі двухбаковы. У швэйнай індустрыі павялічваецца лік беларускіх рабочых, у мэталёвай індустрыі, на транспарце і інш. павялічваецца колькасьць яўрэйскіх рабочых.

Рост саматужна-прамысловае коопэрацыі можна характэрызаваць наступнымі лічбамі: на 1-е кастрычніка 1928 г. ёсьць па ўсёй Беларусі організаваных у арцелі 9600 саматужнікаў, на 1929 г.—18 тысяч. У акругах 89 крэдытных таварыстваў з 29.400 сябрамі.

Падрыхтоўка партыі ў галіне працы сярод яўрэйскіх рабочых і працоўных знайшла свой адбітак у росьце як дзяржаўнага, так і мясцовага бюджэту.

На разьвіцьцё саматужна-прамысловае коопэрацыі было адпушчана ў 1929-30 г. 593 300 р. замест 330.500 р. у мінулым годзе, г. зн. ёсьць рост на 79,5 проц., гэта ўжо досыць гаворыць аб новых пэрспэктывах для саматужна-прамысловай коопэрацыі. На ільготны крэдыт для местачковае беднаты пры перасяленьні было адпушчана ў гэтым годзе 245 тысяч руб. (такое рубрыкі дагэтуль у бюджэце ня было). На яўрэйскую прэсу было адпушчана ў 1929-30 г. 965 тысяч р. замест 126 т. р. у 1928-29 г. Для яўрэйскага сэктару Беларускай Акадэміі Навук выдзелена 32.976 руб. замест 26.906 р. мінулага году. Для гаспадарчага ўпарадкаваньня ў мястэчках адпушчана на 1929-30 г. 240 тысяч руб. замест 70 тысяч рублёў у 1928-29 г., г. зн. рост на 272,9 проц. Акрамя таго, мы маем рост сум на падняцьце ўзроўню яўрэйскіх працоўных і беднаты ў мясцовым бюджэце на 17 проц.

Калі чытаем гэтыя лічбы, дык бачым, якую вартасьць мае зьвяга Гілэлаў, Цэйтліных і Бэнцыанаў, Кацаў аб заняпадзе яўрэйскага народу ў Савецкім Саюзе. Ні ў воднай капіталістычнай краіне няма такіх пэрспэктыў для яўрэйскіх працоўных і бядняцкіх мас, як у Савецкім Саюзе. Факты і лічбы, якія мы падалі, сьведчаць аб вялізарных дасягненьнях.

Прымаючы ўсё гэта пад увагу, нарада яўрэйскіх партпрацаўнікоў асудзіла выступленьні таварышоў Бэйліна і Карпа на пасяджэньні прэзыдыуму савету нацыянальнасьцяй, дзе яны абмалявалі становішча так, што тэмп „фізычнага выміраньня яўрэйскае беднаты ідзе хутчэй за гаспадарчае ўпарадкаваньне“. У гэтай формуліроўцы маецца недаацэнка вялікай экономічнай працы, якая была праароблена ў яўрэйскім асяродзьдзі, недаацэнка пэрспэктыў, зьвязаных з соцыялістычным будаўніцтвам краіны. Да гэтага часу яшчэ ў многіх працаўнікоў пануе ўяўленьне, што форсіраваны тэмп соцыялістычнага будаўніцтва прыводзіць да зруйнаваньня яўрэйскіх працоўных і бядняцкіх мас. У рэчаіснасьці якраз наадварот. Расьце колькасьць рабочых на фабрыках, пашыраецца сетка саматужна-прамысловае коопэрацыі, працоўная моладзь уцягваецца ў буйную індустрыю, павялічваецца колькасьць яўрэйскіх сялян.

Нашы правыя элемэнты падпадаюць пад уплыў гандлярскіх, спэкулянцкіх элемэнтаў, якія выбіваюцца з сваіх экономічных пазыцый соцыялістычным сэктарам. І гэтыя элемэнты бачаць у зруйнаваньні сваё крамы заняпад усяго „яўрэйскага народу“. Вось гэтая хлусьня зьяўляецца сродкам барацьбы супроць соцыялістычнага будаўніцтва краіны.

## Тэорыя правага ўхілу ў рабоце яўбюро

Правы ўхіл у яўрабоце мае тыя-ж самыя соцыяльныя карэньні, што і правы ўхіл наогул. Гэта рэшткі капіталізму, дробна-буржуазная стыхія, актыўнасьць клясавага ворага і г. д. Небясьпека правага ўхілу

ў яўрабоце ўзмацняецца дзякуючы шэрагу асаблівасьцяй яўрэйскага асяродзьдзя. Асаблівасьці іх наступныя: наяўнасьць значнае колькасьці гандлярскіх і нэпманскіх элемэнтаў, значны лік буржуазнай інтэлігенцыі. Удзельная вага гэтых пластоў у яўрэйскім асяродзьдзі вельмі значная.

Наступленьне соцыялістычнага сэктару на гэтыя элемэнты выклікае ў часткі адсталых рабочых, а часам і ў партыйных таварышоў нацыяналістычныя настроі. Трэба констатаваць, што яшчэ рэшткі бундызму маюць месца сярод адсталых рабочых і нават сярод некаторых партыйцаў. Небясьпека правага ўхілу ў рабоце сярод яўрэйскіх працоўных узмацняецца яшчэ тым, што апараты замежных організацый, як „Джойнт“, „Орт“, „Еко“, „Емсо“, зьяўляюцца каналамі, праз якія замежная яўрэйская буржуазія праводзіць свой уплыў на масы, якія абслугоўваюцца гэтымі організацыямі. Бывае, што гэтыя апараты націскаюць на партпрацаўнікоў, што і прыводзіць апошніх да правых па сутнасьці ўчынкаў. Прыкладам можа служыць тэлеграма тав. Сьмідовіча аб перанясеньні дня калектывізацыі на другі дзень, таму што ў вызначаны дзень быў іомкіпур (судны дзень). Акрама таго, трэба мець на ўвазе, што яўработа часта мае характар вузкага практыцызму, ці „дзяляцтва“, таму што проблемы яўработы вельмі мала тэорэтычна апрацаваны. Зразумела, што соцыяльныя карэньні правага ўхілу ў рабоце сярод яўрэйскіх працоўных агульныя, але, калі мы хочам весьці конкрэтна барацьбу супроць правага ўхілу, мы павінны ўлічваць усе асаблівасьці яурэйскага асяродзьдзя, таму што яны бязумоўна ўзмацняюць небясьпеку. Тыя памылкі, якія зрабіла яўбюро на практыцы пад кіраўніцтвам Бэйліна, вынікаюць з няправільнае права-опортуністычнае тэорыі. У чым заключалася так званая „тэорыя“ правага ўхілу ў рабоце сярод яўрэйскіх працоўных.

Тэорыя выявілася ў тым, што „ўсе маюць права на працу і зямлю, нават выштурхнены кулак і нэпман, што гандляр з сваімі капіталамі, з сваёй ініцыятывай і вопытам зьяўляюцца карысным элемэнтым у соцыялістычным сэктары, што яўрэйская буржуазія зусім другога сорту. Яна не вінавата і не небясьпечна, таму што царызм прымусіў яе гандляваць.

У зьвязку з гэтым быў падхоплены лёзунг „ад крамы да соцыялізму“. Такім чынам пачалі глядзець на гандляра, як на цэнтральную фігуру мястэчка, якога трэба ў першую чаргу ўпарадкаваць. Лёзунг продуктывізацыі яўрэйскіх мас разглядаўся, як агульна-нацыянальная задача, соцыяльная сутнасьць якое не ўзмацняць клясавую барацьбу, а паслабляць яе, што ў выніку зьяўляецца супраціўніцтвам клясы. Вось гэтая тэорыя была схавана пад расплыўчатым тэрмінам „упарадкаваць дэклясаваныя элемэнты“. А хто ня лічыўся дэклясаваным. Учарашні гандляр сёньня дэклясаваны.

## Праламленьне правага ўхілу на практыцы

Возьмем раней саматужна-прамысловую коопэрацыю. Там правы ўхіл выявіўся больш яскрава чым дзе. У рэзалюцыі яўбюро за 14 лістапада ёсьць такі пункт: „Пашырыць будаўніцтва новых прамысловых аб'яднаньняў, асабліва для галіны продукцыі экспортных тавараў і сельска-гаспадарчых прылад для ўцягненьня больш элемэнтаў з буйных гандляроў і другіх груп, выкарыстоўваючы іх вопыт, ініцыятыву і сродкі.

Бюро ЦК ацаніла гэтую ўстаноўку як права-опортуністычную, якая вяла на практыцы да скрыўленьня клясавае лініі, як, напрыклад,

засьмечаньне арцелі нэпманскімі элемэнтамі. Пытаньне аб саматужна-прамысловай коопэрацыі абмеркавалася на Верасьнёўскім Пленуме ЦК КП(б)Б, дзе былі ўскрыты права-опортуністычныя памылкі ў працы саматужна-прамысловае коопэрацыі. Вось што кажа рэзолюцыя Пленуму:

„Было-б памылкай, калі-б мы недаацэньвалі вялікага значэньня разьвіцьця коопэрацыйна-саматужнай індустрыі, асабліва ва ўмовах Беларусі".

Пленум дакладна і яскрава формуляваў значэньне прамысловае коопэрацыі на бліжэйшы час: „Пры гаспадарчым росьце краіны дзяржаўная індустрыя, ня гледзячы на напружаны тэмп яе разьвіцьця, ня зможа задаволіць усе запатрабаваньні народнае гаспадаркі і прамысловая коопэрацыя дапаможа ў часе таварнага голаду праз яе дадатковыя тавары на вясковым і гарадзкім рынку.

Прамысловая коопэрацыя можа ахапіць значныя кадры лішняе працоўнае сілы. Ва ўмовах Беларусі прамысловая коопэрацыя можа аблегчыць аграрную пераналюдненасьць беларускае вёскі, зьменшыць беспрацоўе ў горадзе і дапамагчы разьвязаць местачковую проблему".

Рэзолюцыя Пленуму адзначыла, што „ня гледзячы на дырэктывы, якія былі дадзены наконт гэтага, партыйныя, савецкія і асабліва гаспадарчыя органы ўсё яшчэ недаацэньваюць ролю і значэньне прамысловае коопэрацыі ва ўмовах Беларусі". Разам з тым Верасьнёўскі Пленум вельмі моцна ўдарыў па тых права-опортуністычных памылках, якія зрабіла яўбюро ў сваіх дырэктывах наконт саматужна-прамысловае коопэрацыі. Наогул зьяўляецца ненармальным становішча, пры якім кіраўніцтва коопэрацыяй праводзілася праз яўбюро ЦК КП(б)Б. Такое становішча прывяло да скрыўленьня партыйнае лініі. Вось што кажа рэзолюцыя Пленуму: „У рэзультаце ўзмоцненага соцыялістычнага будаўніцтва, капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, якія выбіты з шэрагу галін народнай гаспадаркі, накіравалася ў прамысловую коопэрацыю ў мэтах яе заваяваньня". Замест таго, каб даць моцны адпор капіталістычным элемэнтам, якія імкнуліся ў коопэрацыю, опортуністычнае кіраўніцтва дапамагала ім узмацняцца ў коопэрацыі. Тут мы маем на ўвазе вядомую дырэктыву яўбюро аб выкарыстоўваньні капіталаў, ініцыятывы і вопыту быўшых нэпманскіх элемэнтаў.

Ранейшае кіраўніцтва глядзела на саматужна-прамысловую коопэрацыю, як на „яўрэйскую ўстанову".

Працаўнікі апарату тармазілі беларусізацыю яго.

Таму што кіраўніцтва глядзела на саматужна-прамысловую коопэрацыю, як на „яўрэйскую ўстанову", нічога не рабілася для коопэраваньня вясковых саматужнікаў. Яго работа концэнтравалася толькі ў горадзе і мястэчку. Характэрна падкрэсьліць, што ў статыстыцы саматужна-прамысловае коопэрацыі няма рубрыкі для нацыянальнага складу. Мабыць, кіраўніцтва глядзела на гэтую коопэрацыю, як на выключна яўрэйскую, таму ня было патрэбы ўвесьці такую рубрыку ў статыстыцы, ня гледзячы на тое, што ў другіх акругах большасьць саматужнікаў—беларусы. Такім чынам, мы бачым, што правы ўхіл у кіраўніцтве коопэрацыяй быў афарбованы ў нацыяналістычны колер. У галіне зямляўпарадкаваньня не хапала дыфэрэнцыраванага клясавага падыходу— „усе маюць права на зямлю"—амаль такая была „ўстаноўка". У шэрагу рэзолюцый і выступленьняў, якія мелі месца на першым Зьезьдзе беларускага Аззэту, былі права-опортуністычныя памылкі. „Зьвязда" і „Акцябр" ускрылі гэтыя памылкі.

Фракцыя аззэтаўскага праўленьня піша так у сваім тлумачэньні:

„Комфракцыя Белазэт'у канстатуе, што ў выступленьнях і рэзолюцыях Усебаларускага зьезду Азэт'у маецца шэраг формулёвак, якія даюць няправільную і права-опортуністычную ўстаноўку працы Азэту, што ў дакладах і выступленьнях на зьездзе і ў прынятых рэзалюцыях быў абмінуты момант клясавага змаганьня, ня была прыцягнута ўвага да пытаньня аб недапушчэньні ў калгасы клясава-варожых элемэнтаў і да пытаньня аб чыстцы калгасаў ад кулацка-нэпманскіх элемэнтаў. Асабліва трэба асудзіць рэзолюцыю зьезду аб гаспадарчым упарадкаваньні ў мястэчках, дзе шмат разоў паўтараецца формулёўка „уцягнуць яўрэяў ў продукцыйную працу". Такую формулёўку можна тлумачыць толькі такім чынам, што партыя і дзяржава займаюцца ўпарадкаваньнем на зямлі і ў другіх галінах вытворчасьці ўсіх яўрэяў ня лічачыся з іх клясавай прыналежнасьцю.

Такая формулёўка адчыняе дзьверы нашае саматужнае і сельскагаспадарчае коопэрацыі клясава-варожым, капіталістычна-эксплёататарскім элемэнтам; такая формулёўка можа таксама зрабіць уражаньне, што Азэт ставіць сабе нацыянальныя мэты, якія стаяць над клясавымі інтарэсамі пролетарыяту, які будуе соцыялізм, таму трэба такую формулёўку асудзіць самым катэгорычным чынам".

Далей у тлумачэньні гаворыцца:

„Мы констатуем, што ў пэўнае часткі азэтаўскага актыву аслабла клясавае пачуцьцё. Частка азэтаўскага актыву і яўрэйскіх аграномаў, прадстаўляюць сабе зямляўпарадкаваньне працоўных яўрэяў, як чыста нацыянальную справу. Гэта няправільна і з гэтым трэба змагацца. Кожны крок у галіне ўпарадкаваньня на продукцыйнай працы яўрэйскіх працоўных і беднаты зьяўляецца ў першую чаргу крокам на шляху соцыялістычнага будаўніцтва і тут трэба завастрыць клясавае пачуцьцё супроць ворага. Партыя будзе і далей з вялізарнай энэргіяй праводзіць працу ў галіне продуктывізацыі яўрэйскіх працоўных і бядняцкіх мас".

Сутнасьць гэтага тлумачэньня заключаецца ў тым, што Азэт прызнаў свае памылкі, ускрывае іх, абяцае выправіць і адначасова бярэ на сябе абавязкі падняць тэмп працы. Газэта „Эмэс" назвала гэтае тлумачэньне бальшавіцкім, падкрэсьліла, што самакрытыка беларускага Азэту можа быць прыкладам і для цэнтральных органаў.

Зразумела, што была праароблена вялікая праца ў галіне зямляўпарадкаваньня яўрэйскіх працоўных і беднаты. За апошні год організаваны 43 яўрэйскіх калгасы і 5 пасёлкаў. Усяго на Беларусі 277 яўрэйскіх калгасаў з плошчай у 34092 гэктары.

Акрамя таго, ёсьць шмат індывідуальных сялянскіх гаспадарак. Як мы бачым, зямляўпарадкаваньне яўрэйскіх працоўных ішло, галоўным чынам, па лініі колектывізацыі. Гэта, зразумела, дадатны момант.

Разам з гэтым права-опортуністычная ўстаноўка вяла да скрыўленьня клясавае лініі на практыцы. Яўрэйскія калгасы засьмечаны соцыяльна-чужымі элемэнтамі. Гандляры і спэкулянты пралезьлі ў калектывы і вядуць там дэзорганізатарскую працу. Недарма вядомы Лібавіцкі рабін у сваіх прамовах у Варшаве і Бэрліне казаў, што ў Савецкім Саюзе рэлігія можа абаперціся толькі на яўрэйскага селяніна. У рабочым і саматужніку рабін ужо расчараваўся.

Некаторыя працаўнікі вельмі клапаціліся аб тым, каб яўрэйскі калгас быў нацыянальна-замкнёны і ня прымаў сялян-беларусаў. Па вестках з Полацкай акругі стала вядома, што трэцяя частка крэдытаў, якія былі дадзены яўрэйскім калгасам, патрачаны на гаспадарчыя мэты, што зьяўляецца вялікім злачынствам. Тымчасам, важна адна-

чыць, што з агульнае сумы крэдытаў у 131 тысячу рублёў, якая была дадзена ўсім калгасам Полацкай акругі, яўрэйскія калгасы атрымалі цэлых 45% у той час, калі з агульнага ліку 129 калгасаў маецца толькі 14 калгасаў яўрэйскіх, а з 34 таварystваў толькі 5 яўрэйскіх.

### Правы ўхіл у культурнай працы

У галіне культурнае працы мы маем вялікія дасягненьні. Вырасла школьная сетка. Разгарнулася выдавецкая праца. Варта адзначыць, што за апошні год мы маем прырост яўрэйскіх студэнтаў, якія навучаюцца ў яўрэйскіх ВНУ на 200 асоб. Вось якія „падставы“ маюць пэсымістычныя настроі наконт адсутнічаньня глебы для культурнае працы.

Але мы павінны адзначыць і вялікія памылкі, якія былі дапушчаны ў культурнай працы.

НКАсьветы зусім не клапаціўся аб падрыхтоўцы кадраў. Сацыяльны адбор студэнтаў дрэнны. Ёсьць яўрэйскія прафэсары ідэолёгічна чужыя рабочай клясе.

Вось як адклікаецца яўрэйская прэса аб прафэсары Раўрэбэ:

„І вось мы атрымоўваем асабліва прыемнае прывітаньне ад Ехіэля Раўрэбэ. Даўно ўжо ня гучала яго песьня, цэлыя гады. Мы ня сустракалі яго сярод зноў пачынаючых, і ў замежных зборніках твару яго ня відна. Няўжо і ён зламаў сваё даўнейшае пяро.

З вуснаў доктара Вішніцэра („Цукунфт“—жнівень 1928 г.) мы даведаліся, што ён займаецца дасьледчай працай. Ён прафэсар гэбрэйскай мовы ў Менскім унівэрсытэце і кіруе групай, якая зьбірае дакуманты рабінскай літаратуры, і гэта правільна.

Перад намі ляжыць кніга з яго спробай ускрыць частку таго, што наогул можна знайсьці ў асобе аўтара „Овон-Софрим“, аднаго з найвялікшых місыянэраў Палестыны пачатку 17-га стагодзьдзя“.

Вось якую характэрыстыку дала гэбрэйская „Гашкуфо“ навукова-дасьледчай працы, якая вядзецца ў нас. Тое, што „Гашкуфо“ здаволена такой навуковай працай, зьяўляецца дрэнным знакам для нас.

І ня дзіва, што на яўрэйскай сэкцыі пэдфаку гэбрэйскай мове аддаецца амаль што 50 проц. заняткаў літаратуры. Нам прыходзілася весьці рашучую барацьбу з об‘ектывістычным напрамкам тав. Сосіса ў навуковай працы. Гэты напрамак антымарксыцкі і яшчэ больш небясьпечны тым, шта спрабуе карыстацца марксыцкай фразэолёгіяй. Об‘ектывізм прыводзіў да адсутнічаньня ў навуковай працы ваяўнічага марксызму. Праца была адарвана ад сучаснасьці і, зразумела, не магла ўжо быць зьвязанай з соцыялістычным будаўніцтвам краіны. Об‘ектывізм тав. Сосіса прывёў да нацыяналістычнай устаноўкі ў яўрэйскай гісторыографіі. У сваім артыкуле „Да гісторыі яўрэйскай гісторыографіі“ тав. Сосіс бярэ за крыніцу яўрэйскай гісторыі біблію. Яўрэйскі народ у яго заўсёды аднолькавы ў часе і прасторы. Ад Адама да Сосіса яўрэйская гісторыя адна. Пры такім сьветапоглядзе, зразумела, няма поўнага адмежаваньня ад буржуазных гісторыкаў, як Грэці Дубноў. Сосіс крытыкуе іх „па-таварыскі“, выходзячы з іх асабістага погляду. Нам прыходзілася весьці барацьбу і з Гольдбергамі, якія таксама маюць ухіл да об‘ектывізму ў дасьледаваньні літаратуры, эстэтычнае пачуцьцё якіх ня можа пераварваць пралетарскае літаратуры.

Усе гэтыя опортуністычныя памылкі былі ўскрыты, дзякуючы разгорнутай бальшавіцкай самакрытыцы на старонках „Акцябра“, на сходах па чыстцы партыі Пэдфаку, Яўпэдтэхнікуму і Акадэміі. Наша барацьба і нашыя дасягненьні маюць, бязумоўна, усесаюзнае значэньне.

## Мазырская справа

Нарада заслухала даклад тав. Бэра аб становішчы яўрабоны ў Мазырскай акрузе. Даклад быў выкліканы нахабнымі шовіністычнымі выступленьнямі ў Мазыры. Яўрэйскі шовінізм быў ускрыты ў часе чысткі партыі, калі партыйныя таварышы апэлявалі да „вуліцы", да нэпмана, абвінавачваючы праверком у антысэмітызьме. Тав. Бэр яскрава абмаляваў асаблівасьці Мазырскай акругі. Пласт рабочых там невялікі. Калісьці Мазыр быў бундаўскім асяродкам. Сярод саматужнікаў і рабочых ёсьць шмат „быўшых", у якіх яшчэ моцна захаваліся бундаўскія традыцыі. Апарат гандлёвых і коопэрацыйных організацый засьмечаны соцыяльна чужымі элемэнтамі. Рабін быў правай рукой коопэрацыі. Комуністага здымаюць з працы таму, што ён, як атэіст, не карыстаецца аўторытэтам сярод веруючага насельніцтва. Так гэта формулявана ў пратаколе. Калі памірае жанчына, якая займае ганаровае выбарчае месца ў сынагозе, просяць у коопэрацыі бялізну для пахаваньня. Гарсавет пастанаўляе выдаць 12 мэтраў бялізны з таго тавару, які прызначаны для хлебазагатоўкі. Адказныя партпрацаўнікі бачылі ўсё гэта і маўчалі, бо баяліся, каб іх не западозрылі ў антысэмітызьме.

Спрэчкі, якія вяліся вакол дакладу тав. Бэра, паказалі, што Мазыр не зьяўляецца выключэньнем. У Беларусі ёсьць шэраг гарадоў і мястэчак, якія маюць тыя-ж „асаблівасьці", што і Мазыр.

У некаторых мясцох у часе чысткі апарату і партыі, калі вычышчаліся нягодныя працаўнікі яўрэі, кідаліся словы „Процэс Бэйліна". Ёсьць партыйныя таварышы, якія даюць такую формулёўку: праўда, што і антысэмітызм і шовінізм—клясавыя ворагі, але антысэмітызм вораг з зубамі, а шовінізм бяз зубоў. У многіх таварышоў ёсьць яшчэ думка, што шовінізм гэта толькі рэакцыя супроць антысэмітызму, што шовінізм мае толькі абарончы характар. Гэта няправільна. Ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту, калі Савецкая ўлада вядзе ўпартую барацьбу з антысэмітызмам, шовінізм зьяўляецца такой-жа самай небясьпекай, як і антысэмітызм. І адзін і другі зьяўляецца зброяй у руках клясавага ворага для барацьбы супроць пролетарскае дыктатуры, супроць соцыялістычнага будаўніцтва. Паміж антысэмітызмам і шовінізмам існуе нейкі „нацыянальны падзел працы": антысэмітызм вядзе шкодную працу сярод неяўрэскіх мас, а шовінізм—сярод яўрэйскіх. Але клясавая сутнасьць іх аднолькавая.

Той факт, які здарыўся ў Мазыры, павінен падаваць сыгнал аб небясьпецы шовінізму ўсім партыйным, профэсыянальным і коопэрацыйным організацыям. На гэтым конкрэтным выпадку партыйныя і рабочыя масы павінны навучыцца як змагацца з шовінізмам.

Нарада констатавала, што калі ў барацьбе з антысэмітызмам маюцца вялікія дасягненьні, дык аб барацьбе з шовінізмам гэтага сказаць нельга. Таварышы патрабавалі, каб да яўрэйскага шовінізму дапасаваліся такія-ж жорсткія адміністрацыйныя спагнаньні як і да антысэмітызму.

## Далейшая праца

Перамога над правым ухілам у яўрабоце прывядзе да шырокага разгортваньня партыйнае працы сярод яўрэйскіх працоўных. Некаторыя таварышы, асабліва правыя ўхілістыя, зразумелі барацьбу з правым ухілам, як сродак для абмежаваньня яўработы. Яны думалі: калі гандляр ня пойдзе ў арцелі і калгасы, дык каго-ж мы возьмем. Бюро ЦК дало выразную ўстаноўку.

Пастанова Бюро (ад 14-га лістапада 1929 г.) гаворыць наступнае: „У зьвязку з тым, што ў рабоце па ўцягненьню яўрэйскае беднаты ў вытворчую працу былі скрыўленьні клясавае лініі, лічыць неабходным:

а) праводзіць далей рашучую чыстку сельска-гаспадарчых калектываў і саматужных арцеляй ад капіталістычных, спэкулянцкіх і разлагаючых элемэнтаў;

б) галоўнай задачай пры камплектаваньні сельска-гаспадарчых і саматужных арцеляй, зьяўляецца ўцягненьне працоўнае беднаты;

в) разам з гэтым дапусьціць да вытворчае працы (калгасы і арцелі) тую частку беднаты, якая пазбаўлена выбарчага права, якая займалася дробным гандлем, але якая не эксплёатавала чужое працы і ня менш як за год да гэтага часу кінула гандаль.

Устаноўка партыі вельмі выразная.

Па-першае, трэба ачысьціць арцелі і калгасы ад чужых элемэнтаў (у пастанове адзначана хто яны). Гэтыя элемэнты дэзорганізуюць працу арцелі і калгасу.

Па-другое, наша асноўная задача весьці працу сярод працоўнае беднаты. Раней за ўсё мы павінны клапаціцца аб ёй. Яна—асноўны аб'ект нашае працы.

Па-трэцяе, мы павінна дыфэрэнцыраваць масу, пазбаўленую выбарчых правоў, выдзеліць з яе самых бяднейшых, якія займаліся толькі дробным гандлем, не эксплёатавалі чужое працы і парвалі з сваім мінулым. Такія элемэнты мы ўцягнем у саматужныя арцелі і калгасы.

Трэба адзначыць, што яўбюро ЦК КП(б)Б першае паставіла гэтае пытаньне. І нас вельмі зьдзіўляе, што тав. Кіпер у газэце „Эмэс" абвінавачвае нас у стварэньні на Беларусі тэорыі аб тым, што мерапрыемствы па ўцягненьню непрацоўных элемэнтаў у вытворчую працу зьяўляюцца правым ухілам. Адкуль гэта ўзяў тав. Кіпер. Наадварот, мы паставілі пытаньне і вырашылі яго.

Тав. Чэмерынскі так характэрызаваў у „Эмэсе" пастанову ЦК: „У пастанове яўбюро ЦК КП(б)Б ад 14-га лістапада па пытаньні аб уцягненьні ў сельска-гаспадарчую і саматужна-прамысловую коопэрацыю вытрымана прынцыпова правільная лінія. Могуць быць розныя думкі наконт некаторых практычных частак пастановы, можна патрабаваць яе конкрэтызацыі, але прынцыпова яна можа быць прынята".

З другога боку, мы маем у „Акцябры" перасьцярогу наконт ухілу ўлева, наконт „левых" настрояў і „пераўвялічэньняў". Тав. Чэмерынскі спрачаецца з намі аб тым, на каго трэба зрабіць націск: на працоўную беднату, ці на пазбаўленых выбарчых правоў. Мы думаем (такая пастанова ЦК), што галоўнай задачай зьяўляецца ўцягненьне ў вытворчую працу працоўнае беднаты. Тав. Чэмерынскі думае, што трэба зрабіць націск на пазбаўленых выбарчых правоў. А калі ня так, кажа тав. Чэмерынскі, дык не патрэбны такія інстытуты, як „Камзэт" і „Азэт".

Хто ведае становішча такіх саматужнікаў, як краўцы, шаўцы, якія ў сувязі з разьвіцьцём дзяржаўных фабрык (Меншвэй, Вітшвэй, Бальшавік і інш.) сталі зусім лішнімі; хто ведае становішча крэдытных таварыстваў, якія нічога ня робяць з вялікай масай саматужнікаў-адзіночак з прычыны недахопу сыравіны—той зразумее, што галоўнай задачай зьяўляецца праца сярод іх, іх перавыхаваньне экономічнае і палітычнае.

Неабходна весьці асноўную працу сярод працоўнае беднаты ня толькі дзякуючы адзначаным экономічным прычынам, але і палітычным. Калі мы ў сваёй палітычнай працы ставім сабе вялікія палітычныя мэты, як соцыялістычнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты, ліквідацыя кулацтва, як клясы, мы павінны мобілізаваць усе

блізкія нам элемэнты, якімі зьяўляюцца працоўныя. Арцелі і калгасы павінны быць соцыялістычным асяродкам. Мы-ж займаемся ня толькі „урбанізацыяй“ беднаты, але і ўцягваем яе ў барацьбу супроць кулака і нэпмана і таму павінны галоўную ўвагу зьвярнуць на яе. У той-жа час мы ўцягнем у арцелі і калгасы і тую частку беднаты, аб якой гаворыць пастанова бюро ЦК КП(б)Б.

Абвінавачваць нас у стварэньні тэорыі аб неўцягненьні продукцыйных элемэнтаў у продукцыйную працу, можна толькі ў гарачцы полемікі.

Кожны працаўнік, які падыходзіць об'ектыўна, прызнае, што мы першыя паставілі гэта вельмі важнае пытаньне. Праўда, дырэктыву бюро трэба конкрэтызаваць, разьвіць, але адмаўляць, што мы такое пытаньне паставілі і вырашылі, немагчыма.

Што ўстаноўка партыі ў галіне экономпрацы правільная, мы ўпэўніліся таму, што дэлегаты з месц, усебакова разглядзеўшы яе, згадзіліся з ёю і ўзялі на сябе абавязак ажыцьцявіць яе.

Тыя таварышы, якія былі ўведзены ў правы ўхіл па літасьці яўбюро і таму так моцна білі правых ухілістых з гэтага яўбюро, перабудуюць на мясцох мэтоды свае працы паводле ўказаньняў нарады і выправяць зробленыя памылкі.

Гэтыя пытаньні трэба разглядзець на агульных сходах парт'ячэек і ня толькі на такіх, дзе большасьць сяброў яўрэяў. Трэба паставіць яўработу пад контроль усяе партыі.

Гэта асабліва важна ў сучасны пэрыод завастрэньня клясавае барацьбы, калі мы праводзім суцэльную колектывізацыю, ліквідуем кулацтва як клясу. Гэты шпаркі тэмп соцыялістычнага будаўніцтва стварае яшчэ больш шырокія мажлівасьці для гаспадарчага ўпарадкаваньня яўрэйскіх працоўных і бядняцкіх мас на фабрыках, агульных калгасах, спэцыяльных зямельных фондах, у Крыме і Біро-Біджане.

Тэмп яўпрацы трэба паскорыць.

---

# МАТАР'ЯЛЫ І ДАКУМАНТЫ

## Новыя моманты ў сытуацыі і задачы КПЗБ

*(Пастановы III Пленуму ЦК КПЗБ)*

III пленум ЦК КПЗБ канстатуе, што сучаснае міжнароднае становішча характэрызуецца абвастрэньнем супярэчнасьцяй агульнага крызысу капіталізму, што сьведчыць аб усё большым расхістаньні гнілой капіталістычнай стабілізацыі. Сярод гэтых супярэчнасьцяй на першым месцы стаіць супярэчнасьць паміж капіталістычным сьветам і краем будуючагася сацыялізму—СССР. Небясьпека і падрыхтоўка вайны супроць СССР прыймае ўсё больш непасрэдны характар.

Унутраныя супярэчнасьці капіталістычнага сьвету з асаблівай яскравасьцю выяўляюцца ў найбольш слабых яго зьвеньнях, у тым ліку і ў фашыстоўскай Польшчы. Тут эканамічны крызыс прыняў зацяжны характар і выяўляецца ва ўсё больш цяжкіх формах: фінансавы крызыс, зьмяншэньне ўнутранай акумуляцыі капіталу, звужэньне ёмкасьці ўнутранага рынку масавага спажываньня і ўзрастаючыя цяжкасьці ў галіне вонкавага збыту, застой у гандлю, прамысловы крызыс, паступова ахопліваючы ўсё новыя галіны прамысловасьці, у першую чаргу тыя, якія вытвараюць прадметы масавага спажываньня (тэкстыльная, скураная, будаўнічая і пр.). Значныя цяжкасьці перажывае і цяжкая прамысловасьць, якая ўзмоцнена падтрымліваецца ўрадам ў ваенных мэтах (апошнія скарачэньні на мэталюргічных фабрыках). У сувязі з гэтым узмацняецца наступ капіталу на працоўныя масы і ўзрастае тэрар фашыстоўскага ражыму; ідзе далейшы ўзрост рэвалюцыйнай актыўнасьці мас, разгортваецца шырака контр-наступленьне пралетарыяту і ўзрастаюць элемэнты палітычнага крызысу фашыстоўскай дыктатуры.

Увесь ход падзеяў цалком і поўнасьцю пацьвярджае аналіз сусьветнага эканамічнага і палітычнага становішча і тую ацэнку „трэцяга пэрыяду" пасьляваеннага крызысу капіталізму, якія дадзены ў пастановах VI кангрэсу Камінтэрну, X пленуму ВККІ, таксама і ацэнку палітычнага і эканамічнага становішча Польшчы, якую даў VI пленум ЦК КПП, а так-жа пацьвярджае правільнасьць вызначанай імі лініі.

### I. Асноўныя моманты сытуацыі ў ЗБ і Польшчы.

1. У выніку *акупанцкай палітыкі* фашыстоўскага ўраду эканамічны крызыс у ЗБ прыймае асабліва вострыя формы. У асноўных галінах прамысловасьці ЗБ (тэкстыльная, дрэваапрацоўчая, гарбарная) зачыняецца шэраг прадпрыемстваў, альбо пераходзіць на няпоўны рабочы тыдзень. Крызыс асабліва цяжка адбіваецца на дробнай прамысловасьці, пераважнай у ЗБ. У Беластоку зачынілася звыш 20 тэкстыльных фабрык. У Вільні з шасьці гарбарняў зачыніліся дзьве. Гандаль замірае, па афіцыяльным даным колькасьць патэнтаў у Віленшчыне зьменшылася: 1-й катэгорыі—на 38%, 2-й—на 18, 3-8—на 41%. Бязупынна расьце колькасць апратэстованых вэксалёў, сума плацяжоў, па якім узрасла за 9 месяцаў больш, чым на 100%.

*Узмацняючы ваенную падрыхтоўку, фашызм фарсіруе прадукцыю ваеннай прамысловасьці* і ваеннага будаўніцтва, павялічваючы падатковы цяжар і абвастраючы агульна-гаспадарчы крызыс. Ваеннае будаўніцтва ў ЗБ ідзе галоўным чынам па лініі пабудовы казармаў, фортыфікацыі і іншых аб'ектаў ваеннага значэньня, пераважна-ж будаваньне стратэгічных дарог, якія будуюцца шляхам шырокага ўжываньня прымусовых і дармовых работ сялянскіх масаў (шарваркі).

2. Гаспадарчы крызыс, далейшыя крокі капіталу ў галіне рацыяналізацыі і палітыка фашыстоўскага ўраду нясуць рабочай клясе злыбеду *хранічнага беспрацоўя*, жорсткага абядненьня і паніжэньня жыцьцёвага зроўню (рост дарагоўлі, абвастраючыся жыльлёвы рызыс, скарачэньне дапамогі беспрацоўным на працягу мінулых двух гадоў у 4 разы).

У ЗБ рацыяналізатарскі націск і эксплёатацыя прыймае найбольш грабежніцкі характар: зьніжэньне зарплаты, павялічэньне рабочага дню, выплата грашмі толькі 60% зарплаты, брыгадная сыстэма, пры якой майстры зацікаўлены ва ўзмоцненай эксплёатацыі рабочых, прыймо рабочых па ўмовах сыстэмы „уласнага варштату", у выніку чаго рабо-

чыя аўтаматычна пазбаўляюцца ўсіх сацыяльных заваёваў і прымушаны працаваць 16 гадзін, бяз права на дапамогу касаў хворых, пэнсыі на выпадак беспрацоўя і т. п. Прадпрыемствы ў ЗБ, у большасьці выпадкаў тэхнічна вельмі адсталыя могуць вытрымаць канкурэнцыю лепш абсталяваных прадпрыёмстваў Захаду і даваць вялізныя барышы выключна толькі ў выніку калёніяльнай экспляатацыі працы (Клёсаўскія камнеломні, фабрыка галёш у Вільні, папяровыя фабрыкі і пр.).

3. Імпэрыялістычная і мілітарная палітыка ўраду, страшэнны рост бюрократычнага і паліцэйская апарату, экспартны дэмпінг, высокія картэльныя цэны ўзвальваюць на плечы працоўных масаў усё *ўзрастаючы прыгнёт падатковых павіннасьцяй і дарагоўлі.*

*Гаспадарчы крызыс узмацоўвае беспрацоўе ў вёсцы і абвастрае зямельны голад.* У тым-жа кірунку дзейнічае *абшарніцка-кулацкая зямельная палітыка* фашыстоўскага ўраду. Неўраджай і голад сталі хранічным *зьявішчам* у *ЗБ* і паўтараюцца ўжо падрад 6 гадоў. У бягучым годзе недарод ахапіў у Віленшчыне 30% азімых і 70% яравых. Голад насоўваецца ў гэтым годзе на ЗБ у асабліва пагражаючых і вострых формах. Пасеўная плошча ў Віленшчыне вясной гэтага году скарацілася на 30%. Шмат гадоў падрад са зруйнаваных і галадаючых масаў няшчадна спаганяюцца падаткі, штрафы, адміністрацыйныя спагнаньні і недаімкі. Распрадажа з аукцыёну маемасьці сялянскай беднаты прыймае эпідэмічны характар. Голад выкарыстоўваецца абшарнікамі і ўладамі дзеля ўзмацненьня кабальнай экспляатацыі галадуючых масаў (прыгонная сыстэма адработкаў за мізэрныя падачкі галадаючым).

Усё гэта прыводзіць да далейшага абядненьня шырокіх масаў *сялянскай беднаты і серадняцтва.* За кошт руйнаваньня гэтага апошняга пашыраецца бядняцкая праслойка ў вёсцы. Спад цэнаў на сельска-гаспадарчыя прадукты, абшарнікі і кулакі компэнсіруюць сабе шляхам усіленьня экспляатацыі сельска-гаспадарчых рабочых і сялянскай беднаты пры дапамозе найбольш кабальных формаў.

Азначаны 1-м зьездам КПЗБ працэс капіталістычнага разьвіцьця абшарніцкіх і кулацкіх гаспадарак у вышэйпаказаных варунках ЗБ, вядзе да далейшага рэзкага паніжэньня жыцьцёвага зроўню і паглыбленьня галечы сельска-гаспадарчых рабочых і пралетарыяту, прысьпяшэньня працэсу паўпэрызацыі вясковай беднаты, пазбаўленых магчымасьці прылажыць сваю рабочую сілу ў вытворчасьці, вядзе да ўсё большага ўжываньня ў абшарніцкіх эканоміях і кулацкіх гаспадарках працу сэзонных і рэдукцыі сталых рабочых.

Эканамічны крызыс выклікае руйнаваньне шырокіх масаў гарадзкой дробнай буржуазіі, асабліва шматлікай у малых гарадох і мястэчках ЗБ. Агульнае паніжэньне пакупецкай здольнасьці працоўных масаў выклікае масавую ліквідацыю дробных гандлёвых прадпрыемстваў; зачыняюцца майстэрні саматужнікаў і рамесьнікаў, якія ня могуць вытрымаць канкурэнцыі буйнага капіталу і не знаходзяць збыту сярод зруйнаваных масаў. Гарадзкія падаткі ўзрасьлі за апошнія 2 гады больш, чым удвое. Рост дарагоўлі, распрадажа маемасьці за недаімкі канчаткова руйнуюць гарадзкую дробную буржуазію, папаўняючы і без таго шматлікавую армію беспрацоўных.

4. Эканамічны крызыс агаляе гніласьць і няўстойлівасьць капіталістычнай стабілізацыі ў Польшчы. „Усё больш цэнтралізаваны і манапольны, а значыць імпэрыялістычны характар польскага капіталізму, абвастраючаяся барацьба за рынкі, усё больш сільнейшае імкненьне да вонкавай экспансіі знаходзяць свой выраз ва ўсё больш востра выступаючай імпэрыялістычнай палітыцы фашыстоўскай Польшчы, у гарачковай падрыхтоўцы нападу на СССР“ (VI пленум ЦК КПП).

У сілу свайго імпэрыялізму, фашыстоўская Польшча зьяўляецца асноўным зьвяном арганізуемага пад гегамоніяй Францыі і Англіі антысавецкага блёку. Узмацненьне ваеннага саюзу з Румыніяй, спробы пашырэньня Малай Антанты шляхам уключэньня ў яе Польшчы, заключэньне саюзу з Латвіяй, якая перадварылася ў агэнта польскай ахранкі (выдача тав. Пашына), канцахты па ўцягненьню ў гэты блёк Літвы і падрыхтоўка захопу Літвы, шалёны тэмп узбраеньняў, спробныя мабілізацыі, манэўры польскай арміі на Заходняй Беларусі паходы-маршы фашыстоўскіх арганізацыяў (марш шляхам Баторыя), пасіленае будаваньне ваенных дарог і будынін,—усё гэта з пэўнай яскравасьцю сьведчыць, што *небясьпека вайны супроць СССР робіцца ўсё больш непасрэднай і актуальнай.* Ашукаць масы і ўсыпіць іх чуйнасьць да гэтай небясьпекі, фашыстоўскі ўрад імкнецца шляхам узмацненьня пацыфісцкіх жэстаў (падпісаньне пратаколу Літвінава і іншае).

## II. Радыкалізацыя і рост рэвалюцыйнай актыўнасьці працоўных масаў

1. Абвастрэньне ўнутраных і вонкавых супярэчнасьцяй і далейшае расхістаньне капіталістычнай стабілізацыі, наступленьне капіталу, абвастрэньне фашыстоўскага тэрару і ўціску выклікае прысьпяшэньне *працэсу зжываньня ілюзіяў, зьвязаных з адноснай капіталістычнай стабілізацыяй і прысьпяшае працэс лявеньня мас і рост іх рэвалюцыйнай актыўнасьці.* Працэс гэты ахоплівае ўсё больш шырокія колы працоўных масаў.

„Бягучы пэрыяд руху рабочых, сялянскіх і паняволеных народаў, пэрыяд масавых палітычных баёў супроць фашыстоўскай дыктатуры характарызуецца ўсе большай перавагай контр-наступальных элемэнтаў, пры частковым выяўленьні элемэнтаў наступленьня на некаторых вучастках рэволюцыйнага фронту... Бліжэйшы пэрыяд—гэта пэрыяд заба-

стовачных баёў і руху беспрацоўных, накірованых супроць асноў фашыстоўскай дыктатуры". Гэта тэзіс VI пленуму ЦК КПП знаходзіць сваё поўнае пацьвярджэньне ў разгортваючайся забастовачнай хвалі (забастоўка краўцоў і тэкстыльшчыкаў фабрыкі „Воля" ў Варшаве, частковыя забастоўкі тэкстыльшчыкаў у Лодзінскай акрузе, барыкадныя баі ў Пабіяніцах у часе забастоўкі 4.000 тэкстыльшчыкаў, разгортваючаяся барацьба варшаўскіх мэталістых, магутная хваля сельска-гаспадарчых забастовак на ЗУ, забастоўка на „Нёмане" і тартаках ЗБ), баявых дэмонстрацыях 1 мая і 1 жніўня, а таксама ў завастрэньні барацьбы масаў сялянскай бедняты супроць фашыстоўскай зямельнай і падатковай палітыкі (крывавыя сутычкі сялянскіх масаў з паліцыяй у ЗБ і ЗУ, сялянскія выступленьня ў Люблінскім і Лодзінскім ваяводзтвах) і ўсіленьні нацыянальна-вызваленчай барацьбы паняволеных народаў.

2. У заходняй Беларусі апошні пэрыяд характэрызуецца *шырокай хваляй стачачнага руху*. Рух гэты носіць яшчэ разрозьнены характар, ахопліваючы паасобныя буйныя прадпрыемствы. Ён адзначаецца: а) яскрава-выражаным палітычным характарам (забастоўка на гуце „Нёман", палітычныя забастоўкі 1 жніўня, забастоўка 800 рабочых у Вільні ў зьвязку з забойствам 1 мая рабочага Руфа, забастоўка ў зьвязку са зьвальненьнем аднаго рабочага з тартаку ў Стаўпецкім павеце і пр.); б) надзвычайнай упартасьцю і працяжнасьцю, ня гледзячы на вельмі цяжкія варункі барацьбы (гута „Нёман"—2 месяцы, пры страшэнным паліцэйскім тэрары); в) уцягненьнем у стачачны рух рабочых, нават найменш арганізаваных і распыленых (хваля забастовак на тартакох). Побач з разьвіцьцём стачачнага руху расьце рух беспрацоўных, які прыймае часта формы бурных дэманстрацый (Вільня, Бярэсьце).

Аб працэсе паляненьня рабочае клясы сьведчыць таксама памяншэньне ўплыву сацыял-фашыстоўскіх партыяў на прадпрыемствах і прафсаюзах, а таксама хірасьць арганізацый ББС у ЗБ (правал сацыял-фашыстаў на дэлегацкім сходзе тэкстыльшчыкаў у Беластоку, дзе звыш 80% дэлагатаў сталі на пазыцыі рэвалюцыйнага прафруху, малалікасьць сацыял-згодніцкіх мітынгаў, байкот пэцэкаўскага праўленьня саюзу краўцоў у Пінску і г. д.), а таксама рост нашага ўплыву, асабліва на *буйных прадпрыёмствах*.

Ход першамайскай кампаніі, *магутная баявая дэманстрацыя ў Вільні* 1-га мая і ў часе пахаваньні ахвяр 1 мая, шэраг актыўных выступленьняў ва ўсёй ЗБ 1-га жніўня, масавы ўдзел ня толькі моладзі, але і старшых рабочых і сялян у дэманстрацыях МЮД'у, яскрава-выражаны камуністычны характар гэтых дэманстрацыяў, упартая абарона беспартыйнымі рабочымі нашых сьцягаў, вулічныя баі з крывавымі ахвярамі—яскрава сьведчаць аб *пераходзе мас у контр-наступленьне супроць фашыстаўскай дыктатуры*.

3. Фашыстоўская палітыка ў вёсцы, накіраваная да ўзмацненьня абшарнікаў, кулакоў і асаднікаў, руйнуючы сялянскую беднату і асноўныя масы серадняцтва, абвастрае клясавую барацьбу ў вёсцы. Ілюзіі, якія ўзьніклі на грунце зямельнай крэдытнай палітыкі фашыстоўскага ўраду, разьвейваюцца. Шпаркім тэмпам ідзе працэс паляненьня працоўных і эксплёатаваных масаў сялянства і рост іх рэвалюцыйнай актыўнасьці. Бягучы пэрыяд характарызуецца ростам актыўнасьці сельскага *пролетарыяту і вясковай беднаты* і ўзмацненьнем кіруючай ролі пралетарыяту і яго партыі ў штодзённай барацьбе сялянскіх мас. Выразам усяго гэтага працэсу зьяўляецца: а) абвастрэньне барацьбы асноўных мас сялянства супроць фашыстоўскай зямельнай палітыкі і абшарніцка-кулацкай эксплёатацыі, за зямлю бяз выкупку (выступленьні супроць камасацыі і ліквідацыі сэрвітутаў у Остраве, Віленшчыне і Пружаншчыне) забастоўцы сэзонных рабочых у Баранавіцкай Акрузе); б) шырокая хваля выступленьняў супроць падаткаў і асабліва супроць шарваркаў, выступленьняў, прыймаючых часта характар баявых сутычак з паліцыяй (Пружаншчына); в) удзел сялянскіх масаў у палітычных кампаніях (1 мая, Чырвоны Дзень, МЮД); г) актыўнасьць мас, баявыя настроі на мітынгах і сходах і адпор паліцэйскім і фашыстоўскім баёўкам (Ячно, Яцэвічы, Карэлічы); д) упартая барацьба асноўных мас сялянства на выбарах у органы мясцовага самаўраду і перамога рэвалюцыйных сьпіскаў на гэтых выбарах, ня гледзячы на жорсткі тэрар з боку ўлады (Баранавіцкая акруга). У працэсе абвостранай клясавай барацьбы ўсё больш замацоўваецца саюз рабочых і сялян (супольныя дэмонстрацыі, узаемнае падтрыманьне барацьбы і г. д.). Асабліва яскравым фактам узрастаючай салідарнасьці працоўных мас зьяўляецца рост рэволюцыйных настрояў у арміі (абарона солдатамі сялян у часе пагрому, зробленага паліцыяй на мытынгу ў Ячна, адмаўленьне ў шэрагу месц выступіць супроць рабочых у дзень 1 мая і 1 жніўня, чырвоныя сьцягі на казармах і г. д.).

4. Яскравым паказьнікам росту рэвалюцыйнай актыўнасьці мас зьяўляецца так-жа абвастрэньне барацьбы працоўных мас супроць усё ўзрастаючага нацыянальнага ўціску. Ні жорсткі тэрар, ні хітра задуманыя манэўры фашызму і яго агэнтаў не змаглі зламаць нацыянальна-вызваленчай барацьбы паняволеных масаў, якія змаглі даць належны адпор фашызму і яго агэнтам. Банкруцтва манэўраў фашызму (у зьвязку з працэсам грамады і спробамі фашызацыі ТБШ), барацьба працоўнай і вучнёўскай моладзі супроць фашызацыі школ, адпор з боку мас кампаніі фашызму і яго агэнтам супроць БССР, далейшае *ўзмацненьне кіраўнічай ролі партыі ў нацыянальна-вызваленчай барацьбе*, адпор і актыўная барацьба супроць хістаючыхся элемэнтаў унутры нацыянальна-вызваленчага руху,—сьведчаць аб буйных паражэньнях фашыстоўскага ўраду ў яго нацыянальнай палітыцы.

5. Працэсы, якія адбываюцца сярод пралетарыяту і працоўных мас гораду і вёскі сьведчаць, што нашая партыя стаіць перад *далейшым узрастаньнем новай рэвалюцыйнай хвалі, далейшым размахам рэвалюцыйнай барацьбы і абвастрэньня яе формаў.* Партыя павінна яскрава ўсьвядоміць сабе, што ў гэтых варунках галоўная небясьпека, якая ёй пагражае—гэта непасьпяваньне за ходам разьвіцьця рэвалюцыйнай барацьбы. І таму, цэнтральнай задачай партыі зьяўляецца накіраваньне ўсёй баявой энэргіі мас, якая выяўляецца ў стыхійных выбухах, усіх частковых эканамічных і палітычных масавых стачак і выступленьняў у рэчышча арганізаванай і цэнтралізаванай барацьбы *падымаць яе на вышэйшую ступеню барацьбы супроць фашыстоўскай дыктатуры, барацьбы за ўладу, дзеля пераможнага штурму на фашыстоўскую дыктатуру, за дыктатуру пралетарыяту.*

## III. Крызыс фашызму і манэўры сацыял-фашызму

1. На грунце гаспадарчага крызысу і ўзрастаючай рэвалюцыйнай актыўнасьці мас фашыстоўская дыктатура, як гэта правільна ўказаў VI пленум ЦК КПП, перажывае палітычны крызыс. Крызыс фашызму выражаецца, у першую чаргу, у зжываньні ілюзыяў у масах, у адыходзе мас ад фашыстоўскіх арганізацыяў (рэзкі спад колькасьці членаў у „Стральцы“ і іншых фашыстоўскіх арганізацыях), ва ўзросьце рэвалюцыйнай актыўнасьці пралетарыяту і асноўных мас вёскі, у першую чаргу сельска-гаспадарчага пралетарыяту і беднаты, у абвастрэньні нацыянальна-вызваленчай барацьбы паняволеных народаў, ва ўзросьце нездавольства зруйнаваных мас гарадзкой дробнай буржуазіі.

Гэты крызыс знаходзіць адбітак так-жа ў цярці, спрэчках у буржуазным лягэры, якія азначаюць вядомае нездавольства тых пластоў сярэдняй буржуазіі, якія стаяць далей ад дзяржаўнага карыта і спіхваюцца з займаемых імі пазыцыяў у выніку цэнтралізацыі капіталу і ў выніку гэтага мацней адчуваюць вынікі гаспадарчага крызысу. Аднак, было-б вялізарнай памылкай пераацэньваць значэньне гэтых спрэчак, якія не перашкаджаюць адзінаму фронту буржуазіі вакол фашыстаўскага ўраду ў барацьбе з рэволюцыйным рухам і падрыхтоўцы вайны супроць СССР.

Фашызм шукае выхаду з узрастаючага крызысу ў далейшым пашырэньні сваёй сыстэмы ўціску і эксплёатацыі, у стварэньні больш гібкага і дзеяздольнага апарату для вайны і барацьбы з рэвалюцыйным рухам (фашыстоўскі праэкт рэформы канстытуцыі, урад „палкоўнікаў“, мілітарызацыя дзяржаўнага апарату, рэарганізацыя „Стральца“, цэнтралізацыя ваенных і напоўваенных саюзаў, прымусовая дапрызыўная ваенная падрыхтоўка, мілітарызацыя спартыўных арганізацыяў, узмацненьне непасрэдна фашыстоўскіх пазыцый у органах самаўраду).

Палітыка фашыстоўскага ўраду—гэта ўтрымаць разьвіцьцё гаспадарчага крызысу шляхам павялічэньня эксплёатацыі шырокіх мас працоўных і ўціхамiраньне рэвалюцыянізуючыхся мас, шляхам узмацненьня тэрару, абвастрэньня ражыму фашыстоўскай дыктатуры, падтрымліваньня старых і сеяньня новых ілюзіяў.

Урад пры актыўным падтрыманьні сацыял-фашыстых штурхае разьвіцьцё фашыстоўскага сацыяльнага заканадаўства, які мае на мэце зьвязаць па руках і нагах рабочую клясу ў яго барацьбе з капіталам фашыстоўскай дыктатурай. Зараз-жа, за законам аб вучнёўстве, аб судах працы, увядзеньнем штрафных табеляў, урад ідзе да поўнай ліквідацыі рэштkаў сацыяльных заваяваньняў рабочае клясы (напрыклад, касы хворых, скрачэньне дапамогі беспрацоўным і г. д.), увёў два новых законы, непасрэдна накіраваных супроць чыгуначнікаў, адначасна б'ючых па ўсёй рабочай клясе, аб службовай прагматыцы і пэнсіях для штатных рабочых, якія аддаюць чыгуначнікаў на поўную самаволю чыгуначнай адміністрацыі, узаконьваюць выкідваньне рабочых без усялякай матар'яльнай кампэнсацыі за найменшае супраціўленьне капіталістычнай „рацыяналізацыі“ і сыстэме мілітарызацыі чыгунак (стварэньне ваеннага аддзелу пры міністэрстве чыгунак). Асабліва пагражаючым і найбольш актуальным для рабочае клясы зьяўляецца закон аб арбітражы пры масавых канфліктах, гэты закон, даючы паўнамоцтвы ўраду назначаць пры ўсялякіх канфліктах паміж рабочымі і прадпрыемцамі фашыстоўскія арбітражныя камісіі уводзяць паўсямесную сыстэму прымусовага арбітражу, які існуе ўжо даўно ў адносінах да сельска-гаспадарчых рабочых. Гэты закон канчаткова афармляе фашыстоўскую практыку задушэньня стачачнай барацьбы ва ўсёй Польшчы і ў ЗБ.

2. Па меры паглыбленьня крызысу і нарастаньня рэвалюцыйнай хвалі, *фашызм усё больш абвастрае тэрар,* як галоўны спосаб барацьбы з працоўнымі масамі. Фашыстоўскі тэрар у ЗБ прыймае асабліва зьверскі, няшчадны і масавы характар. Лёзунг ката Складкоўскага, што „паліцыя камуністаў растрэльвала і будзе растрэльваць“, у ЗБ ажыцьцяўляецца асабліва старанна (крывавыя лазьні на мітынгах робяцца штодзённым зьявішчам. забойствы сялян, якія змагаюцца супроць падатковага ўціску, растрэлы на мітынгах у Карэлічах, Рацэвічах і Ячна. ужываньне труючых газаў на мітынгу ў Беластоку, забойствы рабочых у часе першамайскай дэманстрацыі ў Вільні, суцэльны ваенны лягер у ЗБ у дзень 1-га жніўня, забойствы асоб, падазроных у прыналежнасьці да рэвалюцыйнага руху за нібы іх спробу да ўцёкаў і т. п.). Фашызм узмацняе рэпрэсіі ў адносінах да рэвалюцыйных арганізацыяў працоўных мас (катаржныя прысуды супроць камуністых

і рэвалюцыйных рабочых і сялян, зачыненьне шэрагу левых прафсаюзаў, арганізацый ТБШ, к-ту дапамогі галадуючым, разгром сэкратарыятаў Б. Р. Сял. П. Клюбу), арганізуе фашыстоўскія баявыя атрады, выкідвае рэвалюцыйных рабочых з прадпрыемстваў, усільвае сыстэму штрафаў і т. п.

3. Дзеля ўзмацаваньня непасрэднага свайго ўплыву сярод рабочае клясы, асабліва-ж на прадпрыемствах, маючы значэньне для ваенных мэтаў фашызм імкнецца насаджваць арганізацыі ББС, якія зьяўляюцца аднэй з форм непасрэднага арганізацыйнага ахопу мас фашызмам і яго штурмавым атрадам. ББС пранікае ў першую чаргу ў тыя пласты рабочае клясы, якія больш усяго знаходзяцца ў залежнасьці ад ураду (ваенная прамысловасьць), альбо якія карыстаюцца падачкамі з боку фашыстоўскага ўраду і найбольш адсталыя пласты рабочае клясы.

За апошні час ББС старанна прабуе ствараць свае арганізацыі на тэрыторыі ЗБ, важнай для фашызму з пункту гледжаньня падрыхтоўкі вайны супроць СССР і такім чынам пашырыць і занова адваяваць для фашызму згубленыя пазыцыі.

4. Узмацняючы тэрар і пашыраючы сетку арганізацыяў для тэрарызаваньня мас на фабрыках, у фальварках, у вёсках, фашызм разам з тым, яшчэ больш разгортваў манэўры, разьлічаныя на ашуканства мас і падтрымоўваньня ў іх ілюзіяў. Ва ўмовах крызысу фашызму і ўздыму рэвалюцыйнай актыўнасьці мас асабліва ўзрастае дзейнасьць ППС і іншых агэнтаў фашызму, якія прыкрываюць сваю контр-рэвалюцыйную, штрэйкбрэхэрскую сутнасьць апазыцыйнай і радыкальнай фразэалёгіяй. ППС, Бунд, ПЦ і іншыя ўсё больш зрастаюцца з апаратам фашызму, праяўляюць ўсё большую актыўнасьць у барацьбе з рэвалюцыйным рухам і ў падрыхтоўцы мас да вайны супроць СССР (удзел у судах працы, арбітражных і іншых органах фашыстоўскага ўраду, праэкт „палепшанай“ канстытуцыі з яго гаспадарчымі падаткамі, кантролем над прадукцыяй і інш., прапаганда гаспадарчай „дэмакратыі“, арбітражу, супрацоўніцтва з урадам пры захаваньні для мас відочнасьці апазыцыі, закулісныя размовы Дашынскага з Пілсудзкім, усіленная траўля СССР, стральба пэпэсаўскіх баявікоў у рабочых на дэманстрацыях, у дэлегацыю на зьезд прафсаюзаў, затрыманьне і перадача ў рукі паліцыі бундаўскай калёніяй у дзень 1 мая ратуючыхся ад прасьледваньняў паліцэйскіх граміл удзельнікаў камуністычнай дэманстрацыі і г. д.).

ППС, улічваючы рост рэвалюцыйных настрояў у масах, усільвае сваю радыкальную фразэалёгію, высоўваючы лёзунгі, як 7-гадзіннага рабочага дня, часам, нават, адзінага фронту з камуністымі і т. п.; выкарыстоўваючы прыход да ўлады ўраду Макданальда, узмоцнена жангліруе пацыфісцкай фразай, каб усыпіць чуйнасьць мас у адносінах да рыхтуючагася нападу на СССР; імкнецца адцягнуць масы ад барацьбы з фашыстоўскай дыктатурай, прадраканьнем мірнага звароту да парлямэнцкай дэмакратыі шляхам капітуляцыі ўраду палкоўнікаў, сеяньнем у масах дэмакратычных ілюзіяў, якія зьяўляюцца галоўнай перашкодай для перамогі дыктатуры пралетарыяту і заслонай для буржуазіі перад пралетарскай рэвалюцыяй.

ППС разам з іншымі сацыял- і нацыял-фашыстоўскімі сялянскімі партыямі, імкнецца паралізаваць узрастаючае нездавольства сялянскіх масаў і адцягнуць іх ад барацьбы за зямлю без выкупу шляхам абвастрэньня ілжывых псэўда-радыкальных апазыцыйных лёзунгаў (танныя цэны на зямлю, астаўленьне абшарнікам ня больш 60 *га*, адзіны сялянскі фронт, які на практыцы значыць адзінства з кулакамі і падпарадкаваньне ім асноўных мас сялянства і т. п.).

У ЗБ і ЗУ ППС імкнецца выхаваць рабочыя масы ў духу польскага вялікадзяржаўнага шавінізму, прышчапіць ім атруту польскай нацыялістычнай ідэолёгіі і распальвае нацыянальную калатню (нацыянальныя прафсаюзы, прапаганда вялікадзяржаўнай Польшчы і т. п.). Разам з тым, улічваючы ўзрастаючую барацьбу працоўных мас паняволеных народаў супроць акупацыі, за сваё нацыянальнае вызваленьне, ППС імкнецца аслабіць гэтую барацьбу і прымірыць масы з фашыстоўскай акупацыяй, высоўваючы лёзунгі тэрытарыяльнай і школьнай аўтаноміі, роўнапраўя і т. п. Вось чаму ў барацьбе за масы галоўным ворагам камуністычнага руху зьяўляецца сацыял-фашызм ва ўсіх сваіх праявах і адменах (ППС, Бунд, ПЦ, нямецкая с.-д., беларускія і украінскія сацыял- і нацыянал-фашыстыя). VI пленум ЦК КПП рашуча падкрэсьліў, што „ППС і іншыя сацыял-фашыстоўскія згодніцкія партыі зьяўляюцца тым ворагам, які глыбей усяго пранікае ў масы, які хітрэй усяго дэзорыянтуе масы, які пралазе ў масы, якія прагнуць змагацца з фашызмам і адрывае іх ад рэвалюцыйнай барацьбы ня толькі дэмакратычнай і апазыцыйнай фразай, але таксама апазыцыйнымі манэўрамі ў адносінах да ўраду, зьяўляецца ворагам, які захапіў кіраўнічыя органы профруху і каапэрацыі, які вельмі хітра разьбівае фронт палітычных і эканамічных баёў пралетарыяту, які найбольш па здрадніцку сее нянавісьць да пралетарскае дзяржавы—СССР“.

## IV. Роля беларускага нацыянал-фашыстоўскага лягэру

1. Задача *ўдушэньня і тармажэньня рэвалюцыйнай барацьбы беларускіх працоўных мас,* уцягненьня іх у арбіту ўплыву фашызму, выкарыстоўваньне мас для ажыцьцяўленьня фашыстоўскіх плянаў, а ў першую чаргу падрыхтоўкі вайны за *паняволеньне*

*польскім імпэрыялізмам БССР*, зьдзейсьняецца фашыстоўскай дыктатурай пры актыўным удзеле лягеру *беларускага нацыянал-фашызму*.

Мінулы пэрыяд зьяўляецца пэрыядам крысталізацыі ўзмоцненай дзейнасьці беларускага нацыянал-фашызму. Аб'ектыўнымі прадпасылкамі гэтага зьяўляецца: 1) абвастрэньне клясавай барацьбы ў ЗБ, рост рэвалюцыйнай актыўнасьці пралетарыяту і асноўнай масы эксплёатаванага сялянства і ўсё большая кансалідацыя нацыянальна-вызваленчага руху пад кіраўніцтвам КПЗБ; 2) абвастрэньне клясавай барацьбы ў БССР, у выніку пераможнага сацыялістычнага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі і рост праяваў нацыянал-дэмакратызму, як адбітак і вынік абвастрэньня барацьбы беларускага нэпманства, кулацтва і буржуазнай, контр-рэволюцыйнай інтэлігенцыі супроць савецкай улады. Абвастрэньне ўнутраных і замежных супярэчнасьцяй капіталістычнай стабілізацыі змушае буржуазію, *у тым ліку і беларускую*, згуртаваць усе сілы дзеля таго, каб ажыцьцявіць спробы, знайсьці выхад са створанай сытуацыі шляхам вайны з СССР.

У пэрыяд разьвіцьця крызысу фашыстоўскай дыктатуры ў Польшчы, у момант усё ўзрастаючай небясьпекі ваеннага нападу польскіх мілітарыстаў і іх саюзьнікаў на СССР, з якім беларуская контр-рэволюцыя па абодвух бакох замежных слупаў зьвязвае свае надзеі на зваленьне дыктатуры пралетарыяту ў БССР, здушэньня рэвалюцыйнага руху ў ЗБ і стварэньне „незалежнай“ буржуазнай „Беларускай Народнай Рэспублікі“ пад ботам польскага фашызму—лягер беларускага нацыянал-фашызму гарачкова выяўляе сваю актыўнасьць з мэтай пашырэньня свайго ўплыву ў масах і яго арганізацыйнага замацаваньня, барацьбы з рэвалюцыйным рухам і паняволеньня БССР.

Шляхам прапаганды „незалежнай“ буржуазнай *„Народнай Беларускай Рэспублікі“*, фэдэрацыі яе з фашыстоўскай Польшчай, шляхам кампаніі нахабнай ілжы і хлусьні аб Савецкім Саюзе і БССР, аб палітыцы КП(б)Б і савецкай улады ў БССР, аб „прасьледваньні беларусаў маскалямі“ і аб „чырвоным імпэрыялізьме“ нацыянал-фашыстыя прабуюць упрагчы ў ваенную каляськіцу польскага фашызму беларускія працоўныя масы і зрабіць іх сьляпой прыладай фашызму ў гарачкова падрыхтоўваемым нападзе на СССР. Рост актыўнасьці нацыянал-фашыстоўскага лягеру ў ЗБ, асабліва-ж яго актыўнасьць у падрыхтоўцы вайны супроць СССР, знаходзіцца ў цеснай сувязі з ростам актыўнасьці нацыянал-дэмократаў у БССР, якія афармляюць ідэалёгічна контр-рэвалюцыйныя імкненьні кулацка-буржуазных элемэнтаў у БССР.

2. Нацыяналістычны лягер беларускай буржуазіі, ня гледзячы на яго вонкавую раздробленасьць *зьяўляецца адзіным лягерам беларускага нацыянал-фашызму, які ідзе пад гегемоніяй польскай буржуазіі ў шэрагах міжнароднага антысавецкага фронту і цалкам падпарадкаваны плянам фашыстоўскай дыктатуры ў Польшчы.*

Цярці паміж беларускім нацыянал-фашызмам і польскім фашызмам зьяўляюцца толькі выразам адстайваньня беларускай буржуазіяй і кулацтвам сваёй долі ва ўдзеле ў эксплёатацыі працоўных мас і за яе павялічэньне, а споры ўнутры гэтага лягеру зьяўляюцца вынікам групавой барацьбы за разьдзяленьне крошак, якія падаюць з стала пануючай буржуазіі, і падачак з боку фашыстоўскай дыктатуры, таксама як і выразам разнагалосьсяў у галіне мэтадаў найбольш пасьпяховай барацьбы з рэвалюцыйным рухам, найлепшых спосабаў ашуканства мас. Пераацэнка гэтых спораў зьяўлялася-б буйнейшай памылкай. *Фронт барацьбы нацыяналістычнага лягеру беларускай буржуазіі накіраваны выключна супроць рэвалюцыйнага руху ў ЗБ і Польшчы, супроць дыктатуры пралетарыяту ў БССР.*

Кожны атрад беларускага нацыянал-фашызму, імкнучыся да аднэй і тэй-жа мэты, да здушэньня рэвалюцыйнага руху, стасуе сваю тактыку і фразэалёгію да тых пластоў працоўных мас, сярод якіх і працуе (напрыклад, БХД, работа галоўным чынам сярод беларусаў-католікаў).

3. Канцэнтруючым ядром і ідэалёгічным цэнтрам беларускага нацыянал-фашызму, які поўнасьцю пакрываецца з нацыянал-дэмакратызмам у БССР, зьяўляючыся ва ўмовах перажываемага пэрыяду найбольш канчатковым выразам яго, па абодвух бакох замежнага кардону выступае група, на чале якой стаіць А. Луцкевіч.

Дзякуючы сваёй мінуўшчыне і ўдзелу ў грамадаўскім руху ў ЗБ, да якога ён прыстаў у пэрыяд крызысу ў Польшчы і бурнага ўздыму рэвалюцыйнай хвалі ў ЗБ, каб ня згубіць сувязі з масамі і цягнуць гэты рух назад, на шлях буржуазнага нацыяналізму і згодніцтва з польскім урадам, Луцкевіч з усіх дзеячоў беларускай контр-рэвалюцыі больш іншых падыходзіць да ролі правадыра беларускага нацыянал-фашызму які, найбольш умела маскуе сваю контр-рэвалюцыйную сутнасьць. У ствараемай ім беларускай нацыянал-фашыстоўкай ідэалёгіі (брашура „За 25 год“ і „Адбітае жыцьцё“) Луцкевіч імкнецца ўстанавіць ідэйную і арганізацыйную пераемнасьць паміж рэвалюцыйным, у пэрыяд буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў варунках царызму, беларускім дробна-буржуазным адраджэнцкім рухам 1905 г., а таксама рэвалюцыйнай арганізацыяй працоўных мас ЗБ, кіруемай кампартыяй, Беларускай Сялянска-Рабочай Грамадой, з аднаго боку, і беларускім контр-рэвалюцыйным, лібэральна-буржуазным нашаніўскім рухам і сучасным беларускім нацыянал-фашызмам—з другога боку. Гэтым шляхам нацыянал-фашыстыя прабуюць прышчапіць працоўным і эксплёатаваным масам контр-рэвалюцыйную, буржуазную ідэалёгію „Нашай Нівы“ і прыкрыць сваю ўласную контр-рэвалюцыйную сут-

насьць папулярнасьцю рэвалюцыйнай Б. С.-Р. Грамады. Беларускі нацыянал-фашызм, вуснамі свайго правадыра Луцкевіча, імкнецца падарваць рэвалюцыянізуючы ўплыў на працоўныя масы ЗБ—БССР і яе чырвонай сталіцы – Менску, супроцьстаўляючы ім фашыстоўскую Польшчу і акупаваную праз яе Вільню, як „Мекку“ беларускага руху, сталіцу будучай „незалежнай“ буржуазнай Беларусі, якая канцэнтруе „ўсіх лепшых сыноў беларускага народу“, прасьледуемых у БССР, г. ё. кулакоў і іншых прадстаўнікоў буржуазнай контр-рэвалюцыі. Гэтая адкрытая прапаганда разгрому Савецкай Беларусі, падрыхтоўка глебы для ажыцьцяўленьня імпэрыялістычных імкненьняў польскага фашызму. Тое-ж значэньне мае прапаведуемая нацыянал-дэмакратамі ў БССР „заходняя арыентацыя“, арыентацыя на фашыстоўскую Польшчу, на паняволеньне ёю Савецкай Беларусі. Лёзунг „Незалежнай Народнай Беларускай Рэспублікі“ служыць нацыянал-фашыстым дзеля маскіроўкі іх дапамогі польскаму фашызму ў справе паняволеньня БССР, у той час, як лёзунгі „адзінага нацыянальнага фронту“ і „творчай культурнай працы“ служаць ім дзеля адцягваньня мас са шляху рэвалюцыйнай клясавай барацьбы.

4. Рашучае наступленьне пралетарскай дыктатуры на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, падрываючы і звужваючы базу нацыянал-дымакратызму ў БССР, адначасна, выклікае яго шалёнае супраціўленьне і ўсілівае яго сувязь з беларускім нацыянал-фашызмам у ЗБ і польскай фашыстоўскай дыктатурай. Нацыянал-дэмакратызм у БССР, які выражае ідэалёгію нэпманскіх і кулацкіх элемэнтаў, робіць націск на паасобныя зьвеньні КП(б)Б, якія найменш зьвязаны з пралетарыятам і паддаюцца ўплыву чужых элемэнтаў, маючы свой выраз у форме нацыянал-апартуністычных ухілаў і памылак, кулацкага скажэньня клясавай лініі партыі ў зямельнай палітыцы (прышчэпаўшчына) і інш.

Нацыянал-апартуністычны ўхіл у КП(б)Б выражаецца ў няправільнай ацэнцы дробнабуржуазнага нашаніўскага руху, у спробах вывядзеньня карэньняў КП(б)Б з дробнабуржуазнай Бел. Сацыялістычнай Грамады, замазваньні фашыстоўскай ролі Луцкевіча, тэорыі самабытнасьці разьвіцьця беларускага народу і яго бясклясавасьці, супроцьстаўленьні беларускай культуры вялікарасейскай і „культурнай“ арыентацыі на Захад, у памылках паасобных таварышоў у правядзеньні на практыцы нацыянальнай палітыкі партыі (выступленьне т. Жылуновіча) і інш.

Гэтыя праявы беларускага нацыянал-апартунізму ў шэрагах КП(б)Б, побач з нацыянал-дэмакратызмам, робяць націск на шэрагі нацыянальна-вызваленчага руху ў ЗБ, спрыяючы ўзмацненьню ў ім хістаньняў, падрываюць веру ў правільнасьць палітыкі савецкай улады і выкарыстоўваюцца беларускім нацыянал-фашызмам і фашыстоўскай дыктатурай у барацьбе з рэвалюцыйным рухам у ЗБ. Гэтыя-ж праявы даюць матар'ял для траўлі СССР і аб'ектыўна садзейнічаюць ваенным плянам фашыстоўскай дыктатуры.

З імі, як і з усялякімі іншымі відамі праяўленьня нацыянал-апартунізму (вялікарасейскага, яўрэйскага) пасьпяхова змагаецца бальшавіцкі ЦК КП(б)Б у абарону ленінскай лініі партыі.

5. Палявеньне мас і нарастаньне новай рэвалюцыйнай хвалі змушае лягер беларускага нацыянал-фашызму ўзмацняць радыкальную фразэалёгію, больш старанна маскіраваць свой твар агэнтаў фашыстоўскай дыктатуры, сваё супрацоўніцтва з яе органамі і ўсё большае ўрастаньне ў апарат фашыстоўскай дыктатуры, праводзіць усё новыя манэўры дзеля ашуканства мас, а сваю ролю праваднікоў захопніцкіх плянаў польскага імпэрыялізму прыкрываць маскай абаронцаў беларускага народу ад прасьледваньня „Маскоўскага імпэрыялізму“.

Прыкрываючыся радыкальнай фразэалёгіяй, беларускія нацыянал-фашысты, побач з ужываньнем правакацыі і даносаў, ідуць па лініі ўжываньня фізычнага тэрару ў адносінах да рэвалюцыйнага руху і яго кіраўніка—кампартыі.

Дзякуючы гэтаму, беларускі нацыянал-фашызм зьяўляецца галоўным ворагам камуністычнага руху ў барацьбе за беларускія працоўныя масы. Небясьпека з гэтага боку яшчэ больш павялічваецца ў выніку таго націску, які робіць нацыянал-фашызм, побач з нацыянал-дэмократызмам, у БССР, на вядомыя колы беларускага нацыянальна-вызваленчага руху,—націску, які выяўляецца ў шэрагу ўхілаў і хістаньняў унутры гэтага руху, а таксама і прасачваецца ў шэраг, нашай партыі. Дзеля гэтага барацьба з беларускім нацыянал-фашызмам і яго ўплывам на нацыянальна-вызваленчы рух і нашую партыю зьяўляецца галоўнейшай задачай КПЗБ, асабліва-жі маючы на ўвазе ўсё больш актуальную пагрозу ваеннага нападу фашыстоўскай Польшчы на СССР.

## V. Работа партыі, дасягненьні і недахопы

1. Дзейнасьць КПЗБ за мінулы пэрыяд працякала ў варунках разьвіцьця гаспадарчага і палітычнага крызісу фашызму, абвастрэньні ваеннай небясьпекі, якая прыймае ўсё больш непасрэдны характар, далейшага лявеньня мас і росту іх рэвалюцыйнай актыўнасьці, абвостранага фашыстоўскага тэрару і ўсіленых манэўраў з боку фашызму і яго агэнтаў, далейшага зрастаньня сацыял-фашыстаў з фашыстоўскім апаратам, пры адначасным абвастрэньні левай і апазыцыйнай фразэалёгіі з боку сацыял-нацыянал-фашызму.

2. У цяжкіх варунках дзікага фашыстоўскага тэрару, які з усёй цяжкасьцю наваліўся на нашыя партарганізацыі, партыя за мінулы пэрыяд мае шэраг дасягненьняў:

а) З агульна палітычных кампаній, праведзенных партыяй за мінулы пэрыяд, неабходна
падкрэсьліць пасьпяхова праведзеныя кампаніі 1-га мая. Міжнароднага Чырвонага Дню
(1 жніўня) і МЮД (1 верасьня). Усе гэтыя кампаніі выявілі ўзрост уплыву нашае пар-
тыі, папулярнасьць нашых лёзунгаў, баявую актыўнасьць мас і іх гатоўнасьць да барацьбы
пад кіраўніцтвам партыі супроць фашыстоўскай дыктары, за дыктатуру пралетарыяту, у
абарону СССР, а таксама рост актыўнасьці нашае партыі, уменьне мабілізаваць масы на
актыўныя баявыя выступленьні пад сьцягам кампартыі (баявая першамайская дэманстра-
цыя ў Вільні, мітынг-дэманстрацыя ў Карэлічах). Яскрава выяўлены камуністычны харак-
тар (сьцягі і лёзунгі партыі і КСМ) спрыяў рэзкаму разьмежаваньню рэвалюцыйнага
і сацыял-фашыстоўскага лягеру. У ходзе гэтых кампаній партыя наша змагла шырака
разгарнуць выдавецкую працу мясцовых арганізацыяў, ахапіць шырокія масы шэрагам
мітынгаў і масовак, шырака дастасаваць тактыку адзінага фронту зьнізу шляхам аргані-
зацыі першамайскіх і антываенных камітэтаў, скліканьня канфэрэнцый і інш. У кампаніі
Чырвонага Дню, ня гледзячы на мабілізацыю ўсіх сіл фашызму, які ператварыў ЗБ у
адзін суцэльны ваенны лягер, партыя наша змагла правесьці шырокую падрыхтоўчую
працу (шматлікавыя мітынгі і масоўкі) і арганізаваць шэраг выступленьняў у дзень
1-га жніўня (забастоўка звыш 1.000 рабочых у Вільні, шматлюдны мітынг у Беластоку,
шэраг спробаўladжаньня дэманстрацыяў, разагнаных паліцыяй, камуністычныя сьцягі ў
вёсках ЗБ і т. п.). У ходзе антываеннай кампаніі партыя наша змагла ўзмацніць свае па-
зыцыі ў арміі, што знайшло сваё выяўленьне ў адмаўленьні батальёну салдат аднаго з
палкоў выступіць з казармы ў дзень 1-га жніўня, вывешваньне чырвоных сьцягаў у ка-
зармах, ва ўдзеле салдат у першажнівенскіх мітынгах, пасылка салдацкіх дэлегацыяў да
рабочых з запэўненьнем, што ня будуць страляць і т. п. МЮД'аўская кампанія, якую
пасьпяхова правёў КСМЗБ пад агульным кіраўніцтвам партыі, характарызуецца шырокім
удзелам у дэманстрацыях ня толькі рабочай і сялянскай моладзі, але таксама і дарослых
рабочых і сялян. Усе гэтыя кампаніі выявілі значную ініцыятыўнасьць і самадзейнасьць
паасобных нашых арганізацыяў, у першую чаргу Віленскай.

б) У галіне ўзмацненьня нашага ўплыву на буйных і асабліва важных прадпрыемствах,
за апошні час маецца некаторае зрушша, хоць усё яшчэ няма пералому ў гэтай галіне
і дасягнутыя вынікі ўсё яшчэ вельмі нязначны, *уплыў і сувязі нашае партыі на па-
асобных буйных прадпрыемствах некалькі ўзрасьлі*, хоць усё яшчэ далёка не ў вы-
старчальнай ступені. Усілілася ўвага з боку нашых гарадзкіх арганізацыяў да буйных
прадпрыемстваў і кіраўніцтва барацьбой рабочых гэтых прадпрыемстваў; узрасла актыў-
насьць паасобных гарадзкіх партарганізацыяў.

в) За мінулы пэрыяд партыя *ўзмацніла свае пазыцыі ў нацыянальна-вызваленчым
руху*, пасьпяхова кіруючы барацьбой супроць узрастаючага нацыянальнага ўціску. У
працэсе праведзеных кампаній (у зьвязку з фашызацыяй ТБШ, падзеі ў беларускіх гім-
назіях) партыя дала рашучы адпор усім атакам фашызму і яго агэнтаў, змагла мабілі-
заваць шырокія масы на барацьбу з нацыянальным прыгнячэньнем, змагла дэмаскаваць
манэўры фашызму і беларускага нацыянал-фашызму, ізалюючы ад мас найбольш небясь-
печнага ворага на гэтым вучастку рэвалюцыйнага фронту—нацыянал-фашыстоўскую групу
Луцкевіча-Астроўскага. У кампанію ў зьвязку з ТБШ, партыя ўцягнула шырокія масы,
што знайшло свой выраз у шматлікіх рэзалюцыях пратэсту, вынесеных, як арганізацыямі
ТБШ, так і шырокімі масамі пралетарыяту і сялянства на прафсаюзных сходах, вясковых
сходах, мітынгах і інш. Партыя няшчадна змагалася з ухіламі і хістаньнямі ў нацыя-
нальна-вызваленчым руху, выпрастоўваючы лінію гэтага руху і ўзмацняючы камуністычную
фракцыю ўнутры яго.

г) Партыя пасьпяхова правяла выбары ў гмінныя рады ў шэрагу месц, асабліва-ж у
Слонімшчыне, у якіх ня гледзячы па шалёны фашыстоўскі тэрар у варунках абвостранай
клясавай барацьбы, была забясьпечана перамога рэвалюцыйным сьпіскам. У часе гэтай
кампаніі была праведзена шырокая масавая работа шляхам арганізацыі сялянскіх сходаў
і мітынгаў.

3. Побач з гэтымі дасягненьнямі, неабходна падкрэсьліць шэраг буйных недахопаў
і памылак, як цэнтральнага кіраўніцтва, так і паасобных партарганізацыяў:

а) *Адставаньне росту актыўнасьці партыі ад росту актыўнасьцыі рабочых і ся-
лянскіх масаў, асабліва-ж нашых вясковых арганізацыяў*. Партарганізацыі нядольны
часта ахапіць сваім кіраўніцтвам узрастаючыя стыхійныя выступленьні рабочых і сялян-
скіх масаў і цягнуцца ў хвасьце падзеяў. Гэтае адставаньне актыўнасьці партарганіза-
цыяў прыводзіць да распыленьня рэвалюцыйнага руху і аблягчае сацыял-і нацыянал-
фашыстам зрываць і ламаць яго.

б) *Слабое кіраўніцтва эканамічнай барацьбой рабочай клясы*, шэраг стыхійна
ўзьнікшых забастовак працякаў без кіраўніцтва альбо-ж пры слабым кіраўніцтве нашай
партыі, што прыводзіла часта да захопу кіраўніцтва сацыял-фашыстымі, якія зводзяць іх
на шлях арбітражу.

Асноўнай прычынай слабага кіраўніцтва эканамічнай барацьбой рабочае клясы, апрача
арганізацыйнай слабасьці нашых арганізацыяў, зьяўляюцца скрыўленьні тактычнай лініі
партыі ў галіне прафруху. Гэтыя скрыўленьні ішлі, з аднаго боку, па лініі *профсаюз-
нага легалізму, ліквідатарства і эканамізму*, з другога боку, па лініі *прафсаюзнага
фэтышызму*, г. ё. канцэпцыі, што без самастойных рэвалюцыйных прафсаюзаў ня можа

быць самастойнага кіраўніцтва партыяй забастовачнай барацьбой мас, што арганізацыі забастовачнай барацьбы павінна папераджаць арганізацыя самастойных рэвалюцыйных прафсаюзаў. V пленум ЦК КПП, а зараз-жа за ім і II пленум ЦК КПЗБ правільна і пасьлядоўна раскрытыкавалі правыя памылкі, якія ішлі па лініі прафсаюзнага легалізму, ліквідатарства і эканамізму, якія прадстаўлялі галоўную небясьпеку, правільна падкрэсьлілі неабходнасьць настойлівага правядзеньня тактычнай установкі на самастойнасьць партыі ў галіне арганізацыі і кіраўніцтва эканамічнай барацьбой рабочае клясы паміма і наперакор бюрократычным праф. апаратам, абапіраючыся на шырокія, непасрэдна абраныя масамі, органы барацьбы, як фабзавкомы і т. п. і ўцягваньня ў кампаніі масы неарганізаваных рабочых. Аднак, гэтыя пленумы, а таксама красавікоўская прафнарада, далі партыі памылковую ўстаноўку, якая заключалася ў „курсе на стварэньне рэвалюцыйных прафсаюзаў", як „адзіным спосабе захаваньня прафруху для клясавай барацьбы і сацыялізму", у курсе, які павінен быў прывесьці „да супроцьстаўленьня сучасным прафсаюзам Цэнтральнай Камісіі. разгорнутай новай сыстэмы рэвалюцыйных прафсаюзаў, што і прадракалася ў пастанове нарады, якая падкрэсьліла, што „бліжэйшым і труднейшым пэрыядам зьяўляецца пераходны пэрыяд ад канцэнтраваньня нашай працы ў саюзах Цэнтральнай Камісіі, да зусім асобнай рэвалюцыйнай прафарганізацыі". Такая тэза вядзе да профсаюзнага фэтышызму" (пастановы VI пленуму ЦК КПП).

Гэты памылковы курс быў разьвіты ў рэзалюцыі Краявога Бюро, а таксама ў цыркуляры ЦПО. Гэтыя рэзалюцыі, агалашаючы памылковы курс на стварэньне роўналежных прафсаюзаў, адцягвалі ўвагу партыі аб неабходнасьці арганізацыі органаў адзінага фронту рабочых мас непасрэдна на прадпрыемствах і стварэньня органаў кіраўніцтва барацьбой, абраных самымі масамі (камітэты акцый, фабзаўкомы, стачачныя камітэты). Гэтая пазыцыя магла прывесьці на практыцы да стварэньня шэрагу роўналежных прафсаюзаў, нямаючых дастатковай апоры ў масах, магла аслабіць нашую дзейнасьць і ўплыў у рэфармісцкіх прафсаюзах, што спрыяла-б адрыву нашай партыі ад мас, пакіданьне зарганізаваных у рэфармісцкіх прафсаюзах мас пад выключным уплывам сацыял-фашызму, магла-б затрудніць аб'яднаньне ўсіх рабочых вакол камітэтаў барацьбы, магла спрыяць тэндэнцыям да ўцяканьня з прафсаюзаў і далейшаму распыленьню прафруху. У гэтых варунках лёзунгі партыі ўмасаўленьня прафсаюзаў і стварэньня органаў кіраўніцтва барацьбой мас на прадпрыемствах, змаглі застацца толькі сакрамантальнымі формуламі. Найбольш яскравыя праявы гэтага курсу мелі месца ў прафсаюзнай практыцы Віленскай і Пінскай арганізацыі і цыркуляры ЦПО, якія даў дырэктыву не заклікаць масы ўступаць ва ўсе прафсаюзы, уваходзячыя ў Віленскую ППС-аўскую акруговую камісію.

VI пленум ЦК КПП раскрытыкаваў рашуча і да канца памылковы курс, дадзены партыі V пленумам ЦК КПП і разгорнуты ў дапасаваньні да варункаў ЗБ II пленумам ЦК КПЗБ. VI пленум КПЗБ правільна распрацаваў тактыку партыі ў прафруху ў складзіўшайся цяпер сытуацыі і накрэсьліў шлях выраўненьня лініі партыі ў галіне прафруху.

в) *Назвычайнае аслабленьне кіраўніцтва штодзённай барацьбой сялянскіх мас.* Ня гледзячы на ўзрастаючую актыўнасьць вясковай беднаты і асноўных мас серадняцтва ў барацьбе супроць фашыстоўскай зямельнай палітыкі, падатковага ярма, у прыватнасьці шарваркаў і кабальнай эксплёатацыі сельска-гаспадарчага пралетарыяту і вясковай беднаты, гэтая барацьба ў большасьці выпадкаў працякала стыхійна, без кіраўніцтва з боку нашых партарганізацыяў. Партыя не змагла арганізаваць кампаніі салідарнасьці з забастовачным рухам сельска-гаспадарчых і сэзонных рабочых, які шырокай хваляй агарнуў ЗУ і суседняе Люблінскае ваяводзтва і ў ходзе гэтай кампаніі разгарнуць барацьбу сельска-гаспадарчага пралетарыяту і вясковай беднаты ЗБ. Кампанія па барацьбе з голадам была праведзена надзвычайна слаба і выявіла шэраг апартуністычных скажэньняў (філантрапізм—устаноўка на арганізацыю спэктакляў і іншых форм збору сродкаў і іх раздачу сярод галадаючых замест згрупаваньня ўвагі працоўных і эксплёатаваных мас гораду і вёсцы, у тым ліку і галадаючых мас, на барацьбе з віноўнікам голаду—фашыстоўскім урадам). Барацьба сялянскіх мас з падатковым ярмом і шарваркамі, камасацыяй і інш. у паасобных выпадках тармазілася і скажалася мясцовымі партыйнымі камітэтамі (лёзунг „палушарварак", утрымліваньне мас ад актыўных выступленьняў супроць падаткаў і камасацыі). Партыя да гэтай пары не змагла наладзіць кіраўніцтва працай рэвалюцыйных радных у органах мясцовага самаўраду, сваячасова не рэагавала на скажэньні партыйнай лініі ў гэтай галіне і выпадкі раскладаньня і загніваньня паасобных груп рабоча-сялянскіх радных у органах мясцовага самаўраду. Адказнасьць за гэтыя памылкі, у першую чаргу, ляжыць на кіруючых органах партыі, якія не змаглі сваячасова выраўняць лінію партыі ў галоднай кампаніі і даць выразную ўстаноўку ў гэтай кампаніі, вывучыць і даць адпаведныя дырэктывы вясковым арганізацыям па лініі зьместу і формаў актуальных кампаніяў на вёсцы.

Аслабленьне працы партыі ў гэтай галіне падрывала давер'е мас да партыі, спрыяла аслабленьню ў паасобных выпадках гегемоніі партыі ў легальных арганізацыях, усільваючы ў іх авангардысцкія настроі і было аднэй з прычын росту легалісцкіх і нават ліквідатарскіх настрояў у шэрагах нашай партыі (Косаўскі раён).

г) *Узрастаючая дыспрапорцыі паміж палітычным уплывам і арганізацыйным ахопам, якая выявілася ў памяншэньні колькасьці членаў* партыі ў шэрагу гарадзкіх (Беласток, Горадня) і вясковых арганізацыяў, у адсутнічаньні ячэек на буйных прад-

прыемствах, ня гледзячы на ўзмацненьне там нашага ўплыву, адсутнічаньне фабрычна-завадзкіх камітэтаў, памяншэньне ліку членаў прафсаюзаў, знаходзячыхся пад нашым уплывам і т. п. Асноўная дырэктыва I зьезду КПЗБ, па *ўзмацаваньню пралетарскага ядра нашай партыі і паляпшэньню сацыяльнага складу нашых вясковых арганізацыяў шляхам уцягненьня сельска-гаспадарчага пралетарыяту, палупралетарыяту і вясковай бедняты—да гэтай пары ня зьдзейсьнена.* У выніку разгрому шэрагу гарадзкіх арганізацыяў і ў выніку слабасьці працы па ўцягненьню ў партыю новых рабочых кадраў, суадносіны міжпралетарскай і сялянскай часткай нашай партыі яшчэ больш пагоршыліся. Усё гэта яшчэ больш павялічвае небясьпеку хвасьцізму, націску на нашую партыю дробна буржуазнай стыхіі і памяншае яе адпорнасьць варожым нам уплывам і аслабленьня барацьбы з правай небясьпекай у нашай партыі. Побач з гэтым неабходна падкрэсьліць нездавальняючы стан актыву многіх вясковых арганізацыяў, як па сацыяльнаму складу (наяўнасьць чужых партыі элемэнтаў), так і па яго ідэалёгічнай вытрыманасьці. Нездавальняючым таксама зьяўляецца сацыяльны склад часткі гарадзкога актыву. Вельмі невыстарчальным было вылучэньне і выхаваньне новага актыву з рабочых буйных прадпрыемстваў у гарадох, сельска-гаспадарчага пралетарыяту і вясковай бедняты ў вёсцы, што асабліва востра дае сябе адчуваць у зьвязку з усё ўзрастаючым фашыстоўскім тэрарам, які б'е, у першую чаргу, па кадрам нашага актыву і вырываючым з нашых шэрагаў найбольш актыўных таварышоў.

д) Слабасьць камфракцый у легальных арганізацыях, асабліва ў іх кіруючых органах (у прыватнасьці, нацыянальна-вызваленчы рух) і кіраўніцтва гэтымі фракцыямі з боку парткамітэтаў, што затрудняе правільнае правядзеньне лініі партыі ў гэтых арганізацыях і сваячасовае папраўленьне дапушчаных імі памылак і скажэньня лініі партыі.

е) Парткіраўніцтва не змагло сваячасова дастасаваць мэтады працы партарганізацыяў і парторганаў да варункаў узрастаючага тэрару фашыстоўскай дыктатуры і не прыняла сваячасова шэрагу канкрэтных мерапрыемстваў дзеля большага закансьпіраваньня партапарату і арганізацый і барацьбы з аслабленьнем дысцыпліны, дэкансьпірацыяй і нядбальствам, чаму спрыялі, у значнай меры, нязжытыя яшчэ да канца праявы фракцыйнасьці ў нашай партыі.

4. За мінулы пэрыяд кіруючымі органамі, таксама як і паасобнымі арганізацыямі і таварышамі, быў дапушчаны шэраг памылак, якія мелі пераважна правы характар. Акрамя зазначаных ужо памылак у галіне профруху і галоднай кампаніі, неабходна адзначыць памылкі, якія ідуць па лініі адзінага фронту з сацыял-фашыстымі (Вільня, КСМ), удзел у фашыстоўскіх судах працы (Беласток), ілюзій у адносінах да сацыял-фашыстаў (Горадня, Пінск), выступленьні супроць удзелу ў першажнівенскіх дэманстрацыях (ячэйка хэмікаў у Вільні), кулацкага скажэньня лініі нашай партыі ў шэрагу вясковых арганізацыях (за камасацыю, палушарваркі, галасаваньне за бюджэты і паасобныя артыкулы бюджэту ў органах мясцовага самаўраду і інш.), пераацэнка спораў унутры фашыстоўскага лягеру (выступленьні т. З. і Р. на Віленскім АК), няпрызнаньня працэсу радыкалізацыі мас і росту рэвалюцыйнай актыўнасьці (Баранавічы, КСМ), нацыяналапартуністычных памылак (артыкул т. А. Сталевіча ў „Полымя", які ён сам прызнаў памылковай і цалкам і поўнасьцю салідарызаваўся з крытыкай, дадзенай у рэзалюцыі Краёвага Бюро, хоць і не адразу зусім усьвядоміў сабе карэньні гэтых памылак), памылкі камфракцыі ў нацыянальна-вызваленчым руху і т. п. Усе гэтыя памылкі, якія вырастаюць на грунце ЗБ, у асноўным ідуць па лініі апартуністычных канцэпцыяў правай групы т. т. Кастшэвы, Стэфанскага, Бранда, якія заключаюцца ў ацэнцы ППС, як варожай сілы фашызму пры нязжытай устаноўцы на самастойную ролю дробнай буржуазіі, у пераацэнцы церцяў унутры буржуазнага лягеру, узьведзеных да разьмераў аднэй з рухавых сіл рэвалюцыі, у пераацэнцы капіталістычнай стабілізацыі і недаацэнкі польскага імпэрыялізму і небясьпекі ваеннага нападу фашыстоўскай Польшчы на СССР. Барацьба, якую партыя праводзіла супроць апартуністычных поглядаў т. т. Кастшэвы, Стэфанскага і Бранда (1-шы зьезд КПЗБ і інш.), палягчала сваячасовую крытыку важнейшых памылак на мясцох і перасіленьня іх, як усёй партыяй, так і паасобнымі таварышамі (самакрытыка т. Сталевіча). Аднак, кіраўніцтва ЦК КПЗБ не заўсёды сваячасова рэагавала на гэтыя памылкі, а ў паасобных выпадках тармазіла самакрытыку ў шэрагах партыі (забарона сэкратарыяту провізорыуму неадкладна рэагаваць на выступленьне т. З. і Р. у Вільні, тармажэньне барацьбы з антыпартыйнай групай у Горадні).

За мінулы пэрыяд у барацьбе з правай небясьпекай на грунце правільнай лініі Камінтэрну і ЦК КПП, партыя ішла на шляху кансалідацыі сваіх шэрагаў і ламаньні фракцыйных перагародак. Аднак усё яшчэ мелі месца паасобныя праявы фракцыйнай дзейнасьці, накіраваныя на зрыў бальшавіцкай кансалідацыі партыі (фракцыйная дзейнасьць т. Ю. Пружанскага і т. Дармана, а таксама выступленьні сакратара ВОК т. Р., накіраваныя на дыскрэдытацыю і падрыў аўтарытэту кіраўніцтва ВГК і ВОК КСМ ЗБ).

## VI. Задачы партыі

1. VI пленум ЦК КПП так зазначае асноўныя задачы, якія стаяць перад усёй КПП, у тым ліку і перад КПЗБ:

„Гаспадарчы і палітычны крызыс фашызму, рэвалюцыянізаваньне шырокіх працоўных мас гораду і вёскі і пераход іх у контр-наступленьне, ствараюць асабліва спрыяючых

варункі дзеля ўтрываленьня ўплыву кампартыі ў масах і ставяць перад партыяй задачу падвесьці гэтыя масы да вялікіх клясавых баёў, якія будуць расхістываць падваліны фашыстоўскай дыктатуры і разьвівацца ў барацьбу за дыктатуру пралетарыяту. Ад адпаведнай актыўнасьці партыі, ад яе правільнай тактыкі і баявой гатоўнасьці залежыць падняцьце барацьбы на больш высокі ўзровень,ператварэньне стыхійнага абурэньня мас у дэманстрацыі і палітычныя забастоўкі, завастрэньне эканамічных баёў супроць фашызму, зрыў ваенных плянаў фашызму і прысьпяшэньне зваленьня фашыстоўскай дыктатуры".

2. Вайнейшай задачай КПЗБ зьяўляецца: *мабілізацыя мас на барацьбу супраць усё абвастраючайся ваеннай небясьпекі і захопніцкіх плянаў польскага фашызму*. Правядзеньне кампаніі і Чырвонага Дню абвострыла чуйнасьць працоўных у адносінах да ваеннай небясьпекі і актывізавала іх на барацьбу з ваеннымі плянамі фашызму. Гэты пераломны момант павінен быць выкарыстаны дзеля далейшага сыстэматычнага разгортваньня антываеннай кампаніі, у якой цэнтральнымі лёзунгамі павінны быць лёзунгі *абароны СССР і ператварэньня імпэрыялістычнай вайны ў грамадзянскую дзеля зваленьня фашыстоўскай дыктатуры*.

Барацьба супроць вайны ў варунках ЗБ патрабуе, у першую чаргу, *дэмаскаваньня ролі беларускага нацыянал-фашыстоўскага лягеру* па абодвух баках мяжы, які зьяўляецца галоўным дапаможнікам польскага фашызму ў справе ідэалёгічнай падрыхтоўкі *нападу на СССР з мэтай паняволеньня БССР* і разгрому бацькаўшчыны сусьветнага пралетарыяту. Разам з тым, партыя павінна завастрыць барацьбу супроць ППС, якая зьяўляецца галоўнейшым агентам фашызму ў справе ўцягненьня польскага пралетарыяту ў арбіту ваеннай палітыкі фашызму, заражэньне яго атрутай вялікадзяржаўнага шавінізму, а таксама супроць яўрэйскіх сацыял-фашыстоўскіх партыяў, якія актыўна дапамагаюць у падрыхтоўцы вайны, максымальна выкарыстоўваючы пацыфісцкую фразэалёгію. Неабходна рашуча змагацца супроць пацыфісцкай фразэалёгіі, як дымавой завесы, якая прыкрывае падрыхтоўку вайны, уцягваючы масы ў адзіны *рэвалюцыйны фронт дзеля барацьбы з вайной*.

Трэба ўзмоцніць працу партыі па лініі барацьбы з вайной сярод сялянскіх мас, жанчын і моладзі (КСМ ЗБ) і на грунце нацыянальна-вызваленчага руху. Партыя павінна змагацца з маючыміся ў сялянскіх масах настроямі пасыўнага чаканьня вайны, якая звольніць іх ад фашыстоўскага ражыму, выкарыстоўваючы нездавольства мас супроць фашыстоўскай дыктатуры, якая мае выраз у гэтых настроях, дзеля мабілізацыі мас на актыўную барацьбу супроць фашыстоўскай дыктатуры і яе ваенных плянаў. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на антываенную працу сярод адпускнікоў і рэзэрвістых і праз КСМ, сярод дапрызыўнікаў і рэкрутаў. Неабходна выкарыстаць выявіўшыяся ў зьвязку з першажнівенскай кампаніяй, рэвалюцыйныя настроі сярод салдат дзеля замацаваньня і ўсіленьня партработы ў арміі. Партыя павінна ўвязваць кожную эканамічную кампанію з барацьбой супроць вайны, за зваленьне фашыстоўскага ражыму і ўстанаўленьне рабоча-сялянскага савецкага ўраду, за дыктатуру пралетарыяту, укараняючы ў сьвядомасьць мас неабходнасьць узбройнага паўстаньня, як адзінага шляху да зваленьня панаваньня буржуазіі, а таксама папулярызацыі лёзунгу генэральнай забастоўкі і разьвіцьця яе ў узбройнае паўстаньне.

3. Барацьба супроць імпэрыялістычнай вайны і ў абарону СССР павінна цесна зьвязвацца з усімі палітычнымі кампаніямі партыі і з усёй штодзённай барацьбой пралетарыяту і працоўных і эксплёатаваных мас сялянства. Лёзунг абароны СССР павінен быць асноўным лёзунгам кампаніі ў зьвязку з 12-й гадавінай Кастрычнікавай рэвалюцыі, у якой неабходна папулярызаваць дасягненьні СССР і, у прыватнасьці, БССР па шляху сацыялістычнага будаўніцтва ў горадзе і вёсцы, агромадны размах індустрыялізацыі, сацыялістычнае перабудовы вёскі на грунце калектывізацыі, паляпшэньня палажэньня пралетарыяту і працоўных мас сялянства, рост культурнага будаўніцтва і пераможнае наступленьне дыктатуры пралетарыяту на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі. Пяцігадовы плян сацыялістычнага будаўніцтва, тэмпы якога ўжо перавышаны мінулым гаспадарчым годам, павінен быць шырака асьветлены перад працоўнымі масамі ЗБ. Той факт, што капітальныя ўкладаньні ў мінулым гаспадарчым годзе ў БССР шмат перавышаюць асноўны і абаротны капітал даваеннай прамысловасьці Беларусі, павінен служыць яскравай ілюстрацыяй магутнага тэмпу сацыялістычнага будаўніцтва ў БССР. Папулярызацыя гэтых дасягненьняў БССР зьяўляецца лепшым аружжам у барацьбе супроць паклёпніцкай кампаніі польскага фашызму і беларускага нацыянал-фашызму. Неабходна ў зьвязку з поваротам дэлегацыі ад рабочых і сялян Польшчы, ЗБ і ЗУ разгарнуць шырокую кампанію справаздачы аб паездкі гэтай дэлегацыі на фабрыках, тартакох, фальварках і вёсках ЗБ. Дзеля пасьпяховага правядзеньня справаздачнай кампаніі, трэба арганізаваць масоўкі на заводзе, прафсаюзу і ў вёсцы дзеля абраньня дэлегацыяў прывітаньня. Гэтыя дэлегацыі павінны непасрэдна зьвязацца з дэлегацыяй у СССР і атрымаць ад яе справаздачы дзеля перадачы сваім масам Справаздачная кампанія дэлегацыі ў СССР павінна таксама стаць сыгналам дзеля сацыялістычнага спаборніцтва працоўных ЗБ і БССР. Кожны ўдар, накіраваны супроць фашыстоўскай дыктатуры, рост забастовачнай барацьбы, палітычныя стачкі і дэманстрацыі, рост рэвалюцыйных арганізацыяў пралетарыяту і эксплёатаванага сялянства, заваяваньне кампартыяй большасьці рабочае

клясы—гэта той неабходны фонд, які працоўныя ЗБ уносяць у справу будаўніцтва сацыялізму ў СССР і абароны яго перад атакамі імпэрыялізму. І, наадварот, кожны новы завод, кожны новы калектыў у савецкай вёсцы—гэта ўклад, унасімы гераічным пралетарыятам Савецкага Саюзу ў справу сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі. *Трэба таксама папулярызаваць у масах ЗБ трэцюю пазыку індустрыялізацыі,* як шлях да прысьпяшэньня пераможнага сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР—аплоту сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі і заклікаць масы да актыўнага ўдзелу працоўных і эксплеатаваных мас ЗБ шляхам збору грошаў і падпіскі на пазыку індустрыялізацыі СССР.

4. Рост рэвалюцыйнай актыўнасьці пралетарыяту ставіць партыю шчыльна перад важнейшай задачай *заваяваньня большасьці рабочае клясы.* Гэтая задача ня можа быць пасьпяхова разьвязана без аўладаньня буйнымі прадпрыемствамі і асабліва важнымі галінамі прамысловасьці: *выбіць фашызм і сацыял-фашызм з гэтых пазыцыяў— баявая задача нашай партыі.* Неабходна замацаваць зазначыўшаяся ў нашай партыі зрушша ў гэтай галіне і энэргічна разгортваць гэтую працу, па замацаваньню і ўсіленьню нашага ўплыву і арганізацыйнага яго замацаваньня ў важнейшых прадпрыемствах і галінах прамысловасьці (чыгуначнікі, тэкстыльшчыкі, дрэваапрацовачныя рабочыя, сельска-гаспадарчыя рабочыя, рабочыя камунальных прадпрыемстваў). Гэтая задача можа быць пасьпяхова зьдзейсьнена толькі пры варунках максымальнае ўвагі штодзённай барацьбе рабочых гэтых прадпрыемстваў, падрыхтоўкі і кіраўніцтва гэтай барацьбой з боку нашых арганізацыяў і ўзмацненьня барацьбы супроць яўных і замаскаваных агэнтаў фашызму (ББС, ППС, Бунд, ПЦ).

З гэтай мэтай партыя павінна завастрыць барацьбу з псэўда-левай фразэалёгіяй сацыял-фашызму (ППС, Бунд, ПЦ і г. д.), няшчадна дэмаскуючы іх апазыцыйныя манэўры. Уся партыя павінна выразна ўсьведаміць сабе, што галоўным і самым небясьпечным ворагам у справе заваяваньня большасьці рабочае клясы зьяўляецца сац.-фашызм з яго левай фразай, здэмаскаваць да канца і выкараніць у сваіх шэрагах усялякія астаткі правых канцэпцыяў групы Кастшэвы-Стэфанскага, якія разбройваюць партыю ў яе барацьбе з сацыял-фашызмам. Ачышчэньне партыі ад апартуністычных элемэнтаў зьяўляецца неабходным варункам пасьпяховай барацьбы супроць сац.-фашызму, за заваяваньне большасьці рабочае клясы. Партыя павінна з усёй рашучасьцю змагацца са спробамі прышчапіць пралетарыяту атруту нацыяналізму і шавінізму з боку польскіх, беларускіх, яўрэйскіх сацыял-фашыстаў, якія імкнуцца разьбіць інтэрацыянальную салідарнасьць пралетарыяту.

5. Востры характар клясавых баёў, нарастаньне забастовачнай хвалі і руху беспрацоўных, асабліва востра ставяць пытаньне *аб ўзмацненьні самастойнага кіраўніцтва з боку нашай партыі гэтымі баямі,* абапіраючыся на рэвалюцыйную апазыцыю ў прафруху і нізавыя органы масавай барацьбы на фабрыках, у капальнях, гутах, фальварках, якія-б ахоплівалі як арганізаваных, так і неарганізаваных рабочых. Неабходна таксама пашырыць і замацаваць камфракцыі ў прафруху. Шырокая сетка нізавых органаў (фабкомаў і інш. павінна служыць дзеля перашкоды пранікненьню фашызму ў масы, дзеля арганізацыі масавай рабочай самаабароны супроць тэрару фашызму і сацыял-фашызму.

Ва ўмовах ЗБ на гэтай задачы неабходна згрупаваць асаблівую ўвагу, як у выніку надзвычайна нізкага працэнту арганізаваных рабочых, так і надзвычайнай слабасьці працы партыі ў гэтай галіне. Неабходна ўзмоцніць працу партыі ў гэтым кірунку, асабліва ў момант разгортваньня кампаній, ствараючы на прадпрыемствах органы кіраўніцтва дзеля данай акцыі (камітэты акцый, стачачныя камітэты і г. д.). На ўсільваючыяся ўдары фашыстоўскага тэрару партыя павінна неадкладна рэагаваць, заклікаючы масы да палітычных выступленьняў, масавых забастовак, дэманстрацыяў і інш. Усялякая палітычная масавая забастоўка, нават частковая і лёкальная, у варунках ўзрастаючага гаспадарчага і палітычнага крызысу фашызму, мае асабліва важнае значэньне дзеля разьвіцьця, паглыбленьня і абвастрэньня барацьбы супроць фашыстоўскай дыктатуры.

Актуальнай задачай партыі павінна быць аб'яднаньне паасобных забастовак, імкненьне да таго, каб ахапіць забастовачнай барацьбой цэлую галіну дадзенай прамысловасьці і перанесьці яе на іншыя галіны і цэнтры. Вакол кожнай акцыі неабходна праводзіць шырокую кампанію салідарнасьці шляхам арганізацыі масовак, вынясеньня рэзалюцый салідарнасьці, пасылкі дэлегацый, збору дапамогі і г. д.

Асноўным варункам таго, каб партыя наша пасьпяхова выканала сваю ролю авангарда і кіраўніка барацьбы мас, зьяўляецца ўвязваньне штодзённай барацьбы з нашымі палітычнымі лёзунгамі, узьвядзеньне гэтай барацьбы на вышэйшую ступеню, прыдаваньне ёй яскрава выразнага палітычнага характару, накіраванага супроць фашыстоўскай дыктатуры за дыктатуру пралетарыяту.

*На бліжэйшы пэрыяд адной з важнейшых кампаній партыі зьяўляецца кампанія супроць фашыстоўскага сацыяльнага заканадаўства,* які імкнецца паралізаваць стачачную барацьбу рабочае клясы шляхам закону аб судах працы, фашыстоўскіх арбітражных камісій і т. п. Без разгортваньня шырокай і сыстэматычнай барацьбы супроць фашыстоўскага арбітражу, наша партыя ня зможа пасьпяхова кіраваць барацьбой рабочае клясы.

Шпаркі рост арміі беспрацоўных, пазбаўленьне іх нават і тых жабрачых пэнсыяў, якімі яны карысталіся раней, патрабуе ўзмацненьне нашай працы сярод безработных. Неабходна неадкладна разгарнуць акцыю па стварэньню камітэтаў беспрацоўных і аб'яднаньню іх шляхам склікаьня канфэрэнцый дэлегатаў. Неабходна абіраць прадстаўнікоў беспрацоўных у камітэты акцый і стачачныя камітэты, арганізоўваць выступленьні і дэманстрацыі безработных і аб'яднаць іх барацьбу з барацьбой працуючых рабочых.

6. У сваёй практычнай працы партыя павінна выраўняць нашу тактычную лінію ў прафруху згодна рэзалюцыі VI пленуму ЦК КПП. Дырэктыва VI пленуму ЦК КПП аб тым, што баявой задачай партыі зьяўляецца ўсіленьне работы ў прафсаюзах дзеля заваяваньня мас і ўцягваньня іх у рэвалюцыйную барацьбу, у Зах. Беларусі набірае асаблівую важнасьць з прычыны надзвычайнай распыленасьці прафруху і ўзмоцненых атак фашызму на рэвалюцыйны прафрух і тых буйных памылак, якія былі дапушчаны ў працы гэтай галіны.

Ажыцьцяўленьне гэтай дырэктывы павіннаісьці па лініі ўмасаўленьня існуючых рэвалюцыйных прафсаюзаў і мабілізацыі мас на абарону гэтых саюзаў супроць фашыстоўскага і сацыял-фашыстоўскага тэрару, арганізацыі прафсаюзаў у галінах прамысловасьці, не ахопленых прафрухам і ўзмацненьне працы ў рэфармісцкіх прафсаюзах. Гэтая праца павінна абапірацца на максымальным пашырэньні і актывізацыі рэвалюцыйнай апазыцыі ў прафсаюзах Цэнтральнай Камісіі. Апазыцыя павінна заваяваць масы, якія гуртуюцца ў сацыял-фашыстоўскіх саюзах альбо вакол іх, дэмаскуючы сацыял-фашыстаў і ізалюючы іх ад мас. Партыя заклікае масы ў гэтыя саюзы пад лёзунгам узмацненьня рэвалюцыйнай апазыцыі, як самастойнай сілы, супроцьстаўляючайся сацыял-фашыстоўскай штрэйкбрэхерскай прафсаюзнай бюрократыі ў барацьбе партыі за самастойнае кіраўніцтва баямі пралетарыяту. Выход з сацыял-фашыстоўскіх прафсаюзаў, якія карыстаюцца яшчэ ўплывам у масах, вядзе да ўзмацаваньня сярод іх уплыву сацыял-фашыстаў.

Стварэньне ў паасобных выпадках роўналежных рэвалюцыйных саюзаў павінна адбывацца на фоне масавай забастовачнай акцыі, папярэдняй працяжнай падрыхтоўкі па здэмаскаваньню сацыял-фашыстаў, ізаляваньня іх ад масаў і ўзмацненьня нашага ўплыву ў масах, пашыраючы і ўсільваючы прафсаюзную апазыцыю пад лёзунгамі адзінства прафруху на грунце клясавай барацьбы з фашызмам і сацыял-фашызмам, які разьбівае гэтае адзінства. Самастойныя рэвалюцыйныя саюзы толькі тады выканаюць сваю ролю, калі будуць масавымі саюзамі і змогуць актыўна кіраваць штодзённай барацьбой мас. Умасаўленьне і актывізацыя—неабходныя варункі іх існаваньня.

Партыя павінна няшчадна *змагацца з прафсаюзным легалізмам* і поглядамі на прафбюрократыю, як на сілу, якая супроцьстаўляецца фашызму; гэтыя погляды зьяўляюцца галоўнай небясьпекай у сучасны момант.

7. Нарастаючая рэвалюцыйная хваля ў вёсцы, рост актыўнасьці сялянскіх масаў, у першую чаргу, вясковага пралетарыяту, палупралетарыяту і беднаты ў варунках абвастраючайся клясавай барацьбы ў вёсцы. Асабліва *востра ставяць перад нашай партыяй задачу ўсіленага кіраўніцтва барацьбой гэтых мас супроць абшарнічай і кулацкай эксплёатацыі, голаду, падатковага ярма, ваенных цяжараў, за зямлю бяз выкупу.*

Пасьпяховае ажыцьцяўленьне гэтай задачы, аб'яднаньне стыхійных і разьеднаных выступленьняў, *падняцьце іх на вышэйшую ступеню арганізаванай барацьбы, накіраванай супроць фашыстоўскай дыктатуры і яе ваенных плянаў,* залежыць, у першую чаргу, ад падняцьця актыўнасьці нашых вясковых арганізацый, поўнага перамаганьня скажэньняў партыйнай лініі і абвастрэньня барацьбы з сялянскімі фашыстоўскімі і згодніцкімі партыямі.

Асноўнай кампаніяй у цяперашні час дзеля разгортваньня барацьбы сялянскіх мас супроць фашыстоўскай дыктатуры павінна зьявіцца *кампанія супроць падатковага ярма і шарваркаў.* На грунце аб'яднаньня асноўных мас сялянства, асабліва-ж вясковай беднаты, пры ўзрастаючай вострасьці хранічнага голаду, усілены націск фашыстоўскага падатковага прэса, які прыводзіць да распрадажы сялянскае маемасьці, ускладаньня на масы працоўнага і эксплёатаванага сялянства новага ярма ў форме шэрваркаў, дадатковага абкладаньня з мэтай камасацыі, сыстэмы штрафаў і т. п., прыводзяць да стыхійных выступленьняў сялянскай беднаты, у паасобных выпадках і да адпору ўладам. Гэтыя, пакуль што яшчэ разьядналыя, выступленьні—партыя павінна разгортваць у шырокія баі супроць фашыстоўскай дыктатуры, пад лёзунгамі барацьбы з падатковым ярмом, адмовы ад выкананьня шарваркаў, паступова пераходзячы, у залежнасьці ад напружанасьці масавай барацьбы, да арганізацыі масавага адмаўленьня ад плацяжу падаткаў.

Партыя павінна арганізаваць шырокую кампанію для падтрыманьня сялянскіх масаў, якія змагаюцца супроць падатковага ярма, шляхам арганізацыі байкоту пакупкі распрадаваемае сялянскае маемасьці, выступленьні рабочых і сялянскіх мас супроць рэквізыцыяў, шляхам паходаў, дэманстрацый пратэсту і забастовак салідарнасьці. У варунках разгорнутага руху, неабходна ствараць сялянскія камітэты, якія выбіраліся-б масамі сялянскай беднаты і серадняцтва дзеля кіраўніцтва антыпадатковымі выступленьнямі. У гэтай кампаніі неабходна падкрэсьліць, што голад у ЗБ зьяўляецца вынікам усёй сыстэмы фашызму, узмоцніўшайся эксплёатацыі працоўных мас, высоўваючы дамаганьні галадуючых мас, арганізуючы выступленьні галадаючых і ўводзячых у рэчышча агульнай барацьбы з фашыстоўскай дыктатурай.

У гэтую кампанію партыя павінна ўцягнуць масы гарадзкой і местачковай руйнуючайся беднаты, нездавольства якой усё больш узрастае, указваючы гэтым масам на прыкладзе СССР, што толькі зваленьне фашыстоўскай дыктатуры зможа палепшыць яе бязвыхаднае палажэньне.

Партыя павінна рашуча змагацца супроць апартуністычных хістаньняў у нашых шэрагах, у выніку націску кулацкіх элемэнтаў і маючых свой выраз у тармажэньні актыўнасьці сялянскіх мас (лёзунгі палушарваркаў і за камасацыю з прырэзкамі і інш.).

У цеснай сувязі з гэтай асноўнай кампаніяй, неабходна завастрыць барацьбу супроць фашыстоўскай зямельнай палітыкі *пад лёзунгам—зямля бяз выкупу*, арганізуючы выступленьні мас супроць прымусовай камасацыі і ўсёй зямельнай палітыкі фашыстоўскага ўраду.

Партыя павінна ўзмоцніць барацьбу з варожымі нам арганізацыямі ў вёсцы (фашыстоўскія арганізацыі, арганізацыя беларускіх нацыянал-фашыстаў, кулацкія гаспадарчыя арганізацыі і г. д.), раскладваючы гэтыя арганізацыі шляхам вывядзеньня з іх мас сялянскай беднаты і серадняцтва.

У справе кіраўніцтва працай рэвалюцыйных радных у органах мясцовага самаўраду, партыя павінна зьвярнуць асаблівую ўвагу на барацьбу з апартуністычнымі тэндэнцыямі, якія ідуць па лініі крыхаборніцтва, перарастаючага часта ў арганічную працу супрацоўніцтва з фашызмам і ўрастаньня ў сыстэму фашыстоўскага апарату. Рэвалюцыйныя радныя ні ў якім выпадку не павінны галасаваць за гмінныя і сеймікавыя бюджэты і іх паасобныя артыкулы, цьвёрда памятуючы, што выціскаемыя з сялянскіх мас сродкі ідуць цалкам на ўтрыманьне фашыстоўскага апарату і падрыхтоўку вайны супроць СССР.

Узрастаючую актыўнасьць сельска-гаспадарчага пралетарыяту, палупралетарыяту і вясковай беднаты супроць абшарніцкай і кулацкай прыгоннай эксплёатацыі, партыя павінна накіраваць па лініі арганізацыі забастовачнай барацьбы батракоў і сэзонных рабочых. Гэтая задача павінна быць у цэнтры ўвагі нашых вясковых арганізацыяў. Дзеля гэтага неабходна ў першую чаргу ўзмацніць работу па стварэньню ячэек сярод сельска-гаспадарчых рабочых і зламаць пасыўнасьць партыі ў галіне прафруху сярод сельска-гаспадарчага пралетарыяту.

8. Партыя павінна мабілізаваць шырокія масы на барацьбу супроць нацыянальнага ўціску, акупацыі, за самаазначэньне аж да аддзяленьня і аб'яднаньня ЗБ з БССР у адну Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку, выходзячы ў разгортваньні гэтай барацьбы з канкрэтных праяваў узмацненьня нацыянальнага прыгнячэньня і факту ўсіленьня падрыхтоўкі нападу фашыстоўскай Польшчы на БССР.

Гэтая барацьба не аддзяліма ад барацьбы пралетарыяту і абвастраючайся клясавай барацьбы ў вёсцы; барацьба за самаазначэньня аж да аддзяленьня, павінна арганічна зьвязвацца з барацьбой за зваленьне фашыстоўскай дыктатуры, за дыктатуру пралетарыяту ў Польшчы.

Манэўры фашыстоўскага ўраду, якія ён усільвае побач з абвастрэньнем тэрару, а таксама рост актыўнасьці лягеру беларускага нацыянал-фашызму ў ЗБ і нацыянал-дэмократызму ў БССР, робяць націск на асобныя зьвеньні нацыянальна-вызваленчага руху, асабліва-ж яго верхавіну, выклікаючы шэраг хістаньняў і ўхілаў ад лініі рэвалюцыйнай барацьбы супроць акупацыі, у бок кампрамісаў з фашыстоўскім урадам. Размах гэтых хістаньняў залежыць, у першую чаргу, ад ступню актыўнасьці рэвалюцыйнай барацьбы мас і ступню загартаванасьці кадраў нацыянальна-вызваленчага руху, а таксама ад націску тэрару і манэўраў фашыстоўскай дыктатуры і яго нацыянал-фашыстоўскіх агентаў. Па меры нарастаньня ваеннай небясьпекі, далейшага абвастрэньня клясавай барацьбы ў Польшчы і ЗБ, усіленьня наступу на кулакоў, нэпманаў і абвастрэньня барацьбы з нацыянал-дэмакратызмам у БССР, гэтыя хістаньні ў некаторых пластох нацыянальна-вызваленчага руху ў ЗБ будуць усільвацца, пагражаюць адколамі ад нацыянальна-вызваленчага руху паасобных пластоў яго і ствараюць небясьпеку дэзарыентацыі мас і аслабленьня іх рэвалюцыйнай барацьбы супроць вайны і фашыстоўскай дыктатуры. Дзеля гэтага асноўнай задачай партыі ў справе мабілізацыі мас на барацьбу з акупацыяй, за аб'яднаньне ЗБ з БССР, зьяўляецца барацьба з лягерам беларускага нацыянал-фашызму і хістаньнямі і ўхіламі ўнутры нацыянальна-вызваленчага руху.

Партыя павінна ўкараніць у сьвядомасьць беларускіх працоўных мас, што барацьба з фашыстоўскай акупацыяй неаддзяліма ад барацьбы з беларускай буржуазіяй і выяўляючым яе інтарэсы беларускім нацыянал-фашыстоўскім лягерам, што бяз гэтай барацьбы ня можа быць пасьпяхова разьвязана задача ні сацыяльнага, ні нацыянальнага вызваленьня беларускіх працоўных мас.

Партыя наша павінна яскрава ўсьвядоміць сабе, што галоўная небясьпека ў справе заваяваньня беларускіх працоўных мас, а таксама ў галіне перамаганьня хістаньняў у шэрагах нацыянальна-вызваленчага руху, ідзе *з боку лягеру беларускага нацыянал-фашызму і яго разнастайнасьці—беларускага нацыянал-дэмократызму ў БССР*, і таму *галоўны агонь барацьбы* на дадзеным вучастку і дадзеным пэрыядзе павінен быць накіраваны ў гэты бок. КПЗБ павінна завастрыць барацьбу супроць польскага сацыял-фашызму і ім прышчыпляемага масам польскага пралетарыяту ў ЗБ, вялікадзяржаўнага польскага нацыяналізму і шавінізму. Сярод польскага пралетарыяту агонь барацьбы трэба накіраваць менавіта ў гэты бок, таксама, як і сярод яўрэйскага пралетарыяту—супроць

яўрэйскага нацыяналізму і сэпаратызму, Бунду, ПЦ і інш. Гэта тым больш неабходна дзеля пасьпяховага ажыцьцяўленьня гегемоніі пролетарыяту ў рэвалюцыйна-сялянскім і ў нацыянальна-вызваленчым руху ЗБ, дзе большасьць пралетарыяту належыць да польскай і яўрэйскай нацыянальнасьці.

Усільваючы барацьбу з акупанскім тэрарам, партыя павінна разгарнуць шырокую сыстэматычную працу па здэмаскаваньню манэўраў фашыстоўскай дыктатуры і беларускага нацыянал-фашыстоўскага лягеру і яго радыкальнай фразэолёгіі, разьлічанай на падтрыманьне ілюзіяў ў масах. Барацьба з ідэалёгіяй беларускага нацыянал-фашызму зьяўляецца неабходным варункам пасьпяховага перамаганьня хістаньняў у нацыянальна-вызваленчым руху і нацыянал-апартуністычных памылках у нашай партыі.

Асаблівую ўвагу трэба ўдзяліць дэмаскаваньню контр-рэволюцыйнай сутнасьці беларускага нацыянал-дэмакратызму ў БССР. Барацьбу КП(б)Б і савецкай улады ў БССР з беларускімі нацыянал-дэмакратамі, як выразьнікамі кулацкай і нэпманскай контр-рэвалюцыі, польскі фашызм і беларускі нацыянал-фашызм ілжыва прадстаўляе, як прыгнячэньне беларускіх мас, праяўленьне „маскоўскага імпэрыялізму". Гэтая кампанія хлусьні таксама спрыяе ўзросту хістаньняў ў нацыянальна-вызваленчым руху. Неабходна завастрыць барацьбу з гэтай хлусьніцкай кампаніяй. Папулярызацыя дасягненьняў БССР— лепшая зброя дзеля дэмаскаваньня гэтай кампаніі.

Улічваючы магчымасьць далейшага ўзросту хістаньняў і адыходу няўстойлівых элемэнтаў ад нацыянальна-вызваленчага руху, у працэсе далейшага абвастрэньня клясавай барацьбы і нарастаньня ваеннай небясьпекі, партыя павінна зьвярнуць асаблівую ўвагу на кадры гэтага руху, узмацняючы камфракцыі ўнутры гэтага руху і забесьпячэньня кіраўніцтва моцнымі, устойлівымі і загартаванымі элемэнтамі з пралетарскіх шэрагаў і вясковай беднаты, паддаючы сваячасовай і пасьлядоўнай крытыкі ўсе памылкі, ухілы і хістаньні яго. Побач з гэтым трэба напрагчы сілы дзеля ўмасаўленьні і актывізацыя арганізацыяў нацыянальна-вызваленчага руху, узмацненьня іх дзейнасьці ў кіраўніцтве штодзённай барацьбой мас, змагаючыся супроць тэндэнцыяў зьвесьці дзейнасьць гэтых арганізацыяў на шлях культурніцтва і арганічнай працы.

9 Пры ўсё ўзрастаючай ваеннай небясьпекі і ўсіленьні капіталістычнай рацыяналізацыі, ідучай, галоўным чынам, за кошт працы жанчын і моладзі, праца партыі сярод працоўных жанчын павінна быць паднята на належную вышыню. Высоўваючы шэраг эканамічных і палітычных патрабаваньняў і прапагандуючы заваёвы савецкай жанчыны ў СССР, партыя мабілізуе працоўных жанчын дзеля барацьбы супроць фашыстоўскай дыктатуры і ўцягвае іх у антываенную кампанію. Дэмаскуючы і вядучы барацьбу супроць сацыял-і нацыянал-фашыстоўскіх і клерыкальных арганізацыяў, партыя арганізуе сярод працоўных жанчын гурткі, а больш актыўных і праверaных на вопыце барацьбы работніц і працоўных сялянак, уцягвае ў партыю.

10. Адсталым вучасткам у працы партыі зьяўляецца праца сярод літоўскіх працоўных мас. Усё больш нахабныя спробы польскага фашызму да захопу Літвы ставяць перад партыяй асабліва важнай і актуальнай задачу большага ўцягваньня літоўскіх працоўных мас у барацьбу супроць фашыстоўскай дыктатуры і яе агентаў—літоўскіх нацыянал-фашыстаў, супроць іх падрыхтоўкі да захопу Літвы і нападу на СССР.

11. Партыя павінна падвысіць сваю актыўнасьць у кіраўніцтве барацьбой мас, усіліць сваю арганізацыйную гібкасьць і баяздольнасьць, падняць актыўнасьць і самадзейнасьць усіх ячэек і камітэтаў, узмацніць арганізацыйныя сувязі і пашырыць сваю арганізацыйную сетку, дастасаваць мэтады сваёй працы да варункаў узрастаючай рэвалюцыйнай актыўнасьці мас і ўзмоцненага фашыстоўскага тэрару, падрыхтаваць свае шэрагі да працы ў варунках набліжаючайся ваеннай небясьпекі.

Партыя павінна выканаць пастаўленую ёй 1-м зьездам задачу ўзмацненьня яе пралетарскага ядра, асабліва рабочымі з буйных прадпрыемстваў і палепшаньня сацыяльнага складу вясковых арганізацыяў шляхам уцягненьня ў партыю сельска-гаспадарчага пралетарыяту, палупралетарыяту і вясковай беднаты. Без ажыцьцяўленьня гэтай задачы, партыя ня зможа заваяваць большасьці пралетарыяту, пасьпяхова кіраваць нарастаючымі буйнейшымі клясавымі баямі, магутным сялянскім і нацыяльна-вызваленчым рухам, падвесьці масы да непасрэднай барацьбы за ўладу, за дыктатуру пралетарыяту.

12. Зьдзейсьніць аграмаднай важнасьці задачы, якія ставіць перад ёй бягучы момант, партыя наша зможа толькі вядучы няшчадную барацьбу супроць усялякіх ухілаў ад бальшавіцкай лініі, у першую чаргу супроць правага ўхілу групы Кастшэвы-Стэфанскага-Бранда, як найбольш небясьпечнага ў цяперашні час і супроць прымірэнцкага да яго адношаньня, ачышчаючыся ў працэсе гэтай барацьбы ад апартуністычных элемэнтаў.

Партыя павінна ўсямерна разгортваць бальшавіцкую самакрытыку, выяўляючы ўсялякія памылкі і ліквідуючы іх у зародку. У варунках ЗБ неабходна завастрыць увагу на барацьбе з нацыянал-апартунізмам, як праявай націску на нашую партыю варожай нацыяналістычнай іх ідэалёгіі.

Кансалідуючы свае шэрагі на грунтце бальшавіцкай лініі, дадзенай X пленумам ВККІ і VI пленумам ЦК КПП, у барацьбе з правай небясьпекай, наша партыя павінна канчаткова зламаць усялякія старыя фракцыйныя перагародкі, няшчадна змагаючыся з усялякімі спробамі стварыць правую фракцыю на грунце плятформы агаворак да пастаноў ЦК і аб'яднаць партыйныя шэрагі вакол аднаўленага кіраўніцтва КПП і кіраўніцтва КПЗБ.

# Рэзалюцыя Палітсэкратарыяту аб становішчы ў КПП

## (Прынята 16 кастрычніка 1929 г.)

Палітсэкратарыят ВККІ, азнаёміўшыся з працай і ўнутраным становішчам у КПП за пэрыяд часу пасьля VI пленуму яе ЦК, адабрае лінію ЦК КПП і адзначае шэраг дасягненьняў у важнейшых галінах дзейнасьці партыі.

Найбольш пасьпяхова прайшла першажнівенская кампанія—асабліва ў падрыхтоўчай стадыі. Аб росьце баявой актыўнасьці партыі сьведчаць таксама дэманстрацыі салідарнасьці пралетарыяту Польшчы супроць нападу на Ўсх.-Кіт. чыгунку, на расстрэлы рабочых у Румыніі, падзеі ў Палестыне.

За апошні час узмоцнілася кіраўнічая роля партыі ў забастовачным руху (у мэталістаў у Варшаве, тэкстыльшчыкаў у Лодзі, сельска-гаспадарчых рабочых у Зах. Украіне). Партыя выправіла на практыцы тактычную лінію ў прафсаюзным руху і садзейнічала ажыўленьню дзейнасьці прафсаюзнай апазыцыі ўнутры рэфармісцкіх прафсаюзаў.

Партыя ўзмоцніла барацьбу супроць радыкальна-дэмакратычных манэўраў ППС, „Вызваленьня“, УСДП, украінскіх радыкалаў, беларускіх нацыянал-фашыстаў і інш., як галоўнейшай небясьпекі ў разьвіцьці рэволюцыйнага руху. Партыя пачала адваёўваць у фашыстых і сацыял-фашыстых згубленыя пазыцыі ў буйных ваенных фабрыках (Варшава).

Узмацніліся і паднялі сваю актыўнасьць масавыя левыя арганізацыі.

Палітсэкратарыят з задаваленьнем адзначае вялікія дасягненьні ў галіне кансалідацыі партыі на груньце рашэньняў X пленуму ВККІ і VI пленуму КПП. Асноўныя кадры быўш. большасьці адыходзяць ад быўшай сваёй фракцыі і згуртоўваюцца з прыхільнікамі быўш. меншасьці вакол гэтых рашэньняў, шэраг партыйных і комсамольскіх арганізацыяў (варшаўская, пазнанская, горна-сілеская, кракаўская і інш.) цалкам і бязумоўна выказаліся за гэтыя рашэньні і праводзяць іх у жыцьцё; за гэтыя рашэньні выказалася таксама і лодзінская арганізацыя, пленумы ЦК КПЗУ, ЦК КПЗБ і ЦК камсамолу выступілі аднадушна супроць правага ўхілу ў КПП і прымірэнцтва з ім. Падаўляючая большасьць партыі бяз розьніцы ранейшых фракцыяў асудзіла правы ўхіл т. т. Кастшэвы, Стэфанскага, Бранда, выступіўшы самым рашучым чынам супроць спробаў некаторых ухілістых сарваць рашэньні VI пленуму ЦК.

Палітсэкратарыят ВККІ лічыць, што сыстэма апартуністычных поглядаў т. т. Кастшэвы, Стэфанскага і Бранда, якія зьяўляюцца роднымі праявамі правага ўхілу ў другіх сэкцыях Камінтэрну, складае яго разнастайнасьць у польскіх умовах (недаацэнка контр-рэволюцыйнай ролі сацыял-фашызму ў зьвязку з неперамаганьнем поглядаў т. Кастшэвы на самастойную ролю дробнай буржуазіі і з момантамі пераацэнкі капіталістычнай стабілізацыі ў Польшчы, недаацэнка імпэрыялістычнай экспансіі польскага капіталізму на Ўсход, пераацэнка спрэчак у лягеры буржуазіі).

Праўда, т. т. Кастшэва, Стэфанскі і Бранд выступалі неаднакраць з публічным асуджэньнем правага ўхілу ў другіх сэкцыях КІ, у прыватнасьці ў КП Нямеччыны і УсеКП(б), аднак такая пазыцыя іх у пытаньнях міжнароднай правай, пры адначасовай абароне сваяцкай гэтай міжнароднай правай поглядаў, у асноўных пытаньнях КПП, ня толькі не зьмяншае, але ва ўмовах Польшчы (нарастаньне рэвалюцыйнасьці масаў, „левыя“ манэўры ППС, нелягальнае палажэньне партыі, перажыткі фракцыйнасьці ў партыі, якія могуць аблягчыць афармленьню фракцыі і т. п.) яшчэ павялічваюць небясьпеку прадстаўляемага імі правага ўхілу ў КПП.

Палітсэкратарыят рашуча асуджае манэўраваньне тав. Кастшэвы перад партыяй і Камінтэрнам, якое выразілася ў яе пісьмовай заяве пасьля VI пленуму ЦК КПП. Гэтая заява, якая сьцьвярждае, што раскрытыкаваныя пленумам погляды „былі і зьяўляюцца ёй чужымі“, супярэчыць фактам устаноўленым у рэзалюцыях ня толькі VI пленуму ЦК, але і IV зьезду КПП, а таксама крытыцы пасылак тав. Касташэвы ў адкрытым лісьце ВККІ ад верасьня 1928 г. Гэтая заява паказвае, што тав. Касташэва і яе палітычныя прыяцелі ў ЦК КПП толькі фармальна галасавалі за рэзалюцыю VI пленуму, фактычна застаючыся пры асуджаных пленумам поглядам. Гэтая пазыцыя тав. Касташэвы на пле-

нуме ЦК КПП, а таксама выступленьне прыхільніка яе поглядаў т. Барташэвіча пасьля пленуму, ствараюць небясьпеку афармленьня правага ўхілу ў КПП у правую фракцыю дзеля барацьбы супроць партыйнага кіраўніцтва і палітычнай лініі КПП.

Палітсэкратарыят ВККІ падтрымлівае правадзімую ЦК КПП барацьбу супроць правага ўхілу тав. Кастшэвы і яе палітычных прыяцеляў і поўнасьцю адабрае рашучы адпор з боку кіраўніцтва КПП усялякім крокам, накірованым да стварэньня правай фракцыі ў партыі на плятформе фракцыйных выпадаў супроць адноўленага кіраўніцтва, спробаў апартуністычнай верхавіны параўнаць сябе з усёй быўшай большасьцю, адкрытага альбо скрытага сабатажу барацьбы з правым ухілам усялякіх абмовак у адносінах да рашэньняў ЦК.

Гэтыя абмоўкі, незалежна ад суб'ектыўных настрояў нізавікоў, якіх уводзіць у памылку група Кастшэвы, аб'ектыўна спрыяюць стварэньню правай фракцыі.

Тую-ж мэту маюць спробы адцягнуць увагу партыі ад асноўнай небясьпекі ў відзе апартуністычных установак групы тав. Кастшэвы ў бок старых, ужо зжытых памылак прыхільнікаў быўш. меншасьці.

Адцягваньне ўвагі партыі ад сапраўдных карэньняў правага ўхілу садзейнічаюць таксама зборнікі артыкулаў „На ідэолёгічном фронце", у якіх матар'ял па пытаньню аб „нацыянал-апартунізьме; падабраны тэндэнцыйна і ў якіх тав. Варскі па пытаньнях гісторыі партыі ў многім апраўдывае апартунізм ППС лявіцы.

Змагаючыся з усялякімі праявамі прымірэнцтва, ЦК КПП павінен адначасна прылажыць усе сілы да таго, каб паглыбленай ідэалёгічнай прапрацоўкай усіх праблем партыйнай палітыкі, як у друку, так і ва ўсіх партарганізацыях, тлумачыць шырокім масам сяброў партыі, лінію партыю і ЦК і заваяваць на бок адноўленага кіраўніцтва ўсіх тых таварышоў, якія яшчэ не цалкам зразумелі лінію партыі. Неабходна поўнасьцю выкарыстаць усе сілы партыі, аддана стаячыя на пункту погляду Камінтэрну і VI пленуму ЦК КПП, незалежна ад іх ранейшнай фракцыйнай групіроўкі. Неабходна побач з гэтым уцягваць у кіраўнічую працу партыі новыя рабочыя кадры асноўных прамысловых цэнтраў Польшчы.

Накіроўваючы галоўны агонь супроць правага ўхілу тав. Кастшэвы і стварэньня правай фракцыі, партыя павінна адначасна змагацца супроць усякіх іншых праяваў правай небясьпекі, якія адбіваюць націск дробна-буржуазных элементаў, таксама супроць ультра-левых тэндэнцыяў.

Партыя павінна не забываць аб неабходнасьці сваячасовай самакрытыкі ўсялякіх памылак, адкуль-бы яны ня выходзілі, і рашучага выкараненьня ўсялякіх астаткаў фракцыйнасьці, затрудняючых кансалідацыю партыі.

Партыя павінна дасягнуць максымальнай згуртаванасьці кіраўніцтва. Неабходна ўзмацаваньне кіраўніцтва ЦК КПП у КПЗУ і КПЗБ.

Палітсэкратарыят падкрэсьлівае неабходнасьць барацьбы з небясьпекай адставаньня партыі ад росту рэвалюцыйнай актыўнасьці мас, у прыватнасьці спазьненьні партыі ў кіраўніцтве асобнымі забастоўкамі.

Небясьпека хвасьцізму, на якую ўказаў X пленум ВККІ, выступае асабліва востра цяпер, калі ў Польшчы на груньце мацнейшага завастрэньня ўнутраных супярэчнасьцяў капіталістычнай стабілізацыі, эканамічнага і палітычнага крызісу фашызму ўсё шырэй нарастае рэвалюцыйны ўздым.

Неабходна яшчэ больш узмоцніць кіраўніцтва забастовачным рухам і барацьбой беспрацоўных, узмацніць і пашырыць уплыў кампартыі і рэвалюцыйнага прафруху ў буйных фабрыках і на чыгунках, дабіцца сапраўднага пералому ў працы сярод сельскагаспадарчых рабочых, узмацніць кіраўніцтва ў масавых рэвалюцыйных арганізацыях, узмацніць барацьбу супроць націску фашызму і дробна-буржуазных хістаньняў у гэтых арганізацыях, шырэй паставіць працу ў арміі, дзе партыя зрабіла толькі першыя крокі, зьвярнуць асаблівую ўвагу на вылучэньне і падняцьце ідэалёгічнага зроўню партыйных кадраў.

Палітсэкратарыят зьвяртае ўвагу ўсёй партыі на неабходнасьць перамаганьня аграмаднай дыспрапорцыі паміж уплывам партыі і яе арганізацыйным ахопам.

У галіне арганізацыйнага ўзмацненьня партыі асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на вялікую арганізацыйную слабасьць Горнай Сілезіі, якая адыгрывае вялізарную ролю ў падрыхтоўцы вайны супроць СССР.

Аб падняцьці баяздольнасьці партыі, яе рэвалюцыйнай актыўнасьці залежыць неабходнае заваяваньне партыяй рашаючай большасьці пралетарыяту і ўзмацненьне яго гегемоніі ў рэвалюцыйным сялянскім і нацыянальна-вызваленчым руху.

---

# Аб позыцыі тав. Чарвякова па пытаньнях барацьбы з правым ухілам і нацыянал-дэмакратызмам

*(Рэзолюцыя бюро ЦК і прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б ад 19 сьнежня 1929 г., ухваленая Студзеньскім пленумам ЦК КП(б)Б).*

1. Уся КП(б)Б, пад кіраўніцтвам ЦК, праводзіла і вядзе самую рашучую барацьбу супроць правага ўхілу і нацыянал-дэмократызму ў тэорыі і на практыцы. У гэтай барацьбе партыйная організацыя надзвычайна чутка і патрабавальна адносіцца да партыйнага кіраўніцтва і да паасобных членаў яго, патрабуючы чоткай партыйнай лініі і актыўнага ўдзелу ў барацьбе супроць ухілістых ад партыйнай лініі і прымірэнцаў да іх. Асабліва гэтая патрабавальнасьць партыйных мас павышаецца ў адносінах да кіруючых таварышоў, вядомых організацый, але ня прымаючых актыўнага ўдзелу ў барацьбе, хоць адкрытыя выступленьні іх політычна абавязковы, таму што самі гэтыя таварышы рабілі ў нядаўным мінулым опортуністычныя памылкі.

2. Так, на Менскім, Віцебскім, Гомельскім і інш. актывах і шматлікіх партсходах, асабліва ў апошні час, сябры партыі ў запісках і выступленьнях высоўвалі супроць тав. Чарвякова (члена бюро ЦК) абвінавачаньне ў тым, што ён ня прымае актыўнага ўдзелу ў барацьбе супроць правага ўхілу і нацыянал-дэмократызму і тлумачылі гэта тым, што тав. Чарвякоў нават у пэрыод абвостранай барацьбы партыі з правым ухілам і нацыянал-дэмократызмам у артыкулах і выступленьнях выказваў і абараняў права-опортуністычныя і нацыянал-опортуністычныя погляды.

3. Бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК КП(б)Б, абгаварыўшы позыцыю т. Чарвякова па пытаньнях барацьбы з правым ухілам і нацыянал-дэмократызмам, устанаўліваюць адсутнасьць актыўнага ўдзелу т. Чарвякова ў барацьбе з правым ухілам і нацыянал-дэмократызмам і што тав. Чарвякоў на працягу доўгага пэрыоду і да апошняга часу ў шэрагу выступленьняў вусных і ў друку выказваў і абараняў шэраг няправільных, права-ўхіліцкіх установак. Гэтыя права-ўхіліцкія ўстаноўкі, узятыя ўагуле (у цэлым), об'ектыўна прадстаўляюць сабою цэлую сыстэму права-опортуністычных і нацыянал-опортуністычных поглядаў.

4. Гэтыя права-опортуністычныя і нацыянал-опортуністычныя погляды і ўстаноўкі тав. Чарвякова знайшлі свой адбітак у прыватнасьці ў наступным:

1) У суадпаведнасьці з лёзунгам Бухарына „обогощайтесь“, тав. Чарвякоў на VII зьезьдзе Саветаў БССР у маі 1925 г. выступіў з лёзунгам: „Багацей, селянін, здабывай больш багацьця, і чым больш ты будзеш багаты, тым больш багата будзе наша Савецкая рабоча-сялянская дзяржава“.

2) Усьлед за Бухарыным тав. Чарвякоў угледжваў крыніцы нашых хлебных цяжкасьцяў у першую чаргу ў тым, што „збожавыя продукты ў сэнсе цэн былі пастаўлены нашай політыкай у недастатна здавальняючыя ўмовы“ (прамова 20 кастрычніка 1928 г. на зьезьдзе „Прэч няпісьменнасьць“).

3) Пасьля апублікаваньня „Запісак экономістага“ т. Бухарына, т. Чарвякоў такім чынам выяўляў сваю солідарнасьць з права-опортуністычнымі поглядамі Бухарына: „Мы, таварышы, перажываем ужо досыць доўгі час значныя цяжкасьці ў забясьпечаньні гораду і вёскі хлебам і іншымі сельска-гаспадарчымі продуктамі. Разам з тым мы перажываем сур'ёзныя цяжкасьці ў забясьпечаньні гораду і вёскі таварамі фабрычна-заводзкай вытворчасьці. Чым гэта тлумачыцца і дзе знайсьці прычыны гэтых цяжкасьцяй? Нядаўна ў цэнтральных газэтах быў надрукаваны артыкул т. Бухарына „Запіскі экономістага“, у якім ён робіць аналіз усім пытаньням, зьвязаным з гэтай проблемай. Я, таварышы, адсылаю ўсіх вас да гэтага артыкулу, які, па-мойму, патрэбна ўважліва вывучыць і на падставе якога патрэбна шукаць способы для растлумачэньня ўсіх зьявішчаў нашага сучаснага гаспадарчага становішча“.

4) Тав. Чарвякоў замазваў кіруючую ролю ва ўсім соцыялістычным будаўніцтве рабочае клясы. Так, напрыклад, на зьезьдзе агрономаў 26 студзеня 1929 г. тав. Чарвякоў, кажучы аб неабходнасьці ўздыму сельскае гаспадаркі, бачыў нашую перавагу перад капіталістычнымі дзяржавамі ў галіне вырашэньня гэтае задачы ў наступным: „Нам

патрэбна, мы можам і павінны ісьці ўперад па шляху разьвіцьця сельскае гаспадаркі больш буйным крокам, больш паскораным тэмпам, чым ішлі капіталістычныя дзяржавы. Для гэтага ў нас ёсьць усё неабходнае—па-першае, высока разьвітая навука, другое—высока разьвітая тэхніка і трэцяе—неабходнасьць хутчэйшага вырашэньня задач соцыялістычнага будаўніцтва". Аб дыктатуры пролетарыяту, груптоўнай умове посьпеху высокіх тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва, аб рабочай клясе і яе партыі—кіраўніку гэтага будаўніцтва—тав. Чарвякоў нічога не сказаў.

5) Тав. Чарвякоў затушоўваў вядучую ролю прамысловасьці і ў першую чаргу цяжкай індустрыі ў перабудове на соцыялістычнай аснове сельскае гаспадаркі. Так, напрыклад, т. Чарвякоў кажа на VII зьезьдзе Саветаў у 1925 г.: „Першае, што нам патрэбна рабіць—гэта ўсімі спосабамі дапамагаць разьвіцьцю нашае сельскае гаспадаркі, другое—дапамагаць разьвіцьцю нашае прамысловасьці як буйнай, так і саматужнай і рамесьленай".

6) Тав. Чарвякоў не разумее ўсяе мэханікі клясавае барацьбы на вёсцы і яе няўхільнага абвастрэньня ў сучасны пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі. Так, у сваім выступленьні на зьезьдзе „Прэч няпісьменнасьць" у 1928 годзе тав. Чарвякоў даў неправідловую ацэнку шалёнаму супраціўленьню капіталістычных элемэнтаў і ў першую чаргу кулацтва соцыялістычнаму наступленьню, сказаўшы: „У некаторых колах нашага сялянства ёсьць адпор у справе колектывізацыі, коопэраваньня і наогул аграмаджаньня сельскае гаспадаркі".

7) Тав. Чарвякоў замест таго, каб падкрэсьліваць кіруючую ролю рабочае клясы ў соцыялістычным будаўніцтве, клясавае расслаеньне сялянства (бядняк, серадняк, кулак) прадпачытаў у сваіх прамовах усё гэта замяняць выразамі „насельніцтва" „народ". Ён лічыў магчымым у 1928 г. пісаць наступнае: „Цяжкі лёс выпаў на долю Беларусі. Разбурэньні вайной, цяжкая акупацыя немцаў, і ўрэшце здрадніцкая політыка Рады—усё гэта выключна паслабіла сілу народу".

8) Тав. Чарвякоў ідэалізуе буржуазныя нацыянальныя дарэволюцыйныя партыі Беларусі, прадстаўляе справу такім чынам, што КП(б)Б працягвае справу гэтых буржуазнанацыялістычных партый. Ён у 1928 г. казаў: „Рэволюцыя патрабавала пераацэнкі ўсяго старога, патрабавала яснага адказу на запытаньні: ці старыя традыцыі і шыльды бяз зьмены зьместу старых лёзунгаў... ці даць старой шыльдзе „адраджэньня" новы зьмест, паставіўшы яе на службу соцыялістычнай рэволюцыі і праз гэта захаваць цесную сувязь з рэволюцыйнымі рабочымі і сялянствам".

9) У сваёй прамове, прысьвечанай 5-й гадавіне ўтварэньня БССР, тав. Чарвякоў неправідлова трактуе пытаньне аб Рыскім міры і гэтым дае падставу лічыць, што ён лічыць віноўнікам падзелу Беларусі мірную політыку Савецкага Саюзу: „Я не кажу ўжо аб тым, што Савецкая Беларусь, адзіны экономічны, нацыянальны і культурны організм, на падставе Рыскага дагавору, для таго, каб забясьпечыць заключэньне міру, забясьпечыць мобілізацыю сіл супроць наступаўшага Урангеля, была штучна разрэзана на дзьве часткі. Ясна, што ўсё гэта павінна было адбіцца на аднаўленьні народнае гаспадаркі Беларусі і легчы надзвычайна цяжкім камнем на экономічны і культурны організм Беларускае рэспублікі" (прамова 31 сьнежня 1924 г.).

Тав. Чарвякоў асуджае політыку нашае партыі ў адносінах да контррэволюцыйных беларускіх організацый (беларускі нацыянальны конгрэс у 1917 г.). Ён кажа: „Абстаноўка работы конгрэсу і асабліва спыненьне гэтай работы выклікалі вялікае абурэньне нават сярод шчырых прыхільнікаў саветаў" („Полымя", 1928 г.).

10) Тав. Чарвякоў падмяняе пролетарскі характар Кастрычнікавай рэволюцыі ў Беларусі дробна-буржуазным, калі гаворыць: „Агонь Кастрычнікавай рэволюцыі надаў сілы поэту (гутарка ідзе пра Жылуновіча), бо ён адчуваў сваю блізкасьць да р а б о ч а-с я л я н с к а й рэволюцыі".

Рэволюцыя (Кастрычнікавая) прыйшла ад цяжкасьці сох". („Полымя", 1928 году). Тав. Чарвякоў прыпісвае інтэлігенцыі няправільную ролю гегемона ў рэволюцыйнай барацьбе і ў падрыхтоўцы Кастрычнікавай рэволюцыі: „Для нас асабліва каштоўны ўсе тыя рэолюцыйныя сілы (інтэлігенцыя), якія ў той час (у час царызму) працавалі, бо яны, разьвіваючы рэволюцыйны рух сярод сялянства, афармлялі яго, стваралі ўсё большыя прыпынкі паміж царызмам і сялянствам і падрыхтоўвалі тую глебу, бяз якой заваёвы комуністычнай партыі і сялянства не прайшлі-б так лёгка, як яны прайшлі ў годы 17, 18, 19" (з прамовы тав. Чарвякова 31 сьнежня 1924 г.). І нарэшце ў артыкуле пра Цішку Гартнага („Полымя", 1928 г.) тав. Чарвякоў піша: „З першых-жа дзён Кастрычніка ён стаў на шлях Кастрычнікавай рэволюцыі, разьбіўшы аўторытэтам старога „нашаніўца-адраджэнца" адзіны нацыянальны супроцьсавецкі беларускі фронт".

11) Гэтую сэрыю права-опортуністычных і нацыянал-опортуністычных поглядаў і установак тав. Чарвякоў папоўніў выступленьнем на XII зьезьдзе партыі з тэорыяй уступак інтэлігенцыі.

12) Бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК лічаць неабходным, каб тав. Чарвякоў тэрмінова падверг усе свае права-опортуністычныя і нацыянал-опортуністычныя ўстаноўкі простай, рашучай, бальшавіцкай самакрытыцы ў суадпаведнасьці з рашэньнямі верасьнёўскага пленуму ЦК КП(б)Б і лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б).

# БІБЛІОГРАФІЯ

## Аб Б.С.Г. у Малой Савецкай Энцыклёпэдыі

Малая Савецкая Энцыклёпэдыя зусім слушна карыстаецца самым шырокім распаўсюджаньнем. Тыраж яе першага тому складае 50 тыс. экзэмпляраў, а наступных яшчэ больш. Гэта энцыклёпэдыя служыць ня толькі лібэральнай задачы пашырэньня ведаў“, але зьяўляецца магутнай зброяй політычнага выхаваньня шырокіх мас, культурна-політычнага ўзьдзеяньня на іх. Гэта задача і ставіцца сьвядома рэдакцыяй. У прадслоў'і да 1-га тому рэдакцыя піша: „Трэба ўтварыць параўнаўча невялікую, прытым больш популярную энцыклёпэдыю для шырокіх мас. Гэта вельмі важная політычнай значнасьці задача, якая займае ў ліку задач пролетарскай дыктатуры далёка не апошняе месца“. Гэта, паўтараем, праўдзіва і менавіта пагэтаму як рэдакцыя, так і партыйная і савецкая грамадзкасьць павінны вельмі ўважліва адносіцца да такіх фармулёвак і палажэньняў, якія, з прычыны розных акалічнасьцяй, — зьяўляюцца непасрэдна політычнымі фармулёўкамі. Гэта і прымушае нас зьвярнуць увагу савецкай грамадзкасьці на тую політычна-няправільную характарыстыку *Беларускай Соцыялістычнай Грамады*, якая зьмешчана ў энцыклёпэдыі (т. I, 655—656 стар.).

Там сказана: „У 1905 годзе Б.С.Г. кіравала рухам шырокіх мас; на чале яе стаяў рэволюцыйны блёк народніцтва і марксыстых. Б.С.Г. адрадзілася пасьля лютаўскае рэволюцыі, кіравала франтовымі і сялянскімі зьездамі ў Менску і, па меры ўздыму рэволюцыйнай хвалі, сама падпарадкавалася ўзмоцненай бальшавізацыі. Рабочыя, матросы і салдаты—бальшавікі асабліва ў Пецярбурзе (тав. Чарвякоў і інш.) на 3-ім зьезьде ў кастрычніку 1917 году зрабілі рашучы ўплыў на далейшую політыку Б.С.Г. Блёк народніцтва і с.-д. бальшавікоў разваліўся, і на руінах яго ўтварылася Комуністычная Партыя Беларусі“.

Тут нязначная частка сапраўднага перablытана са значным, ня маючым праўдзівасьці. Праўдзіва, што ў 1905 годзе Б.С.Г. адыграла значную ролю ў рэволюцыйным руху на Беларусі, няправільна тое, што нібыта Б.С.Г. *кіравала* рухам; праўда, што ў програме Б.С.Г. (як і ў яе складзе) былі паасобныя марксыцкія элемэнты; няпраўда, што нібыта Б.С.Г. зьяўлялася блёкам народніцтва і марксыстых—яна была тыповай рэволюцыйнай *народніцкай* організацыяй—яе програма, яе літаратурныя дакуманты, характар яе дзейнасьці, удзел у блёку нацыянальных соцыялістычных партый, якімі кіравалі с-р—у поўнай меры і з адпаведнай дакладнасьцю гэта высьвятляюць.

Яшчэ ў 1917 годзе офіцыйны лёзунг партыі, пацьверджаны тым самым III зьездам, на які нібыта рашаючы ўплыў зрабілі бальшавіцкія, г. ё. раней усяго марксыцкія, групы, быў тыпова-народніцкім—ён агалашаў: „Працавіта бедната ўсіх народаў, злучайся!“ Гэтаксама ў вытрыманым прымітыўна-народніцкім духу вёўся і афіцыйны орган Б.С.Г. 1917 г. „Грамада“. Пачынаючы ад № 1 і ўключаючы нявышаўшы № 5 (корэктурныя лісты якога былі ласкава прадастаўлены нам адміністрацыяй Бел. Дз. Бібліотэкі), усюды праходзіць адзін і той самы мотыў.

„Работнік—гэта толькі сын селяніна, якога голад выгнаў з вёскі і ўкінуў у царства жалеза і вугалю—на фабрыку“—пісалася ў афіцыйнай, за подпісам бюро Грамады, перадавіцы № 1. „Усе мы, беларусы, добра ведаем, што наш беларускі народ—адзін ад дэмократычнейшых народаў у сьвеці. Ён увесь, у ліку 10 міліёнаў, складаецца з адных бедных працоўных сялян“,—гаварылася ў вялікім артыкуле „Ад рэдакцыі“ ў № 5.

Праўда, што Б.С.Г. адрадзілася пасьля лютаўскай рэволюцыі, няпраўда тое, што нібыта Б.С.Г. кіравала франтавымі і сялянскімі зьездамі. Ні на першым, ні на другім франтавым зьезьдзе ня толькі няпрыметна было кіраўніцтва Б.С.Г., але і прадстаўнікоў яе [1]). У горадзе сярод гарадзкога пролетарыяту ўплыў Б.С.Г. быў зусім нязначны—у Менскім савеце Р. і С.-Д. ні ў першым складзе, ні ў другім, пасьля перавыбараў ня было прадстаўнікоў Б.С.Г. (мо‘ і былі адзінкі, але аб іх няма нідзе і паміну). У Аршанскім савеце ў ліку 216 дэпутатаў ніхто не адзначаны, як член Б.С.Г.

Здавалася-б, што павінна больш складана выглядаць справа з уплывам Б.С.Г. на сялянскія гушчы—аднак-жа і тут ён не ў такой меры вялікі, як гэта магло-б здавацца. Наадварот, ён значна меншы, чым, напрыклад, уплыў Б.С.Г. на сялянства ў рэволюцыі 1905 году. Гэта тлумачыцца зусім няправільнай ультра-згодніцкай пазіцыяй Б.С.Г. у аграрным пытаньні. На сялянскім зьезьдзе, скліканым Беларускім Нацыянальным Камітэтам у Менску ў самым пачатку красавіка 1917 г. прынята была наступная рэзолюцыя па аграрным пытаньні:

„Зямельнае пытаньне павінна вырашыць Устаноўчая Рада, да гэтага вырашэньня самачыннасьць недапушчальна і ёй трэба супроцьдзейнічаць...“

„Там, дзе сяляне знаходзяцца ў поўнай залежнасьці ад паноў у сэнсе карыстаньня арандаванай пашай, сенажацьцю і найманьнем зямлі для пасеву, *прасіць апошніх* (падкрэсьлена намі) праз мясцовыя самакіраваньні *ўнікаць рэзкага павялічэньня* (а нярэзкага?—*М. Ю.*) арэнднай платы, маючы на ўвазе асабліва цяжкія ўмовы жыцьця нашага сялянства... Зьезд *выказвае ўпэўненасьць,* што паны ў далейшым аж да вырашэньня зямельнага пытаньня ва Устаноўчай Радзе будуць *унікаць* ліквідацыі тых лясоў, якія ім прыналежаць“.

Такое рэзолюцыі, здаецца, ня прымаў ніводзін з сялянскіх зьездаў, якім кіравалі самыя крайнія згоднікі. Таму і ня дзіўна, што гэта рэзолюцыя была спаткана ў штыхі: Менскі Камітэт Усерасійскага Сялянскага Саюзу аднагалосна ўхваліў рэзолюцыю, дзе, адзначаючы, што ў працах скліканага Беларускім Нацыянальным Камітэтам Зьезду „беларускі народ у асобе сваіх прадстаўнікоў працоўных кляс—сялян і рабочых... ніякага ўдзелу ня прымаў“ і разам з тым характарызаваў і абвяшчаў Беларускі Нацыянальны Камітэт „па свайму складу арганізацыяй уласьніцкіх пластоў беларускага народу, і асабліва фальварковага зямляўладаньня, а па характару выступленьняў чыста нацыяналістычнай“. Сялянскі зьезд (першы сапраўдны сялянскі зьезд), якога паседжаньні адбываліся 20—23 красавіка, у асноўным зацьвердзіў гэтую характарыстыку.

Але ці можна рабіць адказнай Беларускую Социялістычную Грамаду за дзейнасьць і рэзолюцыі Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

У тым-та і справа, што ня толькі можна, але і трэба. На чале Беларускага Нацыянальнага Камітэту сапраўды стаяў пан Раман Скірмунт,

[1]) На другім франтовым зьезьдзе (2-я палова лістапада)—467 бальшавікоў, 74 левых с.-р., 9 максымалістаў, 5 анархістых, 1 польскі социяліст, 26 эсэраў цэнтру, 5 правых с.-р., 24 меншавікі і 103 беспартыйныя.

але з 18 членаў Беларускага Нацыянальнага Камітэту 10 былі членамі Б.С.Г. У лісьце ў рэдакцыю Беларускага Нацыянальнага Камітэту (глядзі, напр., „Менскі Голас“ № 2398 ад 8-га красавіка 1917 году) выразна і проста гаворыцца, што „па сваіх грамадзкіх поглядах большасьць членаў камітэту прыналежыць да Б С.Г., што Б.С.Г. зьяўляецца „Цэнтральным Організацыйным ядром зьезду і большасьцю камітэту“.

Застаецца яшчэ дадаць, што зьезд, дзе прымалася вышэйпададзеная рэзолюцыя па зямельным пытаньні, адбыўся пад старшынёўствам ня пана Скірмунта, а старшыні Менскага Бюро Б.С.Г.

І мусіць ня выпадкова (гэта справа больш уважнага гістарычнага вывучэньня), што ў некаторых першых адозвах Б.С.Г., як, напрыклад, у адозьве Організацыйнага Бюро Б.С.Г., у Менску і ў адозьве Маскоўскага Організацыйнага Камітэту Б.С.Г. ёсьць тое, што ўся зямля павінна перайсьці да працоўнага народу, але няма таго, што яна павінна перайсьці бяз выкупу.

Старшыня Сялянскага зьезду тав. Міхайлоў (Фрунзэ) зусім слушна і абгрунтована, пры наяўнасьці такіх фактаў, у сваім абагульненьні старшыні на паседжаньні 22 красавіка сказаў, што нават Б.С.Г. „ідзе на повадзе ў паноў“.

Ці азначае гэта, што сапраўды Б.С.Г. ці нават Беларускі Нацыянальны Камітэт зьяўляліся панскай нацыяналістычнай організацыяй? Не, гэта адзначае толькі тое, што атрымаўшая перавагу ў Б.С.Г. праванародніцкая большасьць у пошуках лучнасьці з нацыянальнымі ўласьніцкімі пластамі заходзілі так далёка ў згодніцтве, як амаль што ніякія іншыя партыі дробна-буржуазнага соцыялізму. Такая лінія паводзін Б.С.Г. нагадала і паўнейшае паражэньне Б.С.Г. у сялянскіх гушчах Беларусі. Менскія і Магілеўскія зьезды выказаліся супроць Нацыянальнага Камітэту, які знаходзіўся пад кіраўніцтвам Грамады; на выбарах ва Ўстаноўчую Раду Б.С.Г. пацярпела амаль што найбольшае паражэньне і менавіта ў вёсцы і ў арміі. На Заходнім фронце Беларускі сьпіс (№ 4) сабраў менш 6 тысяч галасоў з агульнага ліку 976 тысяч, тады як бальшавіцкія сабралі 653 тысячы. У Віцебскай губ. організацыі Б.С.Г. былі нагэтулькі нямоцнымі, што ня выставілі самастойнага сьпісу, самастойны сьпіс выставіў толькі чарнасотніцкі (па характарыстыцы прадстаўнікоў Б.С.Г.) Беларускі Народны Саюз, што аб'яднаўся з праваслаўнымі парафіямі Полацкай эпархіі—гэты сьпіс сабраў 9 тысяч галасоў пры 287 тысяч галасоў, паданых за бальшавікоў, з агульнага ліку 560,5 тысяч галасоў. У Менскай выбарчай акрузе (былая Менская і часткова Віленская губэрні) сьпіс Б.С.Г. (№ 13) сабраў 2.988 галасоў, з агульнага ліку 917.880, ці бо 0,3 проц. (бальшавікі-ж сабралі звыш 579 тысяч галасоў—63,1 проц.—у Бабруйскім павеце сьпіс Б.С.Г. сабраў 76 галасоў, з агульнага ліку 101.522; (у самым-жа Бабруйску—20 галасоў з агульнага ліку—11.130; у Рэчыцкім павеце сьпіс Б.С.Г. сабраў 107 галасоў з агульнага ліку 93.810 галасоў, у самым-жа Менску сьпіс Б.С.Г. сабраў амаль што столькі, колькі ў абодвых паветах—161 голас з агульнага ліку—35.591. Можна з упэўненасьцю пераконвацца, што чым бліжэй да вёскі, тым менш галасоў зьбіраў сьпіс Б.С.Г. Мы праглядзелі захаваныя ў архіве Гістпарту матар'ялы выбарчых камісій па выбарах ва Ўстаноўчую Раду, і яны відочна ілюструюць гэты факт. Захаваліся падагульненьні 4 вучасткаў Пінскага павету, двух вучасткаў Мазырскага павету—там ніводнага голасу за сьпіс Б.С.Г. ня было пададзена, толькі паміж дакумантамі, якія маюцца ў архіве з 6 вучасткаў Дзісьненскага павету, былой Віленскай губэрні, у адным—трэцім выбарчым вучастку Друйскай воласьці—за сьпіс Б.С.Г. пададзена 3 галасы (з 1.170 агульнага ліку). У той-жа час у цэлым

шэрагу выбарчых вучасткаў мы маем факты ўсеагульнага галасаваньня за бальшавікоў: у адным Радзігораўскім вучастку мы маем факт галасаваньня абсолютна ўсіх сялян за сьпіс бальшавікоў [1]).

Выстарчальна будзе параўнаць вынікі выбараў ва Ўстаноўчую Раду па Беларусі і Украіне, каб пераканацца ў тым, што ў адзнаку ад украінскіх соцыялістычных партый, ніякага стыку ў Б.С.Г. з сялянскімі масамі ня вышла; Б.С.Г. у 1917 годзе заставалася партыяй пераважна інтэлігенцкай, якая несла ў сабе адбіткі сялянскага руху, якая спрабавала орыентавацца на гэты рух, але не кіравала ім.

Але быць можа, прычына такога няпосьпеху Б.С.Г. у сялянскіх масах ляжыць у запозьненасьці павароту політыкі Б.С.Г., які, калі толькі верыць заметцы ў Энцыклёпэдыі, пачаўся на III зьездзе Б. С. Г. у кастрычніку 1917 г.? На гэтае пытаньне трэба адказаць: бязумоўна, прычына такога вялікага паражэньня хаваецца—у значнай меры—у політыцы Б.С.Г., але запозьненасьць павароту тут ні пры чым, таму што і павароту на III зьезьдзе ніякага ня было. Зусім не адмаўляючы, што ўнутры Б.С.Г. былі паасобныя бальшавікі і бальшавіцкі настроеныя групы, мы толькі рашуча сьцьвярджаем, што ніякага рашаючага ўплыву на політыку Б.С.Г. гэтыя асобы і групы не зрабілі. З апублікаванага „пратаколу III зьезду Беларускай Соцыялістычнай Грамады" відаць, што політычныя пытаньні на самым зьезьдзе не разьбіраліся. „Усе пытаньні сучаснага моманту—чытаем мы ў пратаколе—зьезд пастанавіў перадаць на компэтэнцыю абранага зьездам ЦК". Відаць тымі самымі днямі, а зьезд—напамянем—ішоў ад 14 кастрычніка да вечара 25 кастрычніка, пытаньні сучаснага моманту не стаялі для зьезду востра,—іх перадалі на вырашэньне новага складу ЦК, новы-ж склад ЦК зусім ня быў левым—вельмі мала хто з данага складу ЦК бралі пасьля ўдзел у комуністычным змаганьні.

Правая большасьць Б.С.Г. штурхнула Б.С.Г. і да выступленьня супроць Кастрычнікаўскага паўстаньня. 27-га кастрычніка за подпісам Б.С.Г. і некаторых іншых організацый, у большасьці якімі кіравала Б.С.Г., зьявілася „Грамата да беларускага народу", дзе гаворыцца, што: „мы пастаўлены перад патрэбай сабраць усе жывыя сілы нашай Бацькаўшчыны дзеля абароны і ўтрыманьня нашых вольнасьцяй". І што: „толькі парадак і згоднасьць паміж усімі паможа нам утрымаць спакой у нашай краіне" і дзе ні слова няма аб клясах і клясавай барацьбе.

Левыя элемэнты хацелі зрабіць уплыў на політыку Б.С.Г., але яны зусім не зрабілі гэтага—ды яшчэ рашаючага ўплыву на політыку Б.С.Г. Яны не маглі нават перашкодзіць таму, каб на адным з беларускіх нацыянальных зьездаў галасамі правай большасьці Б.С.Г. быў пасланы ў якасьці дэлегата на Савет Народаў у Кіеў той самы пан Скірмунт, які быў на чале Беларускага Нацыянальнага Камітэту з грамадаўскай большасьцю і які потым быў прадстаўніком Усерасійскага Саюзу зямельных уласьнікаў у прэдпарлямант і на выбарах ва Ўстаноўчую Раду быў на чале зямляўласьніцкага сьпісу.

Да і ў асяродзішчы самых левых элемэнтаў Б.С.Г., колькасна вельмі нямоцных, яшчэ вельмі моцныя былі нацыяналістычныя ноткі. Наколькі колькасна былі яны слабымі, паказвае той факт, што на Усе-

[1]) „Кожны галасуючы выяўляў жаданьне кінуць у скрынку толькі № 9, а на астатнія ўсе адмаўляліся, на што ў настаяшчым пратаколе ўсе пісьменныя, апрача нумароў, выявілі жаданьне падпісацца асабіста з дадаткам, што галасуюць за № 9... А з прычыны няхваткі картак № 9 астатнія выказалі жаданьне іншых нумароў ня браць у рукі і ня кідаць у скрынку, абы толькі ўпісалі іх голас за № 9, бо картак, як выявілася, было № 9 толькі 149, а астатнія галасавалі бяз картак" (з пратаколу Радзігораўскай вучастковай выбарчай камісіі).

беларускім Зьезьдзе ў сьнежні месяцы патрабаваньне Шантэра даць прадстаўніцтва левай частцы Б. С. Г. было двойчы адхілена вялікаю большасьцю, яго-ж просьба даць па гэтаму поваду слова была адхілена ўсімі пры 8 (!), якія ўстрымаліся,—а дэлегатаў было каля 400. Наколькі моцныя былі нацыяналістычныя ноткі паказвае выступленьне того-ж самага Шантэра на нарадзе дэлегатаў па пытаньню адчыняць ці не зьезд. „Я ня ведаў, хто будзе тут; я думаў, што будуць буржуазныя клясы, а бачу сялян і салдат. Калі вы сабраліся падтрымліваць і будаваць сваю рэволюцыю, дык не марудзьце. Беларусы павінны самавызначыцца. Не патрэбна рабства агульна-расійскае дэмократыі, у нас ёсьць свая дэмократыя, свае беларускія бальшавікі. Мы павядзем Беларусь шляхам не дэмагогіі, а шляхам ісьцінна-дэмократычным. Зараз-жа адчыніць зьезд". Асноўнаю-ж задачаю зьезду было ўтварэньне новае, краёвае ўлады, якая супроцьстаўляла сябе ўжо арганізаванай бальшавіцкай уладзе і зусім незалежна ад пажаданьняў і спадзевак і правых і левых з Б.С.Г. зрабілася-б—на выпадак стварэньня—цэнтрам прыцягненьня ўсіх контр-рэволюцыйных сіл. Такім цэнтрам рабілася і кіруемая згоднікамі Б.С.Г. Нацыянальна-соцыялістычная форма організацыі толькі практыкавала антысоцыялістычны зьмест політыкі. Сапраўды—рэволюцыйныя элемэнты Б.С.Г. не маглі гэтага ня бачыць і значная частка іх пайшла на раскол.

Тым больш выклікае зьдзіўленьне вывад невядомага аўтара нататкаў аб Б.С.Г.—„на руінах Б.С.Г. утварылася Комуністычная Партыя Беларусі". Чаму-ж гэта на руінах, калі бальшавіцкае крыло ўтварыла „рашучы ўплыў на дальнейшую політыку Б.С.Г."

Дарэмна і гаварыць, што на Беларусі няма абсолютна ніякае падставы для няпраўдзівае тэорыі „двукарэннасьці", утворанай некаторымі камуністымі на Украіне, ня кажучы ўжо пра тэорыю „аднакарэннасьці", па якой гісторыя бальшавізму на Беларусі пачынаецца з абломкаў Грамады. Гэтая тэорыя, якая ня можа абаперціся ні на адзін гістарычны факцік, ёсьць вельмі шкоднаю антыбальшавіцкаю блытанінаю.

М. Ю.

---

**Ленинский сборник XII—Философский. Институт Ленина при ЦК ВКП(б). Государственное издательство. Тираж 10.000. 473 страницы. Цена 3 руб. 75 коп.**

Вядома, што пяру Леніна прыналежыць шэраг філёзофскіх прац, у якіх ён выкладаў асновы матэрыялістычнае дыялектыкі Маркса—Энгельса і высоўваў новыя, арыгінальныя палажэньні, накірованыя ў разьвіцьцё і абарону дыялектычнага мэтоду.

Выданы Інстытутам Леніна IX Ленінскі зборнік, які зьмяшчае конспэкты кніг Гегеля („Навука лёгікі"—у 3-х кнігах, прысьвечаных „Вучэньню аб быцьці", „Вучэньню аб існасьці" і „Суб'ектыўнай лёгіцы ці вучэньню аб паняцьці"), паказвае наколькі грунтоўна Ленін працаваў над філёзофскімі проблемамі і адточваў свой дыялектычны мэтод.

Ужо даўно разбурана легенда аб тым, што Ленін быў толькі практыкам рэволюцыйнага руху. Знаёмства з ленінскім насьледзьдзем пераконвае нас у тым, што Ленін, як ніхто іншы, умеў злучаць свой організацыйны гэні з самымі сур'ёзнымі дасьледваньнямі ў галіне „чыстае" тэорыі. Лепшыя ўзоры тэорэтычных прац у галіне марксызму прыналежаць Леніну. Пры гэтым ён не абмяжоўваўся аднэю толькі абаронаю марксызму ад рэвізіі, але і значна разьвіў і паглыбіў асоб-

ныя галіны Марксава вучэньня аб клясах і клясавай барацьбе, аб дзяржаве, аб дыктатуры пролетарыяту, аб імпэрыялізьме, як апошнім этапе капіталізму, аб сялянстве, аб нацыянальным пытаньні і г. д. Ленін лічыў, што сапраўдны рэволюцыянэр, які організуе масы на барацьбу з капіталізмам, павінен асьвятляць шлях свае барацьбы марксыцкаю тэорыяю, якая адна толькі здолее памагчы разабрацца ў рознастайнасьці ўмоў барацьбы кляс, якая адна толькі здолее дапамагчы ўнікнуць магчымых памылак у кіраўніцтве рэволюцыйным рухам пролетарыяту.

Ленін для ўсіх нас зьяўляецца лепшым прыкладам таго, як трэба па сур'ёзнаму ставіць пытаньне аб барацьбе за марксыцкі сьветапогляд, аб барацьбе з усімі і ўсялякімі рэвізіёнісцкімі скажэньнямі марксызму. Вядома, што рэвізіёністыя ўсіх масьцяй з шкуры лезуць вон, каб выбіць „душу“ з Марксава вучэньня і „ўкласьці“ вучэньне Маркса аб клясавай барацьбе, аб нямінучай пагібелі капіталізму, аб дыялектычным матарыялізьме ў рамкі, прыймальныя для нормальнага разьвіцьця капіталістычнага ладу. Рэвізіёністыя думалі, што ім удасца настолькі „падправіць“ і „прыстасаваць“ да „сучасных“ умоў сьветапогляд Маркса, што ён стане нявінным вучэньнем, якое ня будзе непакоіць „росквіту“ капіталізму. Аднак, яны ў гэтым глыбока памыліліся. Разьвіцьцё не пайшло па сьцёку, які так клапатліва рыхтавалі рэвізіёністыя, якія скочваліся ў простых агентаў і лёкаяў капіталізму.

Мы цяпер зьяўляемся сьведкамі супярэчнасьцяй, якія ўсё растуць у капіталістычным лягеры. Лёзунг „кляса супроць клясы“ стаў баявым лёзунгам міжнароднага пролетарыяту. Міжнародны экономічны крызіс капіталістычнае гаспадаркі, які набліжаецца, зьяўляецца лепшым довадам нямінучага банкруцтва капіталізму, якое прадвешчана, навукова-абаснована марксызмам-ленінізмам. У гэтых умовах міжнародная соцыял-дэмократыя хлусьліва клянецца імем Маркса і Энгельса і заклікае рабочых да мірнага супрацоўніцтва працы з капіталам. Абвастрэньне супярэчнасьцяй паміж дзьвюмя асноўнымі клясамі сучаснае капіталістычнае грамады—пролетарыятам і буржуазіяй—ня ўдасца замазаць „ортодоксам“ ад марксызму тыпа Кауцкага, Отто Бауэра і інш. Гэта ў адносінах міжнародных абставін.

Цяпер пяройдзем да нутранога становішча СССР. Унутры СССР поўным ходам ідзе соцыялістычная рэконструкцыя народнае гаспадаркі. У галіне масавае колектывізацыі вёскі дасягнуты сапраўды вялічэзныя посьпехі. Каля паловы індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак колектывізавана. Лёзунг ліквідацыі кулацтва як клясы, будучы галоўным лёзунгам у сучасную паласу разьвіцьця, ужо ажыцьцяўляецца ў раёнах суцэльнае колектывізацыі. У другіх раёнах стары лёзунг „выцясьненьня і абмежаваньня“ мяняе сваё значэньне і становіцца лёзунгам дадатковым і падпарадкаваным галоўнаму, лёзунгам, які падрыхтоўвае глебу для ажыцьцяўленьня галоўнага лёзунгу партыі ў сучасны пэрыод,—лёзунгу ліквідацыі кулацтва як клясы. У гэтакіх абставінах адбываецца абвастрэньне клясавае барацьбы, якое адбіваецца і на ідэолёгічным фронце. З буржуазным уплывам на пролетарыят неабходна рашуча змагацца і даваць самы жорскі адпор усім спробам навязаць ідэолёгічны сьветапогляд, усім спробам сказіць марксыцка-ленінскую тэорыю. Вядома, што нядаўняя дыскусія паміж так званымі мэханістымі і дыялектыкамі ў галіне тэорэтычнае экономіі ёсьць адлюстраваньне клясавае барацьбы на ідэолёгічным фронце. Вядома таксама, што спрэчкі паміж мэханістымі і дыялектыкамі ў галіне філёзофскай таксама ёсьць спрэчкі, якія адбіваюць суадносіны клясавых сіл, бо ядро гэтых спрэчак складае марксыцка-ленінская тэорыя пазнаньня,

тэорыя дыялектычнага мэтоду, якую спробуюць „падправіць“ і „ўдакладніць“ навейшыя прадстаўнікі мэханістычнага лягеру.

Мы нарочна зьвязалі разгляд ленінскіх прац у галіне філёзофіі з сучасным становішчам, таму, што *марксыцка-ленінская тэорыя ніколі ня была нечым абстрактным адцягненым ад бягучых задач рэволюцыйнае барацьбы пролетарыяту*. А якраз у бягучы пэрыод, у пэрыод, калі абвастрылася клясавая барацьба ўнутры краіны, калі растуць супярэчнасьці ў лягеры капіталізму, асабліва важна, узброіўшыся марксыцка-ленінскаю тэорыяю, змагацца за зрынуцьце капіталізму, за чыстату тэорыі пролетарыяту. Няма патрэбы даводзіць, якое вялікае значэньне для бальшавікоў мае займаньне філёзофіяй, г. зн. выпрацоўкаю марксыцкага сьветапогляду.

Гэта значэньне яшчэ больш узрастае асабліва цяпер, таму што маем цэлы шэраг спроб „выправіць“ і „дапоўніць“ Маркса—Леніна. Для таго, каб сьвядома паставіцца да спрэчак паміж мэханістымі і дыялектыкамі, для таго, каб падкаваць сябе мэтодам рэволюцыйнага ленінізму, трэба самым старанным чынам чытаць і перачытваць усё напісанае Леніным у галіне філёзофіі. Возьмем такі прыклад, як памылкі тав. Бухарына, які разьвіваў тэорыю роўнавагі. Каб разабрацца добра ў чым сэнс і глыбіня памылак, якія зьмяшчаюцца ў тэорыі роўнавагі, трэба зноў-такі зьвярнуцца да лепшых філёзофскіх прац Леніна.

Тэорыя роўнавагі тав. Бухарына ня вытрымлівае крытыкі і з пункту гледжаньня матэрыялістычнае дыялектыкі. Па таварышу Бухарыну выходзіць, што „антагонізмы розна накіраваных сіл і складаюць, абумоўліваюць рух“. Кажучы, што „антагонізмы розна накіраваных сіл і складаюць, абумоўліваюць рух“ т. Бухарын адмаўляе якасьць дадзенага прадмета, дзякуючы сваёй нутраной сутнасьці рухацца, стыкацца, датыкацца, „опосредствоваться“ ў гэтым руху з другімі сіламі, знаходзіцца з імі ва ўзаемадзеяньні, зьмяняцца самому і зьмяняць форму і зьмест прадметаў, з якімі дадзенаму аб‘екту прыходзіцца сустракацца ў самаруху, знаходзіцца ў стане „адзінства“ руху, які ўраўнаважваецца дыялектыкаю руху ці нутраною існасьцю, прыродаю, якасьцю дадзенага прадмета.

Бясспрэчна, што сутнасьць, аснову дыялектыкі ўтварае рух, аднак ня рух наогул, а рух поўны супярэчнасьцяй, зьмен форм і зьяў, рух, які ператварае адну форму ў другую, рух сувязяй і „опосредствований“, рух „самазьнішчэньня“ і зьяўленьня ў зьмененым стане.

Пэўна, што роўнавага існуе, але яна можа быць толькі ў вядомы момант руху. Роўнавага „ўяўляе сабою толькі момант руху, пэўны яго стан“. Перавага і аб‘ектыўнае значэньне дыялектычнага мэтоду, як найболей агульнае формы вывучэньня зьяў, і заключаецца ў тым, што гэты мэтод дае магчымасьць устанавіць і роўнавагу, якую мэханістыя гатовы пакласьці ў аснову пазнавальнага мэтоду замест дыялектыкі. Па тэорыі роўнавагі выходзіць, што антагонізмы сіл, зьмешчаныя ў дадзеным прадмеце ці суме іх, заўсёды ўтвараюць сваю асабістую ўстойлівасьць, роўнавагу, якая ўстанаўляецца дзякуючы ўзаемнаму дзеяньню сіл, якія рухаюцца (да рэчы сілы прыведзены ў рух штуршком знадворку),—так выходзіць у абаронцаў тэорыі роўнавагі дзякуючы таму, што „працілегла накіраваныя сілы ўзаемна нэўтралізуюцца,—зьява знаходзіцца ў роўнавазе“.

Згодна тэорыі роўнавагі мы можам устанавіць стан абсолютнага супакою, бязумоўнае роўнавагі, у той час калі *„абсолютны супакой мысьлімы там, дзе няма матэрыі“* (Энгельс, Анты-Дзюрынг), бо там, дзе ёсьць матэрыя, нямінуча разьвіцьцё, рух і выключэньне абсолютнае

роўнавагі, а яна існуе толькі на пэўнай ступені руху, як момант гэтага руху.

Па Леніну задача дыялектыкі заключаецца ў тым, каб займацца вывучэньнем „усіх процэсаў сьвету ў іх самаруху“, у іх спонтанейным разьвіцьці, у іх жывым жыцьці... Разьвіцьцё ёсьць барацьба процілегласьцяй... Галоўная ўвага накіроўваецца ўласна на пазнаньне крыніцы самаруху“. Гэтага не разумеюць мэханістыя, якія папалі ў палон к Багаданаву, найбольш выдатнаму прадстаўніку „тэорыі роўнавагі“.

У разглядаемым XII Ленінскім зборніку зьмешчаны яшчэ з большага неапублікаваныя філёзофскія працы Леніна. Гэтым-жа зборнікам „сканчаецца публікацыя філёзофскіх заметак Леніна“,—кажа аўтар прадмовы тав. Адарацкі. Зборнік зьмяшчае конспэкты „Сьвятога Сямейства“ Маркса і Энгельса, „лекцыі аб сутнасьці рэлігіі“ Фэйербаха, кнігі Фэйербаха пра Лейбніца, лекцыі Гегеля па філёзофіі гісторыі, па гісторыі філёзофіі, розныя заметкі і выняткі па філёзофіі і прыродазнаўству, надзвычайна цікавыя заметкі Леніна „Да пытаньня аб дыялектыцы“ і выняткі і заўвагі на кнігу Клаўзевіца „Аб вайне і вядзеньні войн“.

Якую вартасьць маюць працы Леніна ў галіне філёзофіі?

Аўтар прадмовы да зборніка тав. Адарацкі так адказвае на гэтае пытаньне: „Па багацьцю зьместу „філёзофскія сшыткі варты многіх тамоў“. „Па багацьцю свайго зьместу, па геніяльнасьці думак, сабраных у гэтых сшытках, яны ўяўляюць з сябе выключную вартасьць для тэорыі марксызму“, бо „ўва ўсіх галінах марксыцкае тэорыі Ленін умеў зрушыць далёка ўперад тэорэтычную мысьль. Ён змог гэта зрабіць і ў галіне філёзофіі. Затым гэтакую пялізарную вартасьць уяўляюць заметкі Леніна па філёзофіі“.

Ленін, як ніхто іншы з марксыстых „аўладаў існасьцю матэрыялістычнае дыялектыкі..., якраз гэта акалічнасьць рабіла далейшае вывучэньне Ленінам пытаньняў філёзофіі асабліва пладатворным“. Варта толькі паглядзець, як старанна Ленін працаваў над пытаньнямі філёзофіі. Усе колькі-небудзь значныя матар'ялы ім зьбіраліся, перачытваліся і перапрацоўваліся пад матэрыялістычным пунктам гледжаньня. „Ленін клапатліва зьбіраў матар'ял па цікавіўшаму яго пытаньню—кажа тав. Адарацкі—і заўсёды ўмела ачышчаў мысьлі філёзофаў ідэалістых ад ідэалістычнае лускі, геніяльна скарыстоўваў іх матэрыялістычна для выясьненьня і вывучэньня асобных бакоў, асаблівасьцяй, сутнасьці *матэрыялістычнае* дыялектыкі“.

Ленін умела, дасканала ўладаў дыялектычным мэтодам Маркса. У раньніх працах Леніна ўжо праяўляецца гэтае ўменьне ўладаць Марксавым мэтодам, які пераносіцца Ленінам да вывучэньня конкрэтных проблем расійскае экономікі, гісторыі, да пытаньняў клясавае барацьбы і палітыкі. Выключнае значэньне мае праца Леніна „Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм“, якая „пасьля „Анты-Дзюрынга“ Энгельса зьяўляецца самым буйным філёзофскім творам марксызму“. Леніну давялося пісаць сваю працу, счакаўшы болей 30 год пасьля зьяўленьня „Анты-Дзюрынга“. За гэтыя дзесяцігодзьдзі ў прыродазнаўстве адбыўся цэлы пераварот і трэба было аўладаць зусім новым матэрыялам. Леніну давялося разглядаць і разьвязваць шэраг новых пытаньняў. „Першы з усіх выдатнейшых тэорэтыкаў марксызму (мы ня кажам пра Энгельса) Ленін заняўся пытаньнямі прыродазнаўства, самастойна іх разьвязаў і вызначыў шляхі, якім чынам марксызм павінен забясьпечыць сабе ўплыў і ў гэтай галіне. Таму з поўнаю ўгрунтаванасьцю можна сьцьвярджаць, што зьяўленьне кнігі „Матэрыя-

лізм і эмпірыокрытыцызм" азначала новы этап у разьвіцьці тэорыі марксызму",—кажа аўтар прадмовы да зборніка.

Няма патрэбы даводзіць, як важна для бальшавіка займацца філёзофіяй „быць сьвядомым прыхільнікам таго матэрыялізму, які прадстаўлены Марксам, г. зн... быць дыялектыкам-матэрыялістым" (Ленін). Асабліва каштоўнае гэтае паказаньне Леніна ў дапасаваньні да сучасных умоў, калі пролетарыяту трэба аўладаць усімі ідэолёгічнымі вышынямі і рашуча выганяць адтуль ідэалістых, якія пашыраюць папоўшчыну, сваё аднабаковае вучэньне, ня зьвязанае з матэрыялізмам. „У філёзофскіх-жа сшытках Леніна зьмяшчаецца бяз конца многа каштоўнейшых паказаньняў, як трэба вывучаць матэрыялістычную дыялектыку".

Якое значэньне філёзофіі для пролетарыяту? Філёзофія марксызму зьяўляецца востраю зброяю ў руках пролетарыяту, карыстаючыся якою ён можа нанасіць паражэньні ўсялякаму ідэалізму і папоўшчыне. Філёзофія марксызму зьяўляецца сьветапоглядам усходзячае рэволюцыйнае клясы.

„У рэволюцыйную эпоху дыялектычны характар руху, адзінства працілегласьцяй, рух у супярэчнасьцях, асабліва рэзка выступае на двор, становіцца асабліва відавочным, як гэта адзначыў яшчэ Энгельс. Прысьпешаны тэмп руху, разнастайнасьць і, калі можна так сказаць, сконцэнтраванасьць праў пашырае кругавід і дае найбагатшы матар'ял для тэорэтычнае мысьлі. Абуджэньне да сьвядомага жыцьця новых і новых мас нямінуча ўносіць нябывалае ажыўленьне ў разьвіцьцё тэорэтычнае мысьлі, у прыватнасьці філёзофіі",—кажа аўтар прадмовы.

XII Ленінскі зборнік разьлічаны на падрыхтаванага чытача, знаёмага хоць-бы ў элемэнтарным аб'ёме з марксыцкаю філёзофіяй па найбольш пашыраных працах.

Усякі, хто прапрацуе зборнік, будзе адчуваць, што гэтая праца вельмі і вельмі ўзбагачае.

**Партыец.**

---

**Папраўка.** На ст. 88 пасьля зноскі выпала. (Рэд.).



Рэдкалегія | С. Будзінскі. А. Саевіч. А. Сянькевіч.

## ЗЬМЕСТ



### Матар‘ялы і дакуманты



### Бібліографія